

Чалавек варыць сталь.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

## У НУМАРЫ




Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

8 (102)

Жнівень.

1961.

Год выдання IX.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск

На вокладцы малюнак І. Немагая **«Салігорскія ваколіцы».**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70 × 108$^{1}/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.530 экз. Цана 40 кап.

АТ 05329. Здадзена ў набор 28.VI.61 г. Падпісана да друку 28/VII-1961 г. Зак. 483.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.



Мікола **АРОЧКА.**

# ВЕЧАР НАД МІКРАРАЁНАМ

анель, нібы белае воблачка,
Плыве ў вячэрняй сінечы.
І падаюць мяккія водбліскі
Ад крана дзяўчатам на
плечы.

Яму,
толькі крану дазволена
Трывожыць змяркание
гудкамі.
І воблачка тое павольна
Дзяўчаты ўжо ловяць
рукамі.

На ямах натужна
павохкваюць,
Кватэры падвозячы, МАЗы —
Са сценамі, сінімі вокнамі
І нашымі ўсмешкамі разам.

А корпус каторы? Сто
пяты? —
Не хопіць і дня захапляцца.
А летась ад ліўню дзяўчаты
Не мелі дзе нават схавацца.

Гукаць мог да ночы
«крынічаньку»
Юнак у хмялю палыновым.
І словы згасалі, як знічкі,
У цемрадзі парнай вясновай.

А сёння згадай, што вунь
свеціцца —
Будоўля ці неба ў аздобе?
І нат да Вялікай
Мядзведзіцы
Каўшом экскаватар падобен.

## РУКАВІЦА


Я знайшоў рукавіцу ля новай сцяны,
Зашмуляную, непаквапную.
Ці згубіў хто,
ці ўпала яна ў палыны
Са слядамі рашчыны і вапны.

Мусіць, верна служыла яна мулярам,
Іх рукам, працавітым і здольным.
Недарма ж яна
крыху пацёрлася там,
Дзе ў людзей засталіся б мазолі...

Рукавіца!
Ты родная, мусіць, сястра
Той, што дома пашыта з аўчыны,
Што ўнутры, як пячурка...
з якою не страх
Ні зіма на санях, ні ляйчыны.

Або той,
што вязала для нас, хлапчанят,
Помню, маці пры цьмянай газніцы...
Мне ўспамінаў і думак навеяла шмат
Ты, ля новай сцяны рукавіца.

Рукавіцаў нямала было на вяку —
Скураных, шарсцяных і пуховых.
Хто з патрэбаю іх надзяваў на руку,
Меў да кожнай ласкавае слова.

Ты прыходзішся тым рукавіцам
зрадні
Не па назве адной, як бывае,
А найболей па той нутраной цеплыні,
Што з рукой працавітай яднае...

Ды прызнаюся шчыра — не ўсе я
люблю:
Шмат іх кволых,
для форсу надзетых,
Пасля сваркі шпурлялі калісь
на зямлю
Перад тым, як узняць пісталеты...



Або сёння сустрэўся якісь маладзён.
Ці не часам з-за лішняй раскошы
Іх з пагардай
швейцару старэнькаму ён
Пры ўваходзе кідаў з макентошам?..

...Думкі ціхія спудзілі ўміг муляры.
Не паспеў нават я спахапіцца.
— Гэй, таварыш! —
гукнулі мне хлопцы згары, —
Калі ласка, падай рукавіцу!

## ЖАВАРАНАК


Зноў я падслухаў
з глыбінь сінявы
Спеў веснавы, бесклапотны.
Скуль жа ты ўзяўся,
наш госць палявы,
Мілы пясняр залётны.

Мусіць ты гэтых мясцін старажыл.
Бачыш, а я — навасёлам.
Кут быльняговы,
кружы ні кружы,
Ты не пазнаеш наўкола.

Глянь, каля ясляў
веранда цвіце.
Там сёння матчына ўцеха —
Дрэмлюць, нібы птушаняты ў гняздзе,
Дзеці ў пуховых пасцельках.

Ім сваю казку праменную бай
Шчэбетам, поўным пяшчоты.
Тут вось нядаўна
і сам ты, бадай,
Быў, як яны, жаўтароты.

Час іх апёрыць,
затым акрыліць.
Час і для ўзлёту дасць сілы.
Спеў твой не раз
у вушшу зазвініць,
Дзе б ні насілі іх крылы.

## МАЦІ


Нас палохаў тады
гром ліхой страляніны.
Першы гром,
а за ім — навальніца бяды.

Наш заступнік адзіны,
склялок ля хаціны,
Прыхаваў нас
ад куль і шрапнелі тады.

Суцяшаючы нас,
маці грудзі хрысціла,
Як на крыж бліскавіц,
калі лівень шалеў.
Нас туліла,
а шэптам ратунку прасіла,
Каб сынок — той, што ў войску —
хаця уцалеў.

На світанку хтось ціха
пагрукаў у дзверы.
І матуля як глянула —
ў сэрцы спалох!
Каля хаты
ў парваным шынельчыку шэрым
Пахіснуўся
салдат малады на парог.

На бінты мы
падралі абрус саматканы.
А на плечы —
кашуліну сына хутчэй!
І на тую кашулю
зусім нечакана
Пакаціліся слёзы
ў матулі з вачэй.

Адзявала салдата,
а бачыла сына.
Боль суцішыць хацела,
абняць, як дзіцё.
Пот хлапчыне з ілба
выцірала хусцінай,
Сцерагла яго стому,
яго забыццё.

Мне карцела прымерыць
пілотку і зорку,
Ды чамусьці загадана
іх прыхаваць.
І марудзіць мне нельга:
на нашым падворку
Ужо тупат цяжкі
каля вокнаў чуваць.

Маці ўся страпянулася.
Гора, ой гора...
Уварваліся: «Рус!»
І да ложка адзін...
Маці стала грудзьмі:
— Гэта сын мой! Ён хворы.
Не чапайце яго,
гэта родны мой сын!

Ухмыльнуўся другі —
і рукой да кашулі:
Не салдацкая.
Хатняй работы тавар.
Памятаецца
твар спалатнелы матулі,
Белы-белы,
як тая кашуліна, твар.

Ды спакойна спаткалася
з позіркам хіжым,



Засланяючы хлопца
ад злыдзеняў тых.
Пырснуў злосцю прышэлец,
паказвае: стрыжаны!..
Не чапайце сыночка,
ён хворы... на тыф!

Праз хвіліну чужынцаў
як вымела з хаты....
І калі над байцом
знік туман забыцця,
Пра ліхое не ўспомніла
маці салдату,
Асвяціўшы, як сына,
усмешкай жыцця.

## У МАЁЙ ВЁСЦЫ


а аселіцы цёплай
свавольная, босая
дзетвара шчабятлівай чародкаю
гойсае.
А бабулькі,
пасеўшы на прызбах ля хатаў,
Самых меншых пасуць
у цяньку ўнучанятаў.

Я віншую равесніцу
з пятай дачушкаю,
А яна ўжо маленькае шостае гушкае.
Да каго з дружбакоў
ні зайду у сяле я,
Дык ад светлых галовак
у хаце святлее!

І не цесна бацькам
з-за малых непаседаў.
Па-суседску жывецца
суседу з суседам.
І адным і другім
добра спіцца і есца.
Не вандруюць з упартасцю
з месца на месца

Цёмнай ноччу слупочкі
на іхніх узмежках...
Як прыпомняць суседзі —
да вуха усмешка.
Раздалося сяло
ў два канцы ля аселіцы.
А народ прыбывае ўсё...
Селяцца, селяцца!

Для дарослых і тых,
хто яшчэ па калена,
Хопіць сонца і шчасця
на ўсе пакаленні!

* * *



мыхнуў, як конь у дарогу, цягнік.
Звон-пераразвон, нібы лёскат
падковаў...
Толькі я з дому —
а ў сэрца пранік
Сум з нарастаючай музыкай колаў.

За паплавамі, на фоне зары, —
Лысы пагорак,
як востраў, між змроку.
Стромкі маяк, нібы сябра стары,
Выйшаў мяне там праводзіць здалёку.

Вёска растала ў вячэрняй смузе.
Кошанкай пахне туман з лугавіны.
Там да паўночы ў балотнай лазе
Дрозд пераймаць будзе шчэбет
птушыны.

Прыцемкам чыркне ў чароце чырок,
Спуджаны крокам на сцежцы
прырэчнай...
Можа, ты хочаш свой сум, як вянок,
Сёння пусціць па вадзе
хуткацечнай...

Тухне зара, але бачны маяк.
Пэўна, займаецца дзесьці світанне...
Мне ж, дзіваку, не адолець ніяк
Той неспакой, што прыносіць
расстанне.

Толькі ўжо ты не засмучвай вачэй.
Хай сабе дрэмлецца птаху
ў чароце...
Хутка вярнуся —
і будзем яшчэ
Слухаць не раз мы дразда
на балоце.





Анатоль Сабалеўскі нарадзіўся ў 1934 годзе ў в. Андрыеўшчыне Дзяржынскага раёна, на Міншчыне.
Скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча, а затым — аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Каля двух год працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва».
Цяпер — аспірант Маскоўскага інстытута тэатральнага мастацтва імя Луначарскага.
На старонках газет і часопісаў часта друкаваліся артыкулы і рэцэнзіі А. Сабалеўскага аб драматургіі і тэатры.
«Жылі-былі хлопцы...» — першы празаічны твор маладога аўтара.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

# ЖЫЛІ-БЫЛІ ХЛОПЦЫ...

## Аповесць

Мал. В. Рамейкі

1



Цямнелася. Зрэшты, хто зважае на такую акалічнасць, асабліва, калі гэта бывае ў глухую пару восені і калі ранняя ноч застае цябе, не дзе-небудзь сярод лесу ці поля, а ў вялікім горадзе, ды яшчэ ў такім, як Масква. Толькі пачне ахутвацца ўсё навокал змрокам, яшчэ не чорным, а нейкім шэра-белым, як усюль успыхвае яркае электрычнае святло. Жыццё кіпіць па-ранейшаму, і, здаецца, нікому няма ніякай справы, ці гэта яшчэ дзень ці ўжо надышоў вечар.

Вось толькі гусцейшым і мацнейшым гулам поўняцца калідоры студэнцкага інтэрната. Многія ўжо вярнуліся з заняткаў, і цяпер кожны быў заклапочаны сваім. Адны спявалі, другія ўдасканальвалі нейкія

танцавальныя па, трэція ўголас паўтаралі сцэны і маналогі. І ўсё гэта зліваласся ў адзіную плынь бясконцага і манатоннага гоману.

У калідоры мяне ветліва сустрэла камендант інтэрната Елізавета Васільеўна. Мы з ёй яшчэ раней дамовіліся, што я буду тут жыць, і яна спяшалася паказаць мне пакой і ложак.

Не трэба было самому атрымліваць пасцель, бялізну, даваць за іх распіскі, як гэта даводзілася рабіць мне раней і як даводзіцца многім студэнтам. Ложак стаяў ужо засланы, і на ім узвышаліся аж дзве падушкі. Мне трэба было за такую дабрату і клопаты падзякаваць Елізавеце Васільеўне, але я не паспеў. Яна некуды спяшалася, на хаду толькі кіўнула хлопцу, які быў адзін у пакоі,— «Вось вам новы таварыш», і тут жа выйшла.

Я паставіў чамадан і спыніўся ў нерашучасці: што рабіць далей? Трэба было знаёміцца. Самастойна, без нічыёй дапамогі.

Атрымалася невялікая паўза. Нарэшце, ініцыятыву я ўзяў на сябе. Сказаўшы сваё імя і што я з Беларусі, падышоў да хлопца, які сядзеў насупраць на ложку.

— Васіль, — працягнуўшы руку, сказаў я.

Юнак адарваўся ад кнігі, падаўся насустрач, і ў яго вялікіх шэрых вачах я адразу прачытаў нейкую дзіцячую наіўнасць, шчырасць і разам з тым — дарослую стрыманасць, даверлівасць.

Не спяшаючыся, ён сказаў, што завуць яго Валодзем і што сям'я жыве далёка, аж у Свярдлоўску. А вучыцца ён тут на акцёрскім факультэце.

Мусіць па сваёй прафесіянальнай звычцы, я адразу ж чамусьці ўявіў яго ў ролі. Гэтакага рамантычна-прыўзнятага, унутрана крыштальна чыстага і светлага. Знешне прывабнага, але праставатага, і крышачку наіўнага. Гэта быў юнак, які толькі ўчора развітаўся са сваім маленствам і які на вачах становіцца дарослым.

І тут жа я пачаў перабіраць у памяці рэпертуар: якую б гэта знайсці найбольш адпаведную для Валодзі ролю?

...Ля дзвярэй стаяў яшчэ адзін ложак, трэці. На ім на белай прасціне ляжаў надзьмуты гумавы козлік і чырвоны салдацік. Цікава, што тут за гаспадар? Хто ён?

Заняткі ў тэатральным інстытуце, як і ва ўсіх іншых навучальных установах, былі ў поўным разгары. Гэта толькі я затрымаўся на месяц, пакуль падрыхтавалі ў спектаклях мне замену. А цяпер трэба было прадстаўляць пэўныя даведкі, на што, дарэчы, у тэатры для мяне і для дырэкцыі інстытута ніколькі не скупіліся.

У пакоі, які з гэтага часу становіцца і маім пакоем, нас пакуль двое. Я пачынаю распакоўваць чамадан, даставаць адтуль самыя неабходныя на першы пачатак рэчы. Уладзімір усё чытае. Час ад часу мы перакідваемся словамі.

Трэцяга нашага жыхара, выявілася, завуць Віктарам. Украінец ён, з-пад Кіева. Займаецца разам з Уладзімірам. Таксама вясною заканчвае інстытут.

Выходзіць, што аднаму мне даводзіцца ўсё пачынаць з першага курса, хоць я і старэйшы за іх. Гэтаму Валодзя не дзівіцца, бо я ўжо сам паспеў расказаць, што раней закончыў у Мінску інстытут, пасля тры гады працаваў акцёрам у абласным тэатры і вось цяпер прыехаў вучыцца на рэжысёра.

Марудна цягнецца час. Мы ўсё-такі больш маўчым. Мне карціць хутчэй спаткацца з Віктарам. Яго ўсё яшчэ няма.

Нарэшце шырока расчыняюцца дзверы, і на парозе — сярэдняга



росту хлопец. Сам чарнявы, і таму асабліва вылучаюцца яго сінія вочы. На выгляд ён больш сталы за Уладзіміра. Гэта Віктар. Ён толькі вярнуўся са спектакля і, мабыць, спяшаўся расказаць пра ўбачанае Валодзю. Перашкодзіла яму, відаць, прысутнасць чужога і пакуль што зусім незнаёмага чалавека, гэта значыць, мяне. Валодзя пазнаёміў нас і, каб замацаваць знаёмства, папрасіў Віктара станцаваць козліка. Той, не прымушаючы сябе доўга прасіць, узяўшы рукі ў бокі, пусціўся скакаць. Старанна, з нейкай асаблівай гарэзлівасцю і імпэтам. Рухі яго ўсё ж былі не вельмі складныя, адчувалася ўнутраная скаванасць. Мне чамусьці зноў падумалася, што прычынай гэтаму з'яўляюся я, старэйшы і невядомы чалавек. Бо і размова ў нас клеіцца не зусім гладка. Усё ніяк не падбярэм агульнай тэмы, усё ніяк не знойдзем адпаведнага ключыка да задушэўнасці, шчырасці.

Разам вось з гэтымі хлопцамі мне і выходзіла жыць.

## 2



Ужо другі дзень, як я ў Маскве. Якраз нядзеля. У інстытут няма чаго спяшацца, усё роўна нікога там не знойдзеш.

Хлопцы з пакоя кудысьці паразыходзіліся. Я таксама «выпраўляюся ў падарожжа». Яно зусім невялічкае. Трэба толькі праехаць у метро, зрабіць дзве перасадкі. Потым, падняўшыся з метро, сесці на трамвай, праехаць два прыпынкі, і я апынуся ў свайго лепшага сябра Віталя. Праўда, з часу майго спаткання з ім прайшло месяца паўтара. Але мы паспелі ўжо моцна пасябраваць.

Успамінаю, як я прыехаў здаваць уступныя экзамены. Давялося доўга паблукаць, каб знайсці той інтэрнат, у які мяне накіравалі. А каменданту было нямала клопату, каб мяне ўладзіць. У адных пакоях быў рамонт, другія — ужо заселены.

— Ага,— нарэшце спахапіўся камендант.— Вось ідзіце жыць да музыканта. Пакой у канцы калідора, ціхі, і жыхар там адзін, ды і то увесь дзень яго няма. Так што вам будзе спакойна.

Як на злосць, музыканта не было дома. Камендант жа не хацеў мяне пасяляць без гаспадара і таму выправіў прагуляцца.

Я ўжо даўно стаміўся гуляючы, а той музыкант усё не з'яўляўся. Нарэшце я трапіў пад спорны дождж і, увесь мокры, зноў паплёўся да каменданта. Той, адшукаўшы запасны ключ, упусціў мяне, нарэшце, ў пакой. Я скінуў з сябе мокры пінжак, трохі пасунуў на стале вялізны стос нот і, як законны гаспадар, расселся ў мяккім крэсле. Хацелася крыху яшчэ пагартаць кнігу перад заўтрашнім экзаменам.

Віталь — так зваўся музыкант — вярнуўся дадому позна. Яму, бадай, нічога і не заставалася, як толькі здзівіцца, убачыўшы яшчэ з вуліцы ў сваім акне святло. Але пры мне ён не падаў нават ніякага выгляду.

Мы неяк вельмі проста павіталіся і адразу ж перайшлі на «ты». Аказваецца, Віталю аднаму жылося тут даволі сумна, таму ён і стараўся ўвесь час быць у музычным вучылішчы, а сюды прыходзіў толькі нанач. І ён не таіў, што быў рады новаму чалавеку, з якім можна дзяліцца сваімі ўражаннямі.

Тады быў позні час. Я адсунуў убок падручнікі, якія паспелі мне абрыдзець, і мы сталі класціся спаць.

Пра што мы толькі не гаварылі ў тую ноч. Ды так, мусіць, бывае заўсёды, калі патушана святло, але чамусьці не спіцца, хочацца адагнаць змрочныя думкі пра экзамены. Відаць, у кожнага бываюць хвіліны, калі цябе перапаўняюць розныя думкі, калі хочацца гаварыць і гаварыць.

Праўда, па свайму характару я, можа, люблю больш слухаць, чым расказваць. І ў гэты вечар і ва ўсе наступныя гаварыў Віталь. Так, пра рознае. Пра ўсялякія эпізоды і здарэнні ў жыцці, якія найбольш урэзаліся яму ў памяць.

І ўжо я ведаў амаль усю яго, Віталя, біяграфію.

Бацька ягоны пакінуў сям'ю рана. Неўзабаве маці закатавалі фашысты. Яму, пяцігадоваму хлапчаняці, давялося жыць з бабуляй, якая ўжо не надта магла дагледзець унука. Пасля і яна памерла. Віталь застаўся адзін.

З хаты ён пайшоў жыць на вуліцу. Знайшоў там сабе хаўруснікаў, і яны кампаніяй здабывалі сродкі на жыццё. Набытая спецыяльнасць «жулік» гучала не вельмі высакародна, але Віталь асабліва не клапаціўся пра гэта.

Калі вызвалілі Растоў, хлопчыка злавілі, адправілі ў дзіцячы дом. Аднак не давала спакою мінулае. Яно цягнула да сябе хлопчыка зноў, і ён не аднойчы ўцякаў з дзетдома. Яго лавілі, вярталі назад. Тады Віталь не думаў, што з яго выйдзе сумленны; сапраўдны чалавек. Але калі трапіў у салдаты, пачаў задумвацца над сваім лёсам. Тут ён і стаў сябе перайначваць.

У арміі неяк хутка выявіліся яго здольнасці. Схільнасці да вучобы Віталь у дзетдоме не праявіў і скончыў толькі сем класаў. А тут захапіўся музыкай. Яго паслалі на курсы трубачоў. Пасля Віталь шмат выступаў на канцэртах перад салдатамі, і проста іграў на вечарынках.

Са службы Віталя накіравалі вучыцца, і ён быў залічаны на другі курс музычнага вучылішча. А цяпер заканчвае яго. Увесь гэты час ён жыў без нічыёй дапамогі; стыпендыі, вядома, было малавата, даводзілася ісці на сякія-такія заробкі.

Апошняе ён гаворыць з гонарам. І я яго разумею, бо як добра ўсведамляць, асабліва будучы ўжо дарослым, што ты не нахлебнік, а жывеш на свой уласны, зароблены рубель...

Раніцай Віталь спяшаўся на заняткі, каб не перашкаджаць мне рыхтавацца да чарговага экзамена: па-ранейшаму ён увесь дзень прападаў у вучылішчы і вяртаўся дамоў толькі позна ўвечары. Да гэтага часу ў нас збіралася столькі навін, асабліва ў Віталя, што мы, бадай, не перагаварылі б іх і за ўсю ноч.

Не міналі мы, вядома, і гаворкі пра дзяўчат. Віталь расказваў, як былі закаханы ў яго дзяўчаты. Па праўдзе кажучы, гэтаму я не надта і верыў.

Сапраўды, разважаў сабе я: Віталь ніякі не прыгажун. Каранасты, нават занадта нізкага росту. Маршчыністы, скуласты твар. Вось хіба што чорныя, кучаравыя валасы...

І ўсё-такі Віталь карыстаўся поспехам у дзяўчат. Мне нават карцела даведацца, у чым тут сакрэт.

Ён не заляцаўся да дзяўчат, зусім не. Не быў з імі ліслівы, нават не стараўся быць дасціпным. Ён толькі гаварыў, што не верыць ні ў дружбу, ні ў каханне, наогул у жанчын. З дзяўчынай ён трымаўся трошкі нават абыякава. Маўляў, ты мяне зусім не цікавіш. І гэта ён умеў паказваць даволі шчыра і натуральна.



Мабыць, і сам таго не ўсведамляў Віталь, што ён выглядаў тады такім расчараваным хлопцам... А яно на некаторых робіць уражанне. Недалёкія і пуставатыя дзяўчаты схільны бачыць у хлапечым расчараванні натуру нейкую незвычайную, а то проста думаюць: ах, ты не звяртаеш на мяне ўвагі, пачакай, я цябе прымушу. Аж пакуль, урэшце, не закахаецца сама...

Здараецца, нават дзяўчаты ўдумлівыя і разважлівыя спакушаюцца...

Мінулым летам Віталь паехаў на канікулы ў родны Растоў. Там ён аднойчы іграў на маладзёжным вечары танцы. Амаль усе музыканты духавога аркестра — людзі маладыя — і самі былі не супраць, каб патанцаваць на гэтым вечары. Таму яны па чарзе ішлі запрашаць дзяўчат, а астатнія ігралі.

Дайшла чарга і да Віталя. Яшчэ седзячы ў аркестры, ён запрыкмеціў чарнявую дзяўчыну, ля якой увіхалася цэлая чарада хлопцаў, каб запрасіць яе на танец. Трымала яна сябе вельмі горда, нават здавалася непрыступнай.

Віталь запрасіў яе. Яна пайшла ў танец з яўнай неахвотай. Ён паспрабаваў аб чымсьці загаварыць — і адразу ж асечка. Віталя гэта ніколькі не ўразіла, ён заставаўся раўнадушным да канца танца, і дзяўчына нарэшце не ўцерпела:

— Скажыце, вы так з усімі дзяўчатамі? — спытала яна.

— А як жа яшчэ... — раўнадушна адказаў Віталь.

Скончылася ўсё тым, што Валя — гэтая непрыступная дзяўчына — перавагу аддала іменна Віталю. І праводзіць з танцаў дахаты дазволена было таксама яму. А пасля гэтага яны сустракаліся ўсё часцей і часцей.

І цяпер, будучы ўжо ў Маскве, Віталь праз кожныя тры дні атрымліваў ад Валі лісты і сам пісаў ёй. Бывала, яны праз лісты моцна сварыліся, пасля ў іх наступала прымірэнне, і яны зноў пісалі адзін другому ласкава і задушэўна. Пасля паўтаралася ўсё спачатку. Сварка і мір. Так у іх увесь час і вялося.

— Нешта не ведаю, ці кахаю яе... — гаворыць ён мне.

Віталь кажа гэта знарок раўнадушна, відаць, не хоча і перада мной злазіць са свайго любімага канька.

— Ат, вазьму ды ажанюся з Валяй. Ашчасліўлю хоць аднаго чалавека, — працягвае ён далей усё з той жа інтанацыяй. А я думаю: гавары сабе, што хочаш, а ты ж яе моцна кахаеш. Інакш не перачытваў бы так часта ўсе яе лісты, заводзіў бы знаёмствы сярод маскоўскіх прыгажунь. А то ж...

— Вось табе я зайздрошчу. Жыві сабе і ні аб чым не клапаціся... Ты чалавек з велізарнымі здольнасцямі...

Гэта ён звяртаецца непасрэдна ўжо да мяне. Наконт велізарных здольнасцей ён, вядома, хапіў замнога. Але што я здольны, у гэта Віталь верыць цвёрда. І ўзяў ён гэта сабе ў галаву вось з чаго.

Кожны раз перад экзаменамі я гаварыў Віталю, што нічагуткі не ведаю, і што вось ён пабачыць, як сёння з трэскам правалюся. Праўда, я ўсё-такі штосьці ведаў, але хто ж у гэтым прызнаецца, нават самому сабе, калі выпраўляешся на экзамены. Здаецца, і таго не паспеў, і тое не схапіў. Эх, калі б дзянёчак яшчэ, ну хоць бы ў крайнім выпадку некалькі гадзін...

А ў мяне і сапраўды рыхтавацца амаль не было калі. Таму, шчыра кажучы, веды мае былі не надта якія моцныя. Мусіць, мне вельмі шанцавала на экзаменах, а мо' памагаў вопыт. Так ці інакш, але я прыносіў пяцёркі.

— Ну вось, а гаварыў... — нібыта незадаволена цадзіў праз зубы Віталь. — Не, што ні кажы, а ты чалавек з выдатнымі здольнасцямі. І зубрыў жа мала, а зноў пяцёрка...

Між іншым, тое ж самае пра мяне гаварылі і раней, у інстытуце. Там амаль увесь час я аддаваў спецыяльнасці — акцёрскаму майстэрству. Да іншых прадметаў, шчыра кажучы, быў не надта ахвочы. Вучыў іх, каб толькі здаць, але ж каб і здаць, трэба нешта ведаць, і я паціху падчытваў, — ды ўзяў сабе за звычку гаварыць, што нічога не рыхтаваў і нічога не ведаю. Да гэтага, відаць, многія прызвычаіліся, паверылі. А ў тым, што я паспяхова здаваў экзамены, бачылі не мае заслугі, а проста лічылі мяне шчаслівым.

Памятаю, напярэдадні выпускнога экзамена я з асаблівым стараннем засеў за літаратуру. Але калі намерыўся ўвайсці ў аўдыторыю, каб выцягнуць свой «шчаслівы» білет, мая аднакурсніца, якой прыспела чарга і якая з-за боязні прапускала мяне ўперад, шчыра пазайздросціла.

— Вось глядзіце, Васіль ні халеры не вучыў, нічагуткі не ведае, а ідзе... І пабачыце, здасць, ды яшчэ як...

Такая пахвала прыйшлася мне не вельмі па душы. Неяк нават крыўднавата стала, што вучыў, вучыў, і на табе — не прызнаюць. Я стараўся давесці, што, наадварот, рыхтаваўся заўзята. І што вы думаеце, мае спробы аказаліся марнымі. Не паверылі...

Успамінаючы, не паспеў нават заўважыць, як апынуўся ля дзвярэй пакоя, дзе жыве Віталь.

— Во, а я ўжо думаў, што... Хоць бы паведаміў аб сваім прыездзе, сустрэў бы... А то... А ты, Вася, малайчына, не забыў усё ж, — і мы павіталіся, як самыя даўнія і найлепшыя сябры.

— А я для цябе тут месца трымаў, ды засялілі пасля.

— Нічога, я ўладкаваўся ў другім інтэрнаце. І там няблага, — кажу яму.

Віталь у найлепшым настроі. Гэтаму спрыяе і тое, што сёння паштальён прынёс ад Валі пісьмо. І ў ім — у каторы ўжо раз! — прымірэнне.

— Нешта заседзеўся ты, Віталь, тут. Бач, які дзянёк выдаўся. Пойдзем пагуляем па Маскве, ці што...

І сапраўды, надвор'е сёння ціхае, сонечнае, па-асенняму мяккае і ласкавае.

У Маскве раней я бываў толькі наездамі, таму горад ведаю слабавата. Віталь, можна сказаць, тут амаль ужо карэнны жыхар. Ён ведае шмат чаго і спяшаецца паказаць мне як мага болей.

— Хочаш, паедзем на Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі.

Я быў там раней, паспеў з ёй азнаёміцца, ды і чытаў пра яе нямала.

— Пазнавата. Вечарэе... — спрабую я супярэчыць. — Павільёны хутка пазачыняюць.

— Нічога, ты яшчэ многага не бачыў, хоць і быў там. А галоўнае, ты ж не бачыў выстаўкі вечарам... Гэта, брат, не тое, што днём...

Так яно і ёсць. Выстаўка вечарам нейкая казачная, і ўсё паўстае перад вачыма ў новым, непаўторным святле.

Патыхае лагоднай восенню. Магутныя фантаны выкідваюць сотні разнастайных каменьчыкаў: малюсенькіх, крыху большых, даволі ладных. У адных месцах яны зліваюцца ў агульную плынь, у другіх — раскідваюцца паасобку. У дзівосным святле пражэктараў гэтыя каменні і каменьчыкі ззяюць, пераліваюцца колерамі самацветаў, кожны раз мяняючы сваю афарбоўку, аж пакуль не рассыплюцца ўнізе іскрыстымі пырскамі.



І дрэвы, якія акаймоўваюць павільёны, і алеі, асветленыя знутры пражэктарамі, цяпер здаюцца зусім не тыя, што днём. Стройныя, кучаравыя клёны, якія заліліся асенняй чырванню, зводдалі палаюць яркім барвовым полымем. А ўнізе, падступаючы зусім-зусім блізка, мірна тоўпяцца купчастыя кусты бэзу. Языкі асенняга полымя іх ані не кранулі, і кусты быццам спаборнічаюць з вялізнымі дрэвамі, выстаўляючы ўсім напаказ сваю цёмна-зялёную густую ліству. Стаяць яны амаль разам, але не ладзяць, спрачаюцца. І глядзіш перш за ўсё чамусьці на гэтыя невялікія кусты бэзу, бо яны не растрацілі вясну...

У гэтым пейзажы цудоўныя палацы, створаныя розумам і рукамі чалавека, уяўляюцца нейкімі легендарнымі харомамі, якіх некалі не магла нават і ўявіць людская фантазія.

Захопленыя чарамі, мы не гаворым ні слова. Ходзім моўчкі. І, здаецца, нішто не парушае гэтую ўрачыстасць. Толькі раз-поразу адарвуцца кляновыя лісткі і, кружачыся, павольна апускаюцца долу, укрываючы коўдраю алеі і дарожкі. Быццам знарок, спецыяльна сцелюць для цябе шлях. Толькі ідзі... Ідзі ў сваю будучыню.

Пакінулі мы выстаўку позна ўвечары.

У метро мне ўсюды сустракаліся заклапочаныя людзі. А я амаль як і не заўважаў іх. Усё яшчэ думаў: колькі ж трэба мне вучыцца, працаваць, каб прыйсці ў гэтую будучыню лепшым, больш высакародным чалавекам, зусім-зусім чыстым. Яна ж так ужо недалёка. А як многа трэба чаго паспець, каб мог сустракаць сваю будучыню са спакойным сумленнем. А можа і гэтыя людзі, што мне цяпер трапляюцца на шляху, адчуваюць тое ж самае, што і я, і таму яны такія сур'ёзныя і ўсё некуды спяшаюцца?

## 3



Жыццё маё пачынае скіроўвацца ў цвёрдую каляіну,ісці сваёй дарогай далей.

Зноў я студэнт.

Хто з юнакоў і дзяўчат, якія сінім асеннім ранкам спяшаюцца, каб сесці за інстытуцкія сталы, не адчуе светлых хвілін, непаўторнай радасці і прыўзнятасці... За тое, што для цябе наступае іншае, нязведанае дагэтуль жыццё, што яно будзе прыносіць столькі новага, цікавага... За тое, што ты сам, сваёю сілаю, справамі заваяваў гэтае жыццё.

Такія пачуцці, звычайна, не паўтараюцца, бо і людзі бываюць студэнтамі адзін раз. Мне ж суджана стаць ім і ў другі. Таму перажываю ўсё не толькі па-ранейшаму, а з непараўнальна большай сілай. Студэнт у другі раз!

Памятаю выпадак у сваю першую пасляінстытуцкую восень. Наогул, здарэння нейкага асаблівага ці незвычайнага не было. Прыехаўшы па справе на некалькі дзён у Мінск, я зайшоў у знаёмы, раней родны мне інтэрнат. Быў суботні вечар. У ленінскім пакоі, як звычайна, студэнты ладзілі вечарынку.

Тое пачуццё навізны і ўзнёсласці, якое так востра перажываеш у першыя студэнцкія дні, паступова праходзіць. Свята канчаецца, і пачынаюцца будзённыя і нават крыху аднастайныя дні. Як і ў многіх іншых, у мяне былі і расчараванні. Больш таго, у апошні год усё не

цярпелася хутчэй выйсці на волю, па-сапраўднаму ўзяцца за справу самому... Час гэты, як на тое, цягнуўся марудна, і мы ўсё чакалі і ніяк не маглі дачакацца жаданых дзён. Мы снілі іх, а яны ўсё не прыходзілі.

Думалася нават, што тады ўжо свой інстытут, які паспеў табе добра надакучыць, не будзе ахвоты ўспомніць добрым словам.

Якая недарэчнасць!

У той незабыўны для мяне суботні вечар, здавалася, усё было так, як і раней. Гэтак жа хлопец заліхвацка іграў няхітрыя вальсы, кракавяк, польку. Гэтак жа яму на змену падключалі радыёлу ўсё з тымі ж зайгранымі пласцінкамі. Як і раней, у невялікім пакойчыку сабралося многа ахвотнікаў патанцаваць, і, мабыць, амаль столькі ж цікаўных тоўпілася ля ўваходных дзвярэй.

Усё было так і не так.

Раней можа б і я дзе цёрся ў натоўпе. Як свой, як гаспадар. Цяпер жа мне аказвалі павагу. Запрасілі ў пакой, далі месца сесці, абкружылі і ўсё выпытвалі, як ды што.

Але як бы хацелася быць тут не госцем, а сваім, забегчы на колькі хвілін да аднакурсніц, без стуку расчыніць дзверы свайго пакоя. Эх, здаецца, нічога цяпер не жадаў бы, ні аб чым не клапаціўся, толькі хоць на якую гадзінку вярнулася б усё ранейшае!

Добрыя, любыя мае таварышы, аднакурснікі, з якімі цэлыя чатыры гады жыцця дзяліў я свае радасці і нягоды, з якімі нярэдка пілі чай з адной шклянкі, зусім не думаючы, што заўтра трэба паабедаць, пазычалі адзін аднаму апошнія рублі, каб схадзіць у кіно... Дзе вы цяпер, куды закінуў вас лёс? І, мусіць, ніколі ўжо не збяромся ўсе мы разам, вось так проста, як збіраліся на танцы. А можа і збяромся калі-небудзь, і нам захочацца тады, каб усё было так, як і раней. А яно ўжо ніколі не вернецца, як не варочаюцца пражытыя гады.

Калі хто і далёка часам ад тых мясцін, дзе нарадзіўся, дзе рос, усё адно не цяжка іх наведаць цяпер.

Летась я неяк сабраўся і з'ездзіў дадому, каб прайсціся па тых шасцікіламетровых сцежках, па якіх раней хадзіў у сямігодку. Па тых самых сцежках, на якіх канчалася маё гарэзлівае маленства і пачыналася неспакойнае юнацтва. І ўбачыў ужо зусім не тое, што спадзяваўся ўбачыць, дзеля чаго ішоў.

Усе тыя гады, калі я тут не быў, гэтыя мясціны паўставалі ў маёй памяці з тымі малюнкамі, якія бачыў і запомніў у маленстве. А цяпер я быў дарослы чалавек і на тое ж самае глядзеў ужо не тымі вачыма, а зусім іншымі, і думаў таксама не так.

І рушылася ўсё тое, што вось колькі ўжо часу нязменна захоўвалася ў памяці. Магчыма, нават назаўсёды. Здавалася б, нашто шкадаваць мінулае. Я ж быў калісьці хлапчуком, тады ў мяне не было яшчэ ніякіх асабліва важных спраў, і жылося горш, а я ўсё роўна засумаваў, усё роўна балюча заныла сэрца, можа таму, што тыя гады прайшлі для мяне назаўсёды.

Так вось і са студэнцкімі днямі. Калі трэба было рана ўставаць і хадзіць на заняткі, і калі з-за іх часта даводзілася недасыпаць і недаядаць, у той час нават і не думаў, што гэтыя дні застануцца, як самыя радасныя ўспаміны. Тады найчасцей бывалі розныя непаладкі, і яны неяк выступалі на першы план, засланяючы сабою галоўнае. Якімі ж дробязнымі і нязначнымі здаюцца яны мне цяпер, якім непаўторным і светлым было ўсё-такі студэнцкае жыццё!

А магчыма і вы, мае былыя аднакурснікі, у гэты асенні суботні вечар захочаце ўспомніць свае маладыя і трохі бесклапотныя гады,



трапіце дзе-небудзь на студэнцкі вечар і, хто ведае, можа нават пад тую ж усім нам да болю знаёмую мелодыю вальса так востра, з такім душэўным болем, як і я, адчуеце горыч расстання... Дарма, што можа нават і не заўважаць гэтага на нашых тварах студэнты. Гэта і добра, ім яшчэ цяжка будзе зразумець нас, ды і навошта ім думаць пра такое. Іх яшчэ так не трывожыць гэты просценькі вальс, не навявае столькі ўспамінаў аб мінулым, аб пражытым...

Успамінаю я той выпадак, але сёння ўжо так не сумую і не перажываю. Болей радуюся: многае, што было страчана назаўсёды для мяне, варочаецца. Цяпер таксама вечар. Праўда, не суботні. Але ў нас усё роўна людна і шумна. Мабыць, не першы год тут такая завядзёнка, што ў канцы дня збіраюцца ўсе на калідоры. Гэта бывае ўжо дзесьці каля поўначы, калі заканчваюцца вячэрнія спектаклі Масквы. Да таго ў інтэрнаце стаіць ледзь не поўная цішыня. Яе толькі час ад часу парушаюць тыя, хто па нейкай прычыне не трапіў на спектакль. Але такіх бывае вельмі мала.

А вось пасля адзінаццаці вечара то маленькімі групкамі — вялікай кампаніяй цяжка бывае прайсці ў адзін тэатр, — то паасобку ўсе спяшаюцца ў інтэрнат. І, доўга не марудзячы, вяртаюцца з пакояў на калідор. Тут добра і ўтульна. Можна ўзабрацца на канапу, або пасцягваць у круг крэслы, каб паспрачацца. За дзень збіраецца столькі многа ўсяго: і рэпетыцыі, і розныя сустрэчы, і спектаклі, і прыгоды. І ўсім хочацца падзяліцца з іншымі. А каму і проста, як кажуць, пачасаць язык. Я пакуль, праўда, амаль не прымаю ўдзелу. Знаёмлюся з людзьмі не надта каб лёгка, далёка не адразу ўмею пачаць і падтрымаць гаворку. Але з асаблівай пільнасцю я слухаю другіх. Вось і цяпер, прысеўшы збоку на канапу, я больш да ўсяго прыглядаюся.

Валодзя толькі што вярнуўся ў інтэрнат. Ён вельмі ахвочы да розных гаворак. Таму, каб не прапусціць чаго-небудзь, ён, захапіўшы з сабою кубак чаю і бутэрброд, адразу ж выходзіць на калідор. Ён нават за звычку сабе ўзяў, што вечарам піць чай лепш і цікавей на калідоры. Адначасова з гэтым не надта прапускае выпадак, каб не ўставіць свайго слова, ці не ўмяшацца ў бурную спрэчку.

Валодзева вячэра скора канчаецца. І ён ужо зноў тут. У руках у яго аж цэлая пачка замежных ілюстраваных часопісаў. І што ні старонка ў іх, то ўсё новыя «зоркі» кіно і тэатра, якія зняты ў самых розных позах, адзетыя па самых розных модах, а то і наогул амаль без ніякіх мод. Валодзя захапляецца такімі часопісамі, скупляе іх у кіёсках. А вечарам выносіць на паказ.

Мне не падабаюцца гэтыя Валодзевы захапленні. Можа трэба было б умяшацца, але я чамусьці зусім не абураюся. Па праўдзе кажучы, мне больш забаўна глядзець на ўсё гэта. Ну, чаго хацець ад чалавека, якому толькі нейкіх дваццаць год. Ён так яшчэ мала бачыў у жыцці, а іменна ў гэтыя гады з'яўляецца столькі цікаўнасці, калі так хочацца ўведаць усё-ўсё. Вабяць і прыгожыя жанчыны, а гэтую слабасць, мабыць, добра ведаюць фатографы «зорак». Пра Валодзю разважаю я сабе так: няхай вось трохі пасталее, і пройдзе ўсё гэта, бо яно ў яго толькі ад блазноты.

Недалёка ад мяне сядзіць і Віктар. Паміж ім і яго белавалосым субяседнікам, якому на выгляд цяжка даць семнаццаць год, пачынаецца спрэчка аб нядаўнім фільме «Ціхі Дон».

— Ат, слабая карціна... — сказаў раптам з абыякавасцю белавалосы хлапчук.

— А чаму слабая? — здаецца, між іншым, так сабе, пацікавіўся Віктар.

— Быстрыцкая вельмі ўжо інтэлігентная ў фільме...

Віктар не змаўчаў.

— Ну, так, інтэлігентная, але ж толькі з-за гэтага закрэсліваць фільм... А мне ён падабаецца...

У спрэчку ўцягнулася яшчэ некалькі чалавек, якія чамусьці падтрымлівалі белавалосага юнака. У такіх выпадках нярэдка ўзнікаюць гарачыя перапалкі.

Віктар паводзіў сябе зусім спакойна, з нейкай вельмі ўжо сталай раўнавагай. Пераканаць іншых яму цяпер, мусіць, не ўдалося б. І ён, быццам свядома ўзважыўшы ўсё наперад, і не спрабаваў рабіць гэтага.

— У вас адна думка, а ў мяне другая. Я ўсё роўна застаюся пры сваёй.

І ў ягоных словах было столькі ўпэўненасці і развагі, што я проста дзіву даваўся: няўжо Віктар, у якога на яго ложку і тумбачцы валяліся розныя цацкі, якімі ён часам яшчэ любіў пазабаўляцца, можа гаварыць з такой дарослай разважлівасцю, з такой унутранай пераканальнасцю?

Урэшце, цяжка з першага разу даваць ацэнкі, так вельмі лёгка памыліцца.

Наогул, можа я занадта звяртаю на ўсё ўвагу. Дык я ж тут жыву яшчэ толькі першы год. Для мяне пакуль усё новае. У такіх выпадках чалавек бывае, магчыма, нават трошкі падобны на дзіця, якое іншы раз і на нязначнае глядзіць дапытлівымі вачыма. З гадамі такая дапытлівасць праходзіць. Мабыць, і дрэнна, што яна праходзіць, што чалавек з усім звыкаецца, тады ўжо і да больш важнага часамі становіцца раўнадушны, абыякавы. Можа дзеці таму і запамінаюць бачанае нярэдка на ўсё жыццё, прытым болей і лепей, чым дарослыя людзі.

4



Заняткі скончыліся. Зноў усе спяшаемся ў інтэрнат.

Вярнуліся ўжо з інстытута і Валодзя з Віктарам. Мы ўзялі сабе за звычай кожны раз уключаць прайгравальнік і слухаць музыку.

Але вось прагучалі апошнія акорды, іголка, праехаўшы некалькі разоў па пласцінцы ўпустую, непрыемна заскрыпела.

Нейкі час маўчым, мабыць, пад уражаннем праслуханай музыкі. Ды і адпачыць яшчэ ахвота, бо заняткі і для рэжысёраў і для акцёраў справа нялёгкая, паспееш уволю натаміць і ногі, і рукі, і ўсё цела.

А на двары цяпер, як у мяшку. Усё неба абклала мутнымі хмарамі. Як праз густое рэшата, цярушыцца і цярушыцца дробны, па-асенняму нудны дождж. У такое надвор'е асабліва добра адчуваць, што ты знаходзішся не дзе-небудзь там, за акном, а вось тут, у гэтым цёплым і ўтульным пакоі.

Мабыць, усё гэта і наводзіць нас на гаворку, якую цяжка было





прадбачыць і якая ў іншых умовах можа і не атрымалася б. Вядзем гутарку пра шчасце. Дзе яно? Дзе яго шукаць?

Гаварыць не ад сябе, а толькі дакладваць прапісныя ісціны — нецікава. А падзяліся, што ў цябе ёсць на душы, — адразу стане зразумела, хто ты, пра што дбаеш...

Валодзя, відаць, добра разумее, што занадта ўжо далікатную тэму закранаем. Мо' таму ён і вырашыў не заходзіць асабліва далёка. Крыху жартам, крыху сур'ёзна ён сказаў, што няблага было б ажаніцца на рэжысёры. Жонка часцей, чым хто іншы, займала б яго ў галоўных ролях, і жылося б вальней.

Завадатаем выступае Віктар.

— Эх, быў бы я багаты, а то што цяпер...

Мне паспелі расказаць сёе-тое пра Віктара, і я ўжо наперад здагадваюся, да чаго хіліць ён, пра што думае. Ён кахае вучаніцу з харэаграфічнага вучылішча, якая неўзабаве павінна стаць балярынай. Усё ў іх, здаецца, ладзіцца няблага, ды вось акалічнасць: і бацька і маці дзяўчыны прафесары, і жывуць яны ў раскошы. А Віктар усяго толькі студэнт. І касцюм у яго, як і ў многіх, адзін, ды і той падношаны. Ніяк ён і не асмеліцца з'явіцца ў дом сваёй каханай ды ў такім звычайным адзенні сустрэцца з яе бацькамі.

— Закончу вось хутка інстытут, падамся куды далей адсюль працаваць. Збяру грошай. А праз гады два вазьму знячэўку ды і загляну сюды. Прыеду багаты, і тады будзе зусім не тое.

Хочацца мне неяк супакоіць Віктара... Дарэмна ён так турбуецца і спяшае набыць багацце. Ва ўсім гэтым ён памыляецца. Але не ведаю, якія знайсці словы, каб незнарок не зачапіць яго самыя патаемныя струны.

— Не, — раптам даволі бойка пачынаю я. — Шчасце зусім не ў багацці. Я жыў і так, што хапала ўсяго... Раскоша хутка стамляе чалавека.

Сыпаў я самымі вядомымі фактамі, і яны, вядома, мала пераконвалі Віктара.

— А вы жанаты, маеце сям'ю?— далікатна пытаецца ён ў мяне.

— Не, халасты. Сям'і, значыць, таксама не маю.

Гэты мой адказ канчаткова расчараваў Віктара. Далей у нас ужо нічога не клеіцца, дыспут на тым і заканчваецца.

Дзіва што. Ну як можа ўпершыню закаханы юнак згадзіцца, што

я зведаў ужо і багацце і шчасце, не маючы нават жонкі, сваёй сям'і. Ды і гаварыў я, мусіць, не зусім пераканальна.

Сам я ніколі і не быў багаты. Спачатку хадзіў вось такім жа студэнтам, як і Віктар. І касцюмаў не меў у запасе. Трэба было абыходзіцца адным, бо даводзілася часам жыць толькі са стыпендыі. Але чамусьці ніколі мяне не турбавалі такія акалічнасці. Я проста над гэтым не задумваўся. Не задумваўся і тады, калі выйшаў на свой хлеб і калі стаў атрымліваць даволі ладны аклад у параўнанні са студэнцкай стыпендыяй. Другія дык паспелі паабстаўляць свае пакоі, панаспраўляць гарнітураў і паліто. А я...

З мяне іншы раз нават пасміхваліся, што чалавек я незямны, што зусім не дбаю аб сабе. А мяне вабілі не новыя рэчы, да іх я заставаўся і застаюся зусім абыякавы. Мяне заўсёды клікалі новыя дарогі.

Калі я быў яшчэ зусім малы, мне ўсё не цярпелася як найхутчэй дазнацца, што знаходзіцца там, за сінявагай смугою, далёка-далёка, дзе зямля зусім зліваецца з небам. Я вельмі хацеў дабрацца да таго месца, дзе лёгка можна рукою дастаць неба. І чым больш я падрастаў, тым далей ішоў туды, але ніколі так і не дайшоў. Толькі свет для мяне станавіўся шырэйшы і большы.

Я любіў шмат ездзіць, стараўся як мага больш усюды пабываць. І кожны раз пад рукамі ў мяне было маё багацце — адзіны чамадан, у якім якраз укладвалася самае для мяне неабходнае.

І ў другі раз я прыехаў у інстытут усё з тым жа чамаданам, які ад частага перамяшчэння сям-там пачаў ужо трохі аблазіць. Аднак не сумую я аб гэтым, і пакуль не збіраюся мяняць на новы. Паспеецца.

Не маркоцься і ты, Віктар. Шчасце напаткае цябе, абавязкова напаткае. І зусім не зважаючы на тое, колькі ты будзеш мець у запасе чамаданаў, надзенеш ты не дарагі і падношаны гарнітур, ці будзеш насіць з-пад іголачкі модны... Шчасце зусім-зусім не ў гэтым!

## 5



І трэба ж так здарыцца. Каля тыдня пранасіў я ў сваёй кішэні запрашальны білет на канцэрт у кансерваторыю, дзе чорным па белым напісана, што ён пачнецца ў дванаццаць дня, і ўзяў ды спазніўся. Можа ўсяго толькі на якіх пяць хвілін, але ж я абяцаў прыйсці раней. І як усё нядобра атрымалася.

Запрашальны білет мне прынёс Віталь. Ён з'явіўся тады да мяне радасны і ўстрывожаны...

Для зусім юнага музыкі, які толькі ўсяго заканчвае вучылішча і які яшчэ асабліва надта нідзе не выступаў, вельмі хочацца выступіць на сцэне Маскоўскай кансерваторыі. На той сцэне, якая прымала на сваіх падмостках выдатных музыкантаў свету, якая збірала і цяпер збірае, як кажуць, усю музычную Маскву. Віталь мне так і сказаў тады:

— А ведаеш, я нават баяўся марыць аб тым, што калі-небудзь буду тут выступаць.

Але здарылася так, што справаздачны канцэрт вучылішча наладжваўся іменна ў кансерваторыі. Выступаць будуць, вядома, не ўсе, толькі самыя лепшыя. З трубачоў вучылішча выступаў адзін толькі Віталь. Раней яшчэ мы прачулі тое, што на гэтым канцэрце будуць



прысутнічаць прафесары кансерваторыі, якія наступным летам будуць прымаць экзамены, каб набраць сабе новыя класы.

Я быў рады за поспехі свайго таварыша. Толькі вось як быць?

— Ты ж ведаеш, Віталь, што ў гэты час у мяне штодзень у інстытуце заняткі.

— Ну, вядома...

Нічога ж такога не сказаў я яму. Але раптам неяк спахмурнеў Віталь. Вось жа бываюць людзі. Аднаму гавары проста ў вочы, што хочаш, і яго літаральна нішто нават не ўразіць, ён і вухам не павядзе. Толькі будзе нахабна дамагацца свайго. А другому ты не толькі не скажаш благога слова, але і, здаецца, весці сябе з ім будзеш далікатнейшым чынам, як знячэўку чым-небудзь зачэпіш яго балючую струну, так усё тонка ён успрымае.

Іншы хто можа б сказаў: ды кінь ты са сваімі гэтымі заняткамі, лепш прыйдзі на канцэрт. А магчыма, і папракнуў бы ў нетаварыскасці. А Віталь так не здолеў бы сказаць. Ён добра ведае, што ў мяне справы і што павінен я іх пільнавацца. Ён не стане мяне адрываць. Але па тым, як задрыжэў яго голас, можна было зразумець, што хлопцу цяжка і крыўдна. Ну, напэўна ж, на гэтым канцэрце будуць таты, мамы, дзядзькі і проста добрыя знаёмыя юных артыстаў. І як гэтым артыстам перад выхадам на сцэну будзе прыемна, што не толькі яны адны тут хвалююцца і перажываюць... Я сам добра ведаю, як часам важна і неабходна адчуць вось такую падтрымку і як цяжка бывае, калі наперад ведаеш, што ніякай падтрымкі ў цябе няма.

У Віталя будуць, вядома, сябры па вучобе.

Але я разумею нявыказаныя словамі думкі Віталя. Не, на гэты канцэрт, можа быць, для яго самы адказны і трудны, павінен прыйсці я, нягледзячы ні на што. Адчуваю, што мая падтрымка яму цяпер вельмі трэба. І я ўжо не раздумваю пра свае заняткі. Адпрашуся, затым наганю прапушчанае.

І вось — на табе. Спазніўся. У Маскве найчасцей у падобных выпадках гавораць: падвёў транспарт. Тым больш, што яго ўсюды так многа, што нават бывае цяжка адгадаць, на чым чалавек дабіраўся.

Але транспарт транспартам, я забываю пра яго, бо хвалююся за Віталя. Добра ўяўляю, як стаяў ён ля ўваходу, стаяў да самых апошніх хвілін, усё ўзіраўся, ці не пакажуся дзе ў натоўпе і я. І не дачакаўшыся, паволі, моўчкі паплёўся за кулісы. А цяпер, пакуль дойдзе чарга выходзіць на сцэну, да яго лезуць усялякія невясёлыя, нядобрыя думкі. Я ведаю, ён такі, ён цяпер зусім неспакойны.

Спрабаваць мне прабрацца за кулісы, каб там сустрэць, падбадзёрыць і трохі супакоіць Віталя, няма ніякага сэнсу: усё роўна ў гэты час ніхто нікога не прапусціць. Нават у першыя рады партэра цяпер не пройдзеш, даводзіцца займаць самыя сціплыя месцы ў куце залы.

А тут і сапраўды сёння многа татаў і мамаў. Каб у гэтым пераканацца, нават не трэба быць тонкім назіральнікам ці вялікім псіхолагам. Варта толькі падсесці дзе-небудзь трохі збоку і зрэдку паназіраць, як рэагуюць прысутныя на выступленні. Не тое, што, каб надта бурна. Але, калі выходзіць на сцэну іх дзіця, яны адразу ж неяк мяняюцца і сядзяць увесь гэты час, як на іголках, хвалююцца, здаецца, яшчэ больш, чым той, хто стаіць цяпер перад усімі на сцэне.

Віталь выйшаў якраз недзе ў сярэдзіне праграмы. Зрабіў па сцэне некалькі няўпэўненых і нязграбных рухаў. Сутуліўся, быццам ад холаду. Калі ж піяніст зайграў уступ і Віталю трэба было вось-вось узняць трубу, ён яшчэ больш замітусіўся, рукі яго сталі дрыжаць. Колькі яму трэба было намагацца і напружвацца, каб толькі ўстаяць

Гэтых сваіх намаганняў Віталь не мог і не ўмеў хаваць ад іншых. Яны выразна адбіваліся на яго збялелым, бяскроўным твары, на ўсіх яго рухах, якія яго выдавалі.

Калі б я змог на гэты час адарваць ад Віталя свой позірк, хоць бы на момант заплюшчыць вочы, то пачуў бы роўныя, зладжаныя і мілагучныя трэлі. Як пазней я даведаўся, нават самыя строгія выкладчыкі не маглі прычапіцца да яго выканання. Але я ўсё глядзеў і глядзеў на Віталя, і мне здавалася, што ён безнадзейна правальваецца, ну, проста ляціць у нейкую велізарную проламку. Калі трэба было Віталю спакойна трымаць трубу, каб у пэўны момант зноў яе ўзняць і далей працягваць сваю партыю, ён не даваў гэтай трубе ні секунды спакою.

Мне ўвесь час здавалася, што ў ягонай трубе адразу можа якіх з дзесяць непаладак, і што вось-вось яна пачне страшэнна фальшывіць ці наогул абарве свой голас.

Апладзіравалі яму не вельмі, усё-такі знешняя прыгнечанасць і скаванасць адбіваліся на агульным уражанні. Аднак воплескі да яго, відаць, не даходзілі, ды і ці чуў ён іх... Адно толькі было, відаць, у яго імкненне і жаданне: як найхутчэй знікнуць са сцэны. Яму ўсё-такі не хапіла нерваў пераадолець гэта, ён пусціўся са сцэны ўподбег.

Калі адразу пасля канцэрта я заглянуў за кулісы, Віталя там не аказалася. Я паехаў да яго дадому. Там яго таксама не было. Ну, дзіва што. Хіба можна ўседзець цяпер дома. У такія хвіліны хочацца забрацца як мага далей ад усіх, моўчкі хадзіць, хадзіць, аж пакуль не адчуеш страшэнную знямогу.

Я вырашыў сёння абавязкова пабачыць яго. Застаў дома Віталя толькі позна ўвечары.

— Ну як? — пачынаю адразу я, аднак з тым выглядам, быццам і сапраўды сам нічога-такі і не ведаю, вось толькі хачу праз яго аб усім дазнацца.

— Ды так... — з нейкай няўпэўненасцю і неахвотай кажа ён. — А я цябе чакаў. Нават калі выйшаў на сцэну, спрабаваў зазірнуць у залу, думаў, можа цябе там згледжу. Але нічога з таго не выйшла, усё так калыхалася ў маіх вачах, што распазнаць людзей не было ніякай магчымасці.

— Мяне нельга было ўбачыць, я сядзеў у самым кутку.

Віталь не паверыў, што я быў. Давялося, каб пераканаць, нагадваць дэталі і падрабязнасці.

Але ад таго, што я быў на канцэрце, Віталь, здаецца, нікольні не ўзрадаваўся, хутчэй яшчэ больш збянтэжыўся. І пачаў на сябе гаварыць усё, што толькі можна. Мне трэба было нямала пераконваць яго, каб трохі супакоіць і давесці, што выступаў ён не так ужо і блага, як сам думае.

— Вось толькі трымацца на сцэне ані-ані не ўмееш. Ты ж, можна сказаць, не сёння-заўтра артыст. Час, час навучыцца.

І я яму выкладаю правілы паводзін і добрага тону на сцэне. Мне сустракацца з гэтым не ўпершыню, ужо ж трохі вопытны.

Аднак чым больш я навучаў Віталя, як паводзіць сябе на сцэне, тым менш было ў мяне ўпэўненасці, што гэтаму сапраўды магу яго навучыць. Сёе-тое, вядома, трэба ведаць і ўлічваць. Але ж як ніякавата глядзець і на артыста, які з'яўляецца на сцэну з загадзя запланаванай і падрыхтаванай яшчэ за кулісамі мілай усмешкай, калі наогул у яго ёсць свой цвёрды разлік, як і колькі раз усміхнуцца гледачам, калі толькі трошкі нахіліць галаву, а калі схіліць яе ў нізкім паклоне, шырока разводзячы пры гэтым рукамі. Такія разлікі робяць артыста толькі развязным і вульгарным.



Не, я зусім не хачу, каб і Віталь таму навучыўся, каб і ён з часам вось гэтак заігрываў з публікай. Няхай лепш у яго ўсё будзе натуральна і шчыра. Няхай лепш Віталь ідзе сваёй дарогай. Хто адгадае наперад, можа яна ў яго вялікая і шчаслівая. Няхай жа ў яго жыцці яна будзе іменна такой. Тады калі-небудзь і я не без гонару скажу, што быў сведкай, калі яна, гэтая дарога, у Віталя толькі-толькі пачыналася.

## 6



Мы глядзім спектаклі амаль штодня. Гэта для нас вучоба і работа, і з імі мы звыкаемся.

Аднак сярод мноства спектакляў і прадстаўленняў час ад часу здараецца і нешта незвычайнае. На балет, калі танцуе Уланава, трапіць бывае вельмі цяжка. А тут — у тэатры спецыяльна наладжваецца яе творчы вечар. Да такіх ці ім падобных падзей звычайна далучаецца яшчэ і сенсацыя. Так і цяпер. Нехта пусціў плётку, што Уланава назаўсёды сыходзіць са сцэны і ў гэты вечар будзе танцаваць апошні раз.

Ну, як тут уседзець! Тое, што трэба пабываць на балеце, не выклікае ніякіх сумненняў. Але як, якім чынам прабрацца? Гэтыя пытанні нас займалі надта многа.

Вырашылі дзейнічаць разам. Валодзя, Віктар і я. Спачатку паспрабавалі дастаць білеты. Кінуліся ў адну касу, другую, трэцюю, а іх там усё роўна як і не было. Памкнуліся ўстанавіць сувязі з міністэрствам— таксама нічога не атрымалася.

Выручыў больш знаходлівы і кемлівы ў такіх справах Валодзя. Ён недзе ў сябе адшукаў стары, нявыкарыстаны пропуск у тэатр. Падвёў трохі лічбы, і можна было б ужо радавацца. Ды вось зноў нявыкрутка. Пропуск быў на дзве асобы. А нас трое. Гэтага ўжо ніяк не падправіш, хоць Валодзя ў нас і спец на падобныя штукі.

Мы ўсё-такі ідзём у тэатр утраіх: а можа што і ўдасца? Па дарозе, яшчэ за некалькі кварталаў, нас то тут, то там апаноўваюць з адным і тым жа: ці няма лішняга білецікa? Даводзіцца расчароўваць людзей. А яны, можа, у думках і зайздросцяць, што мы вось ідзём.

Да тэатра проста не падступіцца. Усюды густы натоўп. Каб прапіснуцца да вестыбюля, патрэбна шмат намаганняў. Але ці варта турбавацца пра гэта, такія абставіны нам якраз на руку.

Дабраўшыся амаль да кантроля, спыніліся, каб распрацаваць «тактычны» план дзеянняў. Ініцыятыва зноў за Валодзем. Змерыўшы ўсё навокал, ён тут жа прапанаваў: пойдзем утрох. Пакуль буду прад'яўляць пропуск кантралёру, адзін хто-небудзь хутка шмыгане наперад. Я знарок затрымаюся, другі будзе стаяць тут жа, ля мяне. Маўляў, калі ласка, нас тут якраз двое і ёсць. А той, хто прайшоў уперад, ён да нас ніякага дачынення не мае, мы яго зусім не ведаем. А паспрабуй, вярні, калі той растане ў натоўпе.

План быў прыняты, і задуманая аперацыя ўдалася поўнасцю. Як і было дамоўлена, Віктар прайшоў наперад, а я з невінаватым выглядам прыпыніўся ля Валодзі. Без асаблівых прыгод мы праціснуліся паўз кантралёра.

Зноў разам сышліся ў вялізным яркім вестыбюлі. Валодзя дык той і вухам нават не вядзе.

— А вы гаворыце...

Мы яшчэ непакоімся, што нас праверацъ, калі будзем уваходзіць на прызначаныя месцы. Тым больш, што яны ў нас не на апошні ярус, а ў ложу бельэтажа, якраз непадалёк ад сцэны. Але нічога...

Хто зможа пераказаць словамі ўсё тое, што перадае ў танцы Галіна Уланава?! Дзе яны, гэтыя словы?

Па-веснавому яснае, цёплае сонейка... Журчаць празрыстыя крыніцы. Ціхутка перашэптваецца бярозавы гай. Зычачы шчасця і доўгіх год жыцця, кукуе зязюля.

Гэта танцуе Уланава.

Мацнеюць хвалі марскога прыбою... Яны ўзнімаюцца вышэй і вышэй, яшчэ крыху — і змяшаюцца з нізкімі, налітымі дажджом хмарамі. Маланкі паласуюць неба, на нейкія хвілі выхопліваючы з далёкай неабдымнай чарнаты сіняватыя прасветліны. Здаецца, вось-вось моцныя парывы ветру змяшаюць усё гэта ў адно, і яшчэ больш разгуляецца неўтаймаваная стыхія.

Гэта танцуе Уланава.

Горыч і гнеў. Душэўны парыў і радасць. Трывогі, непакой і шчырая замілаванасць. Мяккі лірызм і высокая трагедыя. Нястомная, вялікая прага да жыцця, да шчасця, прага кахаць і быць каханай.

Гэта танцуе Уланава...

Апусцілася заслона, і паволі пачалі запальвацца люстры. Усё навокал патанула ў шуме доўгіх воплескаў. Валодзя ад нас адлучыўся і недзе знік. Ён не з'яўляўся праз увесь антракт, і толькі калі далі другі званок, я зноў убачыў Валодзю. Ён спакойна заняў адно з самых лепшых і выгадных месц у партэры.

Пасля вечара нам не хацелася шмат гаварыць, каб знячэўку не сапсаваць вялікага ўражання; хацелася ўсюды быць шчырым і высакародным.

## 7



Было гэта зусім нядаўна. Сустракалі мы з Віталем Новы год. Толькі ўдвух. Кожны прымкнуў да сваіх кампаній, у Віктара і Валодзі была свая кагорта. Быць у якой малазнаёмай ці незнаёмай кампаніі мне не хацелася. Прыкладна так скла́ліся справы і ў Віталя. Вось і парашылі мы тады быць разам. Сабраліся ў яго невялічкім пакоі.

На пачатку было трохі ніякавата. У нас ціха, а за вокнамі пакоя гуляла, весялілася працоўная Масква.

Мы з Віталем тады перагаварылі, здаецца, аб усім, нават аб самым запаветным і патаемным. Ён, між іншым, тады мне сказаў:

— Праз некалькі дзён у мяне канікулы. Тыя ўсе гады нідзе не бываў, зімою заставаўся ў Маскве. Сёлета паеду ў Растоў, да Валі. Так сабе, пагляджу, як яна жыве, што робіць.

І хоць мы гаварылі тады шчыра, — Віталь не сказаў, што ён збіраецца жаніцца. Ды я і не паверыў бы.



А цяпер, вярнуўшыся са свайго падарожжа і забегшы да нас, Віталь проста збіў мяне з панталыку:

— Ажаніўся я!

— Пляцеш ты нешта...

— От, не верыць яшчэ... Сур'ёзна гавару...

Каб усё-такі пераканацца, я патрабаваў у яго пашпарт. Так і ёсць, запісаўся.

Віталь стаў расказваць, як нечакана ўсё здарылася.

— Што ж, віншую... — сказаў я і, не ведаю чаму, стаў даводзіць, што ўсё ж ён паспяшаўся. Ён жа яшчэ пасля вучылішча збіраецца паступаць у інстытут. А як жа жонка? Пакінуць яе дома? Прывезці сюды ў Маскву, наняць тут кватэру, разлічваючы ўсяго толькі на сваю студэнцкую стыпендыю?

Словам, гаварыў я яму тыя няскладаныя ісціны, якія не раз і не два даводзілася самому слухаць ад старэйшых.

Вядома, не будзе пакуль у Віталевай сям'і камфорту, які некаторыя лічаць найпершай умовай для шчаслівага жыцця і пра які, мабыць, неабходна паклапаціцца раней, чым пра жонку. Вядома, часам трудна будзе Віталю. Але ж у яго ўжо ёсць чалавек, з якім пароўну можна дзяліцца ўсім — радасцямі і нягодамі, з якім, мабыць, лёгка будзе ісці па жыцці...

Задумваюся я над гэтым і, прызнацца, неяк зайздрошчу Віталю.

А ў мяне вось складвалася ўсё не так, як трэба. Кахаў і я, але нічога з таго не атрымалася. Гэтак жа хутка мы рассталіся, як і зблізіліся. Прычыну часцей тлумачаць аднымі і тымі ж словамі — не сышліся характарамі. Не хочацца мне ў гэтым звальваць са сваіх плячэй віну — вінаватымі мы былі абое.

Не здолелі, магчыма, з-за зялёнай маладосці, зберагчы свайго кахання, а можа і не было яго наогул.

Ішлі гады, міналі адна за другою вёсны, з кветкамі, з радасным птушыным шчэбетам. А ў мяне ўсё гэта не будзіла душу. Бо мінулае не давала спакою.

Увесь час мяне абкружалі людзі. Я не цураўся іх. Жыў разам. Сустракаў нямала і дзяўчат, прыгожых і добрых. Некаторыя заглядаліся на мяне, можа нават, як гэта нярэдка бывае ў маладосці, трошкі былі і закаханы.

З дзяўчатамі я сябраваў, але нікога больш так і не пакахаў.

А тым часам сёй-той са знаёмых пачынаў гаворку, што пара б мне і жаніцца. Некаторыя былі не супраць, каб весці мяне ў сваты. Але я не разумеў, як можна жаніцца на той, якой ты не толькі не кахаў, але і не паспеў разабрацца, што дзяўчына сабою ўяўляе. А з ёю ты ж збіраешся жыць усё жыццё.

Ну, некалі, як кажуць, даўнейшым светам, дык хоць можна было дазнацца, колькі за маладою дадуць зямлі, які будзе мець яна пасаг. Тады іменна на гэтым людзі і спрабавалі ладзіць сваё сямейнае шчасце. А цяпер жа шукаюць не пасаг, а чалавека, з якім жылося б добра і лёгка.

Кахаць і быць каханым, плакаць буйнымі, чыстымі слязьмі ад паўнаты шчасця... Я, відаць, калісьці не здолеў многае зберагчы, зрабіўшы ў жыцці вялікую памылку.

Вось пра што мне хацелася сказаць Віталю. Ён жа толькі яшчэ пачынае жыць...

8



Чамусьці прыпомніліся мне маладыя разгалістыя бярозы, што растуць у беларускай вёсцы, непадалёк ад майго дому. Яны стаяць цяпер без лісця. Недзе іх бязлітасна апякае студзеньскі мароз, калючы вецер усё сіліцца ніжэй прыгнуць да долу. А яны сцерпяць і выстаяць, бо ведаюць, што ўсё гэта пройдзе, што зноў будзе вясна.

Эх, каб так паўтаралася ўсё і для чалавека. Тады б у другую ці ў трэцюю сваю вясну маладосці, якой бы дачакаўся, жыў бы зусім шчасліва... Бо тады можна было б улічыць усе свае першыя памылкі і больш іх ніколі-ніколі не паўтараць. Але для людзей маладосць бывае толькі адзін раз.

Аднак і чалавеку дадзена спадзявацца, што калі ён не здолеў ці не паспеў чаго зрабіць упару, то некалі пазней ён нагоніць сваё.

Новы год быў для мяне нейкім сапраўды новым. Можа таму, што нечакана ажаніўся Віталь, а можа, што нарэшце-такі збудавалі нам новы шматпавярховы інтэрнат. Да гэтага студэнты нашага інстытута кватаравалі аж у некалькіх памяшканнях: хлопцы — у адных, дзяўчаты — у другіх. У новым інтэрнаце збяруцца ўсе.

Недзе ў сярэдзіне студзеня пачалося, як мы назвалі, вялікае перасяленне.

Так вось і атрымалася. Не паспеў як след з усімі азнаёміцца, а трэба ўжо на новае месца перабірацца. Зноў расстанні, і зноў новыя сустрэчы.

Прыйдзецца цяпер развітвацца з двума мілымі дабрадушнымі в'етнамцамі, якія жылі ў суседнім пакоі. Яны можа і не маладзей маіх год, але глядзяць на рэчы з той непаўторнай і зайздроснай дзіцячай цікаўнасцю, калі ва ўсё трэба пранікнуць, аб усім дазнацца.

Мы ўсё збіраліся расказаць адны адным: я пра сваю Беларусь, а яны пра свой В'етнам, ды так і не сабраліся. Бо што ты надта скажаш, калі я не ведаю іх мовы, і калі яны пакуль паспелі запамятаць толькі некалькі самых папулярных нашых назоўнікаў.

Адно, што мы спраўна рабілі, дык гэта віталіся. Сустракаючыся раніцай, адны другім жадалі добрай раніцы. Віталіся і пасля, сустракаючыся днём і ўвечары. А нанач — жадалі прыемнага сну. Неяк я расказаў пра гэта Віталю, і ён пры зручным выпадку смяяўся з мяне. А я дык нічога не бачыў у гэтым смешнага.

Той, хто рыхтаваўся ці рыхтуецца стаць акцёрам, добра ведае, што нават самымі звычайнымі словамі «добры дзень», якія мы нярэдка гаворым на кожным кроку, можна перадаць што хочаш. Варта толькі паназіраць за людзьмі збоку і адразу ўбачыш: ці гэта вітаюцца начальнік са сваім падначаленым; ці блізкія сябры; ці суседзі, якія пасварыліся і цяпер, сустрэўшыся, абыякава гавораць адзін аднаму традыцыйныя словы.

Мы ж з в'етнамцамі ў вітанне ўкладваем самыя свае лепшыя пачуцці. І заўсёды прыемныя нам такія сустрэчы. А цяпер вось хлопцы застаюцца тут, бо яны з другога інстытута, і мы не зможам так часта бачыцца

Ва ўсіх хутка будуць новыя сябры, але не стане худзенькай і нізкаватай жанчыны Елізаветы Васільеўны. Здаецца, зусім не стасуецца да яе слова камендант, хоць лепшага чалавека на гэтай пасадзе цяжка сабе ўявіць.



З самых далёкіх куткоў нашай краіны, ды і не толькі адной нашай, з'язджаліся сюды юнакі, якія ўчора былі яшчэ падросткамі ці дзецьмі. Яны пакідалі дома сваіх бацькоў, пакідалі родных і знаёмых і выпраўляліся ў далёкі свет. І ўсе яны знаходзілі ў Елізаветы Васільеўны шчырае слова.

Колькі скрашвала яна цяжкіх і сумных нашых хвілін. І ў каторага здараліся якія непаладкі ці была свая радасць — усе мы ішлі да каменданта і дзяліліся з ёю. Елізавета Васільеўна замяняла маці, якая нам была так яшчэ патрэбна...

У яе ёсць і свае родныя сыны, але я не ведаю, ці была яна з імі больш шчырая і добрая, чым з намі. У гэтай ужо злёгку пасівелай жанчыны было столькі нерастрачанай шчодрасці. І ўсю яна ўмела пароўну дзяліць паміж намі, роднымі і няроднымі, зусім-зусім пароўну. Мяне ўвесь час здзіўляла і ўзрушвала: як гэта ёй удаецца, бо нават у родных бацькоў ёсць дзеці больш любыя і менш любыя. А ў яе дык усе аднолькава любыя і дарагія.

Калі мы са сваімі небагатымі студэнцкімі рэчамі садзіліся ў машыну, каб ехаць на новае месца, Елізавета Васільеўна, ахінутая толькі хусткай, выйшла на ганак ды так і стаяла на марозе, аж пакуль мы не схаваліся за паваротkай. Усё праводзіла нас позіркам, як праводзіць маці сваіх сыноў у далёкі шлях, калі ёй шкода і балюча пакідаць тых, каго гадавала, дзеля каго жыла.

Колькі на сваіх жыццёвых сцежках сустракаеш такіх сардэчных, багатых душою людзей. З імі, здавалася, толькі і быць бы разам. Але вельмі рэдка гэта ўдаецца. То табе трэба пакідаць наседжанае месца, то другія выязджаюць ці пераязджаюць, мяняючы работу. Так і разыходзяцца ў розныя бакі сцежкі. Але яшчэ ўсё асноўнае наперадзе, і там ёсць твае найлепшыя сябры. Іх многа-многа ўсюды.

Вось калі б сабрацца ўсім разам за адным сталом, з кім сябраваў, каго паважаў і хто рабіў табе дабро. Якая б гэта была вялікая бяседа, які б даўжэзны трэба было майстраваць стол!

Можна, вядома, будзе прыходзіць у госці да Елізаветы Васільеўны. Але ж да яе пераселяцца з іншага інстытута новыя людзі... Ужо з імі яна будзе падзяляць і радасць і гора.

Бывай, бывай, дарагая і родная Елізавета Васільеўна, бывайце мае блізкія суседзі з далёкага Ханоя!..

Добра і зручна абсталяваныя пакоі ў новым інтэрнаце былі большыя, яны прызначаліся на чатырох чалавек. Разам з Віктарам і Валодзем сюды перабраўся Віталь. Знаёміць яго з хлопцамі не было патрэбы, усе паспелі пазнаёміцца яшчэ раней, калі Віталь заходзіў да мяне.

Што ж, перасяленне, дык перасяленне. Парашылі, што ўсё ж трэба чым-небудзь яго адзначыць. На маю долю выпала бегчы ў магазін за бутылкай віна.

Калі ж я, вяртаючыся назад, адчыніў дзверы свайго пакоя, у ім, акрамя нашых хлопцаў, была незнаёмая дзяўчына. Нізкаватая, даволі статная з фігуры. Трохі вастраносая. Блакітныя вочы. Светлаватыя льняныя валасы буйнымі кудзеркамі звісаюць на плечы.

Аказваецца, гэта студэнтка-трэцякурсніца, добрая знаёмая Валодзі і Віктара. Завуць яе Галяй. Даведаўшыся пра маё імя, яна тут жа знайшла яму памяншальна-ласкальную форму.

— А ты ведаеш, Васечка, ты нейкі незвычайны...

Я не звярнуў ніякай увагі на гэтыя словы. Але такая фамільярнасць прыйшлася мне не вельмі па густу. І таму, што ніколі ніхто мяне не зваў Васечкам, і таму, што незнаёмым ці малазнаёмым

хлопцам і дзяўчатам, як правіла, гавораць «вы»... І толькі потым, калі ўжо знаёмімся бліжэй, пачынаем гаварыць «ты».

Не ведаю, як хто, але калі ні з таго ні з сяго незнаёмы чалавек пачынае аклікаць мяне на ты, я неяк бянтэжуся, не знаходжу адразу слоў, каб прадоўжыць гаворку. Мабыць, такая разгубленасць была ў мяне і цяпер, пры Галі. А тая зусім не зважала на гэтыя мае душэўныя «тонкасці» і сваім бесклапотным шчабятаннем хутка прывяла і мяне ў раўнавагу.

Па праву старэйшага я пачаў распараджацца за сталом. Калі наліў Галі ў чарку столькі ж, як і нам, хлопцам, яна неяк па-дзіцячаму міла і наіўна запярэчыла:

— Мне не трэба гэтулькі, а то пачну пасля буяніць.

Сталі ўгаворваць разам. Угаварылі.

Нешта і мне трошкі кружыцца галава. Зрабілася весела, здаецца, прыбавілася энергіі. І Галя не буяніць. Толькі шчабеча яшчэ з большым імпэтам.

— А ведаеце, я ніколі не выйду замуж.

— Ну, чаму ж гэта? — цікаўлюся я.

— Бо ў мяне дурны характар.

Сама ты дурненькая, думаю я, ну, які ж у цябе благі характар? Ты ж такая светлая, мілая... Такая незвычайная, дзівосная...

Тады я ўзяў і сказаў Галі, што я даўно жанаты, што ў мяне расце сын.

Для чаго я гаварыў няпраўду Галі?

## 9



Прысніўся мне сёння дзівосны сон. Я ўвесь дзень хаджу пад яго ўражаннем.

Здаецца, я ў сваёй роднай вёсцы. Шуміць вясна. А ў нашым садзе цвітуць вішні.

Я не раз, бываючы дома, не мог нацешыцца з садавінак, якім за доўгую дажджлівую восень і снежную зіму надакучыла стаяць без покрыва, і вясною яны руплівa і старанна ахінаюцца чысцюткімі, крыху наружоўленымі прасцірадламі. Толькі больш за ўсё я люблю грушы: можа таму, што расцвітаюць яны раней за яблыні і вішні і першыя шчодра аддаюць свой солад нястомным пчолам. Люблю грушы і за іх густы і пышны цвет, за ганарлівую і выносістую постаць.

...А то прысніліся мне вішні, усе абсыпаны сваім дробным цветам. Здаецца, стаю я і зводдалі любуюся іх красою. А на лузе і далей, на выгане, то тут, то там успыхвае вясёлымі купкамі бялёсая чаромха, быццам знарок, каб яшчэ ярчэй адцяніць зеляніну густых прырэчных кустоў. І ўсё прагна жыве і не нарадуецца вясне, цяплу. І ў мяне на душы неяк светла-светла. І лёгка. Я ўспамінаю пра Галю, яна так далёка, яна аж у Маскве. Пашлю, абавязкова пашлю ёй ліст, але як я здолею, дзе знайду тыя словы, каб апісаць усю гэтую прыгажосць, каб перадаць радасць вясны. І я ў сне доўга і пакутліва шукаў патрэбныя словы. І ніяк не мог знайсці...

Па Маскве ж тым часам пякучым сіверам разгульвае зіма. Але спраўляе яна ўжо, відаць, свае апошнія балі. Вясна не за гарамі. І, як напамінак аб гэтым, як першыя свае веснавыя прывітанні, далёкі Крым прыслаў на вуліцы Масквы далікатныя галінкі мімозы і сінія духмяныя фіялкі. І чаму мне не прынесці гэтых кветак Галі, няхай яны і ёй напомняць, што хутка прыйдзе вясна.

З Галяй бачуся я цяпер ледзь не кожны дзень. Часцей у нашым пакоі. Днём або вечарам забяжыць яна да нас на якую часінку, ці то набраць для самапіскі чарніла, ці па чай — мы іншы раз аказваемся больш гаспадарлівыя і запаслівыя,— ці то яшчэ чаго. А калі ёсць крыху вольнага часу, то і проста пагутарыць.

Галя, здаецца, ніколі не задумвалася, ці зручна ёй заходзіць да нас. Калі толькі трэба было — заходзіла. Яна была на дзіва простая і непасрэдная ў сваіх паводзінах з усімі намі, жыхарамі пакою, які значыўся цяпер пад нумарам 57. Такая прастата і шчырасць асабліва прыцягвае, падкупляе.

Аднак, чым часцей бывала ў нас Галя, чым больш я з ёю сустракаўся — незнарок, выпадкова — тым больш я рабіўся нясмелы, адчуваў сябе страшэнна няёмка. Са мной, здаецца, такога даўно не было.

Здаецца, чым часцей бачыш чалавека, гаворыш з ім, тым лепш звыкаешся, вальней, проста і непасрэдна адчуваеш сябе пры ім. А тут наадварот. Мне хацелася часцей і даўжэй бываць з Галяю, але я нечага саромеўся, а чаго і сам не ведаў. І ад сваёй нязручнасці і нейкай, раней неўласцівай мне непаваротлівасці я, мусіць, трапляў у самае недарэчнае становішча.

Было яшчэ так-сяк, калі Галя прыходзіла і былі дома хлопцы. Калі ж мы сустракаліся адзін на адзін...

Што б гэта магло значыць?

Вярнуўся я сёння з горада ў інтэрнат толькі ўвечары. З кветкамі ў руках. Настрой аднак быў не лепшы. У пакоі знаходзіўся адзін Валодзя. Ён падазрона і іранічна паглядзеў на мае кветкі, усміхнуўся, а выгляд яго так і гаварыў: разумею, усё чысценька разумею. Гледзячы на яго, нават здавалася, што ён ведае пра мяне ўсё лепш за мяне самога.

Валодзя збіраўся некуды пайсці і раптам нечакана прапанаваў:

— А хочаш, я паклічу сюды Галю? Каб ты не сумаваў...

Гэтага яшчэ толькі не ставала! Я запярэчыў, уяўляючы сабе, у якім становішчы апынуся.

Калі Валодзя выйшаў з пакоя, я падумаў: яны, мусіць, ужо нешта запрыкмецілі, толькі да пары да часу далікатна маўчаць. Вось дык трэба ж было...

Не сядзелася аднаму ў той вечар.

Ды што гэта я так часта ўспамінаю Галю?..

Каб адагнаць думкі, я браўся чытаць, але нічога не лезла ў галаву. І ўсё ж не ўтрываў, каб не пайсці да Галі. Аднак трапіў да яе не вельмі ўпору. Галя то была дома, але не адна. За сталом сядзела яшчэ адна дзяўчына, з заплаканымі вачыма. Яна, нават не зважаючы на мяне, расказвала пра сваё гора.

Не пашчаслівіла ёй у гэты суботні вечар. Яна аказалася трэцяй і лішняй. Эх, каханне, каханне, колькі прыносіць яно радасці, шчасця і колькі яно дадае душэўных пакут!

Дзяўчына пыталася рады. Што я мог сказаць ёй? Дарадчык я ў такіх справах дрэнны, вельмі дрэнны. Не стала прыдумваць, як вярнуць назад хлопца, і Галя. Але яна ведала, што трэба неяк развесяліць чалавека, падбадзёрыць. І стала расказваць, як аднойчы ўвечары яна вярталася з інстытута — гэтак тэп, тэп, у валёнках,— аж пад'язджае легкавушка. Вылазяць адтуль два нахабнікі, але не кідаюцца да яе, а мірна пальчыкамі клікаюць: «Кіс, кіс»... Яна — аніякай увагі. Тады

яны прапануюць ёй і сваю машыну і свае паслугі. Яна кінулася наўцёкі і так бегла, што аж валёнкі даставалі да патыліцы.

Галя расказала яшчэ пра шмат здарэнняў, пасля стала маляваць карыкатуры на знаёмых. Я глядзеў, як спрытна ходзіць яе невялікая ручка, і мне так захацелася ўзяць яе, патрымаць у сваіх руках... Захацелася прытуліць да сябе Галю, моцна-моцна...

І як гэта мне здалося, што Галя самая звычайная, што ў ёй нічога асаблівага няма. Гэта зусім-зусім не так.

Галя ж самая харошая, самая лепшая дзяўчына на свеце!

## 10



Восьмае сакавіка, дзень жанчын... Гэта і для мяне вялікае свята. Вось колькі ўжо часу думаў, які выбраць падарунак Галі...

Але можа ад таго, што шмат думаў і шмат да каго прыглядаўся,— спыніўся на самым звычайным падарунку, якія падносяць тысячы і тысячы мужчын: узяў і купіў кошык жывых кветак. Што там лічыцца са стыпендыяй, неяк будзе. Цяпер, калі зіма і вясна змяшаліся ў адно, няхай у Галі настрой будзе радасны і вясёлы. Такі які бывае толькі ўвесну.

Аднак я не панёс сам кветкі. Мне хацелася, каб яна пра гэта не ведала.

У такіх выпадках заўсёды хочацца быць не звычайным, не такім, як усе. Аднойчы мне давялося быць сведкам адной дзіўнай сцэнкі. Ля рэчкі прагульваліся закаханыя, мусіць, вельмі-вельмі шчаслівыя.

— А хочаш, я скокну ў ваду! — нечакана прапанаваў хлопец.

— Давай! — хуценька і, відаць, не падумаўшы, адказала яму спадарожніца.

І той, як стаяў, так і рынуўся ў рэчку, пад гальштукам, у касцюме. Ды хіба ў такія хвіліны абдумваюць наперад свае ўчынкі?

Так і я. За кветкі заплаціў больш, каб назаўтра раніцай, восьмага сакавіка, па Галінаму адрасу з магазіна даставілі кошык. У ім — мая віншавальная паштоўка, але нікім не падпісаная.

Уяўляю... Толькі збярэцца заўтра ўставаць Галя, а ўжо ля яе ложка стаяць кветкі... Усё роўна, як вялікай, любімай артыстцы ад яе шчырага і таксама вялікага прыхільніка. Дарма, шта да пары да часу ён застанецца для яе без імені, можа гэта яе яшчэ больш усхвалюе...

Рыхтаваўся павіншаваць заўтра дзяўчат, вядома, не адзін я. Толькі іншыя можа не з такой таямнічасцю.

Віктар і Віталь адправілі каму трэба свае віншаванні, а цяпер узяліся пісаць пасланне дзяўчатам па інтэрнату. Якіх толькі ўзвышаных слоў не ўжывалі яны: і мілыя, і прыгожыя, і найлепшыя... Затым упісалі ўсе іх у плакат. Толькі дзе яго выставіць, каб маглі чытаць дзяўчаты? Ну, вядома ж, на кухні, самым бойкім і людным месцы...

Парашылі, што сёння позна ўвечары выставім туды, і заўтра, калі ласка, з самага рання стануць чытаць дзяўчаты. Дачакаліся мы, пакуль усюды ўціхамірацца, і тады вынеслі і паставілі плакат. Але нехта ўсё ж хутка паспеў прачытаць. Пад нашымі фразамі стаялі словы: «Чакаем падарункаў». І там жа значыўся канкрэтны адрас — нумар

дзявочага пакоя. Маўляў, мы вас пачулі, цяпер ад слоў пара перахо-дзіць да спраў. Узнёслыя, гучныя словы і зусім зямныя справы.

І, што б вы думалі, прыклад падалі нам самі дзяўчаты. Калі я назаўтра раней за іншых прачнуўся і выйшаў на калідор, быў не на жарты здзіўлены такім відовішчам: перад кожным хлапцоўскім пакоем, у каго ўнізе на падлозе, у каго падвешаныя да дзвярных ручак, былі падарункі. Нашым суседзям дасталіся пакецікі з маннай кашай. Нам — пустая бутэлька. Яна стаяла ля дзвярэй. Замест этыкеткі — паперына, на якой круглаватым почыркам выведзена: «Любіце, сябры, жанчын».

Не столькі спадабалася нам гэтае відовішча, колькі карцела ведаць, хто гэта ўсё зрабіў. Аднак ніхто не прызнаваўся.

І можа таму, што ў нашым пакоі больш за іншых стараліся адшукаць аўтара, новыя і новыя падарункі сталі знаходзіць уранні і назаўтра, і паслязаўтра. Нехта ўвайшоў у азарт. Не адставалі ў азарце і мы. Не спалі цэлыя гадзіны, то ўслухоўваліся ў начныя шорахі, то падпільноўвалі.

Міжволі ловіш сябе на думцы. Вось другія выконваюць і перавыконваюць нормы выпрацоўкі, становяцца ўдарнікамі камуністычнай працы, пракладваюць новыя магістралі, засылаюць у космас гіганцкія савецкія спадарожнікі, будуюць, ствараюць... А мы тут займаемся рознымі глупствамі. Але ж і тыя, пра каго паведамляе радыё, пішуць газеты, хто робіць пачыны, каго нам ставяць у прыклад, і нават той, хто першы ляціць у космас і на каго затым скіроўваюць фотарэпарцёры сотні і тысячы аб'ектываў і пра каго, як пра героя часу, гавораць усе на свеце, — мусіць і тыя забудуцца калі-небудзь, што яны героі, і таксама ім захочацца вось такіх невялічкіх і нязначных забаў, захочацца крышку пасваволіць. А можа гэта ў нас яшчэ ніяк не ўтаймавалася гарэзлівая маладосць, можа гэта яна ўсё яшчэ напамінае аб сваіх правах?

... Галя адразу здагадалася, што букет для яе купіў іменна я. Але замест таго, каб пахваліць мяне ці падзякаваць, сустрэўшыся адзін на адзін, стала дакараць. Ну, вядома, гэта было яе права. І як я раней не падумаў, што мой падарунак будзе не толькі пампезным, але і не зусім дарэчы. Даставіць жа яго і ўручыць зусім чужы чалавек, які выканае толькі сваю службу. І, мусіць, было б лепей, калі б я прынёс Галі няхай усяго некалькі галінак, але сам. Можа б ёй ад іх было цяплей на сэрцы, чым ад пышнага, не па-студэнцку багатага букета.

Якая яна ўсё-такі добрая, Галя. Хіба можна мяне не дакараць? Я рады за Галю. Але, думаю я, ты ж артыстка. Хто ведае, можа ўперадзе на тваім шляху букеты, кошыкі кветак, мноства кветак. Іх будуць дарыць не толькі блізкія людзі, іх будуць засылаць праз швейцараў і білецёраў твае прыхільнікі. Вось толькі б не ўскружылі яны галаву, не захапілася б ты імі, не падумала, што ўсё ўжо ля тваіх ног, а і далей ішла з такой жа настойлівасцю і ўпартасцю. Нават і тады, калі будзе вельмі, вельмі цяжка ісці ўперад, усё роўна ісці, усё роўна не спыняцца. Шукаць, дамагацца новага і лепшага.

Пра гэта я думаю з трывогай і надзеяй. І не без прычыны. Галю запрасілі здымацца ў новым фільме. Яна ўзяла ў інстытуце на год адпачынак і вось-вось са здымачнай экспедыцыяй выедзе ў Адэсу. Там ёй прыйдзецца прабыць усю вясну, а можа і лета.

А я ж так спадзяваўся на гэтую сёлетнюю вясну, так хацеў, так марыў быць з Галяю разам, толькі разам. Не аднойчы ўяўляў сабе, як будзем катацца па Масква-рацэ, як пабраўшыся за рукі, будзем усё аддаляцца ў глыбіню парка «Сакольнікі», дзе ўжо нічога не напамінае аб тым, што зусім недалёка вялізны горад, што шпарка імчыцца транспарт, што ўсюды поўна-поўна людзей... Забяромся ўдваіх туды і будзем хадзіць, аж пакуль не праб'ецца праз бярозавае і сасновае покрыва белаватае святло месяца. Эх, мары, мае мары...

Але што зробіш, жыццё ёсць жыццё. Трэба ўмець жыць і так, як даводзіцца. За Галю ж мне толькі радавацца, што яна ўжо выходзіць на сваю дарогу...

І няхай ідзе, спрабуе свае сілы, няхай мужнее. А я буду чакаць, настойліва чакаць, ужо не вясны, а восені. Можа яна для мяне з'явіцца яшчэ лепшай, яшчэ больш раднаснай, чым вясна. Ты чуеш мяне, Галя? Толькі ж глядзі, не захапіся пышнымі кветкамі, адразу вучыся адрозніваць, якія з іх пустацветы. Бо могуць трапляцца і яны.

## 11



Колькі разоў бываў я ля сцен Крамля, колькі разоў у вольныя хвіліны прагульваўся па Аляксандраўскаму саду і не ведаў, што расце там аж некалькі вялікіх разгалістых чарэмшын. І як здзівіўся, калі ў адзін звычайны сонечны дзень ўбачыў, што яны цвілі; браліся на цвет і яблынькі. Яшчэ не дужа вялікія, маладыя.

Цяпер студэнтам шмат даводзілася сядзець у бібліятэцы. Бібліятэка знаходзіцца амаль у самым цэнтры горада, і я хоць і добрасумленна выседжваю там патрэбныя гадзіны, усё ж стараюся ўлучыць часінку, каб паглядзець, як цвітуць яблыні.

Здавалася, я хадзіў на спатканне з роднай вёскай, са сваім садам, са сваім маленствам і юнацтвам. У нас, у Беларусі, вясна ідзе на нейкі тыдзень можа раней. І калі ў крамлёўскіх яблынь з'явіліся першыя ружаватыя кветкі, я ведаў, што недзе там, дома, сад усыпаны белізной.

Цяжка ў Маскве меркаваць аб сапраўднай вясне па прывезеных здалёк букетах, што прадаюцца на вуліцы, ці па высаджаных у парках і скверах з парнікоў і цяпліц прыгожых кветках...Я ж добра ведаў, як ішла вясна, па тых маладых яблыньках, што растуць у Крамлі...

Усюды ўжо была вясна. І так радасна рабілася на душы, так хацелася жыць, працаваць. Ды вось толькі пачаліся нелады ў нашым пакоі.

Амаль адразу пасля нашага «вялікага перасялення» Валодзя і Віталь неўзлюбілі адзін аднаго. Вінаваты быў, па-мойму, Валодзя. Я дык змоўчваў і не ўступаў з ім у спрэчку. А Віталь дык не.

Ніяк не забуду аднаго выпадку. Увайшоў я ў свой пакой, а там Валодзя з Галяй. Ён чытаў са свайго тоўстага сшытка выпісаныя радкі з Ясеніна і Блока.

— Ой, як здорава! — усклікваў ён.

Я быццам цяпер бачу, як запальваліся, як свяціліся Галіны вочы, як яна станавілася інакшая, узвышаная. А вялізныя шэрыя вочы Валодзі былі на дзіва пустыя і халодныя. Праз нейкі час ён стаміўся і стаў пазяхаць у кулак.

Урэшце, я не здзіўляўся гэтаму. Сярод нас трапляюцца яшчэ людзі, якія чытаюць кніжкі, ідуць у тэатр, на канцэрт не таму, што гэта іх



неад'емная патрэбнасць. Яны робяць усё гэта, каб быць толькі «у курсе», каб ні ў чым не адстаць.

Расказаў я пра ўсё Віктару. Ён чамусьці не стаў доўга разважаць.

— А я і сам не ведаю, адкуль ён узяўся, такі прайдзісвет...

Гэта пра Валодзю. Магчыма, занадта ўжо жорстка. Але ж ён яго ведае лепш...

Мяне непакоіць: чаму сапраўды такі Валодзя? Ён жа не сёння-заўтра артыст. Акцёры ж жывуць жыццём сваіх герояў, якім аддаюць сваю душу, сваю радасць, свае сілы і ў той жа час бяруць усё гэта ад іх.

Няўжо нішто не зрабіла ўплыву на Валодзю? Няўжо ўсе гады жыцця з мастацтвам прайшлі міма яго?

Пачалося ў Валодзі ўсё, відаць, з інстытута.

Ён рана прыйшоў у інстытут, калі яму толькі мінула семнаццаць, калі шмат у яго было яшчэ дзіцячага... У інстытуце яму ўсё давалася без асаблівых турбот. Ён быў таленавіты. І моцны, прыемнага тэмбру голас, і рост, і пластычнасць, і добрая дыкцыя, і прыгожы, выразны твар,— усё было за Валодзю.

У святочныя і ў будзённыя вечары ярка ўспыхваюць агні ў шматлікіх тэатрах і ў канцэртных залах Масквы, там выступаюць многія папулярныя артысты. Але ж у гэтыя вечары збіраюцца масквічы і па сваіх клубах, палацах культуры, каб адпачыць, весела і культурна правесці час. Падрыхтаваць канцэрты сваімі сіламі не заўсёды выпадае, і вось у такіх выпадках на дапамогу прыходзяць «добрыя дзядзькі», якія арганізуюць так званыя «левыя» канцэрты.

Гэта звычайныя дзялкі ад мастацтва і прайдзісветы, але, трэба сказаць, дзейнічаюць яны спрытна. Падбіраюць сабе ў кампанію людзей, якія самі лічаць сябе геніямі, але перад якімі справядліва зачынены дзверы на прафесіянальныя падмосткі.

Арганізаваць усё на адных такіх «геніях» — справа немагчымая. І тады яны шукаюць таленты сярод студэнтаў мастацкіх навучальных устаноў.

З першага ўжо курса «знайшлі» яны і Валодзю. Віктар і Віталь маглі з такім жа поспехам удзельнічаць у «левых» канцэртах, але не давала згоды іх сумленне.

Не раз запрашаў мяне Валодзя на свае выступленні, а мне, як на тое, усё ніяк не выпадала пабыць. Але нарэшце сабраўся. Дамовіліся, дзе і ў колькі ён сустрэне мяне. Я прыйшоў у прызначанае месца. Чакаў там Валодзю, але так і не дачакаўся. А ўвечары Валодзя нават не спытаў мяне — хадзіў я ці не. Вялізныя шэрыя вочы яго і цяпер былі няшчырыя.

Выняўшы з кішэні пук грошай, што зарабіў сёння за свае выступленні, Валодзя абыякава шпурнуў іх на свой ложак. Калі ён пасля падаўся на кухню за чаем, Віктар, які да гэтага моўчкі сядзеў на ложку, заўважыў:

— От, папомніш маё слова, Вася, што нават і гэтых грошай не хопіць яму. Перад стыпендыяй ён абавязкова папросіць у цябе на абед.

Я і сам не раз бачыў, як Валодзя, без патрэбы траціць на розныя дробязі грошы. Магчыма, таму, што яны яму даставаліся вельмі лёгка, што ён яшчэ добра і не ведаў, чаго варты сумленна зробленыя рублі.

— Ой, хлопчыкі... — убегшы з чайнікам у пакой, зноў пачаў лапатаць Валодзя. — Вы толькі паслухайце, што сёння здарылася. Выйшаў я на сцэну, прачытаў апавяданне, а ў зале мёртвая цішыня. Ну, вы падумайце толькі... Хоць бы адзін воплеск. Быццам у зале і не было

ні душы. Толькі калі мы выехалі на таксі, мне сказалі, што гэта сабралася школа глуханямых.

— Дык табе ж усё роўна, ці там хто быў, ці не было нікога... — не сцерпеў Віктар.

— Не, усё-такі прыемней неяк, калі апладзіруюць... — не зразумеўшы Віктара, удакладніў Валодзя.

Ды дзе яму разбірацца, ён спяшаецца хутчэй расказаць пра ўсе свае прыгоды:

— Нам за вечар трэба было выступіць аж у трох месцах, так наш шэф дамовіўся. І ўсё недзе ў прыгарадах Масквы. Вуліцы малаасветленыя, дарогі не ведаем — ні мы, ні таксісты. Вазілі нас, вазілі, а можа для таго, каб болей грошай садраць?

Віктар мне толькі падміргвае.

— Падумайце, маглі б за вечар справіцца тры разы выступіць, а то выступілі толькі два, ды і то спазняліся...

— А можа лепш было б, каб ты сёння і ні разу не выступаў? — хачу, нарэшце, умяшацца і я.

Аднак Валодзя паспеў ужо расказаць пра сябе, а каб выслухаць другіх, у яго няма часу. Наогул, у яго такая звычка: любіць штонебудзь расказваць і часта расказвае. А слухаць другіх — быццам і не навучыўся.

Цяпер ён пазбіраў свае новыя замежныя часопісы і памчаў на калідор паказваць хлопцам.

Так Валодзя і прызвычаіўся да сваіх «артыстычных» выступленняў. Можа ён нават і не ведаў, што вялікія і вопытныя артысты — нават і яны — перш чым выйсці на сцэну, многа працуюць, думаюць, хвалююцца, каб як найлепш перадаць людзям шчодрасць, багацце душы чалавечай. Валодзя ж не нёс гэтага сваім гледачам, у яго і для самога не хапала гэтай шчодрасці.

Не раз бачыў я, як рыхтаваўся да сваіх выступленняў Валодзя. Ён праседжваў перад люстэркам можа цэлыя гадзіны, і яго старанню трэба было б толькі пазайздросціць. Валодзя фарбаваў не то што бровы, але кожны валасок... Доўга шукаў, як лепш навесці пад вачыма цені, каб вочы былі яшчэ больш выразныя. Шмат псаваў ён грыму і пудры, пакуль вымалёўваў сабе твар у бледна-ружовы колер, які ў народзе называюць кроў з малаком.

Многа стараўся Валодзя толькі для таго, каб больш эфектна і прыгажэй выглядаць са сцэны. Ды яшчэ можа і таму, што трэба было так загрыміравацца, каб, едучы на канцэрт, надта нікому не кінуцца ў вочы. Бо за кулісамі грыміравацца не хапала часу.

Вопытныя педагогі інстытута памаглі яшчэ больш развіць моцны, прыемнага тэмбру Валодзеў голас, выпрацаваць пластыку, навучылі трымацца на сцэне, — зрабілі ўсё, каб выйшаў з яго артыст. А вось што перш за ўсё не выйшаў з Валодзі чалавек — гэта, мусіць, прагледзелі.

Як такое магло стацца? На гэта адказаць вельмі цяжка. Я таксама доўга не мог разгадаць Валодзю, хоць жыў з ім у адным пакоі. Яго лёгка маглі б распазнаць у інстытуце, калі б стаў выпіваць, наскандаліў ці калі б меў дрэнныя поспехі ў вучобе. А то нічога ж гэтага не было. Ён амаль заўсёды атрымліваў павышаную стыпендыю. Яго выпраўлялі на шэфскія канцэрты, і там ён бойка перадаваў гледачам палымяныя прывітанні ад дырэкцыі і студэнтаў інстытута. І ўсё, здавалася, ішло на лад, ішло добра...

Рос, удасканальваўся артыст, але не выхоўваўся чалавек. Такім і наблізіўся Валодзя да сваіх апошніх у інстытуце экзаменаў.



12



Здаецца, усё на свеце спрыяла іхняму экзамену. Калі я выпраўляўся ў рабочы клуб, дзе прызначаўся студэнцкі дыпломны спектакль, у якім гралі Валодзя і Віктар, было штосьці апоўдні. У сіняй бездані неба ні хмурынкі, усюды сонца, і яно ад сваёй вялікай шчодрасці мякчыла асфальт. У глядзельнай зале было таксама светла, мнагалюдна і весела.

Тут і выкладчыкі інстытута, і экзаменацыйная камісія. Сюды панаходзілі рэжысёры з тэатраў, якім патрэбны маладыя артысты. Асабліва многа наз'язджалася кіраўнікоў перыферыйных тэатраў, якія ніяк не могуць вырашыць сваю адвечную праблему маладых кадраў і якія спадзяюцца тут, у гэтай жа зале, нарэшце, яе вырашыць.

Усюды букеты. Іх прынеслі тым, хто сёння ў апошні раз будзе іграць у студэнцкім развітальным спектаклі.

Пакідаў я залу зусім у іншым настроі. Мне здалося нават, што і сонца не такое веснавое, і ліпы нейкія змрочныя і прывялыя, хоць яны па-вясноваму зелянелі ярка і весела.

Перажываць за Віктара не было чаго. У невялічкай ролі старадаўняга вадэвіля Віктару даводзілася некалькі разоў падносіць на стол для гасцей ежу. Ён рупліва стараўся прыслужваць за багатымі панамі, каб атрымаць за сваю работу якую капейку. Але не спадзеючыся толькі на гэта, і сам не драмаў у шапку. То яблык незаўважна сцягне, то яшчэ што, калі трапіцца пад рукі.

Віктару, мабыць, апладзіравалі болей, чым Валодзю, хоць той іграў аднаго з вядучых у спектаклі герояў, спяваў куплеты і пускаўся ў скокі. Усё давала яму магчымасць выявіць здольнасці, аднак нечага ў ягонай ігры не ставала.

Не ставала, відаць, душы, якую ён павінен быў укласці ў спектакль. Я добра бачыў, як спрытна ўсё выконваў Валодзя на сцэне, як усё рабіў, але сам тым не жыў. Пэўна ж не я адзін гэта заўважыў, убачылі і педагогі.

Экзамінатары, вядома, залічаць работу Валодзі. На Валодзю, вядома, паступяць у дырэкцыю інстытута заяўкі з тэатраў. Патрэба у маладых акцёрах вялікая. Я і сам бачыў, як адразу ж пасля спектакля да Валодзі падышлі аж тры рэжысёры, і кожны прапаноўваў свой тэатр. Відаць, мяркуюць яны, што здольнасці ў Валодзі ёсць, а астатняе нажывецца. Хай бы і сапраўды атрымалася так!

Нехта, першы вярнуўшыся са спектакля, расхваліў Валодзю. Гэтая чутка разнеслася вельмі хутка, і калі Валодзя вярнуўся дамоў, нашы суседзі, якія нават не бачылі спектакля, дружна віншавалі яго з поспехам.

— Ну як? — увайшоўшы ў пакой, адразу ж спытаўся ў мяне Валодзя.

У нашым пакоі цяпер было некалькі чалавек. Я збіраўся многа што сказаць Валодзю і ведаў: мае словы будуць зусім не ў тон яго настрою. Мне трэба было гаварыць з ім толькі адзін на адзін, такое пры людзях казаць не варта. Таму і не знайшоў я цяпер лепшага і зручнейшага выхаду, як сказаць няпраўду, што не трапіў на спектакль.

І толькі дачакаўшыся, пакуль мы адны засталіся ў пакоі, я пачаў здалёк прыгадваць падрабязнасці сённяшняга спектакля.

— Ну, вось, значыць бачыў, так бы і казаў адразу, а то... — невыразна адгукнуўся Валодзя.

Я не раз прыглядаўся да Валодзі, хацеў лепей яго зразумець. Я не аднойчы задумваўся над яго паводзінамі і справамі. Эх, калі б я раней пачаў памагаць Валодзю. Я ж старэйшы за яго, і я гэта павінен быў рабіць.

І ўсё, што ў мяне цяпер было на душы, што клалася на маё сумленне: і пірожнае, за якое некалі забыўся разлічыцца Валодзя, і яго нядаўняя сварка з афіцыянтам у рэстаране, і яго «левыя» канцэрты, і яго абыякавасць да шмат чаго — усё-усё вырвалася цяпер у мяне. Я ўжо не мог болей маўчаць.

— Спачатку трэба быць чалавекам, а тады ўжо можна выўчыцца і на артыста. А ты яшчэ не стаў чалавекам. Не крыўдуй...

Не так, не так трэба было мне пачынаць гаварыць з Валодзем. Гэтак можна абразіць хлопца. Ён можа падумаць, шмат што падумаць, можа не паверыць у тваю шчырасць.

Але што я мог цяпер зрабіць... Раней жа я цярпеў Валодзевы ўчынкі, няхай і ён...

На першыя мае словы Валодзя адказаў даволі злосна, але, мабыць, пераканаўшыся, што мяне не перасіліць, абмяк, сцішыўся і так моўчкі і сядзеў, аж пакуль я не выказаў усё, што ў мяне набалела.

Так я і не даведаўся, слухаў мяне Валодзя ці маўчаў толькі з ветлівасці. Праз дзень зноў выпускнікі ігралі той самы спектакль, толькі памяняліся ролямі. Віктар іграў Валодзеву ролю, а той — Віктараву. Я не мог трапіць на гэты спектакль, бо самому трэба было здаваць экзамен. Ды і ўсё роўна я, мабыць, не ўбачыў бы Валодзевых перамен. Чалавекам становяцца не адразу.

13



Аднекуль далятае музыка: хтосьці ўключыў радыёлу. Хто ведае, слухае Віктар музыку ці толькі думае нешта сваё. Зусім нядаўна ўпершыню выступіла на сцэне тэатра яго каханая, семнаццацігадовая балярына. Праз два-тры дні адна за другой пачалі пісаць пра яе ўсе газеты і змяшчаць здымкі.

Можа, думаў Віктар, і ён калі-небудзь вернецца сюды такім жа вядомым?

Валодзю і Віктару шмат яшчэ турбот: на носе наступны дыпломны экзамен, а затым размеркаванне па тэатрах. А я дык ужо зусім, зусім вольны чалавек пасля экзаменаў. Асабліва даўся мне ў знакі апошні прадмет. Здавалі эцюды. Наогул, прадмет для мяне не новы, я ж вучыўся на акцёра. Ды і што там асабліва такога — бяры розныя рэчы і ўяўляй сабе і тое, і гэта. Жыві сваімі ўяўленнямі.

Я шчыра і заўзята фантазіраваў над усім, што толькі ні траплялася пад руку ці на вочы. Бывала, іду ў інстытут, а на вуліцы прадаюць кветкі. І я ўжо ўяўляю сябе закаханым юнаком, якому страшэнна не шанцуе. Гэты юнак стаіць вось з такім, як прадаюць, букетам у руках, чакае, чакае сваёй дзяўчыны, а яе ўсё няма. І такі гаротны,

нават недарэчны выгляд у гэтага юнака, яму даўно пара б пайсці, а ён усё тут без патрэбы тупае і тупае.

Або ўбачу белую рамонку і, здаецца, яна ўжо ў мяне. Я з надзеяй вырываю кожны пялёстак, каб адгадаць, кахае дзяўчына ці не кахае. Чым далей падлічваю, тым больш становіцца зразумелым, што не, не кахае, а я стараюся, каб атрымалася наадварот.

На вуліцы ж заўсёды шмат людзей, і яны са здзіўленнем пазіралі на мяне. Мусіць, выглядаў я сапраўды тым, за каго прымаў сябе.

Як добра, што ўсё нарэшце здадзена і што Віталь зноў можа прымаць мяне за чалавека з незвычайнымі здольнасцямі, бо я і на гэты раз атрымаў пяцёркі.

Што ж, можна і прагуляцца. Ды і ў Віталя ёсць часінка. Ідзём удвух. Пешшу.

— Можа хочаш уявіць сябе вялікім падарожнікам Пржавальскім? Але, згадзіся, што цяжкавата будзе ўсё тут. Трапіш у рукі самаму першаму міліцыянеру.

Гэта ён усё жартуе з мяне. А мне весела і радасна.

Наш прыпынак — Ленінскія горы. Мы ідзём да трампліна, што знаходзіцца зусім недалёка на гары. Гэта самае высокае месца. Узімку з трампліна прыгаюць лыжнікі. Цяпер аматары незвычайнага ўзбіраюцца па лесвіцах на самую вышыню.

Паднімаемся і мы з Віталем. Кружыцца галава, але мы лезем далей, усё роўна як, бывала, ў школьныя гады ўзбіраліся на высозныя елкі.

Нарэшце, канец нашага шляху, — самае высокае месца, куды льга тут дабрацца.

— Вось яна, вышыня.

У мяне аж дух займае. Такая веліч, такая прыгажосць... Там, унізе, спакваля плыве рака з параходамі, баржамі, лодкамі. Яны здаюцца адгэтуль меншыя і таму зграбнейшыя. За ракой адразу ж пачынаюцца Лужнікі. За імі, дакуль толькі бачыць вока, — горад. Горад без канца і краю, горад, апошнія расплывістыя абрысы якога тонуць у далёкай сіняватай смузе.

Я гляджу і гляджу ўдалечыню, на ўсё новыя і нязвыклыя абсягі...

Масква. Яна ўсё роўна, што добрая кніжка, якую колькі ні чытай, не начытаешся, бо ў ёй кожны раз адкрываеш для сябе штосьці новае, яшчэ зусім невядомае.

## 14



Вось і закончыўся мой першы год жыцця ў Маскве. А здаецца, зусім нядаўна я прыехаў сюды.

Я нават раней не мог уявіць сабе, як хутка бяжыць час у Маскве.

Гэта ў невялікім горадзе можна абысці ўсе музеі, выстаўкі, прагледзець спектаклі і ўжо смела думаць, што ты тут усё ведаеш. А ў Маскве так хутка ўсё мяняецца, што нават цяжка за ўсім паспець. А хочацца ўсюды ж быць, усё ведаць...

Вось толькі часу не стае. Ён, магчыма, так нідзе не дарагі, як тут, у Маскве. І гэта ўсе адчуваюць і вучацца берагчы яго, эканоміць.



Даводзіцца часам перакусваць на хаду, чытаць свежыя газеты і часопісы ў тралейбусах і метро. І неўзабаве звыкаешся з такім рытмам жыцця.

Так я і не агледзеўся, як праляцеў год. А цяпер і ад'язджаць трэба. Праводзіць мяне на вакзал Валодзя не прыйшоў, ён цэлы дзень не паказваўся мне на вочы. Я не крыўдую, бо ведаю, што яму цяжка. Можа злуе, а можа дзесьці ў глыбіні душы і згадзіўся са мною.

Прыйшлі Віталь і Віктар. Мы развітваемся, і хто ведае, калі і дзе ўбачымся зноў. Трэба сказаць і пра адно, і пра другое... І пажадаць, пажадаць... А тут лічаныя хвіліны да адпраўкі цягніка, іх страшэнна не хапае, каб паспець сказаць адзін аднаму тое, чаго не справіліся за год.

У вагоне я падбег да акна. Віктар і Віталь спраўляюцца пакуль ісці ўслед, толькі слоў іхніх не чутно. Цягнік набірае хуткасць, хлопцы ўсё адстаюць, адстаюць ад вагона, урэшце я зусім не бачу іх.

Прамільгнулі апошнія дамы, пайшло маляўнічае Падмаскоўе.

Я стаю, прыпаўшы да акна. Усё наўкруг — у яркай, гаманлівай зеляніне, якая аж буяе на прыволлі. Сонца ўжо зусім на заходзе. Яго апошнія чырванаватыя промні раз-пораз прарываюцца праз густую зеляніну і трымцяць, гуляюць на вагонах. Цёплы і чысты ветрык лашчыць твар, трэпле на галаве валасы. Я п'янею ад прыемных вясновых пахаў.

Заўтра надвячоркам буду дома, дзе зачакаліся мяне. Зноў можна будзе штодня хадзіць у лес, на луг, купацца ў сцюдзёнай крынічнай рачулцы. Пэўна, хлопцы ўжо і заставілі яе, каб была паўнейшая. А там неўзабаве можна будзе ўзяцца за касу...

Але я зноў усё думаю пра тых, з кім нядаўна развітаўся. Вось жылі-былі хлопцы ў адным пакоі, не рабілі ніякіх гераічных учынкаў, выконвалі толькі тое, што ад іх патрабавалі педагогі. Не было ў іх незвычайных здарэнняў і прыгод. А ўсё ж жылі, думалі, спрачаліся, хваляваліся...

На змену тым, хто сёлета пакіне Маскву, прыедуць другія, зоймуць свабодныя ў пакоі месцы. Можа і жыць будуць гэтак, як жылі мы, і рабіць такія ж, як мы, памылкі.

З Віталем я, напэўна, не раз сустрэнуся, можа нават і далей будзем жыць у адным пакоі. Ён падаецца ў інстытут і адразу пасля заканчэння вучылішча застаецца здаваць уступныя экзамены. У дадатак да ўсяго яму, здаецца, здорава яшчэ і шанцуе. Курс у інстытуце сёлета будзе набіраць педагог, які ўсе гады вучыў Віталя.

Увосень я зноў спаткаюся з Галяй. Здымкі ў яе цяпер у самым разгары. Піша, што працуе з раніцы да прыцемак, і так будзе ўсё лета. Што ж, у свае вольныя летнія часіны часта буду ўспамінаць, сумаваць па ёй у адзіноце. А мы ж так яшчэ мала былі разам, не паспеў, здаецца, сказаць, што ў першы раз я ёй схлусіў, што ў мяне няма ні жонкі, ні сына. Зрэшты, яна тады, відаць, і не паверыла мне, бо інакш... А што інакш? Я ж ёй не гаварыў пра самае галоўнае. Гэта пакуль яшчэ мой вялікі сакрэт.

Пастукваюць калёсы, імчыць цягнік...

Дзе будзе працаваць Віктар, як пойдуць далей у яго справы? Мы ж пражылі з ім толькі каля года. Мы так мала паспелі даведацца адзін пра аднаго — то ў яго свае справы і заняткі, то ў мяне свае. І так амаль увесь час.

Мы маглі б стаць з ім вялікімі сябрамі. Але гэта мы адчулі толькі дзесьці ўжо ў апошнія дні. Крыўдна.

Аднак у душы за Віктара я чамусьці спакойны. Ён знойдзе сваё месца ў тэатры, абавязкова даможацца свайго. Такі ўжо ён чалавек. Вельмі турбуюся за Валодзю. Як бы яму адразу ні пашанцавала, давядзецца ўсё ж не соладка. Яму ж трэба яшчэ перш-наперш стаць шчырым, добрым чалавекам. Ці адумаецца ён, ці здолее? Можа і цяпер крыўдзіцца ён на мяне за тыя словы? Не, я спадзяюся толькі на лепшае.

За вокнамі вагонаў усё хаваецца ў густой цемені. Толькі раз-пораз мільгаюць няяркія агеньчыкі. Гэта прыдарожныя паселішчы, і за кожным вось такім агеньчыкам — чалавечы лёс, людское жыццё, рознае, сваё.

Калі б і сапраўды былі на зямлі такія мясціны, адкуль лёгка можна рукою дастаць неба, і калі б чалавек змог хоць адзін раз дайсці туды, то болей не было б чаго рабіць, не было б куды рушыць далей.

Як у раннія гады мне не цярпелася, каб хутчэй дазнацца, што знаходзіцца ўдалечыні, за сіняватай смугою, так і цяпер хочацца ведаць, як пойдзе далей жыццё маё і тых, з кім толькі нядаўна развітаўся. Я загадваю сабе так, як загадваеш, кладучыся спаць, аб далейшым лёсе герояў цікавай кніжкі, якую не паспеў дачытаць сёння. Дзе і калі мы спаткаемся зноў, я яшчэ не ведаю, але спадзяюся і веру, што абавязкова спаткаемся. Гэта ж, кажуць, толькі гара з гарою не сходзіцца...





**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

# СТАНЦЫЯ «КАЛІЙ»



Усяло,
Абмінаючы дзверы і веснічкі,
Як на крылах імклівых, прызыўна ляціць
Новай станцыі звон...
Там будоўлі равеснікі
Навучыліся першыя крокі рабіць.

І няма ўжо цяпер ані ў кога здзіўлення,
Калі ў край у любы прыгрыміць тварняк,
У якога за словамі «пункт адпраўлення»
Будзе значыцца станцыі гэтай імя.

А яна, нібы цалкам са шкла і эмалі
(Хіба знойдзеш дзе станцыю ў свеце чысцей!),
Па-рабочаму проста назвалася «Калій»,
Па-рабочаму проста страчае гасцей.

Палінялі ад зыркага сонца нябёсы,
І на шэрай, прыпудранай пылам зямлі,
Напінаюцца туга пад стрэламі тросы,
І расслабіцца нават няма ім калі.

Бо саставы, здаецца, аж недзе пад Слуцкам

У сінеючай далі згубілі ранжыр...
Каб было ў Салігорску ні цесна, ні
вузка,
Разрастаецца станцыя ўдоўжкі і
ўшыр.

Прыйдзе час, і кур'ерскі са звонам
і свістам
Ля Чыжэвіч разбудзіць на золку
зямлю.
І вялікі прастор і вялікая прыстань—
Вялікаму караблю!

* * *


падлеткам прыносіў дадому плакаты,
Імі сцены да столі аклейваў усе.
І казалі мужчыны, заходзячы ў хату,
Што дзівак, а не сын, у Андрэя
расце.

А пасля нейкі дзядзька замест
намёку
Кінуў колкія словы, нібыта асцё:
«Нам да гэтых малюнкаў ісці, брат,
далёка,
А папера... стрывае усё».

І ўсміхнуўся тады ён прарочліва,
горка,
Нібы загадзя дзядзька глядзеў у ваду,
Дзе ж ты сёння жывеш?
Я цябе Салігорскам
За руку, як малога, цяпер правяду.

Ты такога яшчэ не страчаў на
плакатах,
Каб на полі жытным выраслі
капры...
Пахадзі і рукамі сваімі пакратай
Ды назад тыя словы свае забяры.

## СЛУЧЧЫНА


тады, калі восень трасе сваю медзь,
І тады, як травінка з травінкай
гаворыць —
Я збіраўся даўно цябе, край мой,
апець
Ці у радасці быў ты, ці быў ты у
горы:

Ты сумленне маё, і надзея, і слых.
Па Радзіме вялікай куды ні паеду,
Не забуду нідзе, як у сёлах тваіх
Усім родам спраўляюць гулянкі-
бяседы,

І адкрытыя, чыстыя сэрцы ў людзей,
Што, як роднаму бацьку, таварышу
верыць,
І прасторныя хаты, што сонцу за
дзень
Усіх вокан да заходу не перамераць.

Як па гэтых прыкметах не знойдзеце
шлях,
То прыехаць адно толькі к нам
пажадайце —
Будуць яркія зоркі гарэць на капрах.
І ні ў кога дарогі вы больш не
пытайце.

А выходзьце з сябрамі хутчэй на
шашу
І спыняйце машыну, што будзе
улегцы.
Як прытомяцца ногі, — дальбог не
схлушу, —
Для вас знойдзецца хата і ложак
прылегчы.

А саб'ецца падкова ў каня,
Кавалі
На дасвецці да белага горны
распаляць...
Краю родны, прабач. Ты казаў:
не хвалі,
Лепш няхай мяне людзі чужыя
пахваляць.

## ЛЕС

А. У. Байрашэўскай


к даўні друг я зноў к табе прыйшоў
Пасля дажджу з грымотамі і звонам.
О, не лічы, зязюля, мне гадоў,
Дай лепш хутчэй надыхацца азонам!

За час разлукі лес мой пасталеў:
Ігліцы больш і болей калянаў.
Не раз, відаць, сам-насам перамлеў,
Што ўсю кару пабіла на маршчыны...

Дык што ж ты мохам скрадваеш мой
крок
І ўсё маўчыш, як быццам і не рады,
Што сёння я прыйшоў к табе здалёк
Шукаць сабе і ўцехі і парады.

Тут задуменнасць ціхая твая
Не раз мяне люляла і будзіла.
Тут недзе песня звонкая мая
Па верасу чырвонаму хадзіла.

Ты ўсе гады разлукі і трывог
Бярог яе, па ветру не раструсіў,
Ты выглядаў мяне з усіх дарог,
І я прыйшоў, за песняю вярнуўся.

Ты, можа, думаў, лес: я не прыйду,
Што нерашуча торгаеш ігліцай,
І песню за далёкую граду
Пусціў адну услед за навальніцай?!

А ты ж мяне адразу пазнаеш,
Кладзеш пад ногі мяккія паляны...
І сэрца маё радасна пяе:
«Ой, не кукуй, зязюленька, рана»..

* * *


я ўспамінаю густое малодзіва
Туману вячэрняга,
Цішу заельную.
Стамлёныя з лесу салдаты выходзілі,
Пад галавы кідалі скаткі шынельныя.

І доўга ляжалі на кручы у верасе,
За службу сваю ўпершыню
бясклапотныя,
На мелкім купаліся ціха пры беразе,
Як спелыя яблыкі, зоры журботныя.

Туман па лагчыне распоўзваўся
пасмамі.
І нанач драчы усхадзіліся нечага.
Ішлі мы дадому, салдаты запасныя,
Звяралі кірункі па россыпу Млечнага.

Яшчэ нам пісалі нявесты салдацкія
Гарачыя словы на пошту вайсковую,
А дома чакалі ўжо снасці рыбацкія
І ў святы — вяселлі шчаслівыя, новыя.

І гэтакім родным было тое блізкае,
Што ўчора здавалася дальнімі далямі.
Пакуль не нахопіцца сонца вялікае,
З туману паромшчыка разам гукалі
мы.

І рэха пасыльным па лесе насілася
(Было для яго гэта, пэўна, уцехаю).
А сонца за край далягляду ўчапілася
І з намі да новага берагу ехала.

## РАВЕСНІКУ


ы з табою, таварыш, не помнім,
Як шалёна іржалі коні,
Як выкрэсвалі іскры
У апошнім смяротным звоне,
Як байцы і ў гарачцы зяблі
У агульным тыфозным вагоне.



Мы з табою, таварыш, не чулі,
Як пяюць над галовамі кулі.
І ні разу пад свіст снарадаў
Ў ланцугі не ўставалі тугія,
Бо за волю тады і ўладу
У адказе былі другія.

Мы з табою, таварыш, знаем:
Не звінець салаўіным маем,
Калі зараз сябе пашкадуем
І расслабім на момант плечы —
Нам за гэта пасля не даруе
Абяздолены род чалавечы.

## НА СВІТАННІ


а світанні гараць яркім сонцам
аблокі
І шукае ў садах салавей салаўя.
На світанні у шлях невядомы, далёкі
Выпраўляла мяне незабыўная маці
мая.

Над жытамі празрыстае неба упала.
Заліваўся жаўрук на нябачнай струне.
Доўга маці адна на дарозе стаяла,
Лішні раз аглянуцца у думках прасіла
мяне.

Я ў дарозе цяжкой буду шчасце
шукаці.
І, магчыма, не раз напаткаю бяду.
Загадзя прабачай мяне, родная маці,
Калі ў сны я к табе і з бядой і са
шчасцем прыйду.

Праз зялёныя вёсны і белыя зімы
Панясем нашу радасць планетам
другім.
І любоў да сваёй неагляднай Радзімы
Мы і там назавем, маці, імем
нязгасным тваім.



Віктар Карамазаў нарадзіўся ў 1934 годзе ў сям'і настаўніка на Магілёўшчыне.
Скончыўшы Крычаўскую сярэднюю школу, паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер працуе ў рэдакцыі крычаўскай раённай газеты «Шлях сацыялізма».
У «Маладосці» апавяданні Віктара Карамазава друкуюцца ўпершыню.

**Віктар КАРАМАЗАЎ**

# ДВА АПАВЯДАННІ

Мал. К. Ціхановіча.

## У ВАГОНЕ

### I

Штовечар на раз'ездзе Ціхі Лес спыняецца прыгарадны цягнік. З прыступкаў вагона саскокваюць праваднікі. Яны выносяць ліхтары з трапяткімі светлячкамі, клічуць імі да сябе пасажыраў. Але на раз'ездзе амаль заўсёды бязлюдна.

Раз у тыдзень, па суботах, да аднаго з вагонаў, над поручнем якога ў зашклёнай трохкутнай прызме свеціцца лічба «4», падыходзіць чалавек у цёплым вайсковым бушлаце, з бензапілою на плячы.

— Добры дзень, Наста.

— Зноў ты, Васіль, блытаеш дзень з ноччу.

— Ну... Добры вечар.

Кожны раз ён разгублена шукае па кішэнях праязны білет, і кожны раз жанчына незадаволена падганяе:

— Ідзі ў вагон...

Чалавек знімае з пляча пілу, моцнымі рукамі падымае яе ў тамбур.



Яшчэ хвіліна, і, бразнуўшы счапленнем, цягнік развітваецца з ціхім раз'ездам. Вышэй над зямлёю паднімаюцца «светлячкі», міргаюць і адзін за адным хаваюцца ад начной цемені па цёплых вагонах.

Недзе пад нагамі грукацяць колы, а старэнькі рыпучы вагончык калышацца на рэйках, нібы калыска. У вагоне ціхі прыцемак. Радасна сядзець побач і ўпотай пазіраць адзін на аднаго, а часам, для адводу вачэй, куды-небудзь у праход ці ў акно, хоць у ім нічога і не відаць, апроч светлага вочка, — гэта белатвары плафон глядзіцца са столі ў шыбу.

Ускалыхваюцца думкі. Хочацца гаварыць.

— Ты, Васіль, усё мяняешся. Цішэеш...

— Маніш. Той жа самы я.

— А памятаеш, як ты першы раз на поўным ходу садзіўся ў мой вагон? Памятаеш, месяцы два назад?.. Хацела ссадзіць цябе, безбілетнага, дык ты быў ледзь не з'еў мяне.

— Я і цяпер...

— Што?

— Нездагадлівая...

— Глупства... — уздыхнуўшы, Наста задуменна адкідвае галаву, глядзіць кудысьці ў столь. — У Ціхім Лесе ніколі пасажыраў не бывае, толькі ты, як субота, да мяне ў вагон садзішся... Дзяўчаты ўсё-ўсё бачаць. Пасмейвацца пачынаюць...

— А ты ўжо і спалохалася?.. Не можаш знайсці, што адказаць...

— Лёгка табе гаварыць. Але не садзіся да мяне... Чуеш?..

Цягнік сцішаў ход, і Наста, схапіўшы ліхтар, подбегам спяшаецца ў тамбур.

«Што ж, няхай я цішэю, — думае Васіль. — Але ж і ты, Настачка, стала не тая. Я цішэю, а ты байчэеш, нібы чагосьці палохаешся».

Васіль бачыць перад сабою Насціны лагодныя вочы, крыху прыпухлы ад бяссонніцы, скупы на ўсмешку твар, калі яна была прыхінулася спіною да сцяны і, адкінуўшы галаву назад, маўчала і не зводзіла вачэй са столі, нібы чытала на ёй свой заўтрашні дзень. І не верыць ніяк Васіль, што гэта ж самая Наста яму сказала:

— Да мяне не садзіся.

### II

Бывае і так, што пасажыраў у Насціным вагоне многа — яблыку недзе ўпасці. Асабліва калі надвор'е добрае і ўсе суботнім вечарам спяшаюць з Магілёва на вёску — да бацькоў, да знаёмых. Пры народзе Васілю і Насці ніякавата быць разам, і тады ад самага Ціхага Лесу Васіль таўчэцца ў калідорчыку пры выхадзе. Паставіць бензапілу ў куце ля бачка з вадою і ўзіраецца ў мутную, прыпудраную знадворку вугальком шыбіну. Там мігцяць станцыйныя ліхтары, чорныя тэлеграфныя слупы, чароды хмызу.

Васіль дастае пачак «Беламору» і закурвае. Паварочваецца спіной да акна і бачыць расчыненае маленькае Насціна купэ. У ім толькі з аднаго боку паліца, на якой разасланы цёплы Насцін кажушок і стаяць ліхтары. На століку чысценькі алюмініевы чайнік, дзве шклянкі, ляжыць сетачка з няхітрым дарожным прыпасам яды. З носіка чайніка клубкамі прэ пара, вабячы да сябе... Ды пераступіць парог Насцінага пакойчыка Васіль не можа, бо туды яго ніхто не пра-



сіў. Праўда, аднойчы ён сядзеў на кажушку за цёплым чаем з Настаю. Але ж гэта яшчэ ніякіх правоў яму не дае, і без дазволу Васіль не можа зайсці туды: на дзвярах у пакой шыльдачка — «Посторонним входить запрещается».

Дзверы з тамбура адчыняюцца, паказваецца ліхтар, за ім Наста. Яна спыняецца перад Васілём і, боязна азірнуўшыся, ціха, так лагодна кажа:

— Зноў тут стынеш? Заходзь у кандуктарскую. Цяпер ніхто не ўбачыць...

Васіль маўчыць. Ён добра ведае, што Насці не так проста адважыцца пусціць яго ў сваё службовае купэ. Але яна яшчэ раз просіць:

— Заходзь.

Васіль сціскае ў пальцах пякучы недакурак, шпурляе яго ў скрыню для смецця і толькі тады асмельваецца пераступіць парог Насцінага купэ.

Выстукваюць на стыках рэек колы, звіняць на століку шклянкі.

— Пі, Васіль... Яшчэ дабаўлю. Вунь як намёрзся за дзень. Ды закусвай лепей. Нябось і згаладаўся недзе ў сваім лесе...

А Васіль — рады і цёпламу чаю, і смачнаму хлебу з маслам, а больш за ўсё ветліваму Насцінаму слову — толькі думае: «Адкуль яна бачыць, што я настыў, адкуль можа ведаць, што згаладаўся?.. Як адкуль? А партызанскія вёсны, зімы?..»

«Наста-Настачка! Ты разам з намі, трыццаццю знясіленымі галадам хлопцамі і мужчынамі, у партызанскую зіму сорак трэцяга года мужна выносіла фашысцкую блакаду. Не ведаў спакою ад баёў Ціхі Лес, і ты так многа рабіла для нас сваімі рукамі на няхітрай і найцяжэйшай партызанскай кухні. Калі ж твайго кухарскага старання і нашага цярпення аказалася так мала, каб выжыць, ты і тады не ведала ні адчаю, ні страху.

У тую далёкую ноч, пасля сутычкі з ворагам, адбіўшыся ад таварышаў, мы ўдваіх падыходзілі да лініі фронта. З намі не было твайго бацькі — мужнага партызанскага камандзіра Мацвея Дробыша, які загадаў усім прабівацца ўперад, а сам з кулямётчыкам Міхасём застаўся на вузенькай лясной сцежцы, каб затрымаць ворага... І мне, а яшчэ больш табе, Наста, цяжка было пакідаць бацьку Мацвея, бо мы добра ведалі, чым скончыцца яго сустрэча з вялікім атрадам эсэсаўцаў...

Сціскаючы ў руцэ аўтамат, ты ўпершыню загаварыла са мною, як з братам — шчыра і адкрыта... А я хацеў сказаць табе, што хачу выжыць, каб адпомсціць ворагу за нашага партызанскага бацьку Мацвея, выжыць, каб ужо ніколі не разлучацца з табою.

Праклятая і... шчаслівая ноч. Праклятая — бо загінулі сябры. Шчаслівая таму, што і надо мною, і над табою, Наста, было адно неба, у нашых думках і душах адзін агонь — агонь жыцця і помсты.

І ўсё ж, дабраўшыся да сваіх, мы рассталіся. Ты ад'язджала на работу ў тылавы шпіталь, а я... Я згубіў твой след і франтавымі шляхамі панёс мару аб табе. Не год і не два з таго часу хадзіў і ваеннымі і мірнымі дарогамі. І не ведаў, што ад самай вайны ты жывеш амаль побач са мною, штодзень ездзіш праз Ціхі Лес у рыпучым прыгарадным вагоне. Мы сустрэліся ўрэшце. Але так позна...»

Васіль упарта глядзіць на бліскучыя гузікі Насцінага шыняля, глядзіць на яе пухлыя губы...

— Васіль. Скажу табе...

Наста хоча гаварыць пра нешта важнае (так здаецца Васілю), але

сарамліва апускае вочы і ніяк не адважваецца. Сказаць жа ёй, відаць, вельмі трэба, і яна смялее:

— Навошта і сёння ў мой вагон садзіўся? Мы ж дамовіліся...

І Васіль не знаходзіць, што адказаць. Яму становіцца няёмка сядзець на Насціным кажушку, няёмка глядзець на толькі што да дна выпітую шклянку, няёмка быць у кандуктарскім купэ адзін на адзін з Настаю, калі на дзвярах вісіць шыльда з грозным надпісам. Ды цяпер ужо што зробіш?.. І ён маўчыць. Выйсці?.. Пакінуць Насту адну, пакуль ніхто не ўбачыў?.. Але ўздрыгвае ў дзвярах ручка, і ў пакой прасоўваецца галава старога.

— Любушка, дай дамінішка. Аднаго козліка забіць...

Наста разгублена ўспырхвае з месца, капаецца на паліцы. Адшукала старому пластмасавы карабок і выйшла.

Васіль крадком цікуе праз прыадчыненыя дзверы і, каб ніхто не бачыў, падаецца ў калідор.

## III

Наста сядзіць у агульным купэ на шырокай лаўцы. Побач ляніва тлее ліхтар. Калі цягнік пачне збаўляць хуткасць перад чарговым прыпынкам, яна ўскочыць, возьме ліхтар і пабяжыць у тамбур. А пакуль што не зводзіць вачэй з Васіля, які прымасціўся насупраць, прыхінуўшыся да сцяны шырокімі плячыма.

«Любы», — хочуць шапнуць Насціны губы, а рука цягнецца да Васілёвай рукі, якая спакойна ляжыць на століку. Тут жа спахапіўшыся, што так рабіць нельга, Наста прымае руку, нібы апёкшыся.

— Тах-тах-тах... — стукочуць на рэйках колы.

— Лю-бы, лю-бы... — нячутна шэпчуць у такт ім Насціны вусны. Ды Васіль не можа здагадацца аб яе жаночым болю, бо нічога не бачыць, нічога не чуе, увесь уцяўся ў свае думкі. А думак багата. Яны то вяртаюць у партызанскі лес, то вядуць тысячы разоў знаёмаю чыгункаю ўслед за Настаю.

Наста ўсё глядзіць на Васілёвы рукі, гадае, колькі дрэў павалілі яны сёння, абцерабілі, парэзалі на круглякі. Відаць, цяжка Васілю працаваць у лесе. То снежная завіруха, то дождж, навальніца. А цяпер, у гразкую асеннюю халадэчу, зусім бяда. І нікуды не схаваешся ў лесе, у любое надвор'е працаваць трэба. Нават пагаварыць часта няма з кім, бо бензапільшчык амаль заўсёды працуе адзін — зойме дзялянку,валіць на зямлю дрэва за дрэвам. Пакуль рабочыя прыйдуць разбіраць нарыхтаваную драўніну, ён перабярэцца ўжо на іншае месца... Наста ўздыхае, ласкавей глядзіць на шурпатыя мужчынскія рукі і думае: «Чаму Васіль ніколі не расказвае аб сваёй рабоце, ці дужа цяжка яму там, аднаму, у лесе... І няхай не расказвае — усё сама ведаю».

А яшчэ Наста ведае, што ў Васілёвым клуначку, падвязаным да бензапілы, ляжаць звычайныя хваёвыя шышкі і гнілякі, якія ў цемені свецяцца чарадзейнымі агеньчыкамі. Яшчэ ў клуначку часта бывае звычайны карабок з-пад запалак, у якім спяць дзівосныя жучкі. Гэты маленькі кавалачакляснога царства Васіль вязе свайму сыну, як гасцінец ад вавёрак, зайцаў, птушак. Любіць Васіль свайго сына, хоць ніколі не расказвае ёй аб гэтым. Ён, відаць, не менш кахае і сваю жонку...

Не чуе Наста, як скрыгочуць тармазы, спыняючы цягнік.

Патух ліхтар.

Задумаўся Васіль.

Думае Наста.



— Так-так-так!.. — ажываюць на рэйках колы. Спахапіўшыся, Наста выцірае шорсткім рукавом шыняля твар, замутнелымі вачыма зноў глядзіць на Васіля. Ён па-ранейшаму не варушыцца ў сваім куце, хоць яго́ная станцыя засталася ўжо ззаду. Усё далей і далей уцякае ад сваёй хаты Васіль, сам аб гэтым не ведаючы.

«Як жа так? — думае Наста. — Праскочылі міма Васілёвай станцыі... Не разбудзіла... Як жа так?..»

Зусім не прыдумае Наста, што ёй цяпер рабіць. Сказаць Васілю?.. А потым?.. Застацца зноўку адной?.. Не, не. Ды ўсё роўна цягнік не вернецца.

— Так-так-так...— дабіраецца да сэрца трывожны грукат, а Насці здаецца, што гэта і не колы грукочуць, а нейчы дзіцячы голас кліча яе. «Пэўна Васілёў сын... Ён увесь дзень чакаў бацьку.

А жонка?.. Яна таксама чакае мужа... Урэшце, хіба жонка вінаватая, што ў нейкай праваднiцы Насты сумуе па Васілю сэрца? Сорамна. Ой, сорамна... Сорамна красці чужую радасць».

Наста ўскоквае з месца і, забыўшыся на ліхтар, бяжыць у сваё канцавое кандуктарскае купэ.

## IV

На раз'ездзе Ціхі Лес спыняецца прыгарадны цягнік. З бензапілою на плячы спяшае да яго Васіль. Спрытнымі крокамі ён мінае адзін вагон, другі, трэці, падбягае да праваднiцы, якая стаіць пад нумарам «4».

— Добры дзень, Наста.

Праваднiца пырскае ад смеху і адварочваецца.

— Наста?.. — разгублена перапытвае Васіль і рука замірае ў кішэні, не паспеўшы адшукаць праязны білет.

— Наста, ды не тая,— смеючыся, адказвае дзяўчына, і Васіль са страхам здагадваецца, што зблытаў вагоны. Але... уверсе тая ж лічба «4».

— Як гэта? — здзіўляецца ён.

— Вось так. Твая Наста ўжо ў дзевятым вагоне. Са мною вагонамі памянялася. Прасіла яшчэ, каб табе не гаварыла, дзе яна. Ды мой язык праўду любіць.

Васілю няёмка бегчы шукаць Насту, і ён падымаецца ў тамбур.

— Так-так-так... — стукаюць колы, а Васіль не хоча заходзіць у вагон, бо там яму цяпер няма чаго рабіць.

Ён пакутліва стаіць у тамбуры, увесь у думках, у здагадках. Няўжо Наста памяняла вагон толькі таму, каб не бачыць яго, Васіля?.. А мо' так і лепей — не сустракацца, бо мінулы раз ён вярнуўся дамоў толькі раніцай і бачыў, як плакала жонка... Значыць, жонка ўсё-ўсё бачыць. Як жа так?.. Ці мог ён так залішне давяраць сэрцу?

А Наста?.. Яна, выходзіць, мужнейшая: не дала сабе волі. І табе не трэба болей ісці яе следам. І тут, браце Васіль, трэба быць чалавекам.

# НЯЎВАЖЛІВЫ

На новенькім газіку мы прабівалі першы след па завеянай дарозе на Касцюковічы. Побач са мною сядзеў вясёлы Анатоль, які ўвішна пускаў машыну то ўправа, то ўлева. Ззаду ў крытым брызентам кузаве падгопвала на лаўцы дзяўчына, з галавою схаваўшыся ў вялікі цёплы кажух. Нас цягнула да размоў.

— Што гэта начальства атэкоўскае так нядобра гаворыць пра цябе? Называе легкадумным, няўважлівым на дарозе... Выпісвалі машыну і ўсё папярэджвалі, каб вачэй з цябе не зводзіў. Нібы за нянькy да дзіцяці прыстаўлялі.

— А чаму б нашаму Каняўцу пра гэта не сказаць і табе. Кожны дзень усякаму такое пра мяне балбоча. Ды і ва ўсім аўтапарку ўжо з яго лёгкага языка... Ат... — Анатоль рэзка і безнадзейна махнуў рукою. — Раз прыліпла такое да мяне — лягчэй, відаць, вакол Месяца, як той спадарожнік, абляцець, чымся ад благой славы пазбавіцца, — і ён, насвістваючы нейкую заліхвацкую песеньку, ціскануў на газ.

Хутка мы выскачылі на шырокі, працёрты машынамі шлях. З грукатам падскокваючы на выбоінах, наш «газік» яшчэ смялей панёсся насустрач замеці, якая ўсё гусцей і мацней біла ў ветравое шкло. Мяне ўсё часцей штурхала то ў бакі, то ўзад-уперад.

— А можа ў нейкай меры праўду кажуць? — асцярожна запытаў я ўсё аб тым жа. — Занадта гоніш...

— Гэ-э... — усміхнуўся Анатоль. — На такой хуткасці ніколі ў сумёце не заначуеш. А кювет не страшны, калі мяжу ведаць. Разумееце, мяжу і ў хуткасці, і ў бяспецы.

Такая ўпэўненасць Анатоля чамусьці не здалася мне ні выхваленнем, ні легкадумнасцю, як пра яе гаварыў начальнік аддзела эксплуатацыі аўтапарка Канявец. Але ці ўсякага чалавека распазнаеш у гаворцы?

— І ўсё ж, як гэта здарылася, што чутка такая пайшла?..

Анатоль зноў засвістаў праз зубы сваю песеньку, пасля памаўчаў і звярнуўся да мяне:

— Пачалося як? Гэ-э...

Лёгка трымаючы адной рукой руль, ён дастаў з кішэні салдацкага бушлата новенькі партсігар. Мы закурылі.

— Калі па парадку расказваць, то перш за ўсё рэйсавы талон прабілі за перавышэнне хуткасці ў Магілёве. Ездзіў я туды, на сваю бяду, па запчасткі ў сельгасснаб. Прыехаў назад і... Браткі вы мае, як пачалі трэсці за душу. І ў кабінеце начальніка АТК, і ў знаёмага вам ужо Каняўца. Праўда, з часам усё уляглося, забылася. Але і месяца не мінула, як новае ліха напаткала, зноў на той жа хуткасці падлавіла аўтаінспекцыя. Адабралі правы. Ледзь вымаліў. Але ў канторы... Пагрозы, папярэджанні... Ох, братка, і прыкра слухаць гэтыя начальніцкія вымовы. Тады ж і пусціў на вецер Канявец праклятае славечка «легкадумны». Прыліпла, што ліст у лазні да цела. Ды што там той ліст? Ліст адарваць можна, а з гэтым слоўцам паходзіш...

Анатоль нечакана змоўк, потым уздыхнуў:

— Каб жа на гэтым і кончылася... — працягваў ён, не гледзячы на мяне. — Дык здарылася яшчэ лепшае. Неяк вярнуўся з чарговага рэйса. Паставіў машыну, выбраўся з кабіны, каб ваду з радыятара на ноч спусціць. Раптам ляціць да мяне Міроніха, хата яе насупраць нашай канторы стаіць. Мёртвага гусака аднекуль выхапіла ды тыц мне ў твар. Нягоднік, — крычыць, — анціхрыст. Ды ўсё мерыцца сваім гусаком у твар тыцнуць. А гусак той увесь у крыві, мокры, брудны, страхата адна. Спачатку, ведаеце, мне няўцям было, адкуль гусак, адкуль Міроніха ўзялася і што яны да мяне маюць. А потым дайшло, што гэта пад мае кола той гусак трапіў. Схапіўся я за галаву. Ну, думаю, не скора старая сціхне, задасць мне пэратурбацыю. На шчасце, успомніў, што грошы пры мне меліся. Выцягнуў пяцірублёўку, сунуў Міронісе ў руку. Тут старая павесялела. Сціхла, адышла ўбок, а потым і кажа з гэткай прыкрай ліслівай ухмылкаю: «Мілае ты маё дзіцятка,





хіба ты вінаваты? Ды я ж усё на базар мелася яго несці». Паднесла да свайго вока маю асігнацыю, што які эксперт. Ну, кажа, грошы нішто сабе. І прэч... Хоць бы гусака таго дзеля ветлівасці пакінула, ці рэшту грошай вярнула.

...Раптам перад самым ветравым шклом са снежнай завалачы вырасла чалавечая постаць. Яна нерашуча хіснулася ўперад і падалася насустрач, узняўшы руку. Анатоль рэзка затармазіў: машына віхлянулася заднімі коламі ўбок, у снегавую неруш. Анатоль зноўку цісканyў на газ — машына завыла і праскочыла міма жанчыны...

— Ну, і як з тым гусаком у цябе абышлося?

— Што гусак?! І след той Міроніхі прастыў. А вось Канявец убачыў усё гэта. Зноў да сябе ў кабінет завёў і давай хрысціць. Легкадумны, няўважлівы на рэйсах. У слуп, кажа, калі-небудзь урэжашся. Адным словам...

Аб усіх гэтых смешных і ў той жа час невясёлых прыгодах Анатоль расказваў без усялякага суму. Было відаць, што ён не надаваў значэння нападкам Каняўца, яму было ўсяго-наўсяго ніякавата за крыўднае каняўцова слоўца, якое пайшло хадзіць па людзях.

Прызнацца, мяне пачынала разбіраць крыўда на Каняўца, хоць, здаецца, што мне той Канявец. Але чаму ж увесь час папіхае ён хлопца ды яшчэ і ярлык да яго прыляпіў... А ці разабраўся ў чалавеку?..

Можа б і не стаў я задумвацца над усім гэтым, ды шчыры расказ Анатоля падкупіў маё сэрца — і я паверыў.

— А наконт хуткасці, прызнаюся, вінаваты, — перапыніў мае думкі Анатоль.— Але што рабіць?.. Па душы мне хуткасць. Відаць, ад таго, што прыехаў я са стэпу, з Казахстана. Там вайсковую службу праходзіў на такім жа вось газіку. Бывала, уключыш чацвёртую і ляціш, абганяючы стэпавыя вятры... Дарогі ўлетку на цаліне, нібы асфальтаваныя высцілаюцца перад табою, роўненькія-роўненькія. Эх, язда!.. А цяпер... Бяру сябе ў рукі, на чацвёртай усё радзей ды радзей езджу. Толькі, самі разумееце, прывычнае з сябе выкінеш не адразу. Ну, а наконт уважлівасці ў дарозе, тут Канявец ужо маўчаў бы. Скажы, гусака падмяў, бяды нарабіў... Калі разабрацца, дык толькі з-за гэтага гусака ды любві маёй да хуткай язды і прыпісаў мне легкадумства, няўважлівасць.

Мы ўехалі ў вёску. Застукалі зверху па кабіне. Анатоль затармазіў, ніжэй апусціў бакавое шкло і, высунуўшы галаву, кінуў жарт маладой дзяўчыне, якая саскочыла з кузава. Чырвоная ад марозу, яна атрэсла рукавіцаю снег з вялізнага каўняра кажуха, нічога не сказаўшы на анатолевы жарты. Пасля падышла да кабіны.

— Дзякую, што падвёз, хоць не вельмі зручна было на тваім кані

трэсціся. А вось душы ў цябе, шафёр, мала. Хворая Фроська, што з суседніх Жураўлёў, на дарозе стаяла, у раённую бальніцу пад'ехаць прасілася. А табе цяжка было спыніцца. Хворага чалавека не ўзяў... Эх, шафёр...

І пайшла сваёй дарогаю.

Куды дзелася весялосць і гаварлівасць. Сціхся Анатоль, зусім іншы стаў з твару. Хвіліну маўчым, другую... Нарэшца цяжка, ажно ўголас, уздыхнуў Анатоль, вінавата глянуў на мяне:

— Няважна зрабілі мы з табою, браток. Хворую на дарозе пакінулі...

І не паспеў я адказаць, як матор загуў, уздрыгнуў: Анатоль завярнуўся і памчаў у поле сваім жа, яшчэ не замеценым следам.

І мне раптам так захацелася, каб побач з Анатолем у гэтую хвіліну сядзеў не я, а Канявец...





Сустрэча з чытачамі «Маладосці» мне асабліва прыемная мусіць таму, што я сам, будучы камсамольцам, яшчэ ў 1925 годзе пачынаў свой пісьменніцкі шлях на старонках першага ў Беларусі камсамольскага часопіса «Малады араты». А пасля рос, як паэт, друкуючыся ў газеце «Чырвоная змена». У той час пры рэдакцыі газеты працавала літаратурнае аб'яднанне пад назвай «Камсамольская кагорта». Кожны тыдзень гэтае аб'яднанне друкавала свае літаратурныя старонкі. Многіх членаў гэтага аб'яднання можна сустрэць сёння сярод вядомых пісьменнікаў, дзеячоў навукі і культуры савецкай Беларусі.

Час няспынна бяжыць. Светлыя дні юнацтва і цяпер жывуць у маім сэрцы. Я нібы чую водгулле гэтай шчаслівай пары ў галасах здольнай творчай змены, якая пачынае свой літаратурны шлях на старонках часопіса «Маладосць».

Маладосць — якое гэта чароўнае, поўнае захаплення слова! Прыемна быць разам з вамі на камсамольскай пераклічцы — дарагія мае маладыя беларускія песняры!

**Мікола ХВЕДАРОВІЧ.**

**Мікола ХВЕДАРОВІЧ**

# З ІНТЭРНАЦЫЯНАЛАМ



Мяцеж насупіўся сурова,
заняў фарты, стральбу пачаў.
А з'езд захоплен быў прамовай,
ён слухаў праўду Ільіча.

Яна нас клікала да штурма.
Запеў узброены народ:
«Мы свет прымусу ўвесь разбурым» —
і рушыў на кранштацкі лёд.

Ішлі ў шынелях і бушлатах,
не захаваныя бранёй
рэвалюцыйныя салдаты,
з найчалавечнаю душой.

Не з помстай лютай па загаду
ішлі на бой. Вяла адна
у сэрцы ленінская праўда
і светлай мары чысціня.

«Мы наш, мы новы свет збудуем», —
гучаў партыйнай песні кліч.
І зразумелі ўсе: штурмуе
стары прагніўшы свет Ільіч.

Калі ж замоўкнуў гром гарматны
і ўзяты быў апошні форт,
спявалі мы: «Наш бой астатні
за працоўны народ...»

## СОНЕЙКА



к толькі расплюшчацца вочы,
на сэрцы зноў радасна мне.
Дзе хмарнасць асенняе ночы?
Купаецца сонца ў акне.

Дзень добры, мой веснік жаданы,
мой сябра заўжды малады,
табе я сардэчна адданы
даўно, праз даўгія гады.

Як толькі іду тваім следам, —
Цяжар забываю гадоў.
Я лепшых ніколі не ведаў
такіх задушэўных сяброў.

Той час не забыць мне ніколі:
калі яшчэ быў пастушком,
мяне сагравала ты ў полі,
нам радасць прыносіла ў дом.

І сцюжы, і лютыя зімы
спаткалі ў дарозе не раз.
Праменнямі вечна жывымі
з бяды выручала ты нас,

калі мы ў прастуджаных хатах
сядзелі ў марозныя дні,
чакалі, як быццам бы свята,
надзейнай твае цеплыні.

Паўвека, бы ў казцы, пражыта,
і колькі знаёмых, сяброў
зямлёй прыдарожнай прыкрыта,
а мы — сустракаемся зноў.

Як нянька, за мною ты крочыш,
і заўжды адхіліш бяду...
Гляджу ў твае ясныя вочы
і смела наперад іду.

## СЫНУ



араджаецца новы дзень,
расхінаючы цемрыва складкі.
Ён да ложка твайго паўзе
на праменных пуховых лапках.



Заглядае ў блакіт вачэй
і разгадвае ўсе сакрэты,
нават тыя, што дрэмлюць яшчэ,
так дзяцінствам утульна сагрэты.

Нездарма ж усхвалёваны я, —
здэцца, сонца паўнюсенька хата:
спіць надзея і радасць мая —
сын малодшы мой, сокал крылаты.

Я хачу, каб дасяг ты вышынь,
гаспадарыў на ўсіх арбітах,
каб багацці падземных глыбінь
прад табою ляжалі раскрыты.

Будзь упарты і смелы ў жыцці,
перашкоды знішчай, — не здавайся,
як маланка, пад небам мігці,
а зямлі сваёй роднай трымайся.

Сонца кросны праменныя тчэ,
прачынайся, сынок, не лянуйся,
ну, расплюшчвай жа вочы хутчэй,
азірніся вакол, палюбуйся,

Як празрысты нябесны блакіт
зычыць мірны нам дзень без трывогі,
як ва ўсе разышліся бакі
прад табою, мой хлопча, дарогі.

Вось яны, як шырокі сувой,
звіты ўсе у імкненні адзіным...
А пад воблачнаю сінявой
кліча голас цябе сакаліны.



Міхаіл Ільіч Кірылаў — настаўнік, родам сібірак. У час Айчыннай вайны партызаніў на Брэстчыне. Пасля расфарміравання партызанскай брыгады застаўся працаваць у Беларусі, спачатку загадчыкам Кобрынскага райана, потым — загадчыкам навучальнай часткі Кобрынскай сярэдняй школы.

Нарысы М. І. Кірылава друкаваліся ў часопісе «Народная асвета».

У «Маладосці» М. І. Кірылаў друкуецца ўпершыню. Яго нарыс «Саша» узнімае надзённыя пытанні выхавання маладога пакалення.

**Міхаіл КІРЫЛАЎ**

# САША

**Нарыс**

Мал. Ю. Пучынскага

У школе вучням сказалі, што іх дзевяты клас будзе займацца па праграме адзінаццацігодкі і што ў сувязі з гэтым уводзіцца новы прадмет — вытворчае навучанне. Ім сказалі таксама, што за гэтыя тры гады вучобы яны, хлопчыкі дзевятага класа, атрымаюць спецыяльнасць слесараў-мантажнікаў чацвёртага разраду.

Навіна гэтая не зрабіла на Сашу амаль ніякага ўражання. Уяўленне пра спецыяльнасць слесара ў яго было самае цьмянае. Неяк аднойчы маці папрасіла бацьку прыладзіць да вядра адарваную дужку. Бацька, бухгалтар па прафесіі, хоць і браўся часам што-небудзь адрамантаваць у хаце, рабіў гэта няўмела, і ўсякая рэч, пабыўшы ў яго руках, хутка станавілася ні на што не прыгоднаю. Так было і з вядром. Вялікім, тоўстым цвіком ён прабіў ля самага краю дзірку, прасадзіў у яе канец дужкі, загнуў яго і моцна прыкляпаў малатком. Дужка перакасілася і ўжо не лажылася па краю вядра, а стаяла тарчма. Бацька і сам бачыў, што рамонт не ўдаўся. Раззлаваны, ён круціў у руках знявечанае вядро і ў той жа час строга паглядваў на маці, даючы ёй зразумець, што не сцерпіць яе насмешлівых заўваг. Маці, хаваючы ўсмешку ў сцятых вуснах, узяла з яго рук вядро, паставіла на падлогу і паспрабавала прыгнуць наглуха замацаваную дужку. Дужка не паддавалася.



Гэтая маўклівая заўвага яшчэ больш раззлавала бацьку. Ён ударыў нагой па вядры так, што яно са страшэнным грукатам пераляцела цераз усю кухню, ударылася аб сцяну і адскочыла, павярнуўшыся да бацькі знявечанай дужкай. Маці ціха засмяялася, а бацька крыкнуў:

— Я табе не слесар! — і выбег з хаты, моцна ляснуўшы дзвярыма.

З таго часу Саша ўяўляў сабе слесара, як чалавека, які рамантуе хатнія металічныя рэчы, і таму ў яго не было ніякай цікавасці да гэтай работы.

Нічога не сказала яму і паведамленне пра чацвёрты разрад. Што гэта — высокая ці нізкая ступень спецыялізацыі? І ў якім парадку вызначаецца гэтая ступень? Чым большая лічба разраду, тым вышэй кваліфікацыя? Ці наадварот, як пры вызначэнні гатункаў: чым вышэй гатунак, тым меншая лічба? Пытацца пра гэта ў каго-небудзь з сяброў не хацелася, бо не было ў гэтым вялікай патрэбы.

Існавала яшчэ адна прычына, чаму Сашу не вельмі цікавілі змены, якія намячаліся ў жыцці школы. З тых пор, як ён сябе памятае, яму ні разу не даводзілася самастойна вырашаць колькі-небудзь важнае пытанне ў сваім жыцці. Звычайна гэта было справай яго бацькоў, дарослых, вопытных людзей, а ён заўсёды і ва ўсім на іх спадзяваўся.

Бацькі хацелі, каб ён пасля школы паступіў у інстытут.

— Самім не давялося, дык хоць сына вывучым, — гаварыў, бывала, бацька ў хвіліны ціхіх, лагодных гутарак з маці. Яна згаджалася з ім, і яны, занятыя якой-небудзь няхітрай работай, якая не патрабавала асаблівай пільнасці і ўвагі, вялі павольную гаворку пра будучыню свайго сына.

— Нядрэнна было б у медыцынскі інстытут, — гаварыў бацька, але ў голасе яго не адчувалася ўпэўненасці, што прафесія ўрача — самая падыходзячая для сына.

— Добра было б, — згаджалася маці, але і ў яе тоне было нешта такое, што выдавала яе сумненні. Бацька не спяшаўся рабіць свае вывады з такой кароткай гаворкі і моўчкі чакаў, што яшчэ скажа маці.

— Вельмі ўжо далёка... Больш сутак поездам... Хіба наездзішся? А трэба ж будзе наведвацца час ад часу ды правяраць, як ён там харчуецца, як вучыцца...

Бацька не настойваў: спяшацца няма куды, да заканчэння сярэдняй школы — яшчэ не адзін год... Можна абмеркаваць і іншыя варыянты.

— А можа ў педагагічны?..

Маці згаджалася.

— Тут зусім блізка. Мог бы і сам па суботах дадому прыязджаць.

— Аднак, прафесія гэтая — не даўядзі божа! — заўважаў, памаўчаўшы, бацька. — Вечны крык, гармідар...

Маці згаджалася з гэтым.

— Вось у нашага дырэктара сын вучыцца ў політэхнічным...

Пачыналася абмеркаванне гэтага варыянту, хоць бацька не зусім цвёрда ведаў, якія спецыяльнасці набываюць тыя, хто заканчвае гэты інстытут.

А потым, спахапіўшыся, яны ажыўлена пачыналі гаварыць пра клопаты сённяшняга дня, і вырашэнне пытання аб прафесіі сына адкладвалася.

У сям'і Саша быў адзіным сынам, і бацьку вельмі трывожыла яго будучае. Яму хацелася ўбачыць у свайго сына нейкія незвычайныя задаткі. Ён прыслухоўваўся, як Саша, гуляючы са сваімі цацкамі, паціху мурлыкаў якую-небудзь песеньку, бязлітасна блытаючы мелодыю. Часта разглядваў яго малюнкі — плоскія крывыя домікі з нязменнаю

спіралькаю дыму, чалавечкаў з гарызантальна выцягнутымі рукамі і растапыранымі веерам пальцамі. Слухаў, прыглядаўся і незадаволена хмурыўся. Калі Саша падрос і стаў вучыцца ў старэйшых класах, бацька, канчаткова пераканаўшыся ў яго пасрэдных здольнасцях, вырашыў даведацца, да якога са звычайных чалавечых заняткаў горнецца Сашава душа.

Дома па-ранейшаму вялося абмеркаванне пытання, у якім інстытуце вучыцца сыну. Але цяпер, не прыходзячы ні да якой пэўнай думкі, бацька звяртаўся да Сашы:

— Ну, а сам ты як думаеш? Да чаго ў цябе больш схільнасці?

Па сваіх школьных нагляданнях Саша трохі ўяўляў сабе работу настаўніка. Пра іншыя прафесіі ў яго не было ніякай пэўнай думкі, і яму цяжка было адказаць на бацькава пытанне.

— Не ведаю,— пацікаў ён плячамі.

Бацька, па натуры чалавек запальчывы, узгараўся:

— Абібок! Хутка закончыць сярэднюю школу, атэстат сталасці атрымае, а толку — ніякага!

І, скардзячыся некаму невідочнаму, з крыўдай у голасе дадаваў:

— У людзей дзеці — як дзеці, а тут расце непаразуменне нейкае.

Бацька, відаць, лічыў, што ў інтарэсах выхавання трэба на кожным кроку падкрэсліваць недахопы сына і ўказваць на добрыя прыклады, якія, на яго вялікі жаль, даводзілася браць з жыцця іншых сем'яў.

Сашы ўспамінаецца гісторыя з яго нядаўняга мінулага. Ён — яшчэ зусім малы, вучань другога класа. У яго дагала астрыжанай галаве ўзнікаюць разнастайныя пытанні. І да каго ж тут звярнуцца за тлумачэннем, як не да бацькі!

Бацька сядзіць у другім пакоі і ляскае костачкамі лічыльнікаў. У яго многа работы, даводзіцца працаваць нават дома па вечарах. Саша ўваходзіць да яго ў пакой, садзіцца на крэсла і чакае зручнага моманту, каб задаць сваё пытанне. Бацька заклапочана лічыць, зрэдку паглядаючы на сына. Нарэшце ён скідвае ўсе костачкі, здымае акуляры.

— Н-ну!

— Тата, а што атрымаецца, калі парадніць яблыню з грушай?

Бацьку гэтае пытанне бянтэжыць. Па прывычцы ён бярэ лічыльнікі і пачынае адкладваць костачкі, а потым, спахапіўшыся, адсоўвае іх ад сябе і чухае патыліцу.

— Атрымаецца новы плод, смакавыя якасці якога... Не, ты наўрад ці зразумееш... Ну, увогуле, на такім дрэве будуць расці яблыкі, салодкія і сакавітыя, як грушы.

Сашы падабаецца такая цікавая гаворка. Ён хоча падзяліцца з бацькам сваімі ведамі па гэтаму пытанню.

— А калі парадніць вішню з чаромхай, то вырасце галінастая пшаніца,— паведамляе ён.

Бацька ўжо збіраўся выправадзіць Сашу і заняцца сваёю работай, але рука, працягнутая да лічыльнікаў, павісла ў паветры, а бровы ад здзіўлення падняліся.

— Галінастая пшаніца?

— Ага. Толькі не такая, як раней сеялі, а другая,— спяшаецца растлумачыць Саша.— У яе ў коласе зярнят у пяць разоў болей, чым у простай пшаніцы.

— Глупства нейкае!— абурана гаворыць бацька.— Дзе гэта ты вычытаў?





— У кнізе,— адказвае Саша, спадзеючыся даказаць сваю праўду спасылкай на аўтарытэт кнігі.
— Пакажы яе сюды.
Саша прынёс «Родную мову».
Бацька начапіў акуляры і прачытаў уголас:
«Ніхто не спрабаваў парадніць яблыню з ігрушай, вішню з чаромхай і вырасціць у нас галінасты пшанічны колас, у якім больш зярнят, чым у пяці звычайных каласах. Усяго гэтага дабіліся савецкія вучоныя, смелыя пакарыцелі прыроды».
Сярдзіта зірнуўшы на Сашу, бацька адкідвае кнігу.
— Трэба разумець, што чытаеш! Ніхто не спрабаваў — што?
Першае — парадніць яблыню з грушай.
Другое — парадніць вішню з чаромхай.
Трэцяе — вырасціць галінасты колас.
Разумееш? Галінасты колас не мае ніякага дачынення ні да вішні, ні да чаромхі.
І, падумаўшы, дадае:
— Вось у загадчыка магазіна хлопчыку шэсць гадоў, а ён ужо дарослых у шахматы абгульвае. А ты не можаш зразумець, што ў кніжцы напісана. Ідзі і не перашкаджай мне працаваць!
Запальчывасць бацькі хлопчык пераносіў цяжка. Не, ён не крыўдзіўся на бацьку. Ён верыў яму, і папрокі здаваліся яму справядлівымі. Але гэта якраз і было самым цяжкім: Сашы здавалася, што ён горшы за ўсіх дзяцей. Гэтая думка прыніжала яго, і ён рос сарамлівым, нерашучым і нязграбным.

* * *

З таго часу, як бацькі цвёрда вырашылі рыхтаваць Сашу да паступлення ў інстытут, жыццё хлопчыка стала падобна да катаргі.
Вярнуўшыся са школы і паабедаўшы, Саша адразу садзіўся за ўрокі. Як мог, ён стараўся пісаць прыгожа і чыста. Потым рашаў задачы, вучыў вусныя ўрокі, расказваючы іх сам сабе ўголас, як раілі настаўнікі і бацькі.
Але вось усе ўрокі вывучаны. Саша складваў у партфель падручнікі і сшыткі і браў з этажэркі кнігу, якую яму не вельмі ахвотна дазволена было ўзяць са школьнай бібліятэкі. Бацька тады сказаў:
— Можаш узяць. Але глядзі, калі з-за кніжкі запусціш урокі — наракай на сябе.
Гэта вельмі цікавая кніга. Возьме яе Саша ў рукі, і для яго ўжо не існуе выбеленых сцен пакоя, простага, закапанага чарнiламі століка... Перад вачыма ўзнікае другое жыццё, велічнае і захапляючае: сінеюць прасторы акіянаў, разгортваюцца незвычайныя пейзажы казачных краін, пад халодным сонцам зіхацяць аграмадзіны-айсбергі. Ва ўяўленні хлопчыка ўзнікалі і жылі людзі магутнай волі, смелыя і рашучыя. І сам ён з нясмелага, нерашучага, сарамлівага хлопчыка ператвараўся ў адважнага, разумнага і нават вельмі прыгожага чалавека.
— ...Зноў за кніжку ўзяўся? А ўрокі?..
Дзівосны прывід знікае. Перад Сашам стаіць бацька, нахмураны і суровы.
— Я вывучыў урокі, — нясмела адказвае Саша і раптам бянтэжыцца. Цяпер, пры бацьку, яму ўжо здаецца, што ён і на самай справе марна траціць час на чытанне кнігі. Ды ён і не зусім упэўнены пасля бацькавых слоў, што ўрокі вывучаны як мае быць.



— Пакінь кніжку. Паўтары яшчэ раз усё, а потым я праверу па ўсіх прадметах.
Саша зноў разгружае свой партфель, перачытвае знаёмы матэрыял, а сам думае не пра тое, аб чым чытае, а пра непрыемныя хвіліны, калі бацька пачне правяраць яго веды.
Гэта будзе выглядаць так. Саша, стаўшы пасярод пакоя і апусціўшы рукі, пачне адказваць. Пачне нібыта і добра, але тут жа, у самым пачатку, глянуўшы на строгі бацькаў твар і заўважыўшы, як прыдзірліва сочыць ён за кожным словам, пачынае губляцца і блытацца ў адказах. Бацька падкажа два-тры словы, а потым з дакорам паглядзіць на Сашу і скажа:
— Вось бачыш, як ты вывучыў! — і адкладзе ўбок падручнік. — А цяпер давай другі ўрок.
Разгублены Саша будзе адказваць другі ўрок яшчэ горш. Бацька будзе ўсё стражэй і ўсё халадней глядзець на сына, а той будзе адказваць усё горш і горш. Бацька не выцерпіць, шпурне Сашавы падручнікі і крыкне:
— Ідзі і вывучы як трэба!
Прыбіты, ашаломлены, Саша падбярэ з падлогі свае падручнікі і зноў пачне іх чытаць, з-за слёз дрэнна разбіраючы і нічога не разумеючы, што ў іх напісана.
— Чытай уголас!
Саша пачне чытаць уголас, скрозь слёзы, гатовы вось-вось расплакацца.
...Сашавы думкі перабівае бацька:
— Ну, ідзі, праверу, як ты там вывучыў.
І ўсё адбываецца так, як уяўляў сабе Саша.
У школе было інакш. Настаўнікі цярпліва выслухоўвалі Сашавы адказы, папраўлялі, тлумачылі тое, што Саша блытаў у сваіх адказах. Аднак гэтая пастаянная няўпэўненасць, гэтае адчуванне сваёй бездапаможнасці праяўлялася і там. Хлопчык ведае ўрок, адказвае гладка, і ўсё ідзе добра. Але варта настаўніку варухнуць брывом ці паглядзець у яго бок — і ўсё прапала. У хлопчыка знікала ўпэўненасць, і ён змаўкаў, уставіўшыся позіркам у накрыўку парты.
— Ну, чаго ж ты змоўк? Прадаўжай, — заахвочвае Сашу настаўнік, але той маўчыць, страціўшы веру ў сябе, у свае веды. Настаўнік паціскае плячамі, саджае яго на месца і выклікае другога вучня. Той лёгка і проста расказвае пра тое, што Саша ведаў не горш за яго, і атрымоўвае пяцёрку.
Трэба сказаць, што ў першыя гады вучобы Саша не адчуваў незадаволенасці самім сабою за сваю нерашучасць, няўпэўненасць. Яго задавальняла тройка, і яму здавалася, што на большае ён не здатны. І толькі недзе ўжо ў сярэдніх класах ён пачаў заўважаць за сабою гэты недахоп.
Ідзе ўрок рускай мовы. На дошцы слупком напісаны словы: рожь, мяч, печь, нож, ночь, чиж, речь — і г. д. Настаўнік прапануе вучням самім сфармуляваць правіла, чаму ў адных словах на канцы пішацца мяккі знак, а ў другіх — не. Трыццаць з лішнім вучняў глядзяць на дошку, думаюць, праводзяць, можа, першае ў сваім жыцці даследаванне.
— Хто зразумеў, няхай падыме руку, — гаворыць настаўнік. Але рукі ніхто не падымае: цяжкая гэта справа самастойна разабрацца, што і да чаго. Саша бачыць, што ўсе назоўнікі з мяккім знакам — жаночага роду; у назоўнікаў мужчынскага роду мяккага знака няма. Вось яна, заканамернасць! Тут бы Сашу падняць руку, гэтак імкліва



выставіць яе ўперад, крышку нават падскокваючы ад нецярплівасці за партай, як гэта робяць многія ў класе, хоць настаўнікі без канца і вучаць, як трэба правільна трымаць паднятую руку. Але Саша гэтага не робіць. Ён азірнецца на клас і не бачыць ніводнай паднятай рукі. Не паднялі рук і выдатніцы класа. Выцягнуўшы шыі, яны глядзяць на дошку напружаным позіркам і нешта ціха шэпчуць самі сабе: «Яны выдатніцы, — думае Саша, — і, мусіць, даўным-даўно здагадаліся пра род назоўнікаў, а вось рук не падымаюць. Значыць, справа тут у нечым іншым».

Саша не падымае рукі, сядзіць, выцягнуўшы шыю, глядзіць на дошку і таксама цішком нешта шэпча сам сабе.

Але вось паднялася адна рука, другая, трэцяя. Выдатніцы аж падскокваюць за партамі, вочы іх ззяюць ад радасці. Настаўнік усмешкаю ўхваляе іх кемлівасць, забыўшы зрабіць заўвагу на няправільна паднятую руку, і чакае, ці не здагадаецца яшчэ хто-небудзь. Цяпер Саша нават не спрабуе знайсці гэтую заканамернасць, бо, апрача розніцы ў родзе назоўнікаў, яму нічога не прыходзіць у галаву.

— Адказвай, — выклікае настаўнік выдатніцу.

— Мяккі знак на канцы слова пасля шыпячых пішацца толькі ў назоўніках жаночага роду, — звонка і ўпэўнена адказвае яна.

— Маладзец! — усміхаецца настаўнік.

Спачатку Саша ўсёй сілай сваёй душы ўзненавідзеў гэтую выдатніцу. Яму здавалася, што яна самым нахабным чынам прысвоіла яго адкрыццё. Потым ён раптам раззлаваўся на самога сябе, на сваю нерашучасць. А далей упаў духам, усё больш пераконваючыся ў тым, што ён сапраўды, мусіць, непаразуменне нейкае, як кажа бацька.

Такі быў Саша.

Усё складвалася так, што і школа неяк не заўважала гэтай яго асаблівасці і нічым не памагала хлопчыку мацней стаць на свае ногі. Саша не выклікаў у настаўнікаў ніякай трывогі. На самай справе: паводзіны — выдатныя, хатнія заданні заўсёды выконвае, двоек у яго няма — што ж яшчэ трэба? Канешне, зорак з неба не дастае, але ж гэта не кожнаму і дадзена. З трэцяга класа — у піянерах, у канцы восьмага паступіў у камсамол. Усё як мае быць. Праўда, і ў піянерскай, і ў камсамольскай арганізацыі ён не праяўляў асаблівай актыўнасці, але не ўсе ж дзеці аднолькавыя і ў грамадскім жыцці.

Класныя кіраўнікі, якія, дарэчы, сказаць, часта мяняліся, рэдка наведвалі Сашавых бацькоў. Як правіла у першую чаргу і па некалькі разоў яны хадзілі да тых бацькоў, чые дзеці слаба вучыліся або дрэнна паводзілі сябе ў школе. Калі ж яны наведваліся да Сашы, то доўга на затрымліваліся, лічачы, што тут — усё ў парадку. Сашавы бацькі сустракалі настаўнікаў ветліва, прасілі распрануцца і прайсці ў пакой, маці старалася пачаставаць чаем, але тыя заўсёды спяшаліся, адмаўляліся ад чаю, і размова ішла на хаду. Бацька заўсёды скардзіўся:

— Добра то добра, але адзнакі — слабаватыя. Усё больш тройкі. Парайце, што рабіць, каб ён лепш вучыўся.

— Няхай больш за ўрокамі сядзіць! — быў адзін адказ.

Развітваючыся, настаўнікі гаварылі:



— Вось калі б ва ўсіх сем'ях столькі ўвагі аддавалі дзецям, як у вас! І нам працаваць было б лягчэй.

Пасля такіх наведванняў бацька, падагрэты аўтарытэтнымі парадамі настаўнікаў, яшчэ больш насядаў на Сашу. Хлопчыку катэгарычна забаранялася браць кнігі з бібліятэкі, павялічвалася колькасць гадзін на падрыхтоўку ўрокаў, яшчэ энергічней ляцелі ў куток Сашавы падручнікі, калі бацька браўся за праверку сынавай падрыхтаванасці да ўрокаў.

* * *

Каб быць справядлівымі ў дачыненні да Сашавага бацькі, раскажам пра яго больш падрабязна.

Працаваў ён галоўным бухгалтарам на адным з невялікіх прадпрыемстваў горада. З дамашніх размоў Саша ведаў, што бацькаў партрэт змешчаны на Дошцы гонару.

Бацькі жылі між сабою ў згодзе. Саша ніколі не чуў, каб яны калі пасварыліся. Маці, ведаючы запальчывы бацькаў характар, ніколі не пярэчыла яму. Яна звычайна з усім згаджалася, але так, што бацька заўсёды адчуваў, на самай справе яна згодна, ці толькі робіць выгляд, каб мінаваць сварку. І трэба сказаць, што ён ніколі не ішоў наперакор ёй.

Паміж бацькамі часта заходзілі размовы-ўспаміны. Некалі яны разам раслі, разам гулялі, іншы раз спрачаліся, потым мірыліся, і цяпер гэтых «А помніш...» у іх было так многа, што Саша ні разу не заўважыў, каб яны хоць раз успомнілі адну і тую ж гісторыю.

Бацька любіць па-дзіцячы падурэць. Накалоўшы дроў або прынёсшы вады, ён падыходзіць да маці страявым крокам і, размашыста казырнуўшы, дакладвае:

— Ваша заданне выканана!

Маці дае яму другую работу і няўмела камандуе:

— Кругом марш.

Ён, вытрашчыўшы вочы, зноў размашыста казырае, паварочваецца і, гулка стукаючы абцасамі, ідзе да дзвярэй. На паўдарозе азіраецца на маці і ціха просіць:

— А можа лепш заўтра...

— Ідзі, ідзі, — сур'ёзна гаворыць маці. — Будзе ў цябе заўтра вольны час ці не будзе — невядома. А гэта трэба зрабіць.

— Ёсць! — гаворыць бацька гучным голасам, строіць Сашу смешную міну і выходзіць, знарок пацешна кульгаючы.

А бывае яшчэ і так. Саша і маці сядзяць на кухні. Ён вучыць урокі, яна нешта зацыроўвае. Бацька, зачыніўшыся ў пакоі, без канца ляскае на лічыльніках. У яго, як заўсёды, многа работы.

Раптам дзверы ў кухню адчыняюцца. Як запраўскі запарожац, бацька адным махам вылятае на сярэдзіну кухні і — пайшоў упрысядкі. І самае смешнае тут тое, што танцуе ён з той сур'ёзнай заклапочанасцю на твары, з якой складае свае гадавыя балансы.

Тут ужо Саша не вытрымлівае. Ён выскоквае з-за стала і з празлівым віскам нясецца ўслед за бацькам. Маці, наваліўшыся грудзьмі на стол, заходзіцца ад смеху.

Нечакана ў пярэдняй раздаецца званок і адтуль даносіцца спалоханы голас суседкі:

— Што ў вас тут робіцца?

Бацька спрытна падхопліваецца з падлогі і знікае за дзвярамі свайго пакоя. Размінка зроблена, можна зноў брацца за работу.

Праз момант з-за сценкі зноў даносіцца мернае ляскание лічыльнікаў.

Такі быў Сашаў бацька ў звычайным будзённым жыцці. Але калі справа датычыла Сашы, яго вучобы, яго будучыні, ён зусім мяняўся: станавіўся рэзкі, несправядлівы, прыдзірлівы. Саша, упэўнены ў сваёй непаўнацэннасці, лічыў, што ён заслугоўвае гэтага...

* * *

Калі Саша сказаў дома, што іх дзевяты клас будзе займацца па праграме адзінаццацігодкі, бацька яму не паверыў:

— Глупства. Не можа быць. Ты нешта пераблытаў.

Саша не стаў спрачацца. Калі бацька гаворыць так упэўнена, дык можа і сапраўды ён што-небудзь не так зразумеў.

На другі дзень бацька нерваваўся больш, чым звычайна. Ён паспеў штосьці прачытаць у газетах аб перабудове работы школы, пагаварыў з класным кіраўніком.

— Я яму так і сказаў: «Вы, кажу, свае ўзялі, дыпломы атрымалі, а мой сын няхай невукам застаецца, так?» — пераказваў ён маці сваю гаворку з класным кіраўніком.

Слухаючы бацьку, Саша добра ўяўляў сабе гэтую гаворку. Класны кіраўнік, чалавек спакойны, разумны і ветлівы, пакутліва моршчыцца ад рэзкіх, несправядлівых слоў бацькі і цярпліва чакае, пакуль той выгаварыцца і змоўкне, каб пераканаць яго, што ён памыляецца. Нарэшце, бацька змаўкае. Класны кіраўнік не паспявае сказаць і двух слоў, як бацька перапыняе яго і дзесяты раз пачынае гаварыць адно і тое ж. Настаўнік бездапаможна разводзіць рукамі і азіраецца, ловячы спачувальныя і крыху іранічныя ўсмешкі сваіх таварышаў.

Саша глядзіць на бацьку, прыслухоўваецца да таго, што ён гаворыць. А бацька гаворыць, што ён не хоча нічога такога, што пашкодзіла б другім, грамадству. Ён хоча вывучыць сына. Што ж тут кепскага? Чаму сын бухгалтара не можа стаць урачом або інжынерам? Саша слухае бацьку і згаджаецца з ім. Хлопчыку нават пачынае здавацца, што яго сапраўды нехта намерыўся незаслужана пакрыўдзіць.

Потым бацька змаўкае. Задумённы, ён доўга ходзіць па пакоі а потым гаворыць да маці:

— Трэба скаргу пісаць. Многія бацькі незадаволены. Напішам і даб'ёмся свайго.

Маці згаджаецца, але бацька па нейкіх, аднаму яму вядомых, прыкметах улоўлівае яе сумненне.

— А што? Думаеш, не даб'ёмся?

— Хто яго ведае. Яны ж (маці мела на ўвазе дырэктара школы і настаўнікаў) не ад сябе гэта робяць. Закон такі выйшаў. Як жа вы пойдзеце супраць закона?

Бацька змаўкае і зноў пачынае ў задумённасці крочыць па пакоі.

— Трэба вось што зрабіць, — кажа ён назаўтра маці. — Трэба забраць дзіця са школы і адвезці да бабулі. Няхай там вучыцца.

— А там, думаеш, засталіся дзесяцігодкі?

— Можа і засталіся. Трэба напісаць, даведацца.

Ён піша пісьмо сваёй маці, але, не спадзеючыся на пажаданы адказ, зноў пачынае шукаць нейкага выйсця.

А жыццё ішло сваім парадкам. Саша хадзіў у адзінаццацігодку, дзевяты клас займаўся па праграме, у якую ўваходзіла вытворчае навучанне.



* * *

Дома Сашы не давалі рабіць ніякай работы, нават самай лёгкай. Бывала, насядзіцца ён за ўрокамі, што аж у вачах пацямнее, потым падхопіцца, з палёгкаю ўздыхне, паставіць у куток партфель і — да маці.

— Ты што робіш?

— Ды вось бульбу перабіраю.

— Давай я табе памагу!

— Ай, не трэба... Сама ўпраўлюся. Ты лепш пагуляй, адпачні, ды яшчэ раз урокі падвучы.

— Усё ўрокі ды ўрокі!..

— А ты як думаў? Бач, бацька злуецца, што ты ўсё тройкі прыносіш. Каб паступіць у інстытут, трэба вучыцца на пяцёркі. Ну, ідзі гуляй...

Саша ідзе на двор. Пад павеццю бацька коле дровы. Сашы вельмі падабаецца гэтая работа. Круглае бярозавае палена ставіцца на папа. Узмах сякеры — і яно распадаецца на дзве роўненькія плашкі. Кожная плашка расколваецца яшчэ папалам — і адкідваецца ўбок, да кучы.

— Дай я,— просіць Саша, хоць і ўпэўнены, што бацька не дазволіць.

— А яшчэ што прыдумаеш? Цюкнеш па назе...

— Ну, дык я буду дровы ў паленніцу складваць.

— Не трэба. Сам складу. Ты лепш ідзі ды ўрокі яшчэ падвучы, а то заўтра зноў тройку прынясеш.

У бацькі пад павеццю быў які-ніякі інструмент. У драўлянай скрынцы ляжалі малаток, абцугі, долата, пара напільнікаў, баначкі з цвікамі. Калі бацькі не было дома, Саша прыдумляў сабе якуюнебудзь работу: то прыладжваў паліцы да сцен хлява, то спрабаваў змайстраваць маленькі услончык пад ногі маці, калі яна сядзіць і вышывае. Маці ўжо колькі разоў прасіла бацьку зрабіць такі услончык, але той ці забывае, ці ў яго часу няма.

Больш за ўсё Саша любіў забіваць цвікі. Было прыемна адчуваць, як з кожным ударам лёгкага, ёмкага малатка цвік усё глыбей асядае ў дрэва, падпарадкоўваючыся тваёй сіле. Аднойчы Саша рашыў удосталь нацешыцца сваім любімым заняткам. Ён дастаў з паліцы баначку з цвікамі, зручней прымасціўся ля калодкі, на якой бацька калоў дровы, і пачаў заганяць у яе цвікі адзін за адным. Занятак гэты стаў яшчэ цікавейшы, калі раптам выявілася, што цвік з аднаго ўдару можна ўвагнаць у дрэва па самую плешачку. Саша так захапіўся гэтым заняткам, што забіў у калодку не менш сотні цвікоў.

Назаўтра бацька паклікаў яго пад паветку. Паказваючы на рабую ад цвікоў калодку, спытаў:

— Твая работа?

І, не дачакаўшыся адказу, загадаў:

— Павыцягвай усе, да аднаго!

Саша ўзрадаваўся, што так лёгка адбудзе кару. Але радавацца было рана. Як жа іх выцягнуць. Чым?

— Хоць зубамі,— сярдзіта адказаў бацька і пайшоў у хату.

Саша паспрабаваў захапіць абцугамі плешачкі, падчапіць цвікі большымі цвікамі — дзе там. Нарэшце ён-такі даўмеўся: дастаў са скрынкі долата, і справа пайшла на лад. Падсуне пад плешачку вострае лязо долата, націсне на ручку, і цвік пакажацца над паверхняю дрэва. Цяпер яго можна ўзяць абцугамі.

Калі бацька зноў заглянуў пад паветку, работа была ўжо закончана і інструменты прыбраны.

— Павыцягваў? — ён уважліва агледзеў калодку з усіх бакоў. Цвікоў у ёй не было. Доўга так сядзеў на кукішках і глядзеў то на Сашу, то на калодку, нешта прыкідваючы ў думках. Потым падняўся, падышоў да скрынкі з інструментамі, узяў долата і пачаў разглядаць лязо.

— Так яно і ёсць! Бачыш? — ён тыцнуў долата пад самы Сашаў нос. — Гэта што такое? Вось... вось... і вось... — паказваў ён пальцам на лязо. Уласна кажучы, ляза не было. Яно ўсё выкрышылася і хутчэй нагадвала пілку з вельмі маленькімі зуб'ямі.

— Я пытаюся: што гэта?

— Зазубінкі, — ціха прамовіў Саша, толькі цяпер здагадваючыся, што гэта — справа яго рук.

— Зазубінкі! Вось я скіну з цябе штаны ды дубцом такіх зазубінак нараблю, што век не забудзеш. Пайшоў адсюль!

Пасля таго выпадку бацька забараніў Сашу дакранацца да інструментаў, прывесіў да скрынкі замок, а ключ нанізаў на колца разам з ключамі ад службовага стала і заўсёды насіў пры сабе.

Так было ў дзяцінстве. А цяпер Саша вучыцца ў дзевятым класе. Ён вырас. Іншы раз маці ставіць яго поплеч з бацькам, і аказваецца, што Саша ніжэй за бацьку толькі на якіх два пальцы. За сталом Саша заўважае, што яго рукі хіба толькі крышачку меншыя за бацькавы.

Але Сашу па-ранейшаму нічога не давалі рабіць дома!

— Лепш яшчэ пасядзі ды павучы ўрокі, — казалі яму бацька і маці.

* * *

Дзевяты клас праходзіў вытворчае навучанне на рамонтным заводзе. На першым часе вучні займаліся ў сваёй школьнай майстэрні. Майстэрня была так сабе, але Сашу яна вельмі спадабалася. Амаль на ўсю яе даўжыню стаяў стол, пакрыты бляхай і разгароджаны металічнай сеткай. Па краях стала з абодвух бакоў былі ўстаноўлены слясарныя ціскі. У кутку стаяў стол для выкладчыка, а па баках яго — чатыры станкі, прызначэння якіх Саша не ведаў. Яго ўвагу прыцягнулі шафы, што стаялі ўздоўж сцяны. Калі Дзмітры Іванавіч, выкладчык, адчыніў іх, у Сашы дух заняло. На паліцах быў размешчаны розны інструмент: напільнікі, зубілы, нейкія цыркулі з загнутымі ўнутр ножкамі, нажоўкі і шмат чаго іншага. Здзіўляла, што кожны інструмент быў не ў адным экземпляры, а ў дзесятках. Зусім аднолькавыя, размешчаныя ў ідэальным парадку, яны хвалявалі мусіць перш за ўсё таму, што ўсё жыццё яму забаранялася мець справу з інструментамі.

— Дадуць працаваць імі? — ціха спытаў ён у таварышаў.

Нехта здзіўлена паглядзеў на яго... Нехта засмяяўся. Саша зразумеў, што сказаў глупства, і адвярнуўся, быццам яму захацелася паглядзець на станкі.

Дзмітры Іванавіч пачаў знаёміць вучняў са станкамі. «Такарны... Фрэзерны... Рэвальверны». Для Сашы гэтыя словы былі пазбаўлены ўсякага сэнсу. Ён з зайздрасцю паглядзеў на сваіх таварышаў, якія абменьваліся кароткімі заўвагамі:

— Ладны станочак! — гаварыў Валуеў, пагладжваючы шырокай далонню нейкую жалезную махіну. — Галоўнае — даўгавечны. На ім нашы продкі яшчэ ў каменным веку рабілі сабе сякеры...

— А ты думаў, што скнара Дзятлаў табе новы дасць?..



Дзятлаў — гэта дырэктар завода, які памагаў абсталяваць школьную майстэрню.

— Будзем працаваць і на новых станках, — паабяцаў Дзмітры Іванавіч.

Так пачаліся заняткі па вытворчаму навучанню. Нечага і казаць, што Саша быў самы адсталы ў групе. Бацькі многіх вучняў працавалі на рамонтным заводзе, і выходзіла неяк так, што дзеці былі ў курсе ўсіх спраў. Здаралася, што дзеці прыносілі бацькам на завод абед. Улучыўшы хвіліну, калі на іх ніхто не глядзеў, яны спраўляліся крутнуць якую-небудзь ручку... Цяпер у агульных рысах яны ведалі заводскае абсталяванне. Акрамя таго, у многіх дома быў слясарны інструмент, якім яны заўсёды карысталіся. Натуральна, што ў такіх вучняў справы ішлі значна лепш, чым у Сашы. Саша ж адчуваў сваю поўную бездапаможнасць, і ў яго пачынала расці непрыхільнасць да бацькі. На самай справе, гэта ён, забараняючы Сашу працаваць, зрабіў з яго ледзь не пасмешышча для ўсяго класа. Вечна — урокі ды ўрокі. Другія ж не сохлі так над урокамі, а вучацца не горш за яго. Калі ў яго што-небудзь не выходзіла і таварышы то пацяшаліся з яго, то лезлі з парадамі, Саша адчуваў, што ў яго душы расце нейкая варожасць да бацькі і да ўсяго таго парадку, які трымаў яго ў няволі ўсе гэтыя гады. Але дзіўная справа: як толькі ён прыходзіў дадому, ад яго маўклівага пратэсту не заставалася і следу. Ён зноў без канца зубрыў урокі, разгублена стаяў перад бацькам, моўчкі падбіраў з падлогі падручнікі, якія шпурляў у злосці бацька.

Неяк у час перапынку Дзмітры Іванавіч сказаў, паказваючы на Сашу:

— А з яго будзе талковы слесар.

— ??

— Жаданне і настойлівасці ў яго хапае. Ды і кемлівасць ёсць.

Невядома, чаму ён так сказаў. Можа сапраўды так думаў, а можа проста хацеў падбадзёрыць Сашу, падтрымаць яго рэпутацыю сярод таварышаў. Але як бы там ні было, Сашу гэта вельмі ўзрадавала. У яго грудзях нешта соладка заныла, гарачая хваля прыхлынула да твару, да вачэй. Здаравяка-дзяцюк, вучань дзевятага класа, ён ледзь стрымліваўся, каб не заплакаць. Гэта была першая пахвала за ўсе доўгія гады яго вучобы.

Відаць, нейкая доля праўды ў словах Дзмітрыя Іванавіча ўсё ж такі была. Ва ўсякім разе, першую навуку ў слясарнай справе Саша асвоіў даволі хутка. Правільная стойка за слясарнымі ціскамі далася неяк сама сабою. Са слясарнымі інструментамі хлопец таксама навучыўся абыходзіцца даволі ўмела. Калі хочаш, каб паверхня дэталі, якую ты апрацоўваеш, атрымалася роўнай, то вельмі хутка зразумееш, што напільнік у тваіх руках павінен хадзіць роўна, не задзіраючыся ўгору і не даючы нырца. Тут толькі змяняй сілу націскання рукі на канцы напільніка. Напільнік — гэта плечы рычага. Падасі яго ўперад, павялічыцца пляча рычага — слабей націскай рукой, калі хочаш, каб ён ішоў роўна, а не нырнуў уніз і не сапсаваў дэталь. Некалі яны вывучалі гэтыя рычагі на ўроках фізікі. Дома Саша старанна зубрыў падручнік, заплюшчыўшы вочы, пераказваў «сваімі словамі», і якім цяжкім здавалася яму ўсё гэта! А выходзіць, што гэта так проста! Хутка Саша ўжо ведаў усе інструменты і карыстаўся імі гэтак жа, як і ўсе астатнія вучні.

Станкі, што стаялі ў школьнай майстэрні, складанымі здаваліся толькі з першага позірку. Але калі Саша прыгледзеўся, як Дзмітры Іванавіч на свідравальным станку прасвідраваў дзве адтуліны, калі

з дапамогай выкладчыка сам прасвідраваў некалькі адтулін, гэты станок адкрыўся для яго і стаў простым і зразумелым, як, скажам, піла ці сякера. Гэта ж можна сказаць і пра іншыя станкі.

Да канца першага паўгоддзя Саша дагнаў сваіх таварышаў, і Дзмітры Іванавіч, зачытваючы паўгадавыя адзнакі, пасля Сашынага прозвішча неяк асабліва ўрачыста (ці можа яму так здалося) прамовіў: пяць! Між іншым, на вучняў гэта не зрабіла ніякага ўражання: яны ўжо звыкліся з думкай, што па вытворчаму навучанню справы ў Сашы ідуць нядрэнна.

Нельга сказаць, што тут, у слясарнай майстэрні, Саша адразу знайшоў сябе, сваё прызванне. У звычайнага чалавека, чалавека сярэдніх здольнасцей, наўрад ці ёсць ярка выражанае імкненне да якога-небудзь аднаго пэўнага занятку. У такіх выпадках выбар прафесіі, відаць, вызначаецца многімі чыста выпадковымі абставінамі. Дапусцім, што вытворчае навучанне ў школе пайшло б па лініі вывучэння такарнай або сталярнай справы. Напэўна, гэтыя спецыяльнасці Саша вывучаў бы з такою ж стараннасцю і настойлівасцю. Але несумненна адно: у працэсе вытворчага навучання ён знайшоў прымяненне свайму імкненню да працы, да практычнай дзейнасці, знайшоў самога сябе не ў сэнсе схільнасці да той ці іншай прафесіі, а ў агульным псіхалагічным плане.

Перад зімовымі канікуламі вучні атрымалі табелі паспяховасці. Сашаў табель, як і раней, быў запоўнены тройкамі, дзе-нідзе пракідаліся чацвёркі. Толькі па вытворчаму навучанню стаяла адна-аднюсенькая пяцёрка, акрамя, вядома, пяцёркі па паводзінах.

Саша быў болей-меней задаволены сваімі поспехамі. Праўда, пасрэдныя адзнакі па ўсіх астатніх прадметах не выклікалі асаблівай радасці, але гэта было справай звыклай, бо паўтаралася з чвэрці ў чвэрць, з году ў год. Пяцёрка ж па вытворчаму навучанню — гэта ўжо нешта новае, раднаснае. І справа была не толькі ў гэтай пяцёрцы. Яму прыемна было думаць, што ён добра папрацаваў, што яго стараннасць ацаніў Дзмітры Іванавіч, што ён зусім не горшы за ўсіх астатніх.

Вечарам Саша, хаваючы задаволеную ўсмешку, паказаў табель бацьку. Той прагледзеў адзнакі, распісаўся і адклаў яго ў бок:

— Усё тое ж. Амаль адны тройкі, — паныла загаварыў ён, звяртаючыся да маці. Да Сашы ён не абазваўся, даючы гэтым зразумець, што ў размове з ім па пытаннях вучобы ўсе довады вычарпаны і, на жаль, без ніякага поспеху.

— Чаму ж, ёсць і пяцёрка, — заступілася за Сашу маці.

— Па слясарнай справе? Гэтая пяцёрка ў інстытут паступіць не паможа, а аддаваць свайго сына ў слесары, як табе вядома, я не збіраюся.

Саша моўчкі ўзяў табель і паклаў яго ў дзённік. Радасць яго была засмучана.

* * *

Той, хто абдумваў і арганізоўваў вытворчае навучанне ў школе, вельмі правільна вырашыў, што першапачатковае азнаямленне з агульнымі прынцыпамі слясарных работ трэба праводзіць не на вытворчасці, а ў школьных майстэрнях.

Як бы выглядалі вучні на рамонтным заводзе, сярод кваліфікаваных рабочых, сярод даволі складаных станкоў са сваёй элементарнай тэхнічнай непісьменнасцю? На іх глядзелі б, як на зявак, якім не месца там, дзе людзі працуюць. Гэта — калі гаварыць пра псіхалагічны бок справы. А ёсць і другі, чыста практычны бок. Не маючы адпаведнай першапачатковай падрыхтоўкі, яны сталі б лішнім цяжарам для прадпрыемства, вымушанага цацкацца з дзецьмі, наладжваць вучнёўства.

Цяпер усё абстаяла інакш. У пачатку другога паўгоддзя дзевяцікласнікі, у нейкай меры падрыхтаваныя, апранутыя ў зусім новенькія камбінезоны, купленыя для іх школай, па гудку прыйшлі на завод. Тут яны занялі выдзеленыя для іх рабочыя месцы і, не трацячы ніводнай хвіліны рабочага часу, незвычайна сур'ёзныя і руплівыя, прыступілі да работы.

Нехта грунтоўна прадумаў і характар іх першага вытворчага задання. У цэхах завода вырабляліся дэталі аўтапаілак для калгасных жывёлагадоўчых ферм. Вучні павінны былі збіраць аўтапаілкі, падганяць дэталь да дэталі. Іншы раз патрабавалася і дадатковая апрацоўка той ці іншай дэталі.

Працэс зборкі быў нескладаны. Падгонка дэталей і іх дадатковая апрацоўка зводзіліся да простых, элементарных працэсаў работы слесара. Так што ў вучняў адразу справы пайшлі на лад. Яны адчувалі сябе не бездапаможнымі няўмекамі, а раўнапраўнымі членамі вялікага рабочага калектыву. Праз пару тыдняў яны растрацілі сваю незвычайную ўрачыстасць, напружанасць, скаванасць, з якою прыйшлі на завод. Нават іх камбінезоны страцілі сваю чысціню і акуратнасць, якая спачатку неяк бянтэжыла, і сталі ільсніцца гэтак жа, як і ў іншых рабочых завода.

Зразумела, што прадукцыйнасць працы вучняў была не вельмі высокая. Для высокай прадукцыйнасці, апрача ведаў, патрэбны яшчэ і навык, спрыт, а гэта даецца не адразу. Але Дзмітры Іванавіч пакуль і не націскаў на гэты бок справы. Ён патрабаваў толькі высокай якасці і захавання ўсіх правіл працэсу слясарных работ.

Іншы раз да вучняў падыходзілі кадравыя рабочыя. Падыдзе, моўчкі возьме сабраную аўтапаілку, агледзіць яе з усіх бакоў, некалькі разоў націсне рычажок, які ўключае і выключае ваду.

— Парадак! — скажа спакойна і пойдзе да свайго станка.

З дазволу Дзмітрыя Іванавіча дзевяцікласнікі іншы раз аглядалі цэхі завода. Завод быў невялікі, але добра абсталяваны. Сярод рабочых многа людзей высокай вытворчай кваліфікацыі, і хлопчыкі з затоенай зайздрасцю прыглядаліся да іх работы. Здавалася вельмі дзіўным, што большасць з іх некалькі гадоў хадзіла ў школу міма сцен гэтага завода, нават і не здагадваючыся, якое складанае і цікавае жыццё кіпіць за гэтымі сценамі.

У абедзенны перапынак вучні, як і ўсе рабочыя, ішлі мыцца ў маленькі цесны пакойчык. Пасярэдзіне яго, на ўсю даўжыню сцен, стаяў вялізны стары рукамыйнік.

— Якое ўбоства! — гаварыў Валуеў, абтрасаючы мокрыя рукі, якія не было чым выцерці. — Час ужо замяніць гэтае дагістарычнае страшылішча сапраўдным душам...

Абедаць садзіліся тут жа, у цэху, ля станкоў. Елі, хто што прынёс з дому. Дзевяцікласнікі перагаварваліся між сабой:

— Няўжо нельга арганізаваць сталоўку? Чыстую, светлую, з белымі абрусамі, з кветкамі. Каб рабочыя не насілі абеды ў газетах і кашолках...

Валуеў, у якога ўвайшло ў звычай гаварыць іранічна-напышліва, звяртаўся да маладзейшых рабочых:

— Вы што-небудзь чулі пра так званы насценны друк? І ці існуе ў вас такі?

Потым вучні даведаліся, што насценны друк на заводзе ўсё-такі існуе. У маленькім цёмным канторскім калідоры яны знайшлі агульназаводскую насценгазету. Спытаўшы ў прафкоме дазволу, у адзін з абедзенных перапынкаў яны вывалаклі стэнд на вуліцу, выцерлі пыл. На ўсю даўжыню газетнага ліста вялікімі літарамі ад рукі было напісана: «Няхай жыве 1-ае Мая». Амаль усю газету займаў перадавы артыкул пра міжнароднае свята працоўных. На апошняй калонцы была намалявана паштовая скрынка амаль не ў натуральную велічыню, а пад ёю — надпіс: «Таварышы! Падавайце заметкі ў насценгазету!»

— Выключна надзённы орган! — іранізаваў Валуеў, злосна бліскаючы вачамі. — Хто ж тыя таварышы, якія так добрасумленна і творча аднесліся да свайго грамадскага даручэння? У мяне вялікае жаданне бліжэй пазнаёміцца з імі.

Таварышаў гэтых адшукалі і прапанавалі ім сваю дапамогу. Тыя ахвотна згадзіліся.

Рэдактар насценнай газеты, які працаваў у канторы, успомніў, што ў яго стале ляжыць некалькі заметак, пададзеных з месяц таму назад. Дзевяцікласнікі пазнаёміліся з гэтымі заметкамі і знайшлі ў іх шмат цікавых фактаў.

І вось у чырвоным кутку сабраліся члены рэдкалегіі. Прыйшлі і Саша з Валуевым, на правах памочнікаў. Валуеў, як запраўскі рэдактар, крэсліў заметкі чырвоным алоўкам, выпраўляў іх, а потым звяртаўся да членаў рэдкалегіі:

— Вось паслухайце... У такой рэдакцыі — пойдзе?

Дайшла чарга да перадавога артыкула, які напісаў рэдактар. Гэта быў салідны рукапіс на чатырох аркушах, аддрукаваных на машынцы.

— Мы яго трошкі падкароцім,— ветліва сказаў Валуеў і пачаў выкрэсліваць цэлыя старонкі.

Рэдактар запратэставаў:

— Тут жа амаль нічога не засталося!

— Сцісласць — сястра таленту, — абараняўся Валуеў. — Ведаеце, як пісалі класікі? Каб словам было цесна, а думкам — прасторна.

Але рэдактар не хацеў пісаць так, як пісалі класікі, і патрабаваў, каб артыкул ішоў без паправак.

Першы нумар нараджаўся, як кажуць, у пакутах. Саша ўпрасіў школьных мастакоў намаляваць некалькі карыкатур на тэмы з заводскага жыцця. Газета атрымалася цікавая, баявая. Сярод рабочых было многа размоў, смеху; былі і пагрозы скардзіцца «вышэй».

У школе да Сашы падышоў адзін з дзевяцікласнікаў.

— У насценнай газеце крытыкавалі токараў за дрэнную работу. Токар з вячэрняй змены расказваў мне, што ў іхнім цэху слабае асвятленне. Трэба было б праверыць. Ёсць жа нейкія нормы асветленасці.

Вечарам, падрыхтаваўшы ўрокі, Саша перагартаў падручнік фізікі, знайшоў нормы асветленасці і выпісаў іх у блакнот. Потым некалькі разоў перачытаў тое месца, дзе гаварылася, як устанавіць сілу асветленасці. Разабраўся ён і ў формуле, прыведзенай у падручніку, якую, дарэчы сказаць, у школе яшчэ не разбіралі.

Назаўтра яны з Валуевым вымералі рабочую плошчу на некалькіх такарных станках, устанавілі па лямпачках сілу крыніцы святла, вымералі адлегласць ад лямпачак да месца работы і вугал конуса рэфлектара. Потым зрабілі вылічэнні. Асветленасць рабочага месца вагалася ад дваццаці пяці да трыццаці люкс. Па нормах асветленасці гэтага было мала нават у тым выпадку, калі токары рабілі грубую апрацоўку металу. А яны ж займаліся і сярэдняй, і тонкай апрацоўкай дэталяў.





У такіх выпадках па нормах асветленасці прадугледжвалася да ста люкс.

Валуеў узгарэўся:

— Хадзем да дырэктара!

Праз два дні на заводзе пачалася перабудова асвятлення. Начальнік цэха хадзіў злосны: яму добра нагарэла за гэты недагляд. Праходзячы па цэху, ён скоса паглядаў на вучняў, а потым не вытрымаў і падышоў да іх.

— Хто гэта ў вас тут такі разумнік, што ўмее і разлікі рабіць і начальству дакладваць?

Саша адчуваў, што гэта датычыць і яго, але не мог знайсці, што адказаць. Затое Валуеў, ступіўшы ўперад і прыжмурыўшы светлыя вочы, цвёрда і неяк з выклікам сказаў:

— Перад вамі — адзін з такіх разумнікаў. Якія будуць пытанні?

Начальнік цэха збянтэжыўся ад такога тону, але тут жа ўскіпеў:

— Ты як размаўляеш са старэйшымі! Хлапчук!

— А вы не крычыце на мяне, я вам не Ванька Жукаў!

Начальнік цэха, злосна бліснуўшы на хлопца вачамі, пайшоў, а той усё яшчэ стаяў у напружанай позе, нахмурыўшы светлыя бровы.

— Ну, ведаеш, не тое ты гаворыш... Усё ж такі ён — начальнік цэха, камандзір вытворчасці, — папракнуў нехта з вучняў.

З твару Валуева знікла штучная фанабэрыстая самаўпэўненасць, ён стаў усхваляваны і злосны.

— А як ён з намі размаўляе? Мы яму што — хлапчукі з вуліцы? Мы тут такія ж гаспадары, як і ён. Няхай не забывае.

Саша з захапленнем глядзеў на Валуева. Яму падабалася гэтая ўпэўненасць, самастойнасць, якой ў яго самога пакуль што не было.

* * *

І вось ужо заканчваўся гэты некалькі незвычайны навучальны год. Па некаторых прадметах вывелі гадавыя адзнакі. Вельмі ўзрадавала Сашу пяцёрка па фізіцы. Пасля гісторыі з нормамі асветленасці на заводзе выкладчык фізікі пачаў неяк асабліва ўважліва прыглядацца да дзевяцікласнікаў. Ён і сам стаў часта наведвацца на завод, знаёміцца з яго абсталяваннем. Цяпер, тлумачачы той ці іншы раздзел з падручніка, ён прыводзіў прыклады з заводскае практыкі, і вучням гэта было зразумела, цікава і лёгка запаміналася. У канцы года хлопчыкі з дзевятага класа амаль усе мелі пяцёркі па фізіцы. Ва ўсіх былі пяцёркі па чарчэнню, таму што працавалі яны многа і старанна, робячы чарцяжы тых дэталей, якія потым выраблялiся ў школьнай майстэрні або на заводзе.

У Сашавым табелі таксама пагусцела чацвёрак і пяцёрак. А для яго гэта вельмі і вельмі важна — важней, чым для кожнага іншага хлопчыка з дзевятага класа.

У апошнія дні заняткаў урокі вытворчага навучання праводзіліся ў школьнай майстэрні. Дзмітры Іванавіч вырашыў правесці нешта накшталт кантрольнай работы. У пачатку ўрока ён раздаў вучням чарцяжы звычайнага гаечнага ключа і прапанаваў зрабіць яго на працягу двух заняткаў. І тут Сашу прыйшла адна думка, якой ён, тоячы ад усіх свае дамашнія непрыемнасці, ні з кім не падзяліўся. Ён толькі запытаўся ў Дзмітрыя Іванавіча:

— А можна зрабіць ключ другога фармату?

— Накідайце эскіз, я пагляджу.

Саша зрабіў эскіз, потым, атрымаўшы згоду Дзмітрыя Іванавіча, узяўся за работу.

Здаецца, яшчэ ніколі не працаваў ён з такой ахвотай і стараннасцю. У адрозненне ад агульнага задання свой ключ ён рабіў двухбаковым, прыгодным для работы з гайкамі двух размераў. Грані стрыжня зрабіў закругленыя. Амаль па ўсёй даўжыні абодвух плоскасцей выбраў на фрэзерным станку шырокія авальныя канаўкі. Увесь астатні час, карыстаючыся то напільнікам, то наждачнай паперай, дабіваўся высокай чысціні апрацоўкі.

Ключ атрымаўся на славу. Прыгожы па форме, з фігурнай аздобай, ён так і прасіўся ў рукі. Кожны вучань не стрымаўся ад спакусы ўзяць яго і зрабіць некалькі рухаў, нібыта завінчваючы гайку.

Усхваляваны ўдачай, Саша стаяў каля свайго ключа і збянтэжана ўсміхаўся. Дзмітры Іванавіч і вучні не скупіліся на пахвалу.

— На выстаўку,— было аднадушнае рашэнне.

На працягу ўсяго навучальнага года дзевяцікласнікі адбіралі самыя лепшыя работы, каб у канцы года арганізаваць выстаўку. Стэнд быў ужо амаль запоўнены, і Сашаваму ключу належала заняць пачэснае месца сярод экспанатаў.

Пачуўшы пра выстаўку, Саша перастаў усміхацца. Яшчэ невядома, што скажа на ўсё гэта бацька...

— Дзмітры Іванавіч, дазвольце ўзяць ключ дадому...

Дзевяцікласнікі паразяўлялі раты ад здзіўлення. Дзмітры Іванавіч таксама здзіўлена паглядзеў на Сашу.

— Дадому? Навошта?

Саша маўчаў. Маўчаў і ўвесь клас.

Пасля працяглага і нясцерпна пакутлівага маўчання Валуеў падышоў да Сашы і з'едліва запытаў:

— Ты што, можа рамонтную майстэрню адкрыць хочаш?.. Для выканання індывідуальных заказаў?..

Саша паглядзеў яму ў вочы: у іх гарэлі халодныя агеньчыкі пагарды. Сашу стала балюча і крыўдна, але ён па-ранейшаму маўчаў.

— А пайшоў ён к чорту! — закрычалі ўсе вучні.— Няхай забірае сваю цацку. Не трэба яна нам!

— Ну што ж, ніхто не пярэчыць. Бярыце,— сказаў Дзмітры Іванавіч, не гледзячы на Сашу.

Саша дрыжачымі рукамі ўзяў ключ, ужо некім любоўна змазаны і загорнуты ў паперу, як экспанат выстаўкі, і стаяў, апусціўшы галаву, не маючы сіл глядзець на таварышаў.

— Дазвольце мне ісці? — спытаўся ён Дзмітрыя Іванавіча.

— Ідзіце.

Саша выйшаў з майстэрні, пакідаючы за сваёю спіной прыгнечанае, цяжкае маўчанне.

Дадому ён прыйшоў рана, і чакаць бацьку з работы прыйшлося даволі доўга. Ён сланяўся з кутка ў куток па хаце, па двары і беспераставку паглядваў на гадзіннік. Маці загаварыла была з ім, але ўбачыўшы, што ён абзываецца на яе словы неахвотна, адступілася ад яго і толькі час ад часу кідала ў бок сына дапытлівы позірк.

Але вось нарэшце бразнула клямка ў браме. Саша, схапіўшы ў адну руку табель, а ў другую ключ і схаваўшы абедзве рукі за спіну, выйшаў насустрач бацьку. Сустрэліся яны каля ганка. Саша адчуваў, як сэрца яго моцна закалацілася, у роце перасохла, а твар скрывіўся ў збянтэжанай, ненатуральнай усмешцы. Хрыплым ад хвалявання голасам ён прамовіў:

— Тата!..

І адчуў, што больш не зможа сказаць ніводнага слова. Тады ён, усё гэтак жа ўсміхаючыся, моўчкі падаў бацьку табель.

Бацька ўзяў табель і пачаў разглядаць. Саша сачыў за выразам яго твару і бачыў усё тую ж кіслую ўсмешку, якая заўсёды з'яўлялася ў яго, калі ён браў у рукі Сашаў табель.

— Ну што ж! Крыху лепш, вядома, але... Цяпер без медаля ў інстытут не паступіш, а ў цябе да медаля — як ад зямлі да неба.

Ён хацеў прайсці, але Саша стаяў у яго на дарозе ўсё з тою ж нямёкай ўсмешкай і ўсё гэтак жа не мог нічога сказаць. Моўчкі ён падаў бацьку ключ і ўсё глядзеў і глядзеў яму ў твар.

— Што гэта? Адкуль гэты ключ?

— Я зрабіў,— сказаў Саша нейкім дзіўным, чужым голасам.

— Ты зрабіў? А навошта ён табе?

— Так... проста...— прамармытаў Саша, адчуваючы, што зацея парадаваць бацьку разлятаецца ўшчэнт. Яго ахапіла роспач.

— Вось чым сынок абрадаваў! — горка прамовіў бацька, і Саша бачыў, што яму сапраўды балюча. Але жаласці да яго не было. Нешта ха-



лоднае і жорсткае варухнулася ў Сашавай душы. Ён перастаў усміхацца і глядзеў на бацьку, цвёрда сціснуўшы вусны.

— Ты думаеш, мне гэта трэба?.. Каб ты вось гэтым глупствам займаўся? Думаеш — трэба?

І, як звычайна, ужо не стрымліваючы свайго гневу, закрычаў:

— Колькі ты часу патраціў на гэтую дрэнь, на гэтую...

Ён з нянавісцю зірнуў на ключ і раптам размахнуўся, каб кінуць яго на сметнік.

Цяжка сказаць, што зрабілася з Сашам, куды падзелася яго звычайная пакорлівасць. Ступіўшы крок уперад, ён апынуўся побач з бацькам, перахапіў яго адкінутую руку і сціснуў яе з усёю сваёю сілай. Нейкую долю секунды яны стаялі адзін супраць другога, задыханыя, усхваляваныя. Здзіўлена і гнеўна глядзеў на сына бацька, але Сашу здавалася, што ў яго позірку з'явілася нешта такое, чаго ў ім раней не было: разгубленасць і бездапаможнасць. А ў Сашавых вачах гарэла такая крыўда і такая рашучасць, што бацька на момант сумеўся. Яго рука, сціснутая моцнымі пальцамі Сашы, неяк абмякла, і ключ упаў на зямлю. Адшліфаваны да бляску, густа змазаны, ён пакрыўся пяском і пылам, і Сашы было балюча глядзець на яго.

Саша выпусціў бацькаву руку. На запясці бялеліся белыя палосы — сляды яго пальцаў. У той жа момант бацька замахнуўся, і Сашыну шчаку апёк востры боль. Галава хлопца адкінулася назад, ды і сам ён неяк перагнуўся, але ўтрымаўся на нагах. Схапіўшыся за шчаку, ён стаяў, як аглушаны громам. Скрозь нейкі туман бачыў, як бацька, па-старэчаму стуліўшы плечы і заграбаючы нагамі, узышоў на ганак. Ён знік за дзвярамі, а Саша ўсё яшчэ стаяў, прыцiснуўшы да шчакі далонь, скрывіўшы твар ад вялікага ўнутранага болю.

Потым ён, гнаны ўсё тым жа нясцерпным болем, хутка пайшоў з двара. Ён не ведаў, куды яму ісці, але ішоў усё шпарчэй і шпарчэй, быццам хацеў уцячы ад таго, што здарылася.

Мінаваўшы цэнтр гарадка, Саша ішоў па ўскраінных вулачках з маленькімі драўлянымі домікамі, садкамі і агародамі. Закончыліся і гэтыя вулачкі, а ён усё ішоў і ішоў. І вось з-за кустоў бліснула рэчка. Расхінаючы галіны рукамі, Саша забраўся ў самы гушчар, схаваўшыся ад усяго свету, ён упаў на зямлю і заплакаў па-мужчынску цяжка, наўзрыд.

Потым знясілены ад слёз, ён сядзеў і думаў, што яму цяпер рабіць. Вярнуцца дадому ён не мог. Цяпер ён нават не дапускаў такой думкі. Усё, што трымалася гадамі — і гэтая вечная духоўная прыгнечанасць, і думкі аб тым, што ён ні на што не здатны, якія, самі таго не жадаючы, убілі ў яго галаву бацькі, перш чым ён сам зразумеў што-небудзь у сабе і ў жыцці,— усё гэта цяпер рухнула. Ён ужо не зможа жыць так, як жыў да гэтага часу. І разам з тым, пякла думка, што ў яго няма больш дому, што бацька і маці, гэтыя, нягледзячы ні на што, самыя блізкія яму людзі, ужо не самыя блізкія. Адарваныя ад сэрца, яны пакінулі рану і боль, ад якога ён проста задыхаўся і які, ён гэта адчуваў, ніколі не сціхне. Яму здавалася, што ён бачыць перад сабою чорнае папялішча, дзе згарэла ўсё тое, што акружала яго ў бязрадасным дзяцінстве.



* * *

Дзень заканчэння дзевятага класа і такі горкі дзень у яго жыцці — прайшоў. Зайшло сонца, адпалыхала зара. А ён, седзячы ў пацямнелых кустах і дрыжучы ад вячэрняе свежасці, шаптаў адно і тое ж:

— Што ж мне рабіць? Што рабіць?..

І ў памяці адзін за другім паплылі дні, праведзеныя з сябрамі на заводзе, а ў душы пацяплела ад усведамлення адчутай там радасці карыснай працы.

Пераклад з рускай мовы.





Раман **ТАРМОЛА**.

## ПТУШКІ ЛЯЦЯЦЬ



Птушкі ляцяць, на радзіму ляцяць
Чорныя,
шэрыя,
белыя-белыя...
Крыллі натруджаны, лапкі знямелыя—
Птушкі дадому ляцяць.

Дзюбай галінкі нясмела кратаюць,
Слаба прабуюць свае галасы.
Быццам прад некім яны вінаватыя,
Што пакідалі палі і лясы.

Быццам не дома, а ў госці
запрошаны,
Быццам спяваць не умеюць...
Што вы, прыгожыя?
Што вы, харошыя?
Вас мы ва ўсім разумеем...

Песні заводзьце з першымі
промнямі,



Лётайце,
гнёзды віце.
І на наступную весну — помніце:
Толькі дадому ляціце.

## НА ВЯСЕЛЛІ



Ну, нарэшце, з хлапцом яго зорка!
І гукаюць ім шчырае «горка»,
І сілкуюцца ўсе пачастункамі,
Ім даводзіцца больш —
пацалункамі...

Быць жанатым — справа нялёгкая,
Калі сцежкі клічуць далёкія,
Калі там, дзе стэпы шырокія,
Шчасце рэхам ужо галёкае...

Калі маці — і тая бясконца
Шэпча Леначчы, яго жонцы:
— Адвучы ад дарог ты Алёшку —
Няхай дома пабудзе хоць трошкі.

Колькі год ён ужо валочыцца...
Мама... Мама... Заўжды ёй
хочацца,
Каб пры доме былі ўсе дзеці.
Іх жа носіць па белым свеце.

І не знае яна, старэнькая,
Што ў змове Алёшка з Аленкаю.
Што ў нявесткі яе таксама
Ёсць такая ж дзівачка-мама.
Што пасля вяселля адразу
На Усход дзеці едуць разам...

## ЧОРНАЯ ГОРКА



Не, ты не бойся стрэціцца
з воўкам —
Лапы ялін там спадаюць ніц.
Чорная Горка — гэта кладоўка
Ягадаў чорных, спелых суніц.

Во, паглядзі, якое багацце:
Пацеркі, пацеркі — больш чым расы.
Чуеш — малога гукае маці,
Чуеш — дзіцячыя галасы.

Сыдзеш убок — не пужайся потым,
Рукі да губ — і мяне гукнеш.
— Не, я не хочу адна... Сціхота...
Не адыходзься далёка лепш.

. . . . . . . . . . .

— Поўны збанок! У цябе таксама?
— Ой, Васілёк, у мяне пусты.
Будзе смяяцца, напэўна, мама,
Скажа: «Ва ўсім гарадская ты»...

Дзіўныя, страшныя ў вас тут назвы,
Толькі мястэчка цудоўнае — Мір.
Чорная Горка, Мёртвая База,
Чортавы Вокны, Гальчын Вір.

— Любая, прыйдзем сюды мы
зноўку,
Сцежкі пазнаем і звон крыніц,
Чорную Горку — гэту кладоўку
Ягадаў чорных, спелых суніц.

* * *


ячэцца бульба ў полі — спёка.
Ручэй, бы цень, бяжыць маўкліва.
Галіны дрэваў, што ў аблоках,
Глядзяць панура і санліва.

А збажына, узняўшы голаў,
Глядзіць на сонца зернем ліпкім,
Траскочуць конікі наўкола,
І колас грае першай скрыпкай...

*Дарогамі сямігодкі*

**Аляксандр АЗАРАЎ**

# ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ВАРАЦЬ СТАЛЬ

**Запіскі сталявара**

Фота А. Дзітлава.

Іншы раз нахлынуць успаміны. І да драбніц прыгадваюцца шмат якія падзеі, паўстаюць жывыя, непаўторныя малюнкі нашага рабочага жыцця.

Не буду забірацца, як кажуць, у далёкую гісторыю нашага трактарнага завода, хоць яна амаль што ўся прайшла на маіх вачах: я каля дзесяці год працую ў сталеліцейным цэху. Прыйшоў я на завод маладым хлопцам, а сёння — у мяне ўжо і свая сям'я, і ў цэху свае вучні, з якімі крочым у адным страі і якія іншы раз называюць нас ужо старымі...

Раскажу пра адзін сход, які з'явіўся важнай, яркай вехай у нашым жыцці, у жыцці згуртаванага калектыву плавільнага ўчастка. Гэта быў памятны сход, прысвечаны абмеркаванню сацыялістычных абавязацельстваў у гонар XXII з'езда КПСС. Такія сходы ў нас,

**Перад заканчэннем плаўкі. Сталявар Лявон Бондар ля печы.**



вядома, былі і раней. Але цяпер, здавалася, звычайнае пытанне было асветлена новым, яркім святлом рабочай ініцыятывы. Яшчэ загадзя, да сходу, мы самі абмеркавалі абавязацельствы, што меліся браць: іх абмеркавалі папярэдне і на сходзе партыйнай групы, разам з камсамольцамі.

Між іншым, у нашай соцумове з'явіўся зусім новы пункт, які павінен быў неяк па-інакшаму асвятліць наша жыццё: мы падмеліся ўсім участкам змагацца за ганаровае, пачэснае званне калектыву камуністычнай працы. Усе сталявары разумелі, што ад нас цяпер спатрэбіцца нешта большае, чым вытворчы план; кожны адразу ў думках прыкінуў: «А ці падрыхтаваны я да таго, каб жыць у камунізме?» Інакш кажучы, кожны, нібы перад вялікай дарогай, правяраў сябе, ці ўсё ён сабраў для такога адказнага і сур'ёзнага паходу. Таму, калі начальнік участка Біндар сказаў: «Хлопцы, абдумайце ўсё як мае быць, сур'ёзна», усе зразумелі, што меў на ўвазе Барыс Зіноўевіч.

Не сакрэт, што ў нас былі выпадкі парушэння дысцыпліны, вытворчай і працоўнай. Здараліся яшчэ спазненні і нават прагулы.

Нашто далёка хадзіць па прыклады. Наш Сяргей Салавей прагуляў адзін дзень, не выйшаў на работу і назаўтра.

Памятаю, на тым сходзе, калі пачалася сур'ёзная гаворка пра змаганне за працу па-новаму, пакамуністычнаму, рабочыя звярнуліся да Салаўя.

— Давай, Сяргей, скажы сваё слова,— пачулася з усіх бакоў.— Ты ж, здаецца, самы малады з прагульшчыкаў...

— Што я вам магу сказаць, таварышы,— зачырванеўся і, глытаючы ад хвалявання словы, загаварыў Сяргей.— Такое здарылася ўпершыню за сем год... Даю слова, больш не будзе... І праз семнаццаць год!..

Сяргей, памаўчаўшы, падышоў да стала, паклаў лісток паперы і сказаў:

— Гэта... маё абавязацельства, асабістае!..

— Вось гэта правільна! Добра! —пачуліся вясёлыя воклічы.

— А ты што нам скажаш, дружа?— позіркі рабочых скіраваліся на Сяргея Ждановіча. — У цябе гэтакія выпадкі здараюцца часцей...

Ждановіч узняўся, утаропіў вочы долу, ледзь чутна прамовіў:

— Не падвяду... Такое болей не паўторыцца!..

— Гэта мы ўжо чулі, калі ты зрабіў два прагулы і праз тваю асобу ўчастак страціў першае месца,— перапыніў яго камуніст Лявон Бондар.

Ждановіч маўчаў. І што ён мог сказаць, калі таварышы перасталі яму верыць. Ён ведаў, што на гэтым сходзе будзе абавязкова ісці гаворка пра яго. Ён, напэўна, думаў, што, як і некалі, на яго насварацца, аб'явяць вымову або, самае большае, пазбавяць прэміі. Але атрымалася інакш: пытанне, як кажуць, стала рубам. Таму, не ведаючы, як выбрацца з такога становішча, Ждановіч маўчаў. Таварышы разумелі, што ў яго робіцца на душы, але цярпліва чакалі.

Нарэшце Фёдар Байкачоў, узняўшыся, крыкнуў у бок Арцюша, які быў за старшыню ў прэзідыуме:

— Давай, Мікола, вядзі сход. Колькі нам у маўчанкі гуляць! Прымем канкрэтнае рашэнне.

— А што ты прапануеш?— у сваю чаргу запытаў Арцюш.

— Будзем прасіць адміністрацыю, каб яго звольнілі з нашага калектыву!..

Гэтага Ждановіч не чакаў. Ён уздрыгнуў, нібы яго выцялі бізуном.

— Не, браткі, толькі не гэта! Пазбаўляйце прэміі, пераводзьце на горшую работу ці яшчэ што, але не звальняйце. Апошні раз прашу — паверце, ніколі больш не давядзецца мяне абгаворваць!

Стаяла напружаная цішыня. І тады зноў голас падаў Лявон Бондар:

— Ну што ж, паверым яму яшчэ адзін раз?..

— Паверым,— згадзіліся рабочыя.

І нехта з грамады дадаў:

— Бяром цябе, Сяргей, на парукі. Калі яшчэ такое здарыцца, улічы, што зганьбіш усіх нас.



На тым сходзе былі прыняты таксама і індывідуальныя абавязацельствы, якія з'явіліся важным крокам у змаганні за сямігодку ўсяго завода.

Яшчэ ў канцы мінулага года я ўнёс прапанову разгарнуць барацьбу за штодзённае перакрыццё праектна-пашпартных магутнасцей абсталявання. Але сталявары не праявілі дастатковай актыўнасці і настойлівасці, ды і партыйная, прафсаюзная, камсамольская арганізацыі цэха аднесліся да гэтага абыякава. Пачын развіваўся слаба. Нават аб тых выніках, якіх дасягнулі асобныя сталявары, амаль ніхто не ведаў. Пасля студзеньскага Пленума ЦК КПСС, калі кожны сталявар узяў абавязак штодзённа перакрываць праектныя магутнасці печаў на 1,5—2 тоны, гэтае спаборніцтва прыняло зусім іншы характар. Апрача таго, участак пачаў змаганне за званне калектыву камуністычнай працы, і кожны сталявар, кожны падручны зразумелі, што цяпер важныя не толькі тваё асабістыя поспехі. Цяпер кожнага турбавала і тое, як працуе твой сусед, твой таварыш. Увасходзіў у практыку, станавіўся нормай новы дэвіз: «Працуеш сам добра — памажы таварышу».

Аднойчы, гэта было ў пачатку года, у Івана Кісялёва паламаліся адразу два электроды. Сталявар і яго падручны Аляксей Бельскі пачалі іх выцягваць з печы. Выцягнуць паламаныя, да бяла распаленыя электроды і накруціць новыя — самая непрыемная і цяжкая работа ў нашай сталяварскай справе.

Адчуваючы, што Кісялёў можа затрымацца з плаўкай, Фёдар Байкачоў наважыў памагчы яму, але калі падышоў і пачаў памагаць, той сказаў:

— Ведаеш, Федзя, не турбуйся, раней, як праз паўгадзіны, печ мы не ўключым. Ідзі і лепей паднацісні ля сваёй печы, бо можа здарыцца разрыў між плаўкамі.

Падумаўшы, ён дадаў:

— Захапі Бельскага, удваіх хутчэй.



**Сталь варыцца. На вахце — сталявар Леанід Пармон.**

— А ты як жа?— запытаў Байкачоў.

— А я адзін тут спраўлюся.

— Ідзі, ідзі, Алёша, а я тут памагу Івану,— пачуўшы іх размову, падышоў сталявар Бондар.

— Што ж, хадзем, Алёша, паднацiснем, — весела прагаварыў Фёдар, крануўшы сябра за плячо.

Калі на разлівачным стэндзе заліўшчыкі канчалі разліў папярэдняй плаўкі, да печы Фёдара Байкачова падалі коўш. Праз дзветры хвіліны з печы вырваўся вогненны струмень металу і паліўся ў коўш. Байкачоў і Бельскі паспелі. К гэтаму часу згатавалася і печ Кісялёва. Участак перавыканаў зменнае заданне.

У апошні час на ўчастку стала правілам — збірацца разы два-

тры на тыдні. Сталявары, заліўшчыкі і каўшавыя заставаліся на якую паўгадзіну і абмяркоўвалі, што зроблена за мінулыя дні. Незалежна, добра ці дрэнна змена працавала, людзі ўсё роўна збіраюцца. І, між іншым, ахвотна. На гэтых непрацяглых сходах-лятучках аналізуецца работа змены, брыгад і асобных рабочых.

Гэта ўжо штосьці новае. Раней на сход прыходзіла толькі палова ўсяго калектыву. Памятаю, у першай палавіне 1959 года цэх з месяца ў месяц не выконваў план. Мы збіраліся, адзін на аднаго крычалі (не памагалі, а крычалі!), а ўсё заставалася па-ранейшаму. Па ўсёй краіне шырылася спаборніцтва за датэрміновае выкананне сямігодкі, за званне ўдарнікаў і калектываў камуністычнай працы. Кожны дзень газеты паведамлялі: там выканалі, там перавыканалі... А ў нас у цэху? Толькі за месяц недадалі каля 900 тон сталёвага ліцця. Гэта азначае, што на палі не выйдзе каля 300 трактараў. Усе ўстрывожыліся: трэба нешта рабіць.

— Што будзем рабіць? — запытаў неяк у мяне Фёдар Байкачоў. — Можа ў партком завода сходзім?..

На другі дзень, пасля начной змены, я пайшоў у партком. Сакратар парткома ўважліва выслухаў мяне і паабяцаў у бліжэйшыя дні правесці ў цэху нараду інжынерна-тэхнічных работнікаў з удзелам рабочых, а таксама запрасіць на нараду дырэктара завода.

У цэх прыйшлі амаль усе кіраўнікі завода на чале з дырэктарам. Пачалі са справаздач начальнікаў участкаў. Проста сорамна было слухаць, як гаварылі некаторыя. Іх выступленні зводзіліся да аднаго: «Дайце нам гэта, дайце нам тое». А пра тое, што была дрэнна арганізавана праца, што нізкая вытворчая дысцыпліна і шмат браку — ніхто ні слова.

— А што скажуць рабочыя? — запытаў у нас дырэктар завода.

Першым давялося выступіць мне. Я выказаў усё, што набалела на душы. Пасля слова папрасіў сталявар Андрэй Бялко, які адзначыў, што начальнікі ўчасткаў, майстры не чула ставяцца да прапаноў рабочых.

— Колькі ўжо ідзе гаворка пра тое, каб своечасова рамантавалася абсталяванне, — гаварыў Андрэй Бялко, — але ўсё застаецца па-ранейшаму. Пасля выхаднога звычайна траціш марна палову змены на ліквідацыю недаробак і наладку абсталявання. Вось што вядзе да нізкай прадукцыйнасці і вялікага браку...

У канцы нарады выступіў дырэктар завода. Ён моцна прабраў кіраўнікоў цэха, асобных таварышаў строга папярэдзіў. Разыходзячыся, мы адчулі, што справы павінны пайсці на лад.

Неўзабаве пачаў дзейнічаць новы, чацвёрты, канвеер, і работа сталявараў і заліўшчыкаў прыкметна аблегчылася. Узрасла прадукцыйнасць працы, знізіўся брак, але галоўнае — рабочыя паверылі ў свае сілы і магчымасці. 1960 год — другі год сямігодкі — завяршылі з выдатнымі вытворчымі паказчыкамі. Прадукцыйнасць працы ў цэху вырасла на 23 працэнты. Дзяржаўных сродкаў сэканомілі на 450 тысяч рублёў (у новых грошах).

Першы рубеж быў узяты. Мінуліся зрывы сутачных заданняў. Значна павялічыўся выпуск сталі з кожнай печы. Перадавыя сталявары Бялко, Байкачоў, Несцяровіч і іншыя пачалі даваць за змену да 20 тон замест звычайных 17—18. Але былі і такія, што з-за нявопытнасці тапталіся амаль на месцы. Што ж рабіць? Знайшліся «мудрацы», якія прапанавалі ўключыць дадатковую печ. Начальнік участка лёгка на гэта згадзіўся.

Прыйшоўшы аднойчы раніцай на работу, мы ўбачылі, што працуе дадатковая печ. Мы падумалі, што якая-небудзь печ выйшла са строю і яе замянілі. Але аказалася, што працуюць усе.

— Навошта ж уключылі яшчэ адну? — запытаў у мяне Лявон Бондар.

— Не ведаю. Можа якую на рамонт збіраюцца спыніць.

Падышоў Мікола Корань. Ён працаваў у начной змене.



— Слухай, Мікалай, навошта вы ўключылі новую печ? — запытаў Бондар.

— Майстры баяцца, каб не «заваліў» план — і ўключылі. Ды і для справаздачы перад начальнікам цэха зручней будзе. Калі што якое, дык скажуць: «Маўляў, фармоўка вінавата — у нас металу хапала».

— Ты гэта сур'ёзна? — перапытаў Бондар.

— Пытаеш! — іранічна ўсміхнуўся Мікола. — Мая печ сёння ішла першай па графіку, можна было б выпусціць чатыры плаўкі, а я выпусціў тры — ледзь-ледзь норму выцягнуў, і ўсё праз гэту печ.

— Т-а-а-к, — працягнуў Бондар, — ранейшая гісторыя, як тады было, калі пусцілі чацвёрты канвеер...

Справа ў тым, што з пускам чацвёртага канвеера патрэба ў вадкім метале рэзка павялічылася. Цяпер кожны сталявар павінен быў варыць па тры-чатыры плаўкі за змену. Але гэта спачатку ўдавалася не ўсім на ўчастку. Спалохаўшыся, што сталявары не здолеюць забяспечыць фармоўку металам, кіраўнікі цэха і рашылі пусціць яшчэ адну печ. Некаторыя ўзрадаваліся, але большасць сталявараў, наадварот, рашуча запярэчыла. Мы разумелі, што з пускам яшчэ адной печы прадукцыйнасць працы зноў знізіцца. Так яно і атрымалася.

Печы прастойвалі з гатовымі плаўкамі. Сталявары пачалі прасіць майстроў і начальніка ўчастка, каб адключылі новую печ.

Перагаворы вяліся амаль кожны дзень, а справа — ні з месца. І хто ведае, колькі б цягнулася гэта гісторыя, каб завод не ўзяў абавязацельства па эканоміі ў 1960 годзе 10 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. А ўклад нашага цэха тут значны. Апрача таго, мы перайшлі на новыя разлікова-тэхнічныя нормы. Цяпер трэба было выплаўляць на тры тоны вадкай сталі за змену больш, чым выплаўлялася па старых нормах. Хіба можна было думаць аб эканоміі электраэнергіі, аб новых нормах, пусціўшы дадаткова яшчэ адну печ. Тады кіраўнікі цэха і згадзіліся адключыць тую печ.

Першыя ж дні работы на старых печах далі добрыя вынікі. Зніклі так званыя гарачыя прастоі. Крывая паказчыкаў плавак пайшла ўгару. Сталявары пачалі змагацца за ліквідацыю звычайных, дробных прастояў, пачалі эканоміць час ва ўсім — на кожнай дробязі, на якую раней не звярталі ўвагі.

Цяпер сталявары не чакалі, пакуль ім падвязе падкранавы шыхту, а самі адразу ж пасля выпуску металу ў коўш чапляюць кранам бодню з шыхтай і загружаюць яшчэ цёплую печ. Як правіла, пакуль плавіцца шыхта, сталявары адпачывалі, займаліся хто чым хоча. Адны рыхтавалі заправачную сумесь, другія, калі трэба было, падбіралі электроды для нарошчвання, а многія проста сядзелі і чакалі. Цяпер — усё перайначылася, усе дапаможныя работы сталявары стараліся упарадкаваць у пачатку змены. А калі хто не паспее ўправіцца, то яму памагае падручны. На печах ушчыльнілі ўцяпляльныя кольцы, шчыльней падагналі скляпенні. Стараліся як мага больш захаваць цеплыні. Але фармоўшчыкі таксама не спалі. І штодзённа начальнік цэха на аператыўных нарадах патрабаваў: «Больш металу, давайце метал».

Аднойчы начальнік цэха Іван Іванавіч Куляшоў запрасіў сталявараў да сябе. Адбылася патрэбная, шчырая размова.

— Вось так, сябры, — пачаў ён, калі мы расселіся ў кабінеце. — Выходзіць, слова свайго вы не стрымалі — фармоўшчыкі скардзяцца, не хапае ім металу.

— Можа яно і гэтак, — кінуў нехта з прысутных. — Але фармоўшчыкі колькасць апок амаль не павялічылі. Яны выязджаюць за кошт буйных адлівак.

— Ведаю, таварышы, усё ведаю, — супакойваў нас начальнік цэха, — вы працуеце не дрэнна. Але давайце параімся, як нам яшчэ больш павялічыць выхад металу з кожнай печы.

Сталявары пачалі прапаноўваць розныя варыянты, але ні адзін з іх не падыходзіў цяпер. Андрэй Бялко параіў варыць цяжкаваговыя плаўкі і выпускаць іх у два каўшы.

— Але ж на цяжкаваговую плаўку патрабуецца і больш часу,— заўважыў Куляшоў.

— Не надта, Іван Іванавіч,— узняўся з месца Бялко.— Яварыў плаўкі па 8,5—9 тон і пераканаўся, што на такую плаўку спатрэбіцца дадаткова не больш 50 мінут. Вядома, чатыры плаўкі я ўжо не выпушчу за змену, але затое з трох металу будзе 24—25 тон, замест 19—20 з чатырох.

— А Барыс Зіноўевіч,— звярнуўся Куляшоў да начальніка ўчастка,— што скажаш наконт гэтага?

— Што я магу сказаць,— загаварыў Біндар, — рызыкоўна, але паспрабаваць можна. Праўда, за такіх хлопцаў, як Бялко, Байкачоў, Корань і іншых, можна не хвалявацца, у іх будзе ўсё ў парадку, але ёсць яшчэ і маладыя, нявопытныя, і ім я гэтага пакуль дазволіць не магу.

— А ўсім, на мой погляд, і не варта брацца за цяжкаваговыя плаўкі,— заўважыў Бялко.

— Чаму ж гэта?

— Па-першае, калі мы ўсе пачнем варыць цяжкаваговыя плаўкі і выпускаць у два каўшы кожную, дык спатрэбіцца ў два разы больш каўшоў,— разважліва працягваў Бялко,— а іх не змогуць забяспечыць каўшавыя; па-другое, вы ж разумееце, звычайна, калі метал перабаўлены фосфарам, мы дагружаем печ мяккай шыхтай, а іншы раз і гэта не памагае, тады такую плаўку даводзіцца разліваць па печах. І вось уявіце сабе, што ўсе печы перагружаны і ў адной аказаўся высокі фосфар. Што тады? І дагрузіць нельга, і па іншых печах не разліць. Адзіны выхад — зліваць плаўку ў «казлы», а потым пераплаўляць. А гэта пэўная страта нам, цэху, дзяржаве.

— Дык што, ты, выходзіць, супраць новай прапановы?— нахмурыўся Куляшоў.

— Не, чаму ж, я не супраць, але гэта ўсё трэба як мае быць абдумаць,— сказаў Бялко і сеў. Памаўчаўшы крыху, ён дадаў:— Мне думаецца, можна зрабіць так: за цяжкаваговыя плаўкі брацца не на ўсіх печах адразу. Калі згодна з графікам хапае часу, на такой печы цяжкаваговую плаўку варыць абавязкова, а там, дзе часу ў абрэз — не трэба. Адным словам, гэту справу павінны рэгуляваць майстры на месцы.

— А спрэчак паміж сталяварамі не будзе?— хітра ўсміхнуўся Куляшоў і растлумачыў:— Адзін, напрыклад, сталявар зварыў вялікую плаўку, а другому майстар не дазволіў, таму што ў таго не хапае па графіку часу, хоць ён таксама хацеў зварыць такую ж...

— А якая можа быць спрэчка,— загаварылі ўсе. — Сёння адзін, заўтра другі, так што ўсё ясна!..

— Ну што ж, тады, бадай, паспрабуем,— сказаў начальнік цэха.

Цяпер ужо ! фармоўшчыкі не трывожылі нас: «Чаму няма металу?»

Не было, між іншым, і спрэчак між сталяварамі з-за цяжкаваговых плавак. Наадварот, таму сталявару, які варыць цяжкаваговую плаўку, пачалі памагаць, каб ён управіўся і не затрымаў іншыя, наступныя за ім па графіку печы. Вядома, нагрузка на кожнага сталявара ўзрасла, але мы стараліся гэтага не заўважаць і як мага больш зрабіць.

Самая вялікая нагрузка лягла на плечы каўшавых. З таго моманту, як пачалі выпускаць плаўку ў два каўшы, работы ім прыбавілася вунь колькі! Праўда, у кожную брыгаду дадалі яшчэ па адным чалавеку, але ўсё роўна ім даводзілася цяжка.

Асабліва даставалася каўшавым, калі плаўка выпускалася пад чорнымі шлакамі. Шлак моцна прыставаў да цаглін, і з каўша яго хоць выдзірай рукамі. За выпуск плавак пад чорнымі шлакамі і раней каралі, бо гэта былі нізкай якасці плаўкі, а цяпер зусім было забаронена іх выпускаць.



Заліўшчык Іван Корань і начальнік плавільнага ўчастка Барыс Біндар.

Коўш са злітым металам падвезлі да пятай печы.

— Прымай метал, — сказаў майстар Леаніду Пармону.— Ды асцярожна адчыняй стопар, бо пробку адарвеш.

Калі кранаўшчыца ўстанавіла коўш над печчу, Пармон злёгку націснуў на рычаг. Стопар крыху ўзняўся, але метал у адтуліне не паказаўся. Усе стаіліся.

Тады ён націснуў уніз яшчэ. І ўсе ўздыхнулі з палёгкай — метал роўным і пругкім струменем паліўся ў печ. Баючыся, што струмень выб'е ў подзе яму, сталявар даў каманду кранаўшчыцы адвезці коўш крыху ўбок, а сам закрыў стопар. Потым адкрыў яго зноў. І так некалькі разоў.

Пасля, як дагрузілі і ўключылі печ, Леанід Пармон падышоў да Байкачова.

— Слухай, Федзя, у мяне з'явілася адна думка.

— Якая?

— Калі я зліваў цяпер метал і пачаў адкрываць і закрываць стопар, я падумаў: вось каб добры метал зліваць у выкарыстаныя каўшы, а пасля заліваць у формы. Разумееш, калі гэта выйдзе, то мы заб'ём адразу двух зайцаў.

— Трэба праверыць некалькі каўшоў адразу ж пасля заліўкі металу, а потым і дзейнічаць,— згадзіўся Байкачоў.

— Рызыка тут не вельмі вялікая. Ну, пойдзе, у крайнім выпадку, палавіна каўша ў яму.

Выслухаўшы сталявараў, майстар наадрэз адмовіўся ад іх прапановы.

— Дзе вы бачылі, каб у адзін коўш выпускалі запар дзве плаўкі!

— Нідзе не бачылі, але паспрабаваць можна, — адказаў Пармон.

— У нас не эксперыментальны цэх, а сталеліцейны, і мне патрэбны ў першую чаргу план, а не вашы выдумкі. Знайшліся мне, акадэмікі!..

— Ах, так!— усклікнуў Байкачоў, які маўчаў дагэтуль.— Вам патрэбен план? Вы бачыце толькі план, а як працуюць людзі, для вас усё роўна.— І, павярнуўшыся да Пармона, дадаў:— З гэтым чалавекам, Лёня, відно, мы піва не зварым.

Байкачоў накіраваўся да сваёй печы. Пармон, яшчэ пастаяўшы моўчкі з хвіліну, пайшоў да каўшавых. Пра што ён там гаварыў з імі, ніхто не ведае. Аднак, калі падрыхтаваў плаўку да выпуску, выявілася, што гатовы толькі адзін коўш. Майстру давялося згадзіцца выпускаць астатні метал у стары коўш.

Плаўку разлілі добра. Потым другую, трэцюю... І пайшло.

Калі закончылася змена, да Пармона падышоў брыгадзір каўшавых і, гледзячы на яго ўдзячнымі вачыма, ціха прамовіў:



Разліў пачаўся. Каўшавы Аляксандр Лазарэвіч і брыгадзір Віктар Іванюк.

— Дзякуй, Лёня, ад усіх нас, дзякуй.

* * *

Памятаю, на тым сходзе, калі абмяркоўваліся абавязацельствы ў гонар XXII з'езда КПСС, Андрэй Бялко гаварыў:

— Нельга нам, таварышы, задавальняцца тым, што дасягнута. Працуем мы не дрэнна, але сёння гэтага мала. Паглядзіце, што робіцца вакол. Учарашняе дасягненне сёння лічыцца звычайнай справай.

І сапраўды, некалі 17—18 тон вадкай сталі з адной печы за восем гадзін лічылася добрым вынікам, а вось Андрэй Бялко даў 25 тон за сем гадзін. Гэтую лічбу потым выдавалі многія іншыя сталявары, але перайсці рубеж пакуль што не здолелі. І разам з тым, кожны з нас разумеў, што гэта таксама не мяжа, што нашы печы пры рацыянальным выкарыстанні змогуць даць больш.

Рыхтуючыся да XXII з'езда нашай роднай партыі, сталявары задумаліся над тым, каб даць радзіме звышпланавую сталь — кожны паабяцаў выплавіць па 500—600 тон вадкага металу звыш нормы. Зрабіць гэта — справа няхітрая, калі электраэнергіі будзеш траціць, колькі ўздумаецца. Уся цяжкасць у тым, каб гэтая сталь выходзіла дзешавейшай. Вось чаму ў абавязацельствах і з'явіўся пункт: кожны сталявар абавязваецца да дня адкрыцця з'езда сэканоміць па 60—70 тысяч кілават-гадзін электраэнергіі.

Змаганне за звышпланавую сталь пачалося. Кожны дзень прыносіць нам новыя радасці. Неяк падводзіліся вынікі за месяц і выявілася, што хлопцы трымаюць сваё слова. Уладзімір Несцяровіч за месяц даў звыш плана 115 тон сталі і сэканоміў 20 тысяч кілават-гадзін электраэнергіі. Праз некаторы час Іван Кісялёў за сем гадзін выплавіў 27 тон сталі. Дваццаць сем тон—за змену! Такога яшчэ не ведала гісторыя нашага цэха. Гэта лічба з'явілася для ўсіх новым маяком, які асвятляў шлях наперад, адкрываў для нас новыя магчымасці. З'явіўся рэальны рубеж, які для кожнага стаў канкрэтнай мэтай.

Мы ўпэўнены, што гэтага рубяжа хутка дасягнем. Было ж такое, што тыя 25 тон, якіх дамогся Андрэй Бялко за восем гадзін, здаваліся для некаторых недасягальнай марай. А на практыцы выходзіць, што няма мяжы нашым магчымасцям. Тое, што сёння было толькі марай, заўтра становіцца рэальным фактам.

Узяць, да прыкладу, нашага маладога сталявара Міколу Кораня. У яго яшчэ невялікі вопыт, затое настойлівасці і энергіі хапае. Бываюць дні, што Мікола выплаўляе па 24—25 тон сталі. Некалі гэтыя лічбы нават для нас, спрактыкаваных сталявараў, былі далёкай марай. І хто ведае, можа іменна Мікола Корань з'явіцца для нас новым маяком.

Дзе прычына такой масавасці працоўнага гераізму, такога няспыннага імкнення наперад?

Мне здаецца, правільны адказ на гэта пытанне можа даць толькі той, хто зразумее прыроду характару савецкага рабочага—гаспадара і творцы свайго шчасця. Мы, рабочыя людзі, ведаем, што наша праца ідзе на карысць нашага народа, на ўмацаванне магутнасці сацыялістычнай дзяржавы, якая забяспечвае ўсім савецкім людзям дастатак і шчаслівую будучыню.

У цэху мы знаходзімся невялікую частку сутак—сем гадзін. Але якая гэта багатая школа для нас! Праца—сапраўды незамянімая школа выхавання, кузня, дзе гартуецца чалавек будучыні.

Расказваючы аб сваіх сябрах-таварышах па працы, па любімай спецыяльнасці, якую, можа, не кожны ўпадабае, хочацца паведаміць яшчэ некаторыя штрышкі з працоўнай біяграфіі Сяргея Салаўя. Ён афіцыйна лічыцца маім падручным. Неяк вясною мне давялося паехаць у Харкаў, да нашых украінскіх сяброў—трактаразаводцаў, каб падзяліцца вопытам. Начальнік цэха Куляшоў, адпускаючы мяне, спытаў:

— Як думаеш, Аляксандр, каго паставіць на тваё месца?

Для мяне гэтае пытанне не было нечаканасцю. Я добра ведаю свайго падручнага, ведаю яго стараннасць і кемлівасць, таму, не задумваючыся, адказваю:

— Салаўя!

Начальнік цэха памятаў тую гісторыю з Сяргеем, і адчувалася, што з маёй прапановай не хацеў згадзіцца. Давялося ўсё ж настойваць. І я не памыліўся. Аказваецца, тая размова, строгая і патрабавальная, справядлівыя дакоры сяброў не прайшлі дарэмна—Сяргей зразумеў, што сябры яму зычылі дабро, і стараўся апраўдаць давер.

Вярнуўшыся дадому, я з радасцю даznаўся, што Сяргей не падвёў мяне і сваіх таварышаў. Больш таго, працуючы адзін, ён праявіў сапраўдны гераізм—аднойчы за змену выдаў 26 тон вадкай сталі. Уяўляю, якая бура радасці кіпела ў грудзях хлопца!

Нам прыемна, што людзі растуць, становяцца майстрамі сваёй справы, набываюць лепшыя якасці чалавека, якому давядзецца жыць у камунізме. Усе ж мы—старэйшыя таварышы, камуністы, нясем адказнасць за сваю змену, за моладзь, якая ўрэшце зменіць нас. І нам важна, каб моладзь пераняла ўсё лепшае, усё каштоўнае, што маюць сённяшнія майстры. Мы зусім не абыякавыя да таго, у якія рукі трапіць наша, адшліфаванае гадамі і працай майстэрства.

Скажу шчыра, нам не давядзецца чырванець за тых, хто зменіць нас, хто стане на наша нялёгкае месца. У нас—харошая, дастойная змена.

У апошні час у газетах пачало мільгаць новае імя—Аляксея Салдатава. Аляксей малады не толькі па гадах, але і па працы. Прыйшоў ён да нас у цэх з арміі, працаваў спачатку памочнікам, а потым кавалём; кавальскі ўчастак непадалёку ад нашага, і мы бачылі, як працаваў Аляксей. Рослы, шыракаплечы, ён сваёй атлетычнай фігурай прыцягваў да сябе ўвагу. У той час у цэху яшчэ не было механічнага молата, і кавалі працавалі ўручную. Нельга было без захаплення глядзець, як Аляксей завіхаўся, лёгка трымаючы пудовы молат. Староннi чалавек, паглядзеўшы, як ля горна гаспадарнічаў гэты хлопец, не задумваючыся, сказаў бы: «Гэты шчаслівец задаволены сваёй працай і любіць яе!» Але гэты чалавек памыліўся б. Аляксей працаваў чэсна, выконваў усе заданні старанна, але душа яго імкнулася да нечага новага, большага.



**Ля ўваходу ў цэх пасля змены сабраліся сталявары — Міхась Суша, Аляксандр Азараў, Сяргей Салавей, Віктар Іванюк, Леанід Пармон і Лявон Бондар.**

Закончыўшы змену, Аляксей бывала, падыходзіў да якой-небудзь печы і доўга стаяў, назіраючы за працай сталявараў. Іншы раз і памагаў каму-небудзь. Мы адчулі, што гэты хлопец рана ці позна будзе з намі, яму, напэўна, прыйшлася па душы наша вогненная прафесія.

Так яно і сталася. Аляксей перайшоў на плавільны ўчастак, стаў за падручнага. З першых дзён на новым месцы хлопец паказаў, што ён не дарэмна прастойваў ля печаў. Калі запусцілі ў работу новую печ, Аляксея паставілі сталяварам. Як і ў кожнага з нас, у Аляксея былі і няўдачы, былі і цяжкасці, але важна, што ён не губляўся, не падаў духам.

Сёння Аляксей Салдатаў — у шарэнзе перадавых сталявараў, ударнік камуністычнай працы.



Аляксей Салдатаў — самы малады сталявар.

Нядаўна ў жыцці Аляксея Салдатава адбылася самая радасная і хвалюючая падзея — яго прынялі ў члены КПСС. Не забуду, як ішлі мы з Аляксеем пасля таго сходу. Аляксей быў нейкі асабліва ўзрушаны, ён мне гаварыў:

— Разумееш, Саша, у мяне сёння свята. Вось бачыш, уступіў... Разумею, што гэта ўступленне нейкіх там пераваг перад іншымі не дае. Як варыў сталь дагэтуль, так і буду варыць. Наадварот, цяпер яшчэ больш абавязкаў. З'явяцца новыя даручэнні... І ведаеш, неяк хораша, прыемна на душы!..

Гэтак размаўляючы, мы неўзабаве апынуліся за прахадной. Бачу, раптам Аляксей заспяшаўся:

— Ну, пакуль, Саша, пабягу, у нас сёння кантрольная па рускай мове, — і Аляксей накіраваўся подбегам да трамвая.

Застаўшыся адзін, я задумаўся. Як мяняюцца, харашэюць людзі, узяўшы на сябе новыя, цудоўныя абавязкі — падрыхтавацца да вялікай мэты жыць у камунізме. У думках пераношуся на гады чатыры назад. У нас тады мала хто думаў пра вучобу, пра тое, каб папоўніць свае духоўныя здабыткі.

Цяпер каго ні вазьмі — усе вучацца. Шмат чытаюць, наведваюць тэатры, кіно, клапоцяцца аб сваім духоўным росце. Адзін заканчвае вячэрнюю школу, другі паступіў у тэхнікум, трэці рыхтуецца ў інстытут. Многія без адрыву ад вытворчасці займаюцца завочна і на вячэрніх аддзяленнях. Ёсць шмат прыкладаў, калі радавыя рабочыя, дзякуючы ўпартай вучобе і працы, выраслі як спецыялісты і вылучаны на кіруючую работу.

І ўсё гэта таму, што цяпер, як ніколі раней, узрос аўтарытэт і роля калектыву. На першы план высунута не сваё, асбістае, а наша, грамадскае, калектыўнае. Дэвіз «Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго» дзейнічае і дае багатыя вынікі.

Думаючы пра сваіх сяброў-таварышаў, пра нашу моладзь, якой пашчасліўціцца жыць у камунізме, я прыгадваю словы з кніжкі М. Яфетава «Вецер у твар», якую давялося нядаўна прачытаць:

«Паветра вакол чыстае і празрыстае, як крышталь... Чалавек стаіць пад сонцам — ён гаспадар усяго. І хмар, і праменняў, і маланак, і дажджу. Ты самы вялікі, самы прыгожы, самы моцны. Ты — чалавек».

І няма большага шчасця, чым працаваць і тварыць у імя савецкага чалавека — гаспадара нашай сонечнай, блізкай будучыні.



## МАЯКІ НАШАГА ЧАСУ

**Наша рэспубліка ганарыцца магутным атрадам шахцёраў Салігорска. Працоўным дэвізам салігорцы выбралі звычайнае для савецкіх людзей:**

**— План датэрмінова! План года — да адкрыцця XXII з'езда КПСС!**

**Кожны дзень нараджае ўсё новыя і новыя імёны людзей, якія ідуць наперадзе, клічуць наперад, абганяюць час.**

**У калектыве шахтапраходчыкаў ствала № 3 такім з'яўляецца звеннявы Пятро Жак. Разам з усёй брыгадай, якая будуе ствол, звяно ўзяло абавязацельствы:**

**Арміраваць па 350 метраў ствала ў месяц і ўстанаўліваць па 10 ярусаў цюбінгаў ў суткі...**

**Гэтага дасягнулі, прычым першыя сярод шахтапраходчыкаў краіны.**

**Закончыць будаўніцтва вентыляцыйнага канала да 15 ліпеня...**

**Закончылі.**

**Здаць ствол калійнаму камбінату на два месяцы раней тэрміну.**

**Здадзім!**

**На здымку: звеннявы Пятро Жак.**

Фота А. Дзітлава.

*Гары, камсамольскі аганёк!*

# ТАБЕ, ПАРТЫЯ...

## ПАДАРУНКІ ЖОДЗІНЦАЎ

Гуллівы сонечны «зайчык» забегаў па твары Станіслава Карчэўскага. Заняты працай, Стась інстынктыўна адмахнуўся раз, другі, але «зайчык» усё надакучаў. Хлопец зірнуў уверх і, усміхнуўшыся, падумаў: «Калі сонца ў крайнім пралёце — значыць, хутка канец змены».

— Што, хлопцы, сёння затрымаемся?— спытаў у сяброў з брыгады. — На «камсамольскі» папрацуем?

— Вядома, — адказалі тыя.

Адпачыўшы пасля званка, усе дружна ўзяліся за справу.

«Камсамольскі» — гэта 25-тонны самазвал, які рабочыя Беларускага аўтазавода падмеліся сабраць у падарунак XXII з'езду партыі з дэталей, зробленых у пазаўрочны час.



Неяк у пачатку мая камітэт камсамола атрымаў ліст з Цаліннага краю ад камсамольцаў Сакалоўска-Сарбайскага горнаабагачальнага камбіната. Тыя паведамлялі, што ў кар'ерах, дзе працуе дзве сотні беларускіх дваццаціпяцітонак, створана камсамольская брыгада — экіпаж камуністычнай працы ў складзе Н. Малмыгіна, Н. Майсеева і В. Ягорава. Гэтаму экіпажу, які абавязаўся да з'езда партыі прайсці сто тысяч кіламетраў без капітальнага рамонту, камсамольцы і хацелі б уручыць самазвал з адмысловай афарбоўкай.

— Калі такую харошую справу задумалі нашы казахстанскія сябры, мы павінны памагчы ім, — гаварыў на сходзе моладзі камсорг чацвёртага ўчастка Віктар Каско. — Мы ж кожны дзень даем шмат прадукцыі звыш плана, а калі яшчэ астацца пасля змены на якую гадзіну ці паўтары, дык і не агледзімся, як наш камсамольскі самазвал будзе гатовы.

Камсорга падтрымалі ўсе як адзін рабочыя механічнага цэха. Гэта было ў сярэдзіне мая. Канчалася змена, а станкі не спыняліся. Токары, фрэзероўшчыкі, шліфавальшчыкі апрацоўвалі лішнюю дэталь, якую дармова прызначалі для падарунка.

І калі ў «Комсомольской правде» з'явіўся заклік маладых масквічоў сустрэць з'езд роднай партыі па-камуністычнаму, асабістымі падарункамі, камсамольцы Беларускага аўтазавода ўзрадаваліся: «Дык мы ж ужо робім такі падарунак».

**— На «камсамольскі» папрацуем?— пытаецца Станіслаў Карчэўскі ў сяброў з брыгады.**

Уласна кажучы, дэталі для камсамольскага самазвала былі ўжо амаль гатовы: токары Віктар Герых і Баляслаў Ждан зрабілі кажух задняга маста і колцы для абадоў, тры шасцярні нарэзала фрэзероўшчыца Святлана Ласіцкая, кажух пярэдняга маста зрабіў свідравальшчык Дзмітры Альшэўскі, пакрыўку ступіцы задняга кола апрацаваў токар Віктар Каско...

«Ну, збярэм камсамольскі, пафарбуем яго, як прасілі сябры з Цаліннага краю, у яркі колер, адправім, а потым што?»— разважаў сам з сабой, схіліўшыся над чарцяжом, Віктар Каско. — Не, да з'езда партыі трэба зрабіць нешта такое, што будзе ўвесь час спадарожнічаць табе, напамінаць...»

У абедзенны перапынак параіўся Віктар з сябрамі па змене. Доўга і шчыра гутарыў ён з кантралёрам Раяй Календа. Гэта дзяўчына ў чырвонай хусцінцы, якая так добра пасуе да яе светлых кудзерак, увесь час жыве чаканнем нечага вялікага, незвычайнага. І на гэты раз яна падтрымала Віктаравы прапановы — кожны павінен да з'езда партыі зрабіць нешта такое, што пакіне добры след у жыцці.

Другую палавіну змены працавалася неяк асабліва лёгка і спорна. Мусіць, памагала тая ўнутраная ўзрушанасць, што з'явілася неяк сама па сабе пад уплывам роздумаў аб з'ездзе, які прыме новую праграму КПСС — разгорнуты план будаўніцтва камуністычнага грамадства. «Гэта ж будзе і мая праграма, — думаў, знімаючы са станка апрацаваную дэталь, Віктар Каско. — Я ж зусім нядаўна пачаў сваё працоўнае жыццё. Усё наперадзе: і сапраўды натхнёная праца, і далейшая вучоба, і ўступленне ў рады партыі ленінцаў...»

Званок аб канцы змены вярнуў Віктара з далёкіх летуценкаў у сённяшнюю рэальнасць. Не паспеў Віктар падысці да кантралёра, каб закрыць нарад, як Рая гучна, ледзь не на ўвесь цэх, што зацiхаў на перазменку, выгукнула:

— Во, малайцы, сёння ўсе. Ніводнай бракаванай дэталі, а колькі звыш нормы выдалі! Ніколі яшчэ наш чацвёрты так не працаваў. У цябе, Віктар, 125 працэнтаў...

У Віктара было так хораша на душы, што ён вырашыў пайсці адразу ў камітэт камсамола і падзяліцца сваёй радасцю, выказаць гонар за таварышаў, параіцца наконт думак, што трывожылі яго сёння ўвесь дзень.

Вечарэла. Сонца асвятляла толькі верхнія шыбы над карпусамі. Нібы вянкі залацістых адуванчыкаў паклаў нехта на самы вільчык заводскага даху. І Віктару раптам прыгадалася, што гэтак было і ў той дзень, калі ён першы раз ступіў на двор Беларускага аўтамабільнага завода. Роўна два гады таму назад скончыў ён тэхнічнае вучылішча і стаў



**Камсорг участка Віктар Каско.**

рабочым. Толькі настрой тады быў іншы, трывожны: а як прымуць яго майстар, начальнік цэха, як сустрэнуць новыя сябры па рабоце.

— Віктар, во добра, што ты зайшоў,— заўважыў камсорга яшчэ ў дзвярах сакратар камітэта камсамола завода Віктар Казлоўскі. — Параімся наконт адной справы.

На стале ў сакратара ляжаў альбом у чырвонай вокладцы. Віктар Казлоўскі адгарнуў вокладку, і ў вачах Каско загарэліся свежай чырванню мусіць толькі што выведзеныя на тытульным лісце словы: **«Табе, партыя, наша праца, наш парыў!»**

— Гэта будзе Кніга працоўных падарункаў XXII з'езду партыі, — гаварыў камсамольскі сакратар свайму цёзку.— Мы яе пусцім па цэхах, і кожны запіша сюды сваю самую запаветную мару, сваё самае значнае абавязацельства, сваё самае шчырае слова, звернутае да роднай партыі.

Віктар Каско глядзеў і вачам сваім не верыў. Пра тое ж самае думаў і ён сёння ў абедзенны перапынак, пра тое самае гаварыў з Раяй Календа, зменным кантралёрам.

І пайшла Кніга, як тая эстафета, з цэха ў цэх, з участка на ўчастак, з брыгады ў брыгаду, ад станка да станка... Адным з першых запісаў сваё перадз'ездаўскае абавязацельства ў пачэсную кнігу і Віктар Каско:

«...штодзень выконваць план не менш як на 125 працэнтаў;

...стаць ударнікам камуністычнай працы;

...паступіць у політэхнічны інстытут».

У кнізе сотні запісаў, зробленых размашыстым почыркам юнака ці дробненькай дзявочай скорапіссю. І амаль у кожным запісу ёсць самае запаветнае, чым вызначаецца сённяшні дзень савецкай моладзі: стаць ударнікам камуністычнай працы. Канкрэтныя справы, учынкі, клопаты засведчаны ў гэтай кнізе — зрабіць звыш плана пэўную коль-

касць дэталей, дамагчыся пэўнай эканоміі, распрацаваць прыстасаванне да такарнага станка, палепшыць канструкцыю фрэзы, адрамантаваць электраматор у падшэфным калгасе, памагчы сярэдняй школе ў абсталяванні майстэрні, пасадзіць на пасёлку 10 дрэў...

Мінула два месяцы, і многія запісы сталі рэальнасцю. Камсамольскі самазвал-прыгажун, пафарбаваны ў светлавішнёвы колер, з яркім надпісам на бамперы «Камсамольскі» прыбыў ужо ў г. Рудны Цаліннага краю. Яго ўручылі камсамольска-маладзёжнаму экіпажу камуністычнай працы, як сімвал непахіснай дружбы народаў, як напамінак аб працоўнай славе беларускага камсамола.

У Кнізе працоўных падарункаў шмат запісаў, звязаных з нараджэннем першынца Беларускага аўтазавода — новага самазвала «БелАЗ-540». Над стварэннем гэтага магутнага волата (з рухавіком у 360 конскіх сіл ён будзе падымаць 27 тон грузу і развіваць хуткасць 52 кіламетры ў гадзіну) узяў шэфства камсамол. А гэта зарука таго, што ў дзень адкрыцця з'езда першы самазвал «БелАЗ-540» датэрмінова сыдзе з канвеера.

Шмат папрацавалі канструктары, пакуль распрацавалі новую, цалкам жодзінскую аўтамашыну. Цяпер — справа рук тэхнолагаў, майстроў, рабочых увасобіць спраектаванае дзецішча ў метал. Новай хваляй вытворчага напружання, новым уздымам спаборніцтва за камуністычную працу поўніцца ў гэтыя дні кожны куточак на заводзе.

У адным з такіх куточкаў (нават у літаральным сэнсе слова) працуе брыгада слесараў, якой кіруе Віктар Скараход. Шмат на заводзе носьбітаў такога прыгожага імені Віктар, што азначае — перамога. Сімвалічная з'ява, пацверджаная самім жыццём.

Перамога за перамогай спадарожнічае і гэтаму зладжанаму дружнаму калектыву, які вось ужо год носіць пачэснае званне брыгады камуністычнай працы. Працуюць тут і жывуць сапраўды па-камуністычнаму. Высокая прадукцыйнасць працы, бездакорная дысцыпліна, імкненне кожнага да ведаў, шчырая таварыскасць ва ўсім, сапраўды творчае гарэнне пры выкананні грамадскага абавязку, агульная трывога за поспехі ўсяго прадпрыемства — вось што вызначае змест жыцця брыгады.

— Глядзім мы на свайго брыгадзіра, — кажа Станіслаў Карчэўскі, — і не нацешымся, колькі ў яго энергіі, запалу, імкнення памагчы кожнаму стаць заўтра лепшым, чым ён ёсць сёння.

Віктар Скараход прыйшоў на завод, як і многія яго равеснікі, пасля рамеснага вучылішча. Але прыйшоў з адной мэтай— працаваць не дзеля асабістай выгоды, а на карысць агульнай справы, якой заняты калектыў прадпрыемства. «Асабісты дабрабыт сам па сабе расце і памнажаецца, калі ты шчыра, усёй душой аддаешся даручанай табе калектывам справе», — гаворыць Віктар Скараход.

І гэта не пустыя словы. Яны падмацаваны справамі. Неяк пачалі вяртацца на завод шасцерні з паламанымі зуб'ямі. Гэта ўстрывожыла цэх, усю брыгаду, якая занята зборкай аднаго з адказных вузлоў самазвала — каробкі хуткасцей. Задумаўся камсамолец Віктар Скараход. Аглядаў заганную шасцярню з усіх бакоў, успамінаў, што вучыў у рамесным, чытаў шмат кніг пра зубчатае счапленне, надакучаў канструктарам, але дамогся свайго. Прапанаваў новае закругленне зуба шасцярні, і рэкламацыі на каробку хуткасцей зніклі.

У Кнізе асабістых падарункаў, на старонцы, дзе стаіць подпіс: «В. Скараход», можна прачытаць запіс, які сведчыць аб шчырым клопаце рабочага пра гонар



Дружна жывуць хлопцы ў брыгадзе камуністычнай працы, якой кіруе Віктар Скараход (трэці справа).

свайго завода: «Дабіцца, каб прапанаванае мной бездыстанцыйнае кіраванне каробкай хуткасцей было ўкаранёна».

І там жа хвалюючы запіс: «Уступіць у рады роднай партыі камуністаў».

Так, Віктар Скараход сустрэне з'езд КПСС яе радавым. Ён заслужыў гэта сваёй шчырай працай на карысць Радзімы, сваёй адданасцю невялікаму вытворчаму калектыву, якім ён кіруе, з якім падзяляе ўсе радасці і нягоды, поспехі і няўдачы.

...Мяняюцца змены. Няспынна гудуць станкі. Аўтазаводцы множаць здабыткі сямігодкі, рыхтуюць асабістыя вытворчыя падарункі, якія прыкметным скарбам увальюцца ў адзіны магутны дар беларускага народа XXII з'езду роднай Камуністычнай партыі.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

**г. п. Жодзіна.**

Фота **А. Дзітлава.**

### З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ



Сямімільнымі крокамі ідзе наша савецкая краіна ў сваю светлую будучыню. Куды ні глянеш — скрозь будоўлі. Куды ні глянеш — усюды будаўнікі.

Гэта яны прыходзяць на бераг ракі і ўзнімаюць там плаціны. Гэта яны ідуць праз лясы, горы, балоты, і за імі цягнуцца сталёвыя палосы чыгунак, крочаць фермы электраперадач. Гэта яны прыходзяць на пустэчу і пакідаюць пасля сябе жыццё.

Высакародную, самаадданую, радасную працу самай пачэснай на зямлі прафесіі я і хацеў перадаць у партрэце знатнай беларускай будаўніцы Героя Сацыялістычнай Працы Марыі Макарэвіч.

**Віктар ПРАТАСЕНЯ.**

### З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ



Кожны год я бываю ў вёсцы Масковічы на Браслаўшчыне — гэтым цудоўным краі блакітных азёр. Дружная калгасная праца натхніла мяне на стварэнне карціны «Дажынкі». Мне вельмі спадабалася, як калгаснікі наладжваюць традыцыйнае свята ўраджаю: пачэсны пояс і вянок каласоў з апошняга снапа жнеі дораць свайму брыгадзіру. Урачыстасць гэтага старога звычаю, які набыў новы змест у калгаснай сям'і, мне і хацелася перадаць на палатне.

Цяпер я працую над двума карцінамі для выстаўкі, прысвечаный XXII з'езду КПСС. Адна з іх мае назву: «Маладзёжная брыгада ў полі», а другая — «Браслаўскія рыбакі». Гэта і будзе маім асабістым падарункам з'езду роднай партыі.

**Анатоль ШЫБНЁЎ.**



# АД УСЯГО СЭРЦА

У нас у саўгасе 150 членаў ВЛКСМ, і ўсе яны заняты на працы ў жывёлагадоўлі, у паляводстве. Камсамольцы водзяць трактары, аўтамашыны, працуюць на саўгасных будоўлях. Кожны наш камсамолец, кожны юнак і дзяўчына рыхтуюць свой асабісты падарунак любімай Айчыне ў гонар з'езда партыі.

Я працую даяркай. Работа гэтая мне спадабалася, хоць яна і цяжкая. Справы ў мяне ідуць на лад. Летась на кожную карову надаіла па 4 500 кілаграмаў малака, заняўшы сярод маладых жывёлаводаў раёна першае месца.

Уключыўшыся ў спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXII з'езда КПСС, я ўзяла новае абавязацельства — атрымаць па 5 тысяч кілаграмаў малака ад кожнай каровы. Мяркуючы па тым, што ўжо ёсць — за першыя паўгода надоена па 2 800 літраў — слова сваё стрымаю.

На ферме ў Соснах працуе многа моладзі, якая, як і я, прыйшла ў жывёлагадоўлю пасля школы. Цяга да работы ў маладых вялікая, а вось практычнага вопыту яшчэ мала. Дырэкцыя саўгаса пайшла нам насустрач, стварыўшы для жывёлаводаў школу перадавога вопыту.

Ёсць у нас добры клуб, багатая бібліятэка, стацыянарная кінаўстаноўка, чырвоныя куткі на фермах. Мы маем усе ўмовы, каб культурна, весела адпачыць пасля працы. За ўсё гэта, за клопаты аб сельскіх працаўніках, за радасць дружнай калектыўнай працы мы ад усяго сэрца дзякуем роднай Камуністычнай партыі, Савецкаму ўраду на чале з выдатным ленінцам, любімым Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым.

**Ганна ЛЯЛЁШ,**
**даярка саўгаса «10 год БССР»**
**Любанскага раёна.**



# ПРАЦА НАТХНЁНАЯ

Ударнай камсамольскай будоўляй сямігодкі назвала моладзь будаўніцтва Баранавіцкага тэкстыльнага камбіната. І гэта зразумела. Прадпрыемства, што ўзводзіцца тут, будзе адным з буйнейшых у краіне.

На будоўлі многа камсамольцаў і моладзі, былых воінаў Савецкай Арміі. Служыў і я ў арміі. А пасля дэмабілізацыі, калі даведаўся, што ў Баранавічах пачалося будаўніцтва бавоўнянага камбіната, рашыў паехаць іменна сюды.

Брыгада Івана Варанцова, у якую я трапіў, дружная, працавітая. Тут аб ёй гавораць як аб лепшай. Хлопцы падабраліся слаўныя. Помню, выпадак у нас такі быў. Капалі на пляцоўцы пасёлка катлаван. І калі ўжо заставалася выняць апошнія кубаметры грунту, коўш экскаватара зачапіў за штосьці цвёрдае. У катлаван хлынула вада. Аказалася, што пашкодзілі трубу вадаправода. Трэба было тэрмінова закрыць прабоіну, інакш вада магла затапіць увесь катлаван.



— Хлопцы, у ваду трэба лезці. Хто са мною? — крыкнуў Мікалай Патоцкі.

Мы стаялі непадалёку і моўчкі пазіралі адзін на другога. Не надта прыемна лезці ў ледзяную ваду. Але калі трэба, то трэба. Працавалі да знямогі. І калі раніцай брыгада прыйшла рабіць апалубку, у катлаване было суха. Нібы нічога і не здарылася.

Цесляры мы. Здавалася б, не ў сваю справу і не ўмешвайся. Рабі апалубку, наводзь рыштаванні — вось і ўсё. Але ж здараецца, што нельга не ўмешвацца. Брыгада наша комплексная, камсамольска-маладзёжная! Многія хлопцы з нашай брыгады авалодалі двума-трыма спецыяльнасцямі. Могуць быць і мулярамі, і тынкоўшчыкамі цесляры Уладзімір Голас, Іван Лебедзеў, Іван Зорка і іншыя. Я, напрыклад, тут таксама набыў яшчэ дзве спецыяльнасці: муляра і тынкоўшчыка.

Блізка да сэрца прынялі маладыя будаўнікі вестку аб скліканні XXII з'езда партыі. Цяпер кожны рыхтуе да знамянальнай даты свае падарункі. Члены нашай брыгады абавязаліся выконваць норму выпрацоўкі на 130 працэнтаў, датэрмінова здаць пад бетаніраванне некалькі аб'ектаў вытворчай базы. Не пройдзе і года, як на тым месцы, дзе мы сёння закладваем падмуркі, падымуцца карпусы камбіната.

**Аляксандр ШУСТАЎ,**
**цясляр будтрэста № 25.**
**г. Баранавічы.**



# ЗВІНЯЦЬ РЭЙКІ

Пасля таго, як я скончыў чыгуначнае вучылішча і паступіў на працу ў вагоннае дэпо, у маім жыцці адбыліся незабыўныя падзеі. Цэху, у якім я працую, прысвоена званне камуністычнага. І не толькі яму. Калі вы завітаеце на тэрыторыю нашага дэпо, вы ўбачыце маляўнічыя плакаты, што вісяць над уваходам і ў іншыя цэхі. Яны кароткія па форме, але поўныя глыбокага зместу, гэтыя плакаты: «Дрэваапрацоўчы цэх змагаецца за званне цэха камуністычнай працы», «Аўтакантрольны цэх...», «Пасажырскі цэх...» Карацей кажучы, увесь калектыў нашага дэпо змагаецца за званне прадпрыемства камуністычнай працы. 368 рабочых ужо ўдастоены гэтага высокага звання.

Мы, рабочыя дэпо, самі не водзім саставаў. Але мы ведаем, што ад якасці нашай працы залежыць многае. Таму калектыў дэпо ў гэтым годзе ўзяў абавязацельствы знізіць прастоі пасажырскіх вагонаў на рамонце на 15 працэнтаў і дабіцца эканоміі 60 тысяч рублёў. Сёння, калі ўся краіна рыхтуецца сустрэць XXII з'езд партыі камуністаў, у нас кіпіць напружаная праца. Хочацца назваць прозвішчы лепшых камсамольцаў і маладых рабочых, якія ідуць у першых радах тых, хто спаборнічае за дастойную сустрэчу з'езда. Гэта — член камітэта камсамола, ударніца камуністычнай працы Тамара Жыткова, слесар па рамонту ацяплення вагонаў Віктар Гузаў, слесар-аўтаматчык Яўген Фіцаў з пункта тэхнічнага агляду, маляр Зіна Каржова...

Камсамольцы дэпо добра ведаюць, што без рацыяналізацыі нельга павысіць прадукцыйнасць працы, нельга пасгяхова выконваць вытворчыя планы. Таму многія з іх жывуць у штодзённых творчых пошуках. Так рабочыя электрацэха зрабілі адстойнік для збору свінцовага глёту, што дало магчымасць сэканоміць за паўгода каля двух тон каляровага металу.

Рыхтую свой падарунак з'езду роднай партыі і я асабіста. Штодзённа норму выконваю на 150 працэнтаў, даючы прадукцыю толькі выдатнай якасці. Так буду працаваць увесь час.

Сёлета вясною я закончыў 9 класаў. Буду вучыцца ў дзесятым, а пасля паступлю ў інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту.

І яшчэ хочацца сказаць аб адной, самай радаснай і знамянальнай падзеі ў маім асабістым жыцці: нядаўна старэйшыя таварышы-камуністы нашага дэпо прынялі мяне кандыдатам у члены КПСС.

Радасна працаваць, радасна жыць, калі ведаеш, што і твая праца набліжае светлае камуністычнае заўтра.

**Васіль ЦІХАНЕНКА,**
**слесар вагоннага дэпо ст. Гомель.**



## У АГУЛЬНАНАРОДНЫ РАПАРТ

Паштальён прынёс газеты. Праглядваю іх. Апублікаван зварот ЦК ВЛКСМ да ўсіх камсамольцаў і моладзі Савецкага Саюза. Чытаю. Мяне ахоплівае ўсё большае хваляванне. Цэнтральны Камітэт камсамола заклікае ўсю моладзь краіны дастойна, па-камуністычнаму сустрэць XXII з'езд КПСС.

«Ну вось і тэма для маёй чарговай гутаркі з маладымі працаўнікамі калгаса «III Інтэрнацыянал», — падумала я сама сабе.

Пад вечар бягу ў брыгаду. Тэма гутаркі зацікавіла ўсіх. Кожны юнак, дзяўчына, кожны малады хлебароб, жывёлавод вырашыў рыхтаваць з'езду асабісты падарунак. Тут жа зайшла размова, хто і што падрыхтуе. Даяркі, напрыклад, вырашылі надаіць больш малака, каб да дня адкрыцця з'езда выканаць гадавыя абавязацельствы.

Прызнацца, калі ішла да калгаснікаў, я яшчэ не падумала аб тым, які свой, асабісты падарунак падрыхтую з'езду. І цяпер гэтая думка мяне ўжо не пакідала. З ёй і вярнулася ў бібліятэку. Тут, пакуль нікога не было, я і дала волю сваім разважанням.

«Дык што ты, камсамолка Рымашэўская, падрыхтуеш да з'езда?» — гэта я сама ў сябе пытаюся. І тут на думку прыходзіць: у нас, прыкладна, тысяча чалавек дарослага насельніцтва, а кнігі ў бібліятэцы бяруць і чытаюць толькі палавіна. Праўда, гэта не вельмі дакладна, бо калі кнігу бярэ адзін у сям'і, то яе чытаюць, лічы, усе. Але ўсё ж ёсць людзі, якія толькі газеты праглядаюць ці радыё слухаюць.

Вось я і парашыла, што адным з маіх лепшых асабістых падарункаў з'езду будзе: **давесці кнігу да кожнага чалавека.** Наконт гэтага ў нас з актывам бібліятэкі такія планы. Да дня адкрыцця з'езда правядзем канферэнцыю чытачоў на тэму «Кукуруза — наша багацце», а таксама абмяркуем твор Г. Медынскага «Чэсць». Вопыт у нас ёсць. Летась нам добра ўдалася канферэнцыя па твору І. Шамякіна «Крыніцы», літаратурны вечар на тэму «За здаровы быт». Сёлета правялі літаратурны вечар «Ленін з намі», арганізавалі вусны часопіс «Хачу ўсё ведаць».

У бібліятэцы мы наладжваем выстаўкі літаратуры на тэмы: «Мы ідзём да камунізма», «Рашэнні студзеньскага Пленума — у жыццё», «Навука супраць забабонаў». Аформлены стэнды з перспектыўным планам нашага калгаса на сямігодку.

Карацей кажучы, актывісты нашай бібліятэкі будуць рабіць усё для таго, каб у агульнанародным рапарце быў радок і аб нашых падарунках XXII гістарычнаму з'езду.

**Ганна РЫМАШЭЎСКАЯ,**
**загадчыца Сорагаўскай сельскай бібліятэкі Слуцкага раёна.**



## КРУТЫЯ ПАВАРОТЫ

Чалавек перакрэсліў брудную старонку ў сваёй біяграфіі і пачаў жыццё нанава...

Сказаць гэтак лёгка, зрабіць — куды цяжэй. Нават калі табе ўсяго дваццаць гадоў і ўсё ў цябе яшчэ ўперадзе; нават калі, нягледзячы на ўзрост, ты ўжо добра зразумеў, што жыццё сваё ты павінен пражыць так, каб потым не дакараць сябе за растрачаную марна маладосць, не шкадаваць, што адразу не пайшоў дарогай сваіх аднагодкаў, не зрабіў нічога вартага... Яшчэ многа нязведаных парогаў і крутых паваротаў можа стацца на тваім шляху...

Не я прыдумаў гэтыя словы.

Я толькі пільна слухаў, што расказваў мне зусім яшчэ малады хлопец — Міхась Аляшкевіч. А ён гаварыў пра сябе, пра тое, як быў пакаўзнуўся ў самым пачатку сваёй сталасці, на першым крутым павароце жыццёвай сцежкі, і чаго каштавала яму толькі адна памылка.

Міхась Аляшкевіч вырас у нашым грамадстве і ў наш час. Можа быць толькі болей, чым некаторыя яго равеснікі, бачыў гора ў маленстве. Скруха-вайна. Тады ўсім было нялёгка. Дзесьці ў вёсцы Астравец на Капыльшчыне пакутавала вялікая сям'я Аляшкевічаў. Вядома як жылося: часам — з квасам, парою — з бядою. Міхасёк рос кволым хлапчуком.

Мінула ліхалецце. Міхасёк акрыяў, чатыры гады бегаў у школу. Але ж зноў нечакана напаткала бяда — цяжка захварэў. Чатыры гады пракачаўся на бальнічных ложках, пакуль у Мінску зрабілі ўдала аперацыю.

Устаў з бальнічнай пасцелі ўжо семнаццацігадовым юнаком. Не згінаецца нага, але шчасцю няма межаў, быццам выраслі крылы. У Мінску на аўтамабільным заводзе працаваў старэйшы брат, сюды і ён падаўся. Узялі вучнем у мадэльны цэх. Мабыць таму, што сумаваў па якой-небудзь справе, за месяц асвоіў спецыяльнасць маляра, пачаў добра зарабляць. Непрыкметна і адразу ўзмужнеў, раздаўся ў плячах, адчуў сілу. Прагнуў хараша, весела пажыць. Сам не ведаў, чым захапіцца: ад аднае справы кідаўся да другой.

Здарылася неяк так, што ў вялікім калектыве не знайшлося ў Міхася ні добрых сяброў, ні старэйшых таварышаў, якія паставілі б яго на правільны шлях. Брата Васіля не слухаў і не любіў, калі той гаварыў з ім, як з меншым, а не як з роўным. Стары майстар Емяльян Аляксеевіч Міхайлаў, на ўчастку якога працаваў Міхась, чамусьці не знаходзіў часу пагаварыць з хлопцам шчыра. Выпіша нарад — і ідзі працуй. Часам яшчэ бурчэў, называючы ўсіх маладых падшыванцамі, якія, маўляў, яшчэ нос рукавом выціраюць, а ўжо рабочым званнем сваім ганарацца.

Заводскія камсамольцы спахапіліся, калі ўжо было позна. У Міхася з'явіліся «вясёлыя сябрукі», якія скарысталі яго шырокую натуру і ўцягнулі ў сваю кампанію. Хлопец паіў іх гарэлкай, сам піў разам з імі, хуліганіў у пасёлку. Да пары да часу ўсё гэта прахо-

дзіла беспакарана. Але аднойчы ў дзявочым інтэрнаце на танцах Віктар Калеснікаў балюча ўразіў Міхасёва самалюбства, сказаўшы, што з ім, кульгавым, ніхто не хоча знацца, і няхай ён нават не думае «адбіваць» у таго дзяўчыну. Нецвярозы, Міхась адразу пусціў у ход кулакі, і... праз некалькі дзён сеў на лаву падсудных. Тут ужо стала позна каму б там ні было прымаць захады.

Пакуль ішло следства, Міхась храбрыўся. На літасць не спадзяваўся, бо многа было ўжо благіх учынкаў, акрамя гэтае бойкі. Злосны нямаведама на каго, гаварыў дзёрзкасці следчым, пракурору. Моўчкі, сцяўшы зубы, слухаў прыгавор. Калі сустрэўся са старою маці, у яго быццам закамянела сэрца, і ён не мог паглядзець ёй у вочы. І толькі ўжо ў папраўча-працоўнай калоніі не вытрымаў, сутаргава закалаціўся на ложку ад глухіх рыданняў, сціснуў рукамі скроні ў цяжкім роздуме: «Куды ты трапіў? Што цябе папрывяло сюды на цэлыя тры гады?»

І можа ўпершыню цяпер прызнаўся сам сабе — вінаваціць няма каго. Сам ва ўсім вінаваты.

Юнак стаяў на раздарожжы са сваімі згрызотнымі думкамі, з развярэджаным сэрцам, не бачачы перад сабой пэўнай дарогі, якая прывяла б яго да людзей, да таго жыцця, якому ён дагэтуль не ведаў сапраўднай цаны. Яшчэ паўгода - год таму назад гэта быў нават не Міхась, а смелы «ваяка» Міха, якому мора па калена. Сёння ж ён быў падобны на маладое кволае дрэўца, што нямаведама чаму вырасла ў чыстым полі і пакорліва схіляецца туды, куды падзьме вецер. Цяжка на раздарожжы аднаму, калі не ведаеш, куды падацца, цяжка і калі вецер дзьме табе проста ў твар...

У калоніі былі, вядома, розныя людзі. Адны, зразумеўшы свае памылкі, стараннай працай змывалі з сябе чорныя плямiны, каб выйсці на волю з чыстым сумленнем. Але траплялiся і такія, якіх яшчэ трэба было перакоўваць. Адзін з іх, нехта Чарнавусік, які верхаводзіў сярод пяцярых такіх жа, як сам, забіяк-хуліганаў, ледзь не ўцягнуў Міхася ў сваю хэўру. Спачатку лісліві на кожным кроку, «дзяліўся скарынкай хлеба», памалу вучыў, як «усюды можна жыць і не тужыць». Але Міхась усё-такі на работу выходзіў штодня. Неўзабаве, скасавурыўшы здаровае вока, Чарнавусік загаварыў з Міхасём інакш:

— Дык ты, язві тваю душу, сала маё ясі, а выслужвацца хочаш перад начальствам? Глядзі, сучка, хрыбет зламаю... Ці з намі, ці...

Што азначала гэтая пагроза, Міхась ведаў. Думаў часам — няхай сабе тут і ёсць людзі, якія прыстаўлены для нагляду, але ж бандзюгі могуць пры выпадку і знявечыць.

Міхась не вельмі баяўся пагроз, але мог пахіснуцца, бо яшчэ жыў пад уплывам супярэчлівых думак: мауляў, для тых, хто на волі, ён усё роўна чалавек прапашчы, а для турэмнага начальства — таксама толькі асуджаны...

З другога боку, як яму хацелася стаць нароўні з тымі, хто застаўся на заводзе, у інтэрнаце, у яго роднай вёсцы!

Патрэбны кірунак думкам далі тыя, каму быў давераны лёс Міхася. Усё больш і больш сталі яны прыглядацца да хлопца, часцей гутарыць з ім, не дакараючы і не ўшчуваючы за мінулае. Міхась нікому не скардзіўся на Чарнавусіка, але ўсе, аказваецца, ведалі, што той «падбірае да яго ключ».

Думай, Міхась, думай...

Нeяк зусім нечакана Міхась пасябраваў з Віктарам Баранавым, які трапіў у калонію таксама, як і ён, за хуліганства, але цяпер працаваў за траіх, вучыўся ў вячэрняй школе і жыў адною думкай — хутчэй вярнуцца дадому, на родную Віцебшчыну, каб там сказаць, паглядзеўшы людзям у вочы: «Я вярнуўся да вас чалавекам і хачу апраўдаць гэтую годнасць».

— А ты, мабыць, пабойваешся гэтага самага Чарнавусіка? — сказаў неяк Віктар. — Дарэмна. Ён грозны для такіх, як сам, а так — цьфу! — казяўка брыдкая... Не, табе не па дарозе з ім!

Хлопцы працавалі поруч. Віктар расказваў пра сваё жыццё, а Міхась бачыў у гэтым расказе сябе — нікчэмнага марнатраўцу-гуляку і вялікага дурня. Потым неадольная сіла пацягнула яго да Віктара. У ім неяк адразу загаварыла ўсё чалавечае, з'явілася прага да сумленнага жыцця, да чаго імкнуўся і яго сябар.

І тут адбыўся яшчэ адзін крутый паварот на жыццёвай дарозе Міхася. Як і Віктар, ён паступіў у школу, у сёмы клас, і працаваў з нейкай асаблівай заўзятасцю. Чарнавусік больш не трывожыў Міхася.

Міналі дні, тыдні, месяцы. Работа і вучоба нібы гаілі адну за другой болькі на душы. Неўзабаве Міхась праводзіў дадому Віктара. Потым той напісаў, што нібыта зноўку нарадзіўся на свет, працуе і жыве, як чалавек.

Прайшло паўтара года. Нечакана для самога Міхася зноў быў суд. Хлопцу сказалі: хопіць, пара дадому. І ён не выйшаў, а выбег за вароты калоніі...

Куды ж цяпер? На завод? А як сустрэнуць яго там? Часам закрадвалася думка — раптам усе ад яго адвернуцца... Міхась ехаў і ішоў, быццам сам не ведаў куды, але кірунак трымаў усё ж у родны аўтазаводскі пасёлак. Моцна забілася сэрца, калі прайшоўся ля прахадной, цераз якую паўтара года таму назад штодня хадзіў у свой цэх; абышоў вуліцы — здаецца, тут больш стала святла і прасторы...

Вось і Сацыялістычная. Тут ён жыў. Перакідваючы з рукі ў руку чамадан з няхітрымі сваімі рэчамі, Міхась крочыў да інтэрната. Яму хацелася вітацца з кожным сустрэчным, крыкнуць во гэтым людзям, што запоўнілі тратуар: «Гэта ж я, Міха! Міхась Аляшкевіч. Ну, той самы Міхась, што адбіўся ад вашых рук. Але не бойцеся цяпер мяне. І не цурайцеся. Я ж прыйшоў да вас сам, прынёс сваю радасць...»

У інтэрнат Міхась трапіў не адразу. Прыйшлося чакаць, пакуль прыйдуць з работы хлопцы. Вартаўніца — залішне асцярожная жанчына — не пусціла яго аднаго. Радасць у хлопца крышку апала, і адчуваў ён сябе ў шумным гурце хлопцаў не зусім пасвойску, хоць тыя і стараліся дагадзіць госцю. Міхасю нават здалося, што за іхняй весялосцю тоіцца прыкрая яму спачувальнасць і нават насцярожанасць. Хлопец устрывожыўся: няхай бы



**Міхась Аляшкевіч** (злева) **заўсёды раіцца з майстрам Аляксеем Лукічом Хутарным.**



**Ёсць аб чым пагаварыць Міхасю Аляшкевічу** (другі справа) **са сваімі сябрамі па рабоце.**

Фота А. Лукашова.

лепш адкрыта кожны гаварыў тое, што думае, ён гатовы да такога выпрабавання.

Ноч — без сну, дзень — у хваляваннях.

А назаўтра яшчэ адна няўдача. У аддзеле кадраў нават не захацелі размаўляць з ім, адмовілі і ў інтэрнаце. Вось табе і вярнуўся дадому!

У роспачы Міхась некалькі дзён сноўдаў па пасёлку. Інтэрнацкія хлопцы з ног збіліся, шукаючы Міхася, і неяк пад вечар перахапілі яго на дарозе да чайной. Сілком зацягнулі ў інтэрнат і больш адтуль не выпусцілі.

— А ты да самога дырэктара схадзі, — гаварылі яны Міхасю. — Хочаш, мы пойдзем! Камітэт камсамола на дапамогу прыйдзе. Ну, чаго маўчыш?

Міхась сядзеў, утрапёна ўставіўшыся ў падлогу, і быццам разглядваў свае стаптаныя чаравікі, абшарпаныя калашыны штаноў. На самай справе ён бязлітасна даймаў сябе ў думках: «Скалечыў сабе, дурань, жыццё, дык каму ты цяпер патрэбен?..»

І ўсё-такі Міхась пайшоў да дырэктара завода. Хлопцы прымусілі. А той сустрэў яго амаль што ветліва:

— Аляшкевіч? Так, так, ведаю пра тваю бяду. З камітэта камсамола хлопцы заходзілі. Прасілі на работу цябе ўладкаваць. Ну, сядай, чаго стаіш навыцяжку? Будзем раіцца... Што ж, браце, цяжка часам здараецца?.. Але ж нешта прыдумаем.

Дырэктар выклікаў да сябе адразу двух начальнікаў — аддзела кадраў і мадэльнага цэха — і прапанаваў:

— Трэба ўзяць хлопца на работу. Да вас у цэх, Міхаіл Андрэевіч... Ну, а кадравікі пастараюцца прыстроіць хлопца ў інтэрнаце...

У той жа дзень — ды дзе там у той, праз паўгадзіны! — Міхась быў ужо ў цэху. Праўда, майстар, той жа Емяльян Аляксеевіч Міхайлаў, пад кіраўніцтвам якога некалі працаваў Міхась, наадрэз адмовіўся ўзяць яго да сябе на ўчастак:

— Не патрэбны мне ўсялякія прайдзісветы.

Міхася гэта балюча ўразіла, але болю не далі разрасціся іншыя людзі.

— Емяльян Аляксеевіч, як гэта вы да людзей ставіцеся? — ушчуваў старога майстра парторг цэха.

— Я яго вазьму, — тут жа сказаў нехта іншы. — Мадэльшчыкам хлопец ураз стане, відаць па ім...

Гэта быў Аляксей Лукіч Хутарной, таксама майстар, толькі разы ў два маладзейшы за Міхайлава.

Так сустрэў Міхась на сваім шляху чалавека вялікай душы, добрага настаўніка, чулага таварыша.

Ён прыходзіў цяпер на работу задоўга да пачатку змены. Нібы магнітам, цягнула ў цэх, ні мінуты не мог сядзець дома, асабліва калі заставаўся адзін у пакоі. Ля чарцяжоў, па якіх выраблялiся мадэлі, у хлопца заўсёды было столькі пытанняў, што нават майстру часам даводзілася цяжкавата. Аляксей Лукіч жартаваў:

— Ды ты, напэўна, хочаш адразу не сталяром, а прафесарам мадэльнай справы стаць.

Ён смяяўся пры гэтым, лёгка пацёпваў Міхася па плячы і тлумачыў, як трэба чытаць чарцяжы. Міхась лавіў кожнае слова майстра і зноў засыпаў яго пытаннямі. Гэтак здаралася часта і пасля работы. Майстар і вучань доўга сядзелі побач дзе-небудзь у канторцы. А іншы раз Аляксей Лукіч даваў Міхасю кніжку — пачытай, маўляў, пра тое, чым цікавішся.

Яны амаль заўсёды і дадому разам хадзілі. Аляксей Лукіч умеў захапляцца тым, што бачыў перад сабой, і заўсёды яго пачуццё непрыкметна перадавалася Міхасю. Хлопец неяк па-інакшаму, чым раней, пачынаў бачыць жыццё, разумець яго хараство.

Добра, калі побач такі чалавек, як Аляксей Лукіч...

Неўзабаве Міхась пачаў працаваць самастойна. Ледзь не скакаў ад радасці, калі выканаў першае заданне, зрабіў першую, пакуль простую мадэль. Потым яму пачалі давяраць усё больш і больш складаную работу. Калі што не выходзіла, на дапамогу прыходзіў і Аляксей Лукіч, і таварышы па рабоце, такія ж хлопцы, як і сам Міхась, толькі больш вопытныя і ўмелыя. Міхась зайздросціў і Сяргею Дзімітраву, і Аляксею Саулаву, і Валерыю Брасу, і ўсім, хто працаваў лепш за яго. Але гэта была тая добрая і шчырая зайздрасць, якая не прыніжае чалавека, а, наадварот, узвышае яго, выклікае імкненне ўзняцца на ступеньку вышэй.

— А мы, ведаеце, так і сябруем з Аляксеем Лукічом, як роўны з роўным, усё дзелім папалам — і ўменне, і думкі, і радасць, і няўдачы, — расказвае Міхась Аляшкевіч. — І школу я не кінуў, Аляксей Лукіч настаяў, каб вучыўся далей. Толькі самую большую навуку атрымаў я ад свайго майстра. Аляксей Лукіч за два месяцы справе навучыў. І кажуць, нядрэнна выходзіць у мяне... Гэта я, канешне, крыху перахвальваю сябе...

Міхась нейкі момант маўчыць, прыгладжваючы чорныя валасы. Я гляджу на яго разгарачаны, усхваляваны твар, сустракаю дапытлівы позірк з-пад густых броваў і, здаецца, здагадваюся аб яго думках: яны такія ж адкрытыя, як і яго позірк, скіраваны да добрых і шчырых людзей, якіх усё-такі ў нас куды болей, чым благіх.

Міхась цяпер жыў у акружэнні харошых людзей — і ў інтэрнаце, і ў цэху, і ўсюды, дзе б ён ні быў. Аляксей Лукіч, хлопцы, з якімі працаваў побач — Генадзь Барэйша, Васіль Мінчук, Віктар Пратасевіч... Гэта яны запрасілі Міхася разам з імі заставацца на камсамольскія сходы. Гэта з імі побач Міхась адчуваў сябе свабодна, так, што паступова згладжвалася ў памяці, станавілася маркотным сном нядаўняе мінулае.

Цераз год Міхась стаў камсамольцам. Потым яго выбралі камсоргам цэха. Гэтым нібыта ўсё сказана пра тое, якім ён стаў цяпер.

Камітэт камсамола падабраўся дружны: што наважаць — зробяць. Сумнавата крыху было, дык здружыліся з дрэваапрацоўчым цэхам. Цяпер суму аб'явілі вайну. І вечары розныя наладжваюць сумесна, і паходы ў кіно ці ў тэатр,

і на спартыўных пляцоўках разам. Большая палавіна камсамольцаў у самадзейнасці ўдзельнічае. І Міхась спявае ў хоры. Цяжкавата, часу не заўсёды хапае, але хіба адстанеш ад усіх! Словам, задаюць камсамольцы тон і ў рабоце, і ўсюды.

Мы развіталіся з Міхасём ужо ў цэху, ён заступіў на работу ў другую змену, яго сябры працавалі ў першай. Міхась пазнаёміў мяне з імі, з імі разам я выходзіў і з завода. Хтосьці з хлопцаў спытаў у мяне:

— А вы што, збіраецеся пісаць пра Міхася?

— Можа і напішу.

— Абавязкова трэба, — загаварылі яны ўсе разам. — Ён жа летась увосень такое тут зрабіў! Хулігана адзін адолеў. Той ужо замахнуўся быў нажом на хлопца, толькі не паспеў і войкнуць, як яго Міхась скруціў. Ого, ён дружыннік правільны...

— Міхась — дружыннік?

— Але, другі год ужо.

Так нечакана адкрылася яшчэ адна рысачка ў характары цяперашняга Міхася Аляшкевіча. Шкада, вядома, вельмі шкада, што ён калісьці нарабіў нямала глупства. Але крутыя павароты засталіся ззаду, і жыццё наша гартуе цяпер яго. Шчаслівай яму дарогі ў гэтым жыцці!

**Мікола МАРУШКЕВІЧ.**

# *На атэістычныя тэмы*

**Павел МІСЬКО**

# АДМАЎЛЕННЕ АД КРЫЖА

**Нарыс**

## ПАГРАЖАЮЦЬ

Струмені дажджу павіслі над вёскай Крамяніцай. Жанчына, што борздзенька ішла па вуліцы, звярнула ў бліжэйшы двор, стала пад застрэшак хаты і, абтрасаючы з рук і твару буйныя, як боб, кроплі, паправіла на галаве злубянелую хустку. Урэшце-такі дабралася яна да вёскі, дзе настаўнічае сын...

Рыпнулі дзверы, з сянец выйшла гаспадыня.

— Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!

Жанчына разгублена кіўнула галавою, нават крыху падалася назад.

— А чаго ж вы мокнеце? Заходзьце ў хату.

Услед за Мальвінай Рудою (так звалі гаспадыню) жанчына пераступіла парог.

Мальвіна забегала па хаце, сунула ў кішэню нейкаму мужчыне бутэльку жаўтлявай вадкасці, спрытна пералічыла і схавала за пазуху грошы, паківала галавою і жаласліва падцяла губы.

— Вельмі ж тут бязбожнікаў не любяць, — пачала яна, як толькі чалавек пайшоў. — Нядаўна дэпутата сельсавета Броніся Палубка хавалі. А яго хаўрусніка, таксама з сельсавета, Аўгусціна Дземідка, наскрозь прастрэлілі. Баюся я, галубка, за нашага настаўніка — сына вашага — ці доўга да няшчасця? Вельмі ж ужо ён чапляецца да пана бога і пана ксёндза... Каб я была яго маці, то ўгаварыла б падацца ў другое месца. І яму было б спакайней, і вам...

...Спахмурнелая вярталася жанчына дамоў. Уся істота яе была ў нейкім здранцвенні, у галаве паўставалі жудасныя, пачварныя малюнкі, уяўлялася дзікая расправа над сынам.

А неўзабаве мясцовы настаўнік Уладзімір Лаўрукевіч атрымаў ад маці пісьмо. Прачытаў і задумаўся: так маці яшчэ ніколі не пісала.

«Валодзька, сынок мой... Сэрцам прашу — выязджай адтуль кудынебудзь у другое месца, а то заб'юць. Пашкадуй сваю маці, старая я ўжо, колькі тае і жыткі засталося, а ўвесь час калаціся. І прабач, што не зайшла да цябе, да сваіх унукаў. Сама не памятаю, што рабілася са мною...»

Уладзімір доўга трымаў пісьмо ў руцэ. «Эх, мама, мама... А што напі-

сала б ты, калі б ведала ўсё да канца?» Моўчкі палажыў пісьмо ў шуфляду стала, узяў чысты аркуш паперы.

А ў наступны вечар, вяртаючыся з клуба, заўважыў на дзвярах белую плямку. Сарваў прыклеены лісток, паклаў у кішэню. Калі жонка сабрала вячэру і выйшла на хвіліну, дастаў і прабег вачыма запіску. Нехта зноў пагражаў расквітацца за знявагу святога касцёла. Уладзімір сумна ўсміхнуўся, задумаўся. На памяць прыйшлі радкі Юліуша Славацкага:

Ксёндз, скажы мне, дзе твой бог,
Дзе к яму дарога:
Адказаў ксёндз: «На сяле,
Там, дзе цёмных многа».

«Цёмных многа... А трэба, каб іх зусім не было». Успыхвае запалка. Папера спачатку дыміць, а праз секунду на стале толькі чорны попел — усё, што засталося ад чацвёртай ананімкі-запіскі. Пра іх не ведае ніхто, нават жонка. Нашто, каб залішне трывожылася? «Пагражаюць... Што ж, паглядзім, хто каго».

У памяці ўзніклі першыя гады працы ў Крамяніцы. Не, не адразу даўся ў знакі ксяндзу і іншым божым служкам вясковы настаўнік.

## ПЕРШЫЯ ЗНАЁМСТВЫ

— Дэ-энн! Бом-мм!

Звон-нудота плыве над вёскай. Ад яго пачынае балець галава.

«Як жа займацца з дзецьмі ў такім гармідары?» — каторы раз думае Лаўрукевіч. Нервова, залішне гучна ён зачыняе дзверы настаўніцкай.

— Дзень добры! Дзень добры! — нядружна адказалі вучні на яго прывітанне.

— А дзе ж астатнія? — здзіўляецца Уладзімір Антонавіч, аглядаючы напалавіну пусты клас.

— А сёння свята, іх павялі ў касцёл,— адказаў рабаціністы хлапчук.

З акна школы відаць, як жанчыны, трымаючы за рукі хлопчыкаў і дзяўчынак, вядуць іх да касцёла. Вось адзін з хлопчыкаў не вытрымаў, ускочыў на вялізны камень-валун. Маці тарганула яго за руку, пачала сярдзіта выгаварваць.

З нейкай зацятасцю ў душы адышоў Лаўрукевіч ад акна, сеў за стол.

— Пачнем заняткі...

Калі вучні разышліся па хатах, настаўнікі сабраліся на нараду. Трэба дзейнічаць. На першы раз дамовіліся абысці ўсе хаты, дзе былі вучні, і пагутарыць з бацькамі — выклікаць на шчырасць, пераканаць у простай, здавалася, адвечнай ісціне, што вучоба — святло, а невуцтва — цемра. Запланавалі для бацькоў прачытаць некалькі лекцый на антырэлігійныя тэмы.

— Заўтра што ў нас, субота? — спытаў дырэктар школы Іван Васільевіч Дрызгаловіч. — Прыйдзецца заўтра і пачынаць. Хто пачне?

— Дазвольце мне, — асмеліўся Лаўрукевіч.

...Пастух Вацлаў Іосіфавіч Карнацэвіч, сярэдніх гадоў мужчына з абпаленым сонцам і вятрамі шырокім, адкрытым тварам, сядзеў ля куста лазы і сашморгваў лісце з дубцоў ракіты. Побач свяціў рабрынамі пачаты кош.

Лаўрукевіч прывітаўся. Пастух на момант узняў галаву, адказаў на прывітанне, але так і не перастаў прапускаць праз шурпаты кулак дубец за дубцом, нібы гаворачы ўсім выглядам: «Слухаю вас, чалавеча!» Лаўрукевіч усміхнуўся, прысеў побач, моўчкі, нібы між іншым, узяў у рукі кош і стаў плесці. За першым дубцом другі, трэці...

Карнацэвіч задаволена хмыкнуў:

— Відаць, што нашых, сялянскіх крывей...

— Так, дзядзька, вашых. Настаўнікам сюды прыслалі. А родам з Жалудоцкага раёна — рукою падаць. Там бацькі ў калгасе працуюць... А скажыце, калі ласка, вы так адзін і пасвіце ўвесь гэты статак?



— Чаму адзін? — уздыхнуў пастух. — Двое нас, толькі напарнік мой сёння дома сядзіць — свята, кажа, грэх... Ну, а я пагнаў сам: не марнець жа каровам у хлеве... А тых свят, разгарні кантычку, дык на кожны дзень панапісвана: і панны Разаліі, і панны Рагіны, і панны Эміліі — па двое святых на дзень.

— Ну, а раней таксама ўсялякіх Разалій святкавалі, калі хлеб на полі гніў? — запытаў, усміхнуўшыся, Уладзімір Антонавіч. Размова пачынала яму падабацца.

— Дзе там... Калі меў хто які кавалак няўдобіцы, то душыўся і сам, і сям'ю душыў. Па начах нават, пры месяцы працавалі... А цяпер што — маўляў, дабро калгаснае, яго не зменшыцца. Дый ксёндз новы Грасевіч сваю паству святкаваць прымушае.

— А вы ў бога верыце, у касцёл ходзіце?

Эх, як потым Уладзімір Антонавіч раскайваўся за гэтае прамое і нават грубаватае пытанне! Вацлава Іосіфавіча нібы ўвачавідкі падмянілі, ён, як тая чарапаха, схаваўся адразу пад шкарлупіну непрыступнасці, замкнуўся. Толькі кінуў касы позірк і суха буркнуў:

— А як жа!

Больш на гэтую тэму, хоць яна востра цікавіла Уладзіміра Антонавіча, так і не ўдалося скіраваць гаворку. На развітанне, калі Лаўрукевіч запрасіў пастуха на заўтрашнюю лекцыю пра бога і рэлігію, той паспешліва кінуў:

— Прыйду-прыйду...

У той жа дзень Лаўрукевіч намаляваў і развесіў па вёсцы аб'явы, у якіх паведамлялася, што заўтра будзе прачытана лекцыя «Ці ёсць бог?» Пачатак у восем гадзін. Уваход свабодны. Апошнія два словы падкрэсліў тлустаю рысаю.

Можа ніколі не хваляваўся Уладзімір Антонавіч так, як у апошнюю гадзіну перад лекцыяй. Гэтая гадзіна здалася доўгай, як год, і прайшла ў пакутлівым чаканні. «Рана яшчэ»... — суцяшаў ён сам сябе. Спачатку прыйшло некалькі настаўнікаў. Потым зазірнулі ў дзверы і зніклі два жэўжыкі-хлапчукі і... усё! Больш ніхто нават клямкай не бразнуў. Праўда, тыя самыя хлапчукі яшчэ пару разоў расплюшчылі насы аб шыбіны, зазіраючы ў сярэдзіну. У клубе было амаль пуста...

«Якая ганьба, якая ганьба! — папракаў ён самога сябе.— Нават пастух не прыйшоў, а я паверыў яго абяцанню... Спадзяваўся на нешта... Хаця чаго там! Такі ж самы заядлы католік, як і ўсе».

Насустрач трапіўся нейкі мужчына, зазірнуў настаўніку ў твар, збянтэжана прамармытаў «Дабранач!» і юркнуў, як мыш, у бліжэйшы завулак. Заняты сваімі невясёлымі думкамі, Лаўрукевіч паволі ішоў па цёмнай вуліцы, аж пакуль тварам у твар не сутыкнуўся са старшынёй сельсавета. Той з заклапочаным выглядам паглядаў услед незнаёмцу, які знік у цемры, стрэўшы Лаўрукевіча.

— Што здарылася, Іван Антонавіч? — спытаў Лаўрукевіч.

— Нічога асаблівага, звычайнае... Мы там чакаем, а яны тут вартуюць... Сам галава касцёльнага савета Яскевіч Баніфацый аж з Ляхавіч прывалокся. Патруляваў ля клуба, каб ніхто не зайшоў.

— Няўжо гэта можа быць?! — шчыра здзівіўся Лаўрукевіч.

— Эге-э, яны яшчэ і не на такое здольны, касцёльныя служкі. Ты чалавек тут новы... Пры выпадку пагутары з Аўгусцінам Дземідком. Ён шмат чаго табе раскажа... З такімі фанатыкамі, што вакол касцёла аціраюцца, цяжэй за ўсё змагацца, яны ўсіх у кіпцюрах трымаюць.

## АД ХАТЫ ДА ХАТЫ

Ледзь пачынала світаць, як па вуліцы з глечыкам малака ў руках бегла да ксяндза Мальвіна Рудая. Пераняўшы жанчын, што ішлі па ваду, Мальвіна затараторыла, нібы пусты млын:

— Даліпантачкі, будуць касцёл закрываць, памянеце маё слова. Ходзяць настаўнікі па хатах, забараняюць дзяцей у касцёл вадзіць. А хто не слухаецца — бяруць на паперу, высылаць будуць... А ўчора ў клубе Лаўрукевіч хацеў з Езуса і маткі боскай павыскаляцца, дык не ўдалося — не пайшоў ніхто. Што ж гэта будзе? Канец свету, няйначай... Кажуць, усюды пачалі абразы абнаўляцца — святы знак нам, грэшным, падаецца, каб не слухаліся мы гэтых агіцірнікаў, за веру трымаліся. О-хо-хо, ойча нябесны...

Пушчаныя Мальвінай плёткі абрасталі жахлівымі падрабязнасцямі, і калі зноў, ужо з іншых вуснаў, даходзілі да яе самой, Рудая ўсплясквала рукамі, не пазнаючы свайго «тварэння», і бегла да суседзяў пераказаць новы варыянт.

... Да заняткаў заставалася яшчэ каля двух гадзін, таму Лаўрукевіч парашыў зайсці ў некалькі хат, дзе былі вучні, каб пагутарыць з іхнімі бацькамі.

— Ды не, не, што вы! Вядома, не павядзем у касцёл... Хіба мы ворагі свайму дзіцяці? А ў школцы дык яно і таму і сяму навучыцца... Ого, цяпер школа не тое, што калісь...

І было незразумела, ці гэта ішло ад сэрца, ці, як гэта вялося спрадвеку, хітраванне. Час пакажа, вядома.... Адно зразумела, што ў спакоі пакідаць іх рана. Лаўрукевіч не раз яшчэ наведаецца да іх... А цяпер у наступную хату, да Аляксандра Трацяка.

Яшчэ на двары пачуў — у хаце сварка, лямант. Мусіць не ў пару ён заявіўся... Але прыйдзецца заходзіць — яго ўжо ўбачылі, у акне мільгнуў нейчы спалоханы твар...

На запытанне «Дазвольце?» і прывітанне ніхто не адказаў. Чырвоны, як бурак, зарослы мужчына стаяў, сагнуўшыся пасярод хаты, і доўгаю, чорнаю, як галавешка, качаргою соўгаў пад ложак. Бліжэй да выхаду мітусілася ў святочнай вопратцы гаспадыня. Мужчына злосна скасавурыўся на Лаўрукевіча, выпрастаўся, неахвотна, але моцна шпурнуў у кут качаргу.

— Вылазь, а то горш будзе... — прамармытаў ён, стомлена сядаючы на лаву...

— Ну, але ж, але... Вылазь, дачушка, не сарамаці нас перад чужым чалавекам. І так я забавілася, хутка імша скончыцца, — пачала заглядваць пад ложак жанчына.

З-пад пярэстай коўдры паказаўся бледны, мурзаты ад слёз тварык дзяўчынкі гадоў трынаццаці, а затым і ўся яе сухенькая постаць. Маці таропка сарвала з дзяўчынкі брудную сукенку, усцягнула чысцейшую, хутка працёрла мокрым ручніком твар і штурханула малую перад сабою з хаты.

— Што гэта ў вас робіцца, дзядзька? Чаму дзяўчынка сёння не ў школе? — спытаў Лаўрукевіч.

Мужчына зыркнуў вачыма на настаўніка і хуценька ўпёрся позіркам у падлогу, памаўчаў, паварочаўся:

— Маё дзіця, што хачу, тое і раблю, куды хачу, туды і пасылаю...

Ад хвалявання ў настаўніка перасохла ў горле.

— Дачка то ваша, але ўлічыце, што здзекавацца з дзіцяці вам ніхто не дазволіць.

Трацяк ускапіўся з лавы, быццам яго кальнулі шылам, закрычаў — з пенай, з пырскамі:

— Бярыце ўсё, і дзіця бярыце! Рэлігію, бога адбіраеце! Жыць не даяце!..

Ён доўга размахваў рукамі, страшны і злосны. Выгаварыўся, сеў, адвярнуўся.

Лаўрукевіч загаварыў спакойна:

— Забіраць дзіця мы не будзем... А ў школу дзяўчынка будзе хадзіць... У касцёл вы яе сілком не пагоніце, як сёння. А калі яна падрасце, паразумнее, і сама ўбачыць, куды ёй ісці.

— А ў касцёле нічому дрэннаму не вучаць... Гэта ў школе дык бязбожнікаў робяць, непаважаць матку з бацькам вучаць.



— Вы няпраўду гаворыце, дзядзька, і я гэта вам дакажу...

Толькі праз гадзіну Лаўрукевіч выйшаў на вуліцу і з палёгкай уздыхнуў. Гутарка з Трацяком каштавала шмат нерваў... Ці так трэба было з ім наогул гаворку весці? Ці не груба атрымалася?

Калі ў школе Лаўрукевіч перадаў змест гутаркі Дрызгаловічу, то Іван Васільевіч сказаў:

— Не вельмі і перажывай. Гэтага Трацяка за несумленнасць з калгаса выключылі: коням пустую мякіну сыпаў, а авёс цягаў дадому... Хацелі пад суд аддаць, ды дзяцей пашкадавалі. Цяпер званаром зрабіўся ці захрысцянам, так і круціцца ўюном вакол ксяндза. Мусіць перападаюць і яму «ад стала госпада крохі».

Як пазней стала вядома, «крохі» Аляксандру Трацяку перападалі немалыя...

Тады, у час гутаркі з Іванам Васільевічам, Лаўрукевіч выказаў першыя свае назіранні. Прапаганда атэізму праз лекцыі — добры сродак выхавання. Але ці заўсёды? Не. Прыклад таму першая лекцыя Лаўрукевіча. Людзі не прыйшлі ў клуб не толькі таму, што па вуліцы нехта шпацыраваў і страшыў, але і таму, што не звыклі туды заглядваць. А што, калі пачаць індывідуальныя гутаркі з кожным веруючым? Чаму б не паспрабаваць такі метад?

Калі Уладзімір Антонавіч падзяліўся думкамі з настаўнікамі, усе яго падтрымалі. Пачаліся, як пасля любіў жартаваць Уладзімір Антонавіч, «вандраванні атэістаў».

Іменна ў час такіх «вандраванняў» давялося Лаўрукевічу другі раз сутыкнуцца з пастухом Вацлавам Карнацэвічам. Быў прыцемак, і пастух, загнаўшы кароў на ферму, тупаў ля дому. Убачыўшы настаўніка, ён пайшоў яму насустрач і прывітаўся, працягнуўшы руку першы...

Вечар выдаўся ціхі і цёплы. За дзень на кусты бэзу наснавалася павуціны. Мужчыны мірна гутарылі, пасеўшы на лаўку пад кустамі.

— Вацлаў Іосіфавіч, — звярнуўся настаўнік да пастуха, — а як вам раней жылося, ну, скажам, да вайны?..

Мужчына неяк ажывіўся, зацягнуўся самасадам, загаварыў з ноткамі злосці:

— Пры панскай Польшчы парабкаваў я... Пры немцах мяне, як беззямельнага, у першую чаргу ў Германію пагналі. Зноў парабкоўства... Бауэр трапіўся, што сабака люты, — ледзь духі не выняў. Вызвалілі нашы — вярнуўся дадому. Тут быў ужо, здаецца, і жыць. Не-а, зноў наперакос пайшло! Ледзь прычакалі лепшага жыцця — бацька перакінуўся... Не куецца, а плешчацца... Ну, а тады тут быў ксёндз Банькоўскі. Пайшоў да яго, та́к і так, кажу, пахаваць чалавека трэба. Дык дванаццаць пудоў жыта загарадзіў!.. Нічога і слухаць не хоча, хоць са скуры вылузвайся. Не было ў мяне такіх запасаў, вымушан быў пазычыць у суседзяў і плаціць гэтаму жывадзёру...

— От вы, Вацлаў Іосіфавіч сказалі — жывадзёру. Як, на вашу думку, ці гэта па запаведзі Хрыста «вазлюбі бліжняга свайго, як самога сябе»?

— Хто яго ведае...

— Смялей, смялей, Іосіфавіч... Ён жа чалавек з вышэйшай адукацыяй, не то што яго прыхаджане, і хіба ён не ведаў тых ісцін, што вам прапаведаваў? Ведаў, але крывадушнічаў: на словах адно, а на справе глядзеў, як бы лепш на гэтым свеце пражыць, тлусцейшы кавалак адхапіць.

— Можа быць...

— Так яно і ёсць, Вацлаў Іосіфавіч... У фашысцкіх галаварэзаў, памятаеце, што было на спражках напісана?

— «Гот міт унс».

— Вось... «З намі бог». Значыць, усё, што яны тварылі, звязвалі з імем бога... А толькі ў адной Гродзенскай вобласці спалена каля дзесятка вёсак разам з жыхарамі, старымі і дзецьмі... І ўсё апраўдвалі імем бога, а іхнія свяшчэннаслужыцелі блаславілі на такія подзвігі, бо

атрымлівалі ад гітлераўцаў добрую падкормку. А, думаеце, Ватыкан чаму так чапляецца за свае апорныя пункты, касцёлы, у нас тут? Таму, што хоча праз несвядомых, уплываючы на цёмныя галовы, перашкаджаць будаваць камунізм... Вось што атрымліваецца, паважаны Вацлаў Іосіфавіч,— закончыў Лаўрукевіч, а потым дадаў жартаўліва:— Вы тады не прыйшлі ў клуб, дык я сам завітаў да вас, але ўсё роўна лекцыю прачытаў.

Карнацэвіч пакашляў, доўга поркаўся ў кішэнях, зноў закурыў самасаду. Чырвонае вочка агню падоўгу спынялася каля твару, асвятляла яго маленькім заравам. Намаўчаўшыся, прамовіў:

— Не ўцярпеў-такі, Уладзімір Антонавіч, папракнуў... А ў мяне часам на душы нявесела робіцца, калі паглядзець навокал... Разумееш, як на споведзі, табе адкрыюся. Вось я пастух. Работа гэта — неблагая, але ўсё-такі не для мяне. Цэлы дзень на водшыбе ад людзей, хацелася б ужо і ў гурт. Я вось гляджу, як гаспадарацьу другой брыгадзе, дык сэрца крывёю абліваецца. Гэта ж такое можна тварыць на нашых землях, а мы часам не ўмеем...

Уладзімір Антонавіч ледзь не сказаў — «Дык ідзіце вы брыгадзірам!», але стрымаўся. І добра, мабыць, зрабіў. Можна было знячэўку спалохаць чалавека, зняверыць, і тады гэты няясны парыў, імкненне да нечага новага, да больш актыўнага спосабу жыцця знікне. Заўпарціцца, і нічога не зробіш... Брыгадзір жа з яго выйдзе, па ўсім відаць, добры... Трэба будзе старшыні калгаса падказаць.

Так думалася Лаўрукевічу па дарозе дадому...

## СПРАВЫ КСЯНДЗОЎСКІЯ

Пасля правалу першай лекцыі Лаўрукевіч не пераставаў думаць аб сустрэчы з Аўгусцінам Дземідком, пра якога сказаў яму старшыня сельсавета Бортнік. Ці ўдасца «разгаварыць» яго? Што за чалавек ён? І вось ён сустрэўся з Дземідком. Праўда, пры незвычайных абставінах — у ягонага стрыечнага брата Казіміра, куды Лаўрукевіч трапіў па школьных справах.

— Гэта вы мне гаворыце пра святасць ксяндзоў, мне?! — гарачыўся Аўгусцін Дземідок, размахваючы відэльцам з селядцом перад нейкім старым.— Я ж на іх больш за вас наглядзеўся... І спадыспаду, і зверху — ва ўсіх паставах. І Грасевіч сваё нутро пакажа яшчэ, папомніце мяне.

Усе слухаюць, дзівяцца, Лаўрукевіч жа знарок перапытвае, не дае веры. Заўважыўшы гэта, Аўгусцін звяртаецца ўжо да яго:

— У нас, Уладзімір Антонавіч, больш, чым дзе, ксяндзоў перабыло: Яткоўскі, Маліноўскі, Хвайноўскі, Баркоўскі, Банькоўскі, а цяпер — Грасевіч. Самы багаты і моцны прыход лічыцца. Пры чатырох з іх я быў «прыбліжаным». Пра Яткоўскага слаба памятаю, даўно было. Знаю толькі што цягаўся, як кот, двух дзяцей прыдбаў. Завёз потым іх тайком у вёску Вейшычы да нейкага Вялічкі, каб гадаваў. А ў мяне самога тады вось што здарылася: адно дзіця нарадзілася, а другое памёрла. Не ведаю, што рабіць — ці радавацца, ці плакаць. Адно трэба было хрысціць, а другое адпяваць. Плаці, гаворыць ксёндз, па пяць злотых за галаву. Як за скаціну на кірмашы!.. Затрэсла мяне ад злосці, ды нічога не зробіш — заплаціў.

Аднаго году тысячу злотых назбіраў я ў прыхаджан на рамонт касцёла, аддаў ксяндзу. А той прысвоіў іх усе, а касцёл так і не рамантавалі.

Пра кожнага крамяніцкага ксяндза меў што расказаць Дземідок, бо ўдосталь нагледзеўся ён на справы ксяндзоўскія яшчэ да ўз'яднання, не любіў іх за двудушнасць, за прагнасць. А калі вызваленне прыйшло, Аўгусцін Міхайлавіч з галавою акунуўся ў новае жыццё. Хутка яго выбралі дэпутатам сельскага савета. Гэта вельмі не спадабалася ксяндзу Банькоўскаму, бо вельмі многа ведаў Дземідок пра ксяндзоў, а такога не маглі яму даравалі. У адну з цёмных начэй вяртаўся Дземідок з сесіі сельсавета, дзе абмяркоўвалі пытанне пра калгасы. З завулка хтосьці паклікаў яго хрыплым голасам:

— Аўгусцін, гэта ты?

— Я... Каму я там патрэбен? — павярнуўся Аўгусцін Міхайлавіч тварам у той бок. Але не зрабіў і кроку, як штосьці бліснула, ударыла ў грудзі... Тут і знайшлі Дземідка людзі.

У той вечар яшчэ шмат чаго пачуў Уладзімір Антонавіч, пра многае ж даведаўся пасля. Ксёндз Банькоўскі ўяўляўся яму як чалавек з крыжам у руках і зброяй пад сутанай. Былы маёр старой польскай арміі, ён стаў у час нямецкай акупацыі заўзятым праваднікам гітлераўскага «новага парадку». Пасля вайны гэты служка божы яшчэ больш акрываўвіў сваю сутану. Банькоўскі ўступіў у нацыяналістычнае вайсковае фарміраванне, узначаліў банду «Джала». Гэта па яго асабістаму ўказанню былі зроблены злачынныя забойствы савецкіх і партыйных работнікаў, калгасных актывістаў у навакольных вёсках, у тым ліку дэпутата сельсавета Браніслава Палубка. У Аўгусціна Дземідка — таксама страляў ён.

## ЛЁД КРАНУЎСЯ

Як хутка бяжыць час! Здаецца, яшчэ ўчора Лаўрукевіч ішоў на свае першыя сёлета заняткі, а сёння — пачатак трэцяй чвэрці.

Дні выдаваліся адзін у адзін, сляпілі сонечным, снежным бляскам, п'янілі чыстым, марозна-сінім паветрам. З комінаў ляніва плылі шызыя стужкі дыму, барвовелі па краях, калі на іх свяціла сонца. Прыціснутыя гурбамі снегу, драмалі хаты. Як летась, як дзесяткі, а мо' і сотні гадоў назад...

Але так толькі здавалася. Сухое тахканне трактараў расколвала па-

### З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ



Хлопцы і дзяўчаты вяртаюцца з сенакосу дамоў. Дружная праца напоўніла іх сэрцы радасцю. Яны спяваюць. Паказаўшы маладых працаўнікоў буйным планам, я хацеў наблізіць іх да гледача, каб перадаць і яму бадзёры настрой. Такая была мая задума, калі я пісаў карціну «Камсамольская брыгада».

XXII з'езду партыі я мяркую прысвяціць сваё новае палатно «Беларускія трактары ў Кітаі».

**Яўген ЦІХАНОВІЧ.**

### З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ



Жыццё сталіцы рэспублікі, дзе я рос, вучыўся і выхоўваўся, дзе працую цяпер, даўно хвалюе мяне. Паказаць мінчан у працы і на адпачынку, паказаць багаты плён іх творчых здабыткаў я і задумаў у цыкле акварэляў «Мінск і мінчане». Адну з іх пад назвай «Шаша пад Мінскам» я прысвяціў спартсменам беларускай сталіцы.

Цяпер я працую над новымі акварэлямі гэтага цыкла.

**Анатоль ВОЛКАЎ.**

ветра, дзесьці натужна завывалі ў снезе машыны. З Крамяніцы, Каняўцоў, Марцінавіч выпаўзалі санныя абозы. Вывозілі ўгнаенні на поле.

Самыя доўгія абозы, самыя пакаўныя сані — у брыгадзе нумар два, той самай, дзе за брыгадзіра стаў Вацлаў Іосіфавіч Карнацэвіч. Цяпер з Лаўрукевічам яны сябры. Разам змагаюцца за адну агульную справу, за новае жыццё — без рэлігіі, без цемрашальскіх забабонаў... Уладзімір Антонавіч цяпер узначальвае групу лектараў-атэістаў. Настаўнікі ўжо выступілі па некалькі разоў у кожнай брыгадзе. Скарыстоўвалі кожны сход, нараду, нават невялікія зборышчы-вячоркі.

Хутка ў клубе вечар «Мы не можам чакаць літасці ад прыроды...» У праграме гэтага вечара — абнаўленне абраза. Але дастаць патрэбны каталіцкі абраз надзвычай цяжка. Ніхто не хоча даць яго на здзек Лаўрукевічу, галоўнаму бязбожніку! Нізавошта...

Што рабіць?

Падмога прыйшла нечакана. Аднойчы паштальён прынёс Уладзіміру Антонавічу паведамленне на пасылку. «З дому... Мусіць, старыя што-небудзь прыслалі... Не забываюць, дзякуй ім...» — думалася Лаўрукевічу. Аднак пасылка была незвычайных памераў, плясkatая. Ускрылі — а там старажытны каталіцкі абраз! І шматок паперы, крыва напісаны матчынай рукой: «Ты неяк скардзіўся, што нельга дастаць патрэбны абраз. А гэты — падыдзе? Зробіш, што трэба, прышлеш назад. Моцна цалуем усіх. Мама і тата».

Салодкі, даўкі камячок падкаціў у горла... «Старэнькая ты мая, старэнькая... Ты ж подзвіг зрабіла! Перамагла сваю баязлівасць... Зразумела мяне, адчула карыснасць маёй работы. Ухваляеш... Дзякуй табе!»

Вестка аб тым, што ў Крамяніцы «будуць паказваць фокусы», разнеслася і па іншых сельсаветах. У вызначаны дзень папрыходзіла многа людзей з Ляхавіч, Падбалоцця. Клуб быў пайнюткі — мыш не праскочыць. Ля стала, застаўленага рознымі прабіркамі і колбачкамі з рэактывамі, завіхаліся Лаўрукевіч і настаўніца хіміі Ніна Рыгораўна Кандрацькова. Спачатку пусцілі па руках счарнелы, патрэсканы абраз — няхай агледзяць усе. Потым апрацавалі яго перакісам вадароду і паставілі крыху пастаяць.

А ў гэты час паказалі, як зыходзіць на свечы «нябесны агонь», калі іх кнот папярэдне апрацаваць растворам белага фосфару ў сераvуглязродзе. Паказалі і «цуд» Хрыста, які быццам бы ператвараў ваду ў віно, выкрылі сакрэт захавання на доўгі час «асвенчаных яек» і вады, расказалі пра нятленныя мошчы і гаючыя крыніцы, ад якіх быццам бы сляпыя імгненна робяцца відушчымі, калекі і хворыя — здаровымі, пра вогненныя слупы, крыжы і іншыя святыя знакі на небе. Паразважалі таксама, ці мог Ноеў каўчэг змясціць па пары ўсіх жывёл з запасам харчавання на дзесяць месяцаў, калі быў у даўжыню трыста локцяў, ушыркі — пяцьдзесят, а ў вышыню — трыццаць. Ці мог па просьбе Ісуса Навіна бог «спыніць сонца», і пра іншыя «цуды» Хрыста.

У зале — шум, смех. І не толькі... Вунь нехта з поўным ротам жалезных зубоў падхапіўся ў сярэдзіне залы, размахвае рукамі, выгінаецца ў бакі, як дрэва пад ветрам, заклікае ўсіх не цярпець «здзекаў» над святымі рэчамі, а разам падняцца і пайсці прэч...

І раптам пранеслася дружнае «Ах!». Гэта Лаўрукевіч павярнуў абраз да гледачоў. Ён ззяў, быццам толькі што напісаны яркімі фарбамі.

... Адным з апошніх выходзіў з клуба Аўгусцін Дземідок. Нешта рупіла чалавеку. Ён то садзіўся на лаўку ля выхаду і нервова круціў папяросу, то трушчыў яе і ссыпаў назад у кішэню тытунь. Не меншае людзей каля настаўнікаў. Адна моладзь... А яму, старому чалавеку, не выпадае вельмі круціцца каля Лаўрукевіча. Сто вачэй эдразу ўбачаць, сто языкоў пачнуць абгаворваць: Дземідок такі, Дземідок сякі, знюхаўся з гэтым... Прадае веру... А ў зале ж сядзеў? Дык хіба ён адзін... Пра ксяндзоў расказваў настаўніку? А хто пра іх не ведае гэтага, хто не гаворыць... Асабліва ў сваім кругу, у сям'і... У касцёл не ходзіць? І гэта паўбяды. Можа ксёндз Грасевіч не падабаецца, і ці мала яшчэ чаму...



— Таварыш Лаўрукевіч, — усё ж асмеліўся крануць настаўніка за рукаў Дземідок, калі той ужо ўзяўся за клямку.

— А-а, гэта вы... Ну, як здароўе? — настаўнік ветліва паціснуў руку старому.

— Дзякуй богу, не скарджуся...

— Не забываеце яшчэ пра бога?

— Яно так, сынок: ці ёсць там бог, ці не, вам вучоным, відней. От я хацеў прасіць што-небудзь цікавае прачытаць. У нас мала хто біблію чытаў, а толькі тое і паўтараюць, што ксёндз на імшы скажа.

— О, дзядзька, я вам падшукаю ўсяго, — з радасцю згадзіўся Лаўрукевіч.

У запісной кніжцы Уладзімір Антонавіч пасля гэтага вечара адзначыў:

1) Звязацца з абласным бібкалектарам, кнігарнямі. Займець у клубнай бібліятэцы багаты выбар атэістычнай літаратуры. Практыкаваць разноску кніг па хатах.

2) Тры катэгорыі веруючых. Фанатыкаў выкрываць, развенчваць. Тых, што ўжо слухаюць, паступова адрываць ад рэлігіі, уцягваць у грамадскае жыццё. Трэціх (Дземідок, Карнацэвіч і інш.) зрабіць памочнікамі ў атэістычнай прапагандзе (выступленні ў друку з адрачэннем, гутаркі перад аднавяскоўцамі).

3) Істотнай розніцы паміж членамі агіткалектыву і лектарамі няма. Наадварот, трэба быць на ўсе рукі майстрамі! (Сказаць Дрызгаловічу, каб паставіў у парадак дня бліжэйшага партыйнага сходу).

## КСЁНДЗ «ГНЕВАЕЦЦА»

Гэтай раніцай ксёндз Грасевіч устаў, напэўна, не з той нагі. Так думалі Ядвіга, Клара, Алена — тры ягоныя служанкі, якія выконвалі шмат яўных і «тайных» функцый у касцёле і ў доме. «Снуе па пакоі...», «Піў лякарства...», «Ляжаў з кнігай, а гэта зноў падхапіўся...», «У акно ўткнуўся...» — перадавалі яны адна другой апошнія звесткі. Праз некалькі мінут з-за дзвярэй чулася: «Пані Ядвіга!» або «Панна Алена!», а потым зноў Клара-Алена-Ядвіга, Алена-Ядвіга-Клара. І служанкі па чарзе ўскоквалі ў пакой:

— Што, пане ксёнжа?

— Слухаю, свенты ойча!

Раптам пачуўся на кухні звон разбітай пасудзіны, ускрык: «О, панна Марыя, нова салятэрка!» Адна служанка бяжыць у амбулаторыю, другая адкаркоўвае «Есентукі», трэцяя ліхаманкава гартае кухарскую кнігу.

У гэты час не зайшла, а заскочыла, нібы далі ёй добрага кухталя ў спіну, Мальвіна Рудая.

— Пахвалёны ў хату... Божа, што робіцца, што робіцца... — загарахцела яна з парога. — Якая распуста пайшла па вёсцы... — І на свой лад расказала, як ішла вуліцай, а яе абагналі школьнікі. Дзве дзяўчынкі, Уладзіслава Азерская і Баляслава Трацяк, адлупцавалі за нешта партфелямі хлапчукоў і кінуліся ўцякаць. Хлапчукі за імі, шмыгнулі-цярнуліся каля яе, выбілі з рук глечык. Ён не разбіўся, але змесціва бульбуль... А тут людзі ішлі і не толькі бачылі, носам чулі, што малако ў глечыку было... ад «шалёнай каровы»!

Грасевіч чуе на кухні размову слова ў слова, нервова расчыняе дзверы.

— То ест млеко? Не? То ест жытнюўка? — зазірнуў у глечык.

— Не, пане ксёнжа, з бурачкоў... Гэта ж разліла па дарозе, дык ужо да Альбіны забегла ў пазычкі, а то далёка было дадому вяртацца.

— О, халера... Які смруд!

Грукнуў глечыкам аб стол, пайшоў назад.

Служанка зашаптала:

— Гневаюцца...

Так, было ад чаго гневацца члену ордэна іезуітаў Іосіфу Грасевічу. З некаторага часу ён адчуў, што ўсе яго намаганні ўмацаваць, пашырыць

веру, а заадно павялічыць і свае даходы, нейтралізуюцца захадамі іншых. І не толькі нейтралізуюцца. Адчувае, як пятлю на шыі, што яго поле дзейнасці звужаецца з кожным днём. У Ляхавічах, напрыклад, тайком працавалі тры гурткі па вывучэнню дзецьмі святых малітваў, катэхізіса. Дабраліся, раскрылі... Не сам Грасевіч там прапаведваў, былі памочнікі. Але і дурань разумее, што ксяндзоўская рука тузала за тыя матузкі... Цяпер не мінаваць непрыемнай размовы з мясцовымі ўладамі. Каб жа хоць абышлося толькі размовамі! Закон пераступлены не толькі тут. А розныя працэсіі, гутаркі асобна з мужчынамі, жанчынамі, дзецьмі? А душавыратавальныя настаўленні ў час пропаведзяў? Ды ці мала яшчэ чаго, пашукаўшы, можна знайсці ў самой «Кшэмяніцы Касцельнай», пад носам у Лаўрукевіча і ўлад... Адно ратуе пакуль што — новы старшыня сельсавета, здаецца, яшчэ не разбіраецца, што дазволена, а што не...

Мальвіна гэтая, брахуха, пустазвон... Трэба ж так уліпнуць з глечыкам! Гаворыць — распуста... А таго не бачыць, што піянеры ўжо адкрыта з чырвонымі гальштукамі ідуць па вуліцы... А было ж, што адразу за вуглом школы камячылі і засоўвалі ў кішэню. Дзён колькі назад абыходзіў тэрыторыю касцёла, плот аглядаў, ці трэба падмураваць, дык чуў... Цэлы атрад маршыраваў і спяваў «Вера, бог, касцёл і звоны — ўсё старыя забабоны».

Ужо і ў калгасе ёсць камсамольская арганізацыя.

Падручныя Грасевіча таксама нядаўна падклалі яму свінню. Бачылі аднавяскоўцы, як Віктар Кондак, член касцёльнага савета, мяняў на станцыі трыста скамечаных рублёвак на буйныя асігнацыі. А можа ён і раней гэта рабіў? Ад людзей нічога не ўхаваеш, языкі не завяжаш ім... А ў верасні гэты самы Кондак счапіўся біцца з Аляксандрам Трацяком... Ля самага касцёла: пыл слупам, выкачаліся, як сабакі. Ледзьве расцягнулі іх. Не падзялілі... Кондаку здалося, што захрысцян, ці прасцей — касцёльны вартаўнік і званар Трацяк залішне часта суне руку са святым ахвяраваннем сабе ў кішэню... Размалявалі потым іх у газеце... А каму бяда — яму, Грасевічу...

І ці толькі гэтыя двое нажываюцца? Пінюта за свечкі і аблаткі-праснаркі не адну кішэню напакаваў. З тым і выехаў за мяжу. Баніфацый Яскевіч з Ляхавіч пакуль пабыў на чале касцёльнага савета, дык за розныя зборы адгрукаў сабе дамок, як цацку...

Па вуліцы ідзеш — не адпачнеш, як бывала... Наразвешвалі ўсялякіх шчытоў па Крамяніцы — не прайсці... Сюды зірнеш — словы Маркса, туды — Леніна. Славацкі, Гётэ, Пушкін, Дарвін, Мічурын, Паўлаў... І ўсе гавораць пра рэлігію такое, што і глядзець моташна, а не то што чытаць.

Незразумела, што з людзьмі робіцца. То на работу не хацелі хадзіць, што скажаш — слухаюць. А цяпер ён, Грасевіч, нават не асмельваецца намёк на гэта выказаць. І геенай вогненнай не напалохаеш. Даяркі Ганна Свістун і Соня Пойміч ў лектары падаліся. Хваляцца, што здолелі на тысячу літраў малака больш надаіць, чым іншыя...

Ненадзейная стала паства, і справа тут не толькі ў ім, пастуху. Пачалі іншыя пастухі дзейнічаць. Вунь у брыгадзе Карнацэвіча дык людзі як апанатыя ўсе працуюць. На «звеставанне», на «ўсіх святых» і нават «божэ нарадзэнне» і то выходзілі на працу. І каб сказаў толькі моладзь, дык не. І старыя, раней паважаныя ўсімі веруючымі, Вановіч Соня, Кавалевіч Ядвіга... Або Якалцэвіч Раман, Заяц Цэзар, Азерскі Чаславу, Каралеўскі Часлаў... О, ксёндз Грасевіч усё заўважае, улічвае! Ці вазьмі Лукуця Аляксандра. Усё жыццё глытаў сажу ля горна, дык не, мала з яго, яшчэ і сына прывучыў — дзень і ноч звоняць. Праўда, у брыгадзе Карнацэвіча і ўраджай быў адменны гэтай восенню, такога не бачылі ў іх баку. Працадзень падаражаў. Але праз гэта забываць на бога і касцёл?!

Незразумела... А хутка будзе яшчэ горш, бо брыгадзірамі сталі таксама камуністы Бортнік Іван і Кондак Генрых. А ім пальца ў рот не кладзі.

Летам — куды спакайней дыхаецца. Многія настаўнікі ў раз'ездзе. Праўда, запыняюць, бывае, на полі ў абедзенны перапынак, свае гутаркі



праводзяць. А паз'язджаюцца к восені, дык і пачнуцца вечары пытанняў і адказаў, лекцыі, светавыя газеты. Калі па хатах ходзяць, дык і тады пытанні збіраюць. Падзеляць потым між сабой і расказваюць — Лаўрукевіч пра адно, Стральчонак, Дрызгаловіч, Маркаў, Сяргеева, Маргалік — пра іншае.

Горш за ўсё тое, што яны разбіраюцца ў рэлігіі, нічога не скажаш. Нейкі нават семінар атэістычны стварылі... Кажуць, што разбіраюць яны там біблію па костачках... Хе, як быццам ім дадзена зразумець сапраўдны сэнс святога пісання! Але ходзяць туды людзі, ліпнуць як мухі на мёд. Асабліва ўчашчаць сталі брыгадзіры... Цяжка пасля гэтага з імі спрачацца. Нашто заядлыя ў спрэчках Іван Азерскі ці Вацлаў Макарэвіч, але і яны пасуюць, прыцiхаюць за спінамі іншых. Не дапамагаюць і парады Грасевіча, падказкі... Трэба будзе сказаць, каб наогул не ўступалі ў спрэчкі з бязбожнікамі...

Кожны спадарожнік, ракета, запушчаныя савецкімі людзьмі ў космас, аднялі ў Грасевіча па добраму году жыцця. О, Езус-Мар'я, гэта былі цяжкія дні... Калгаснікі атакоўвалі пытаннямі не толькі настаўнікаў, але і яго, ксяндза. І даводзілася тлумачыць, што гэта ўсё роўна справа рук усявышняга: ён даў людзям розум, каб гэтага дасягнуць. Пра тое ж, што бог надзвычайна расшчодрыўся і зрабіў разумнейшымі не абы-каго, а савецкіх людзей, прытым бязбожнікаў, змоўчаў.

Затое настаўнікі не маўчалі. О, Грасевічу ўсё дакладна вядома, дзе што ў вёсках робіцца ці рабілася, якія настаўнікі дзе ходзяць. Нядаўна, напрыклад, перад кінафільмам светавую газету паказвалі. Намалявалі зямны шар. Там, дзе Італія, Ватыкан, стаіць сам папа рымскі, трасе кулакамі, глядзіць на неба. А ў небе савецкая ракета ляціць. Кінамеханік Бусловіч Франц чытаў з'едлівыя подпісы... Колькі рогату было... Вось і паспрабуй пасля гэтага гаварыць прыхаджанам пра «цвердзь нябесную»...

Зацкаваным ваўком носіцца па сваёй святліцы ксёндз Грасевіч. У галаве і ў душы — каламуць.

Часам узнікаюць розныя нечаканыя планы... Але дзе там... Не збудуцца яны, не тыя часы...

І ўсё-такі крывая ўхмылка калі-нікалі расцягвае вусны Грасевіча, вочы загараюцца нездаровым агнём...

## СУД ІДЗЕ

— Вядуць! Вядуць! — закрычала дзетвара і сыпанула, як гарох са жмені, да клуба. Выходзілі і застывалі ля варот жанчыны. Рукі — пад фартухамі, у позірках насцярожанасць, цікаўнасць. У касцёл мала хто ідзе — у клубе сёння будзе цікавей.

Працэсія ідзе сярэдзінай вуліцы. У цэнтры — Аляксандр Трацяк, уцяўшы галаву ў плечы. Побач — Мальвіна Рудая. Вакол — старшыня рэвізійнай камісіі калгаса Аўгусцін Дземідок, брыгадзір Іван Бортнік, учотчык Іван Скуба. Ззаду цягнецца фурманка з канюшынай — рэчавым доказам. Гэтую канюшыну украў Трацяк з калгаснай сціргы. Рудую вялі на калгасны грамадскі суд за буракі. Зноў крала на самагонку, крытыка ў калгаснай насценнай газеце не памагла.

Працэсія ўжо была каля клуба, калі з касцёла выйшла Магдалена Свішч. Толькі што ў прыцемку яна ўкленчыла была перад распяццем, разгарнула кантычку. «Заўшэ з богам» — было напісана на першай старонцы. Так, Магдалена была заўсёды з богам — і калі ўцякала з калгаснай работы на базар, і калі не магла абыякава праходзіць міма таго, што дрэнна ляжала, і цяпер, калі трэба было ісці ў клуб трымаць перад аднавяскоўцамі адказ за свае паводзіны.

...— Сюды сядайце, грамадзянка Свішч, — паказаў старшыня таварыскага суда на асобную лаўку, дзе ўжо сядзелі Трацяк, Рудая і вядомая ўсёй ваколіцы варажбітка-карцёжніца Вольга Брынчык.

Магдалена прысела на самы краёчак і адвярнулася. Астатнія на лаве падсудных таксама хавалі вочы ад людзей, як маглі.

Усё было так, як бывае заўсёды на судзе. Аб'яўлялі «слухаецца справа...» і гаварылі «грамадзянін Трацяк, вы абвінавачваецеся ў тым, што»... Былі «спрэчкі бакоў», і «суд выходзіць для нарады», і «устаць, суд ідзе!»

Былі і абаронцы. Але галоўнымі абвінаваўцамі і суддзямі выступалі самі калгаснікі.

— Дык скажыце, грамадзянін Трацяк, як разумець біблейскую запаведзь «не ўкрадзі»? — гарачыўся калгаснік Уладзімір Чарняк. — Штосьці не вяжацца яна з вашымі ўчынкамі. Ці, можа, такім, якія лічацца «бліжэй да бога», усё дазволена?

— Перадаць у міліцыю! Узбудзіць крымінальную справу! — не сунімалася зала.

Падсудныя сядзелі, як мышы пад венікам.

Выступалі брыгадзіры Бортнік Іван, Кондак Генрых, заатэхнік Самусік Ірына, калгаснікі... І хоць часам з залы даносіліся выкрыкі: «Не чапіцеся да рэлігіі!», гэты суд стаў судом над цемрашальствам і забабонамі, якія калечаць людзей духоўна і фізічна...

І ўрэшце... «Устаць! Суд ідзе!»

«Усім падсудным аб'яўляецца грамадскае ганьбаванне...»

Грамадскае ганьбаванне. Такога яшчэ не было ў Крамяніцы. Яго, гэтае ганьбаванне, вынеслі адурманеным рэлігіяй людзям іхнія ж аднавяскоўцы, многія з якіх яшчэ год-два таму назад самі жагналіся на касцёл.

І зноў пацяклі дні за днямі. Напружаныя дні працы калгасных камуністаў і калектыву агітатараў. Прыйшлі і першыя поспехі. Іх можна было бачыць і разумець па-рознаму. Тое, што людзі сталі слухаць лектараў, — поспех; што пахіснуўся аўтарытэт ксяндза Грасевіча і яго памагатых — таксама. Галоўны ж поспех, пра які разнеслася чутка па ўсім раёне, — людзі сталі выракацца рэлігіі...

Як гром з яснага неба, уразіла парафіян вестка: Аўгусцін Міхайлавіч Дземідок выступіў у раённай газеце з публічным адмаўленнем ад крыжа, ускрыў ганебныя справы ксяндзоў і іх памочнікаў. Не паспелі ачуняць веруючыя ад гэтай навіны, як прыйшла газета з новымі адрачэннямі — Вацлава Карнацэвіча з Каняўцоў, Вінцэнта Латушкі з Ляхавіч, Альфонса Масюка з Чэрчыч.

«Маліўся і плакаў, а бог быў аднакаў: глухі, як пень, — пісаў Масюк. — Не змяніў Езус майго жыцця да лепшага, я заставаўся парабкам, гнуў спіну на багацеяў. Што не мог зрабіць бог, зрабілі людзі, Камуністычная партыя. Я, былы парабак, дачакаўся, што заглянула сонца і ў маё аконца. Дык нашто мне больш тлуміць галаву рознай лухтой — багамі і малітвамі? Усё гэта выдумкі, не верце, людзі добрыя, ніводнаму слову ксяндзоў і іх падбрэхічаў!»

На адным з вечароў адкрыта выступіў супраць рэлігіі Аўгусцін Дземідок. Гэта прывяло сяго-таго да шаленства...

— Сустрэнемся на вузкай сцяжынцы, хрыстапрадавец! — прашыпеў тады Віктар Кондак, член касцёльнага савета.

Аўгусціну Дземідку, яшчэ ніхто пасля вядомага стрэлу ні ў Марцінавічах, ні ў Крамяніцы так адкрыта не пагражаў.

Дземідок аб усім гэтым расказаў Лаўрукевічу. У той жа дзень Уладзімір Антонавіч адправіўся ў Марцінавічы, адшукаў там Кондака. Размова была доўгая, без сведак. Падрабязнасці яе невядомы, але касцёльны служка пасля гэтага аціх.

## АД ЦЕМРЫ ДА СВЯТЛА

Будні, працоўныя, творчыя будні...

Вацлава Карнацэвіча прынялі ў партыю. Лаўрукевіч доўга трос яму руку, віншаваў. Успомніліся першыя іх шчырыя гутаркі... Вось і вырас з Вацлава Іосіфавіча добры камуніст-арганізатар! Стаў кандыдатам у члены партыі і Якалцэвіч Ігнат, брыгадзір першай брыгады. Ён так-



сама не раз выступаў перад калгаснікамі, гаварыў аб сваіх адносінах да бога і рэлігіі.

А тых, што перасталі хадзіць у касцёл, ужо цяжка палічыць — даглядчык цялят Бусловіч Франц, калгаснікі Сліж Аляксандр, Макарэвіч Браніслаў, Сасноўская Марыя, Трыпуць Аляксандр...

Зранку ці ў абед, калі можна застаць калгаснікаў дома або на вуліцы, да іх спяшаецца цяпер не Мальвіна Рудая. Не. Да іх ідзе бібліятэкар клуба Ванда Яроменак. У яе руках — кнігі. І часта вядзе яна вось такія размовы:

— Дзядзька Чура, знайшла я тую кнігу Горкага, калі ласка, бярыце!

— Цётка Людвіся, «Біблію для веруючых і няверуючых» Яраслаўскага яшчэ не прынеслі. Я вам захапіла «Кнігу пра біблію». Таксама цікавая вельмі.

Некаторыя ж любяць перабіраць кнігі самі. Даярка Соня Мацко прыбягае для гэтага аж з Задвор'я. А старому Аляксандру Іванавічу Васілевічу, калі ён занядужаў быў крыху, насілі кніжкі дамоў.

Мяняюцца, растуць людзі... І калі яшчэ старыя часам чапляюцца за рэлігію, то моладзь не так проста аблытаць гэтым павуціннем. Цяпер ёсць у калгасе свае інжынеры, аграномы, настаўнікі. А дочкі калгаснікаў Зайца і Бусловіча паканчалі інстытуты і вярнуліся настаўнічаць у сваю школу. Шмат моладзі пасля дзесяцігодкі пайшло ў калгас, добра працуе. Усё заканамерна, здзіўляцца няма чаго...

Прыязджалі на лета студэнтка Мінскага педінстытута Святлана Леановіч, рабочы Іван Бусловіч. Усе ў ахвоту, заўзята працавалі на ўборцы. Так і трэба, а як жа...

І ўсё ж прыезд адной дзяўчыны, ды не абы-каго — Баляславы, дачкі Трацяка, ды не абы з кім — са сваім жаніхом, ускалыхнуў вёску. А выпадак, што адбыўся хутка пасля іх прыезду, даў гаворкі на цэлы год...

Кожны вечар юнак і дзяўчына бывалі ў клубе, не прапусцілі ніводнага кіно, ніводнай лекцыі. Слухалі, як Бортнік Іван вырасціў ураджай цукровых буракоў у паўтара раза большы, чым у астатніх брыгадах. Радасна дзівіліся поспехамі брыгадзіра механізатараў Івана Насуты, трактарыстаў Зайца, Шпулы, Рачыка, Шніпа, якія разам з калгасным слесарам Цэзарам Кернажыцкім самі пабудавалі кукурузасаджалку.

Хлопец той, жаніх, з усяго дзівіўся. Ці не меўся застацца ў калгасе назаўсёды?

І вось надышоў дзень вяселля.

Гулялі ў хаце Трацяка — мураванай камяніцы, адзінай на ўсё сяло. Было і «Горка-а!» і песні дружак, і жарты-прымаўкі свата. Нарэшце настаў час...

— Пара, дзеткі, збірайцеся... Там ужо святы айцец чакае, бацька ж дамовіўся, — затурбавалася маці.

— Каго, дзе чакае? — перапытаў жаніх.

— Як дзе? У касцёле. Пад вянец вам пара ехаць.

— А мы вянчацца не паедзем. Праўда, Слава? — зірнуў ён на сваю нявесту.

— Матка боска, што ж гэта робіцца... — старая захрысцілася. — Дачушка, родненькая, не стройце кепікаў з бацькоў.

— Мама, вяселле і без вянца добра ідзе, і нікуды мы не паедзем!

Нехта залемантаваў, камусьці зрабілася млосна. Стары Трацяк, што якраз прабраўся з сянец з паўлітэркамі ў руках, пры апошніх словах дачкі зяпнуў ротам, як шчупак на беразе, і, крыва стаўляючы ногі, вываліўся з хаты. У сцяну з двара глуха грукнула: дзуньх! дзуньх! Аскалёпкі ад бутэлек шаргатнулі па шыбах...

Палова гасцей разышлася адразу. Астатнія трохі патырчэлі за сталамі і таксама пачалі развітвацца.

А пад вечар, ашчаперыўшы галаву рукамі, сядзеў Трацяк за сталом у ксяндза.Ківаўся з боку ў бок. Разгневаным тыграм — дзе дзелася адвечная вытрымка! — гойсаў па пакоі Грасевіч. Такой знявагі, такой

аплявухі, якую сёння ён атрымаў ад трацяковай дачкі, яшчэ ніколі не залучаў. Раз'ятраны, дарэмна прачакаўшы ў касцёле дзве гадзіны, ён прымчаў агародамі дамоў, сарваў і шпурнуў у кут сутану. З тайніка дастаў чысты «спірытус віні».

— Парадзіў дз'ябла, пся мацы!

Маўчалі і пілі, потым п'яна, хрыпла спрачаліся і зноў пілі...

Трацяк прыдыбаў да клуба, зазірнуў у вокны, з якіх білі праменні святла. Паўнюткі... А вунь, быццам нічога і не здарылася сёння, сядзіць яго дачка са сваім мужам. На сцэне — Генрых Руды, калгасны матарыст, нядаўні дзесяцікласнік. «О, той арыштант на розныя штукі мастак...» Трацяк услухоўваецца ў тое, што гаворыць Руды, і ўнутры ўсё пераварочваецца ад злосці. Ён адхінаецца ад акна, а ўслед нясецца:

— О, куды ты, свенты Яне?
Пане Яне! Не ўцякай!
Пане Яне, пачакай!

Уладзімір Антонавіч збіраўся ў Маскву на ўсесаюзную нараду лектараў-атэістаў. Збіраўся і выпадкова знайшоў прыхаваны жмук запісак-ананімак з пагрозамі, праклёнамі... Зрывала з дзвярэй, з плоту, атрымлівала па пошце і... хавала жонка, каб не турбаваць свайго Валодзю.

**Зельвенскі раён**
**Гродзенскай вобласці.**

## Навука і культура



# НАРАДЖАЮЦЦА НОВЫЯ ГАРАДЫ

У нашай рэспубліцы зусім нядаўна нарадзіліся тры новыя гарады: Салігорск, Шацілкі і Нафтаград. Салігорск дасць мінеральныя ўгнаенні, Шацілкі — прадукты хімічнай вытворчасці, Нафтаград — паліва для машын.

НАС ЗАЎСЁДЫ ВАБІЦЬ таямніца зараджэння горада. Як і чаму ён узнік, хто ў ім жыў. Археолагі робяць раскопкі. Каштоўныя рэліквіі ў выглядзе гліняных чарапкоў, тыгляў для плаўкі металу, ювелірныя ўпрыгожанні захоўваюцца ў музеях. Мы пазіраем на ўсё гэта з пашанай, часам — з захапленнем. Вось пачатак таго складанага і жывога комплексу, які мы называем сваім горадам, дзе мы нарадзіліся і па зямлі якога мы ступаем, ідучы на працу. Тысячу гадоў назад тут быў збудаваны першы дом...

Цяжка ўявіць, як закладваўся горад раней. Гэта ўсё авеяна легендамі. Затое аб нараджэнні сучаснага горада варта расказаць. Магчыма, у гэтым менш чароўнага і патаемнага, але ў нараджэнні нашага горада ёсць і свая леген-

дарнасць, і свая прыгажосць, і свая велічнасць.

* * *

Стагоддзямі ціха і марудна раслі лясы, прэлі зацягнутыя зялёнай цінаю балоты. І ў лясоў, і ў балот чалавек з цяжкасцю адваёўваў кавалкі зямлі і ператвараў іх у поле.

А ў гэты самы час вучоныя думалі аб загадцы Палескай упадзіны. Яны мелі на ўвазе не тую ўпадзіну-нізіну на паверхні зямлі, якую займаюць балоты і руслы шматлікіх рэк, а іншую — тэктанічную, якая знаходзіцца глыбока ў зямной кары. Зямля мае каменны базальтавы шчыт, які на поўначы нашай рэспублікі залягае параўнаўча неглыбока, а перад Палессем рэзка абрываецца. Усё Палессе, нібы гіганцкая чаша, запоўнена мільёнагадовымі адкладаннямі розных парод. І вучоныя прадказвалі, што ў гэтай «чашы» можна знайсці і нафту, і газ, і соль. І сапраўды, пошукі геолагаў пацвердзілі прадказанні вучоных. На поўдні Беларусі знойдзена нафта, каля Старобіна — запасы каменнай солі. Ды якія запасы! У гэты гіганцкі пласт можа цалкам схавацца мінская двухсотметровая тэлевышка. А цягнецца ён на многія кіламетры.

Прайшоў час і наспела неабходнае рашэнне: будаваць калійны камбінат. Праектная арганізацыя атрымала заказ: вось кропка на карце, тут ёсць калійная соль, тут будзе камбінат. Правялі геалагічныя даследаванні, зрабілі здымкі мясцовасці, вызначылі месцы будаўніцтва шахтаў.

Справы хапіла на сотні чалавек. Геадэзісты здымалі мясцовасць, інжынеры праектавалі шахты, гмахі камбіната, вучоныя спрачаліся, якія метады выгадней скарыстаць на будучым камбінаце для абагачэння і ачысткі калійнай солі, планавікі падлічвалі неабходныя грашовыя выдаткі. Былі пачэрчаны і спісаны горы паперы, было тысячы гарачых спрэчак, бо трэба было ўсё ведаць, усё ўлічыць, нельга было памыліцца нават у дробязях.



**Нафтаград. Звонкая песня лунае над кварталамі навасельцаў.**
Фота М. Мінковіча.

НАРЭШЦЕ МЕСЦА будаўніцтва вызначана і ў Белдзяржпраект паступіла паведамленне: камбінат будзе вось тут.

Белдзяржпраект — генеральны каардынатар новага горада. На яго сумленні — вуліцы, жылыя раёны, ён павінен паклапаціцца аб кінатэатрах, магазінах, лазнях, скверах, падумаць, што будаваць у першую чаргу, дзе размясціць кварталы індывідуальнай забудовы.

Белдзяржпраект знаходзіцца ў Мінску, на вуглу вуліц Карла Маркса і Леніна. Як і ў любой іншай установе, тут ёсць і доўгія калідоры, і шмат кабінетаў. Кабінеты застаўлены чарцёжнымі сталамі. За сталамі — людзі, большасць з іх маладыя — юнакі і дзяўчаты. Яны ўмеюць быць і сур'ёзныя і вясёлыя, тут пачуеш і дасціпны жарт і ўбачыш нахмураны твар. Людзі як людзі.

Але ў іхніх руках — новыя гарады.

Салігорск будуецца. Узнікае першы мікрараён новага горада.

Шацілкі або, як іх хочуць назваць першыя гарадскія жыхары, Светлагорск, уласна кажучы, яшчэ не пачыналі будаваць. Той двух- і трохпавярховы горад, які жыве цяпер — гэта толькі ўскраіна будучага горада. А будучы горад можна ўбачыць у Белдзяржпраекце.

Пасярэдзіне прасторнага пакоя ссунута некалькі сталоў, на іх — велізарны чарцёжны шчыт. На паперы начэрчана мясцовасць — рака, лясы, палі, дарогі, павышэнні і паніжэнні рэльефу. Тут будзе горад. У пакоі ўздоўж сцен стаяць сталы, заваленыя вялікімі і малымі скруткамі.

Архітэктар Генадзь Булдоў разгортвае адзін з іх. Там вялікімі прамавугольнікамі вызначаны мікрараёны новага горада.

— Тут агульная планіроўка, — кажа ён. — А сам горад мы толькі пачынаем распрацоўваць. Праектная арганізацыя сказала нам: тут размесцяцца цэхі. Наша першая задача — выбраць месца для будучага горада.

— Вось ружа вятроў, — паказвае архітэктар на разетку няправільнай формы, адзін з промняў якой выцягнуты асабліва далёка і востра. — Па ёй можна меркаваць, у якім напрамку дзьме больш вятроў. Нам трэба размясціць горад так, каб на яго не абрушваўся дым з комінаў, розныя газавыя адыходы цэхаў. Трэба ўлічыць, каб прамысловыя прадпрыемствы не забруджвалі раку. Мы прыйшлі да вываду, што вось гэтае месца найбольш падыходзіць для новага горада. Паміж цэхамі і жылымі раёнамі мы пакідаем двухкіламетровую лясную зону.

Мясцовасць, дзе будзе новы горад, адносна спакойная, роўная: вось тут вялікія лясныя масівы, — паказвае Генадзь Булдоў на зялёныя плямы, якія акружаюць прамысловыя аб'екты, а затым шырокай паласой пад вуглом да ракі цягнуцца праз увесь будучы горад. — Лясныя масівы мы пакідаем. Гэта будуць паркі і бульвары горада. Вялікі парк перасячэ горад па дыяганалі. Мы імкнуліся максімальна выкарыстаць лес. Вядома, горад з бульварамі і паркамі будзе каштаваць крыху даражэй, але ўсё гэта акупіцца. У горадзе-садзе людзі хутчэй будуць пасля працы аднаўляць свае сілы, а значыць, працаваць больш прадукцыйна. Гэта будзе горад новага тыпу, бо ў першую чаргу праектыроўшчыкі клапоцяцца аб выгадах для чалавека.

ЯК БУДАВАЛІ З ВЕКУ Ў ВЕК? Горад уздоўж і ўпоперак рассякалі на вялікую колькасць вуліц. Атрымліваліся невялікія квадраты. Уздоўж усіх бакоў квадрата шчыльна — адзін каля аднаго — ставілі дамы. Атрымліваўся вялізны-вялізны дом з невялікім дваром у сярэдзіне. Чвэрць жыхароў мела вокны на поўдзень, чвэрць — на поўнач, а другая палавіна — на захад ці ўсход. А хто не любіць сонца?

За акном грымяць машыны, цэлы дзень вуліцы дыхаюць асфальтам і шкодным перагарам бензіну, пыл паднімаецца да восьмага

паверху. У маленькім двары шмат дрэў не пасадзіш. Дзеці павінны ісці ў дзіцячы сад або ў школы толькі разам з дарослымі, бо па дарозе трэба перасекчы некалькі ажыўленых вуліц. Магазіны, цырульні, пошта, атэлье бытавога абслугоўвання — усё гэта раскідана ў розных месцах. Сем патоў выльеш, пакуль наведаеш усё, што трэба.

У гарадскім шуме вельмі многа ультрагукаў, яны разбураюць нервовую сістэму чалавека. Чалавек не можа нармальна адпачываць, ён хутка стамляецца, заўчасна старэе.

Чалавек у горадзе развучыўся хадзіць. Ды і хіба прыемна ісці па шумлівай пыльнай вуліцы.

І вось, як рэакцыя на такі горад, які вядзе свой пачатак ад сярэдневяковага, дзе імкнуліся ўціснуць за каменную сцяну крэпасці як мага больш дамоў, узнікла ідэя горада-саду. Кожны дом павінен стаяць асобна, з усіх бакоў яго павінна абмываць святло і чыстае паветра, з усіх бакоў яго павінны акружаць дрэвы. Архітэктары прапанавалі будаваць не маленькія кварталы, плошчай у тры або ў пяць, а ў дваццаць — трыццаць пяць гектараў. Магістраль з транспартам выносіцца за межы квартала: ціха, няма ні пылу, ні бензінавага перагару, вакол газоны з зялёнай травой, белыя сцены дамоў узнімаюцца над зелянінаю дрэў. Горад у парку, альбо парк у горадзе. У такім горадзе можна зноў навучыцца хадзіць. Гэта карысна для здароўя.

— Так. Але як дамагчыся, каб кожны атрымаў сонца?




— А мы будзем ставіць дамы з поўначы на поўдзень. Да паўдня сонца будзе ў адной палавіне дома, а з паўдня — у другой, — адказвае Генадзь Булдоў.

І сапраўды, хто і калі загадаў цягнуць дамы толькі ўздоўж вуліцы? Дом можа выходзіць на вуліцу і фасадам, і вуглом. Будзе непрыгожа? Так, не будзе хараства ранейшага тыпу, прыгажосці, якая прыносіла чалавеку гэтулькі непрыемнасцей. Але будзе прыгажосць новая, якая складаецца з хараства прыроды і прывольна размешчаных светлых аб'ёмаў дамоў. Прыгажосць ранейшага горада — гэта ў асноўным прыгажосць каменя, у які чалавек удыхнуў жыццё сваёй душы, а ў новым горадзе да гэтай прыгажосці будзеададзена яшчэ і прыроднае хараство лесу. Дамы могуць увахозіць касяком, як жураўліны клін, у глыбіню квартала, дамы могуць размяшчацца паралельна адзін аднаму — тут шмат розных варыянтаў. Трэба толькі, каб гэта давала максімум выгод чалавеку, было эканамічна зручна, адказвала эстэтычным густам нашага сучасніка.

Такія новыя адносіны дома да вуліцы, адносіны прагрэсіўныя, чалавечныя.

МАГЧЫМА ТАК будзе пабудаваны горад з паэтычнай назвай Светлагорск. Гэта яшчэ задумы, мары. Каб стаць рэчаіснасцю, яны павінны, як ні дзіўна, пераадолець вялікую сілу звычкі. Так, усе архітэктары згадзіліся: кварталы павінны быць вялікія, гектараў па дваццаць — трыццаць, цэлы мікрараён са сваёй школай, дзіцячымі садамі, яслямі, магазінамі, атэлье бытавога абслугоўвання. Гэта зручна і дарослым і дзецям.

Але не ўсе сталі паслядоўнікамі новых ідэй.

Архітэктар Белдзяржпраекта Акцябрын Сідзельнікаў расказвае аб забудове Салігорска. Ён знаёміць з макетам першага мікрараёна, паказвае на малюнках. Вуліца — гэта бясконцая, нудная магістраль, якую архітэктары спрабавалі ажывіць дзе-нідзе васьмі-

**Салігорск. Дзе тая вуліца, дзе той дом?**



**Салігорск. Абжытыя кварталы.** Фота А. Дзітлава.

павярховымі дамамі вежавага тыпу. Дамы выцягнуліся адзін за другім уздоўж квартала. Так, прывычка да старога і знаёмага вельмі моцная. А старое пачынае помсціць. Тая гарызантальная выцягнутасць, якую можна было прыняць у малым квартале, тут ператваралася ў нешта нуднае і сумнае.

Выгод чалавеку ад такой забудовы горада таксама не большае.

Аўтобус уехаў у Салігорск. Тут ужо выраслі пяціпавярховыя дамы. Яны хоць і новага тыпу, але залішне падобныя, аднолькавыя. Дамы будуюцца з цэглы па няўдалых тыпавых праектах. Але хутка бетон заменіць цэглу. Бетон, сталь і шкло народзяць новую прыгажосць.

Аўтобус ідзе зусім блізка ад пастаўленых уздоўж вуліц дамоў. Дамы па-ранейшаму павінны прымаць на сябе камбінаваны ўдар магістралі: грукат машын, пыл, бензінавы перагар.

Людзі, якія пасяліліся з боку магістральнай вуліцы, не маюць магчымасці расчыніць дзверы на балкон, адчыніць акно. У некаторыя кватэры не трапляе сонечнае святло, бо дамы ў Салігорску не сарыентаваны па сонцу.

Архітэктар Акцябрын Сідзельнікаў спрабуе давесці, што рух па магістралі будзе не такі ўжо інтэнсіўны. Але ж хто ведае, які будзе Салігорск праз паўстагоддзе? Горад жа будуецца на вякі. Ці не будуць скардзіцца на нас нашчадкі ды нават і сучаснікі за вузкія вуліцы, за адсутнасць бульвараў, за тое, што дамы стаяць блізка каля дарогі, за тое, што ў вокнах няма сонца?

Відавочна, будуць.

* * *

СТВАРЭННЕ ГОРАДА нараджае шмат складаных праблем. Узяць хоць бы размяшчэнне магазінаў, атэлье бытавога абслугоўвання, дзіцячых садоў і ясляў, сталовых. Спрабавалі раскідаць іх па ўсім мікрараёне. Але гэта нязручна. Чалавек занясе дзіця ў яслі, пасля ідзе ў прадуктовы магазін, адтуль у другі канец мікрараёна ў прамтаварны, потым у пральню. Калі ж сканцэнтраваць гэтыя ўсе аб'екты ў цэнтры мікрараёна, то прыйдзецца бегаць па карабок запалак ці буханку хлеба за паўкіламетра. Таксама нязручна. Пакуль што спыніліся на такім варыянце: усё размясціць у цэнтры мікрараёна, а на ўскраінах пабудаваць магазіны прадметаў першай неаб-

ходнасці. Маскоўскія архітэктары прапанавалі тыповы будынак-блок, у якім знаходзяцца розныя магазіны, сталовая, прыёмныя пункты хімчысткі, пральня, цырульня і г. д. Прадугледжаны нават зал для сходаў жыхароў мікраражёна.

А дзе размясціць клінікі, бальніцы, кінатэатры? Над гэтым прыходзіцца думаць.

Раней гарады ўзнікалі на перасячэннях гандлёвых шляхоў, у месцах, дзе выгадна было развіваць рамёствы. Князь-уладар будаваў у пэўным месцы свае харомы, вакол рабіліся ўмацаванні, а маленькія хаціны чэлядзі тоўпіліся вакол сцен. Колькасць рамеснікаў і чэлядзі павялічвалася, і тады горад рос канцэнтрычнымі кругамі, ад цэнтра — да ўскраін.

Нашы новыя гарады паяўляюцца інакш. Спачатку ўзнікае ўскраіна. Гэта двух-трохпавярховыя дамы і інтэрнаты будаўнікоў, якія ўзводзяць прамысловыя аб'екты і кварталы ўскраін будучага горада. Цэнтр горада з'явіцца пазней. Так будуюцца і Салігорск, і Шацілкі, і Нафтаград.

Раней горад шмат разоў перабудоўваўся. Ён быў драўляны, дамы гарэлі, старэлі. Ніхто не клапаціўся тады пра яго планіроўку і, вядома, пра камунальныя выгоды. Цяпер горад будуецца раз і назаўсёды. Таму архітэктары, перш чым прапанаваць канчатковы варыянт горада, праводзяць тысячы спрэчак. На нядаўняй нарадзе архітэктараў у Маскве зноў востра былі пастаўлены многія праблемы горадабудаўніцтва. Праз усе выступленні праходзіла адна галоўная думка: нашы гарады павінны быць гарадамі-садамі, трэба адмовіцца ад ўсяго ўстарэлага, шкоднага, трэба клапаціцца ў першую чаргу аб чалавеку.

Характва новага горада — гэта не самамэта. Чалавек стварае рэчы, а рэчы ўплываюць на фарміраванне чалавечай душы. Клопаты аб характве горада — гэта клопаты аб характве душы чалавека.

**Віктар ГОВАР.**

# НА СЦЭНЕ — СУЧАСНІК

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА



**ГАВОРКА** (пасля таго, як Галя адказала, што яна «больш за ўсё на свеце любіць людзей і кароў»). **Іншыя маглі б засмяяцца з такога адказу. Але я разумею чалавека, які больш за ўсё на свеце любіць людзей і сваю работу!..**

Спектакль па п'есе І. Шамякіна «Выгнанне блудніцы». У ролі Гаворкі народны артыст рэспублікі Ф. Шмакаў.

Фота **А. Дзітлава.**

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ



**ЛУШКА (ЛЯВОНІХА). Лявон! Ты ж раб свае кароўкі... Гатоў нават жонку кінуць, каб захаваць сваё, маё, лебяду, карову. Колькі той уласнасці, а так за яе чапляецца.**

Спектакль па п'есе Андрэя Макаёнка «Лявоніха на арбіце». У ролі Лушкі арт. Г. Макарава.

Фота **І. Ароцкера.**

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТР ЮНАГА ГЛЕДАЧА

**МІША. Трэба так. Які ўчынак будзе больш правільны, той і рабіць.**
**ГЛАША. А як зразумець, які правільны?**
**МІША. Гэта таксама магу сказаць. Той учынак будзе больш правільны, якога не будзеш саромецца потым.**

Спектакль па п'есе Л. Успенскага «Дзяўчына з вяснушкамі». У ролі Глашы арт. Л. Цімафеева, У ролі Мішы—арт. У. Драбышэўскі.

Фота **А. Дзітлава.**





**МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР**

**ВЯЗЬМІН** (пра зробленае ім даследаванне матэрыялаў для новага рухавіка). **Зайшоў у тупік.**

**ДРОНАЎ. Тупікоў у жыцці не бывае. Тупікі бываюць вось тут... у галаве. Вось вам рашэнне. Але прыйшлося паламаць галаву!**

Спектакль па п'есе С. Алёшына «Усё астаецца людзям». У ролі Вязьміна — арт. А. Рудакоў, у ролі акадэміка Дронава — заслужаны артыст РСФСР Н. Радзіонаў.

Фота **У. Крука.**

# ЗАСНАВАЛЬНІК ПРАФЕСІЯНАЛЬНАГА ТЭАТРА

**(Да 100-годдзя з дня нараджэння І. Ц. Буйніцкага)**

...Імжыць асенні дождж. Завальваючыся ў глыбокія калдобіны і распырскваючы дарожную каламуту, па дарозе едзе некалькі падвод. Непрыветна вакол, журботна. Але гэты асенні настрой не бянтэжыць падарожнікаў — маладых сялянскіх хлопцаў і дзяўчат, апранутых кожны па свайму дастатку. Сярод іх вылучаецца сваім пажылым узростам чарнавалосы, з сівізной каля вуха, чалавек. Ён то перакінецца жартам з хлопцамі, то падміргне дзяўчатам, то раптам задумаецца, любуючыся дарожнымі малюнкамі. Звяртаюцца ўсе да яго паважна «пан Ігнат».

Што гэта за людзі? Адкуль і куды шлях свой трымаюць? І паклажа на вазах незвычайная. У аб'ёмістых клунках старанна складзены святочны апратак, абутак, а дзесьці ў торбе ціха трымцяць цымбалы. На вяселле ці што сабраліся?

Так калісьці вандравала па бяскрайніх дарогах Беларусі трупа першага нацыянальнага тэатра пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага.

Буйніцкага з яго тэатрам чакалі ўсюды задоўга да яго прыезду, старанна рыхтаваліся да сустрэчы. І чаканні гэтыя не былі дарэмныя. Даволі было Буйніцкаму і яго таварышам падняцца на сцэну, апранутымі ў нацыянальную беларускую вопратку, каб выступіць у танцах і спевах, як гэта выступленнеператваралася ў сапраўднае свята. Людзі шчыра радаваліся, станавіліся душой бліжэй адзін да другога.

Ігнат Цярэнцевіч Буйніцкі нарадзіўся 22 жніўня 1861 года ў вёсцы Празарокі, былога Дзвінскага павету. Дзіцячыя гады яго прайшлі на Полаччыне. Тут ён спазнаў прыгажосць родных песень і танцаў, навекі парадніўся душою з простымі людзьмі.

У Ігната з маленства жыла моцная любоў да простага чалавека. Гэта любоў стала яшчэ мацнейшай, калі Буйніцкі падрос і стаў разумець увесь жах паднявольнага лёсу мужыка-бедака. Скончыўшы сярэднюю школу ў Рызе, а потым землямернае вучылішча, Ігнат Буйніцкі вяртаецца ў родныя мясціны працаваць каморнікам.

Праца і жыццё на вёсцы настолькі зблізілі Ігната Буйніцкага з беларускім сялянствам, што не магло не пакласці свой адбітак на далейшы яго жыццёвы шлях. Сімпатыі Буйніцкага былі заўсёды на баку пакрыўджанага панам мужыка. Адна пані ў Горках хацела скарыстаць каморніка, каб адабраць зямлю ў сялян. Добры па натуры чалавек, Буйніцкі заступіўся за бяднейшых і прырэзаў ім 15 дзесяцін панскай зямлі. Пані даведалася аб гэтым, запрасіла другога каморніка і прагнала Буйніцкага.

Вярнуўшыся ў родныя мясціны, Буйніцкі атрымоўвае ад бацькі невялікі кавалачак зямлі ў Палівачах і такім чынам становіцца некаторы час эканамічна ні ад каго не залежным. Але моцная цяга да народнага мастацтва не дазволіла Буйніцкаму ператварыцца ў дробнага землеўласніка. Неўзабаве «пан Ігнат» адшуквае ў навакольных вёсках таленавітых скрыпачоў, цымбалістаў, дудароў, здольных да песень хлопцаў і дзяўчат і стварае дваровую трупу.

Па Празароках папаўзла чутка, што ў доме Ігната Буйніцкага кожны дзень збіраецца моладзь, каб ладзіць песні і танцы, якія звычайныя мужыкі на вяселлях і вечарынках пяюць і скачуць. За гэта Буйніцкі іх корміць, справіў ім добрае адзенне і плаціць па рублю за кожны дзень, а таксама дае касіць луг напалавіну. Адзін з удзельнікаў трупы ўспамінае, што «у доме Буйніцкага заўсёды таўпіліся людзі, кожны дзень быццам вяселле якое было».

У асобе Ігната Буйніцкага ўдала спалучаўся і арганізатар, і рэжысёр, і выканаўца. Падзяляла захапленні свайго мужа і жонка Буйніцкага — Францішка, якая таксама любіла народнае мастацтва. Неўзабаве Буйніцкі прыцягвае да работы ў гурток сваіх дачок Ванду-Ігнаціну і Елену-Герменегільду, у якіх ён выявіў здольнасць партнёраў у танцы і добрых дэкламатараў беларускіх вершаў.

Празароцкія дзяды і бабулькі сёння яшчэ з захапленнем расказваюць аб вечарынках у доме Буйніцкіх. А прыходзілі туды не толькі сяляне Празарок, але і жыхары ўсіх бліжэйшых вёсак. Цягнула іх не жаданне паглядзець на «панскія забавы», а чутка аб тым, што там гавораць на звычайнай мужыцкай мове вершы, пяюць вясковыя песні і скачуць мужыцкія танцы. І апратак і музычныя інструменты ў іх вясковыя. І не для насміхання ўсё гэта зроблена, а каб паказаць, як гэта прыгожа.

Добра разумеў Ігнат Буйніцкі гэты настрой чалавека працы. І калі спачатку яго дзейнасць ішла не далей захаплення народнымі танцамі і песнямі, то пазней ён цалкам аддаецца любімай справе як сродку абуджэння ў чалавека грамадзянскай і нацыянальнай свядомасці.

Гады пасля першай рускай рэвалюцыі 1905 года на Беларусі былі характэрны актыўнай барацьбой беларускага народа за сваю сацыяльную і нацыянальную свабоду. Нягледзячы на жорсткую рэакцыю, пачынаецца шырокі вызваленчы рух. Гэта з'ява не праходзіць міма Ігната Буйніцкага, і ён разумее, што тэатр з яго нацыя-



**Ігнат Буйніцкі з дочкамі ў танцы.**

З фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы.

нальным рэпертуарам можа адыграць вялікую ролю ў справе зацвярджэння права беларускага мастацтва на самастойнае існаванне. Паступова трупа пачынае вандраваць па бліжэйшых ваколіцах.

Слава аб «тэатры Буйніцкага» разносіцца далёка і хутка дасягае Вільні. «Наша Ніва» ўсё больш і больш пачынае цікавіцца яго дзейнасцю, час ад часу змяшчае на сваіх старонках невялікія артыкулы аб дзейнасці тэатра. А напрадвесні 1910 года Ігнат Буйніцкі атрымоўвае афіцыйнае запрашэнне прыехаць з тэатрам у Вільню, каб прыняць удзел у публічным беларускім вечары. К гэтаму часу трупа вырасла ў моцны калектыў таленавітых выканаўцаў. Акрамя песень і танцаў, рэпертуар яе быў насычан палымянымі вершамі Янкі Купалы і Якуба Коласа, сцэнічнымі пастаноўкамі. Да работы ў гуртку былі запрошаны А. Бурбіс, які ставіў спектаклі, і Л. Рагоўскі, які кіраваў хорам. Такім чынам, аматарская трупа Буйніцкага ператваралася ў прафесіянальны тэатральны калектыў.

Газета «Наша ніва» на сваіх старонках захавала для нас апісанне вечара з удзелам трупы Ігната Буйніцкага. «Спачатку артысты першага беларускага тэатра паказалі камедыю «Па рэвізіі»... Затым падняўся і выступіў беларускі хор з 46 чалавек... Уся зала стала нібы бурным морам народным, уся дрыжала ад крыкаў: «Брава! брава, беларусы!.. Біс!..» Хору прыйшлося па некалькі разоў спяваць песні, якія больш за ўсё захапілі сэрцы і душы людзей сваімі словамі, музыкай. Так віталі людзі ўсіх нацыянальнасцей беларускую песню, якая да гэтага лілася і разлівалася толькі на палях і пералесках, а цяпер адразу выйшла на свет шырокі. Чуваць былі адусюль словы: мы не ведалі, што ёсць беларуская песня і што яна асобая, беларуская, мае сваю душу».

Сапраўдны трыумф выпаў на долю самога Буйніцкага і тых, хто выступаў з ім у нацыянальных танцах. Газета ўсхвалявана адзначае: «Пачаліся на сцэне танцы: Лявоніха, Мяцеліца, Юрка і Верабей пад вясковую беларускую музыку. Трэба прызнацца, што яны ўдаліся на славу. Публіка проста адурэла: усе бясконца крычалі: «брава, біс!» Па 3—4 разы прыйшлося танцаваць адзін танец. Танцоры, хлопцы і дзяўчаты, пад кіраўніцтвам Буйніцкага падабраліся такія, што аж сцэна грымела ад заліхвацкага тупату, і ў вачах мільгацела, як танцавалі Лявоніху, Мяцеліцу або калі 10 прыгожа апранутых пар завіваліся даўгім хвастом у Вераб'і».

Акрылёны першым поспехам у вялікім горадзе і незвычайным захапленнем гледача беларускім мастацтвам, Буйніцкі і ўдзельнікі яго трупы наладжваюць шырокую гастрольную паездку па іншых гарадах Беларусі. Яны наведваюць Дзісну, Полацк і іншыя мясціны, дзе поспех ад выступленняў больш за ўсе іх чаканні.

Высакародная праца Буйніцкага заключалася не толькі ў наладжванні спектакляў, але і ў творчым ажыўленні мастацкіх аматарскіх сіл. Калі трупа пакідала мястэчка ці вёску, то пасля яе заўсёды заставаўся маленькі парастак тэатральнага самадзейнага мастацтва, якому суджана было жыць і развівацца.

З кожным годам трупа Буйніцкага творча ўмацоўвалася. У рэпертуары з'яўляюцца такія п'есы, як «Мядзведзь» і «Сватанне» А. Чэхава, «Па рэвізіі» і «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Хам» і «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі.

Дзейнасць трупы Ігната Буйніцкага прыкоўвала да сябе ўвагу перадавых людзей нацыянальнай культуры. Асабіста з Буйніцкім былі знаёмы і падтрымоўвалі сувязі Янка Купала і Якуб Колас, польская пісьменніца Эліза Ажэшка, горача вітаў яго працу Змітрок Бядуля, а Цётка нават не аднойчы ўдзельнічала ў пастаноўках трупы Буйніцкага. Вядомасць тэатра Буйніцкага дакацілася і да Пецярбурга, куды ў 1911 годзе яго запрасіла група беларускай студэнцкай моладзі выступіць на вечарынцы.

Праз год І. Буйніцкі з невялікай часткай сваёй трупы зноў наведвае Пецярбург, дзе выступае на этнаграфічным вечары, арганізаваным рэдакцыяй часопіса «Вестник знания». Беларускія танцы ў майстэрскім выкананні Буйніцкага атрымалі найвышэйшую ацэнку. Галоўнаму выканаўцу былі паднесены вянкі і каштоўныя падарункі. Не лішнім будзе сказаць, што пад уплывам дзейнасці тэатра Ігната Буйніцкага Янка Купала звярнуўся да напісання нацыянальных драматычных твораў, а самому завадатару паэт прысвяціў асобны верш.

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
У танцах нашых водзіць,
Аж здаецца — усё чыста
Ходырам з ім ходзіць.

Калі пусціцца скакаці, —
Ажно сэрца скача;
Лепшых танцаў і ўвесь Піцер
Бадай што не бачыў.

Ці «Мяцеліца», ці «Юрка»,
«Мельнік», ці «Антошка», —
Ўсё ў яго зыходзіць гладка,
Не змыліць ні трошка.

Пад дуду ці пад цымбалы
Топне, прыспявае...
Сцеражыся, усе людзі:
Беларус гуляе!

Не ўнімайся ж і скачы нам
Покуль сілы хваціць,
Мо' пачнуць і думкі нашы
Весялей скакаці!

Летам 1911 года Ігнат Буйніцкі наладжвае шырокую гастрольную паездку па Мінскай губерні. Гастролі пачынаюцца з Мінска, потым ідуць у Слуцку, Капылі, Цімкавічах, Клецку, Нясвіжы, Ляхавічах, Баранавічах... Умовы вандроўкі былі цяжкія, бо на кожным кроку мясцовыя ўлады чынілі розныя перашкоды тэатру, які асмеліўся выступаць на «мужыцкай» мове. У дзейнасці беларускага нацыянальнага тэатра яны бачылі «крамолу». Акцёр трупы Забель расказваў, што за Буйніцкім «сачылі, у кожным слове яго, на сцэне і за ёй, шукалі калі не беларускага сепаратызму, то, у найлепшым выпадку вальнадумства. Уся наша трупа (складзеная, трэба сказаць, з дэмакратычнай моладзі) узята была пад нагляд паліцыі».

Прычын для забароны выступленняў было шмат. Напрыклад, у Слуцку мясцовай шляхце не спадабалася пастаноўка «Модны шляхцюк», і яна дабілася ад іспраўніка забароны гастролей па ўсім Слуцкім павеце. Буйніцкаму давялося паехаць у Мінск і прыкласці шмат намаганняў, каб зняць гэтую забарону. Часам накладвалася забарона іграць «па-беларуску», тады на афішы з'яўлялася канспіратыўнае паведамленне, што выступаць тэатр будзе на «балгарскай мове».

Просты працоўны люд і дэмакратычна настроеная моладзь гарадоў і мястэчак гасцінна сустракала свой тэатр і шчыра радавалася яго поспеху. Гэта народная любоў прымушала ўдзельнікаў спектакля ўкладваць у сваё выступленне ўвесь талент, каб абуджаць у гледачоў думкі аб роўнасці, свабодзе і нацыянальнай годнасці беларуса.

У 1913 годзе Ігнат Буйніцкі са сваёй трупай выступае ў Варшаве, дзе карыстаецца не меншым поспехам, чым на Беларусі. Нацыянальнае мастацтва, дзякуючы стараннем гэтага нястомнага энтузіяста, становіцца вядома далёка за межамі свайго краю.

Шматлікія гастрольныя паездкі, якія ў асноўным наладжваліся на даходы ад уласнай гаспадаркі І. Буйніцкага, хутка прывялі да таго, што кіраўніку тэатра давялося прадаць свой фальварак Палівачы і распусціць трупу. Але І. Буйніцкі не пакідае думкі стварыць сапраўдны тэатр, якому пад сілу было б ставіць буйныя драматычныя творы. Для гэтага былі прадпрыняты пэўныя практычныя крокі, але ажыццяўленню смелых планаў перашкодзіла першая сусветная вайна.

У 1917 годзе І. Буйніцкі актыўна ўключаецца ў стварэнне «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі». Ён нават быў выбраны яго кіраўніком.

Памёр Ігнат Буйніцкі 9 (22) верасня 1917 года ў Маладзечне. Гэта была вялікая страта не толькі для людзей, якія блізка ведалі Буйніцкага, але і для ўсёй культуры беларускага народа. Спачатку ён быў пахаваны ў Палачанах, але неўзабаве дочкі перавязлі яго прах у Палівачы. Шмат сялян сабралося праводзіць у апошнюю дарогу чалавека, які заслужыў да сябе вялікую любоў і павагу. Паміж Палівачамі і Празарокамі ўзвышаецца вялікі курган. На яго вяршыні і знаходзіцца магіла выдатнага дзеяча беларускага тэатральнага мастацтва Ігната Буйніцкага.

Цяжка нават ацаніць усе моманты яго высакароднай дзейнасці на карысць сваёй радзімы. Усё жыццё Ігнат Цярэнцевіч прысвяціў збіранню і прапагандзе лепшых здабыткаў нацыянальнай культуры, літаратуры і мовы, усе свае сілы і сродкі аддаў арганізацыі народнага тэатра, тым самым залажыўшы першыя асновы беларускага прафесіянальнага тэатра.

**Сяргей ПЯТРОВІЧ.**

# НАША ІМЯ

І на праспекце лета. Сонца б'е проста ў вочы, прымушае прыжмурвацца. Можна нават не заўважаць знаёмых — вінавата сонца! Але як ты не заўважыш свайго сябра, калі яго твар свеціцца не горш за сонца.

— Добры дзень, Мікола!

— Ах... Добры дзень.

— Куды гэта ідзеш ты ў выхадны дзень адзін, без жонкі?

— Ды яна, бачыш, у бальніцы...

— Што?! У бальніцы? А ты такі вясёлы?

— У нас — сын... Заўтра яму тыдзень.

— І ты дагэтуль маўчаў? Ну і ну! Як жа назвалі сына?

— Ды пакуль што не ведаем. Можа назавем Андрэем ці Сяргеем, а можа Валодзем...

— О, гэта пытанне сур'ёзнае, яго трэба абмеркаваць як мае быць!

Прыкладна такая размова адбылася ў мяне нядаўна з адным прыяцелем, у якога нарадзіўся сын.

І сапраўды, выбар імя — сур'ёзная справа. У сувязі з гэтым пытаннем мне давялося неяк наведаць усе ЗАГСы горада Мінска. Аказалася, што ўласных імён ва ўжыванні вельмі нямнога. Па некалькі разоў на кожнай старонцы кнігі запісаў паўтараюцца такія імёны: Андрэй, Аляксандр, Сяргей, Юры, Ігар, Алег, Валеры, Наталля, Тацяна, Святлана, Людміла, Алена, Ірына.

Уласнае імя даецца чалавеку для таго, каб адрозніць яго ад другіх у сям'і, у калектыве, у грамадстве. Яно паявілася вельмі даўно ў сувязі з тым, што хацелі неяк выдзеліць аднаго чалавека з калектыву, звярнуць на яго ўвагу іншых людзей. Прычым яго давалі ўжо даросламу чалавеку і не кожнаму. Уласнае імя і назва-мянушка доўгі час не адрозніваліся паміж сабой. Многія імёны, якія ў наш час лічацца за мянушку-абразу, у свой час так не ўспрымаліся, бо азначалі проста імя. Між іншым, і прозвішчы людзей узніклі значна пазней, чым уласныя імёны, а многія з іх утварыліся ад уласных імён.

Уласныя імёны ў большасці сваёй паходзяць ад агульных назваў прадметаў, якасцей, уласцівасцей. Нашы продкі рабілі ўласным іменем чалавека агульную назву, імкнучыся пры гэтым улічыць асаблівую рысу яго знешняга выгляду або характару.

Гэты прынцып захаваўся ў многіх народаў да нашых дзён. Напрыклад, у амерыканскіх індыйцаў, у неграў Паўднёвай і Цэнтральнай Афрыкі, у кітайцаў. Кітайскія імёны ў перакладзе на нашу мову абазначаюць: «белы лотас», «радасць майго жыцця», «вясенні скарб», «асенняе багацце» і інш. У нас да хрышчэння Русі былі свае ўласныя імёны, таксама ўтвораныя ад агульных назваў. Ва ўласных імёнах адлюстроўваліся бацькоўскія пачуцці да нараджэння дзяцей (Ждан, Жданка, Бажэн, Бажэна (жаданая), Любім, Мілюк, Харош, Дзічок, Дабрыла і інш.), у імені адлюстроўваўся час нараджэння дзіцяці (Зімняк, Зіма, Вяшняк, Вясна, Субота, Нядзеля і г. д.), даваліся імёны, якія адлюстроўвалі знешні выгляд дзіцяці (Святлан, Святлана, Чарныш, Чарнышка, Малыш, Малышка і інш.).

У час хрышчэння на Русі паралельна з айчынным уласным іменем людзям пачалі даваць і другія імёны, так званыя хрысціянскія. Гэта імёны, старажытнаяўрэйскія, лацінскія і грэчаскія, па свайму паходжанню, былі таксама ўтвораны ад агульных назваў і мелі такую ж па прынцыпу семантыку на сваёй радзіме. У час хрышчэння грэчаскія, лацінскія ўласныя імёны страцілі сваё канкрэтнае значэнне як словы, а сталі ўжывацца ў нас як афіцыйнае імя. У быту ж доўгі час заставаліся ва ўжыванні свае, айчынныя імёны. Таму ў летапісах часам сустрэнеш такое: «у хрышчэнні Канстанцін па назве Субота...» Ужыванне двух імён на Русі існавала даволі доўгі час, прыкладна з XII да XVIII стагоддзя. Пазней айчынныя імёны ў большасці выпадкаў зніклі або ператварыліся ў мянушкі. Айчынных імён захавалася не шмат: Уладзімір, Любім, Любамір, Вечаслаў, Яраслаў, Людміла, Святлана, Бажэна і іншыя.

У свой час у Грэцыі імёны: «Архіп» — «старэйшы над коньмі», «Піліп» — «любіцель коней», «Іпаліт» — «той, хто распрагае коней», — давалі асобам, якія мелі ў працы пэўныя адносіны да коней. Прахорам называлі чалавека старэйшага ў хоры.

Многія з імён, якія трывала ўвайшлі ў нашу мову, у наша жыццё — Андрэй, Арсен, Аляксей, Аляксандр, Валянцін, Валеры і іншыя — маюць значэнне: «мужны», «храбры», «смелы», «моцны». Жаночыя ўласныя імёны — Марыя, Домна, Матрона, Тацяна — маюць значэнне: «гаспадыня», «старэйшая», «уладарка». Шырока распаўсюджанае ў нас уласнае імя «Ірына» абазначае — «мір», «мірная», «Марына» — «марская», «Алена» — «факел», «Наталля» — «родная», «народжаная», «Кацярына» — «чыстая», «непарочная», «Аксана» — «госця», «іншаземка». Мужчынскія ўласныя імёны, якія ў нас шырока распаўсюджаны, маюць наступныя значэнні: Астап, Пётр — «цвёрды», Віктар — «пераможац», Васіль — «царскі», княжацкі», Клім — «ласкавы», Кандрат — «чатырохвугольны», Платон — «шырокі», Сцяпан — «увенчаны».

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 20—30 гады адчувалася імкненне грамадскасці ўвесці шэраг новых уласных імён, якія б адлюстроўвалі нашы перамогі, савецкае жыццё. Тады з'явіліся імёны: Індустрыяна, Трактар, Трактарына, Спартак, Кім, Радый і іншыя. Гэтыя імёны не ўтрымаліся ў мове, бо ў адносінах да імён склаўся цвёрды моўны закон — ужываць слова-назву, без уліку яго семантыкі.

У сучасны момант у нас даюцца імёны без уліку іх значэння і паходжання. Мы называем Святланамі не толькі светлых, але і чорнавалосых, чарнавокіх дзяўчынак. Пашыраны айчынныя, грэчаскія, лацінскія імёны.

Мы часта даём свайму дзіцяці імя, якое носіць блізкі, дарагі

нам чалавек. Часам мы даём імя чалавека, памяць аб якім ушаноўваецца. Вось чаму ў нашай краіне такім распаўсюджаным з'яўляецца імя Уладзімір — у знак пашаны да нашага вялікага правадыра Уладзіміра Ільіча Леніна. Уладзімір па паходжанню — славянскае імя, у якім адлюстравана спрадвечная мара чалавека аб пакарэнні сіл прыроды, зямлі, космасу. Імя Аляксандр мы даем у памяць аб нашых нацыянальных героях — Аляксандры Неўскім, Аляксандры Сувораве, Аляксандры Матросаве. Імя Валеры (лацінскае — «здароўе», «сіла») шырока пайшло ў жыццё ў нас прыкладна ў 30-я гады ў знак павагі да славутага лётчыка-выпрабавальніка Валерыя Чкалава. Яно шырока ўжываецца і цяпер.

У дні, калі ўся наша краіна ўшаноўвала першага ў свеце лётчыка-касманаўта Юрыя Гагарына, многія бацькі далі сваім нованароджаным сынам імя героя. Дарэчы, Юры — гэта імя старажытнае, яно азначае «земляроб, араты, сейбіт».

У многіх сем'ях даюць імёны ў знак павагі да нашых замежных сяброў. Так, у адной таджыкскай сям'і назвалі дзяўчынку «Індзіра» ў памяць аб прыездзе ў нашу краіну індыйскай грамадскай дзячкі Індзіры Гандзі. Нядаўна ў адной ленінградскай сям'і хлопчыка назвалі Патрысам у памяць аб вялікім сыне кангалезскага народа Патрысу Лумумбе.

Але, на жаль, некаторыя бацькі не ўлічваюць, што імя даецца на ўсё жыццё, і кіруюцца ў выбары яго мімалётным, часовым уражаннем. Так, грамадзянін К., жыхар горада Мінска, прачытаўшы кнігу «Спартак» назваў Спартаком свайго сына, і хлопец — звычайны з выгляду, меў потым многа клопату, пакуль змяніў гэта імя на звычайнае. Пад уплывам прачытанай кнігі, прагледжанай кінакарціны, спектакля і іншых выпадковых уражанняў бацькі даюць дзецям імёны — Эдмон, Аўгуст, Травіята, Віялета, Сюіта, Кансуэла, Кунігунда, што гучыць абразліва, як насмешка, мянушка, і прычыняе многа непрыемнасцей іх носьбітам. У савецкага чалавека павінна быць усё прыгожае — і думкі, і справы, і знешні выгляд, і ўласнае імя.

Аднак звернемся да нашага сябра Міколы. Як дапамагчы яму выбраць імя сыну? На наш погляд, трэба ўлічваць, каб імя не было вельмі распаўсюджаным, як гаворыцца «банальным», бо такое імя не будзе выконваць свайго назначэння — адрозніваць адну асобу ад іншых. Трэба ўлічваць, наколькі гэта магчыма, і семантыку слова — імені; неабходна, каб уласнае імя прыемна гучала ў спалучэнні з іменем па-бацьку. Не вельмі пашыраны, хоць маюць станоўчую семантыку і прыемнае для слыху гучанне, наступныя ўласныя імёны мужчын: Максім, Мікіта, Канстанцін, Анатоль, Васіль, Іван, Фёдар, Пётр, Любім, Клім, Ягор, Калін, а з жаночых: Аляксандра (памяншальнае Алеся), Васіліна, Бажэна, Надзея, Вера, Любоў, Алімпіяда (памяншальнае Ліпка), Юлія.

Многія імёны інтэрнацыянальныя па распаўсюджванню. Аднак у кожнай мове яны маюць сваё напісанне і гучанне, бо падпарадкоўваюцца законам мовы як звычайнае слова. Так, напрыклад, імя Антон у французскай мове гучыць Антуан, у польскай — Антоні (памяншальнае Антак). Імя Яўген у французскай мове гучыць Эжэн, імя Сцяпан па-польску гучыць Стэфан, па-венгерску — Іштван.

У беларускай мове ўласныя імёны маюць таксама свае асаблівасці ў вымаўленні і свае правілы напісання. Так, па-беларуску імя Анна гучыць з прыдыхным «г», Ольга мае прыстаўны гук «в», што адлюстроўваецца і ў напісанні: Ганна, Вольга. Таму трэба ўлічваць і гэты момант, каб правільна вымаўляць і пісаць сваё імя па-руску, па-беларуску і на кожнай іншай мове.

**Вера ХАЦКЕВІЧ**

## *Крытыка і бібліяграфія*

**Віктар КАВАЛЕНКА**

# ЧАЛАВЕК І ВАЙНА

Ужо шаснаццаць год, як наша краіна жыве мірнымі справамі, а літаратура аб Вялікай Айчыннай вайне і сёння не перастае хваляваць сэрцы савецкіх людзей. У чым жа тут справа? Чаму ваенная тэма не лічыцца чыста гістарычнай, а прадаўжае заставацца адной з важнейшых тэм сучаснасці?

Зразумела, сённяшняя літаратура вельмі чулая да практычных задач абароны міру. Чалавецтва яшчэ не пазбавілася небяспекі новай вайны, і праўдзівы паказ другой сусветнай вайны — гэта перасцярога людзям, гэта заклік яшчэ гарачэй змагацца за мір.

Але ўявім сабе на хвіліну, што небяспека вайны ўжо мінулася, што арміі распушчаны, а зброя знішчана. Ці знікла б ваенная тэма з нашай літаратуры? Не, не знікла б. Крытыка называе многа прычын «жывучасці» ваеннай тэмы. Гавораць пра абавязак савецкіх пісьменнікаў уславіць бессмяротны подзвіг народа, пра неабходнасць выхоўваць на ваеннай гераіцы маладое пакаленне. Усё гэта правільна, хоць варта зазначыць, што ўсялякі подзвіг, баявы ці працоўны, заслугоўвае аднолькавага ўслаўлення, што ўрэшце любая эпоха па-свойму гераічная. Адказ трэба шукаць глыбей. І барацьба за мір, і ўслаўленне народнага подзвігу, і выхаванне моладзі на гераічных прыкладах — натхнялі нашу літаратуру 40-х гадоў. І калі б яе сённяшняе развіццё залежала толькі ад гэтых задач, сучасныя творы аб вайне нічым не розніліся б ад твораў, напісаных на дзесятак гадоў раней. А яны адрозніваюцца — па жанру, стылю і, само сабой зразумела, — па зместу.

Каб зразумець эвалюцыю ваеннай тэмы, карысна паглядзець, якой была па свайму ідэйна-мастацкаму зместу літаратура ваеннага часу, бо ад яе ідуць вытокі ўсёй пасляваеннай літаратуры аб змаганні нашых народаў супраць фашызма. Якраз тады савецкія пісьменнікі пад уплывам непасрэдных уражанняў, адчуваючы ўласным сэрцам народную бяду, напісалі творы высокага грамадзянскага гучання. У іх мы знойдзем і пафас услаўлення подзвігу народа, і праўдзівасць абставін, у якіх рабіўся гэты подзвіг. Паэма А. Твардоўскага «Васіль Цёркін» і сёння застаецца самым высокім

прыкладам паэтавай чуласці да рэчаіснасці. Акрамя паэмы А. Твардоўскага, глыбока праўдзіва паказана вайна ў такіх творах, як раман Канстанціна Сіманава «Дні і ночы», аповесць Віктара Някрасава «У акопах Сталінграда», раман Алеся Ганчара «Сцяганосцы» і іншых.

У беларускай літаратуры незакончаныя раманы К. Чорнага «Скіп'ёўскі лес» і «Вялікі дзень», паэма А. Куляшова «Сцяг брыгады», многія вершы віднейшых беларускіх паэтаў таксама вылучаюцца рэалістычнай дакладнасцю ў абмалёўцы ваенных падзей, хвалююць жывым пачуццём эпохі.

Але неўзабаве пасля вайны наша літаратура, асабліва проза, пачала паступова адыходзіць ад плённых традыцый ваеннага часу і пад уплывам культу асобы «прасейваць» факты, замоўчваць няўдачы. Стаў пераважаць манументальны, узнёслы стыль. Аднабаковасць выяўлялася ў некаторых творах гэтак моцна, што скажалася праўда рэчаіснасці. Сучасная літаратура, абапіраючыся на творчыя традыцыі літаратуры ваеннага часу, пераадольвае аднабаковасць і неаб'ектыўнасць у падыходзе да жыцця, імкнецца перадаць сапраўдную, непалепшаную гісторыю вайны.

Вызначальнай рысай некаторых твораў 40-х і пачатку 50-х гадоў аб вайне была адкрыта публіцыстычная, знешняя, вельмі выразная паэтызацыя чалавечых спраў на вайне. Стройны рух войск, музычны голас артылерыйскай кананады, эмацыянальна нястрымны парыў салдата ў наступленні, прыгожае перажыванне перамогі — пераважна такія факты складалі змест мастацкіх твораў, і гэта надавала літаратуры пэўную аднастайнасць. Чытач бачыў толькі адзін бок ваенных падзей. Нават смерць салдата на вайне рэдка бывала непрыкметнай ці выпадковай. Забітага хавалі з воінскім ушанаваннем, і франтавыя сябры ўрачыста кляліся адпомсціць за яго ворагу. У такіх малюнках, несумненна, ёсць праўда вайны, але не ўся праўда. На вайне людзі гінулі таксама без вестак і часта неразумна. Недзе па-за ўвагай літаратуры заставаліся важныя моманты ваеннага жыцця, без якіх нельга ўявіць сапраўднага вобліку вайны.

М. Яругін, удзельнік абароны Ленінграда, у вельмі праўдзівых запісках франтавіка «Пра тых, хто выстаяў» успамінае:

«...на перадавую цягнуўся нястройны і рэдкі ланцужок то адзіночак салдат, то груп па двое, па трое. Гэта ішлі невялікія папаўненні, неслі ежу салдатам, снавалі сувязныя, ды ці мала тут розных спраў уночы. Некаторыя з гэтых не дойдуць да месца прызначэння, будуць забіты па дарозе, і, магчыма, іх, асабліва адзінокіх, потым не знойдуць. Яны ціха, непрыкметна пакінуць белы свет, — некаму шукаць іх. Не дойдуць да Колпіна і некаторыя раненыя. Цяпер яны ўжо не на ўліку, — а ў шпіталі яшчэ не залічаны. Пра іх таксама ніхто і нічога так і не даведаецца».

Гэты малюнак перадае будзённыя праявы вайны, і, менавіта, штодзённшчына ваеннага побыту можа служыць сапраўднай мерай народных намаганняў у барацьбе з ворагам.

Высокая пафаснасць у паказе баявых спраў савецкіх людзей патрабавала выбару толькі ўдачлівых, паспяховых сітуацый. Вось якімі пераўвялічана гераічнымі фарбамі, моцна паэтызуючы падзеі «ад сябе», малюе П. Кавалёў танкавы бой у зборніку апавяданняў і нарысаў «Прага бою» (1946):

«Экіпаж, у якім быў сяржант Шорын, працаваў бездакорна. Баявыя сябры сяржанта былі рады, што сёння яны ўступаюць на зямлю свайго таварыша, чым аблегчаць яго доўгія пакуты па родным і мілым краю. **Удвая часцей** звычайнага біліся ў іх сэрцы, **у дзесяткі разоў больш,** чым звычайна, была велічэзная прага бою. Танк **увесь час** быў у сярэдзіне бою. Але што далей, **то ўсё больш і больш вырываўся,** а яшчэ некалькі часу, і ён, як узмылены конь, **гойсаў** ужо на пярэднім краі шырокага поля вайны, **ва ўпор расстрэльваў** нямецкія танкі і **касіў** карцеччу падымаючыхся з умацаванняў у контратаку немцаў». (Падкрэслена мной. — **В. К.).**



Большасць твораў аб вайне, што з'яўляліся ў наступныя гады, хоць і глыбей закраналі псіхалогію людзей, усё ж прадаўжалі традыцыю знешняга адлюстравання ваеннага жыцця. «Братэрства» і «Рэха ў гарах» Т. Хадкевіча, «У агні» І. Гурскага, «Згуртаванасць» М. Ткачова, «Мінскі напрамак» І. Мележа паказвалі салдата і партызана пераважна ў незвычайных, упрыгожаных абставінах.

Аўтарская паэтызацыя герояў асабліва выразна праявілася ў рамане І. Мележа «Мінскі напрамак».

«На лясной дарозе дрэвы галінамі і лістамі, як далонямі, дакраналіся да брані, быццам гладзілі запыленых аўтаматчыкаў і танкістаў, якія сядзелі на башнях, а пасля доўга ківалі ім услед галінамі, быццам развітваліся.

— Глядзі, як прырода радуецца нам, — зачаравана сказаў Колышаў Гогаберыдзе. — Убралася, як дзяўчына.

— Не, таварыш лейтэнант. Хутчэй, як маці, што сустракае сваіх сыноў...»

Сёння змяніліся грамадскія патрабаванні да літаратуры аб вайне. Людзей 60-х гадоў ужо не задаволіць толькі паказное адлюстраванне вайны. Жыццё патрабуе ад пісьменнікаў ісці далей — усебакова асэнсаваць значэнне ваенных няўдач і поспехаў для далейшага лёсу нашага грамадства. Галоўным сёння ў літаратуры становіцца адказ на пытанне, што вынес наш чалавек з вайны, якім унутраным вопытам узбагаціўся і як гэты вопыт суадносіцца з сучаснай рэчаіснасцю. Герой В. Быкава з аповесці «Здрада» разважае якраз у гэтым кірунку:

«Думалася, што будзе **ж не**калі — і, мабыць, ужо недалёка канец вайне, перамога, і настане **іншае,** непадобнае на вось гэта, звычайнае людское жыццё. Хацелася ўжо цяпер асэнсаваць яго, даўмецца, **што трэба мне ад таго жыцця, і якім я хачу яго для людзей і для сябе».** (Падкрэслена мной. — **В. К.)**

Тут, мабыць, і тоіцца асноўны сакрэт вялікай цікавасці да ваеннай тэмы з боку пісьменнікаў і чытачоў. Без усведамлення таго, як адбілася вайна на светаадчуванні савецкіх людзей, нельга зразумець і па-мастацку раскрыць душу нашага сучасніка. Падзеі Айчыннай вайны моцна ўплывалі на развіццё светапогляду лепшых людзей нашага часу. Сярпілін з рамана К. Сіманава «Жывыя і мёртвыя», канфліктуючы з кар'ерыстамі, якія свае непрыгожыя мэты прыкрывалі гучнымі патрыятычнымі словамі, ніколі не сумняваўся ў правільнасці сваіх думак і ўчынкаў. Вайна практычна, усенародна даказала яго праўду, адняла ў яго праціўнікаў усе аргументы — і палітычныя, і маральныя. Таму вопыт вайны і паслужыў тысячам Сярпіліных яшчэ адным моцным штуршком для развіцця іх погляду.

У творах аб вайне, напісаных пасля XX з'езда партыі, ваенныя падзеі апісваюцца ўжо не толькі для таго, каб захапіць чытача іх веліччу і размахам. Змяніўся сам падыход літаратуры да тагачаснага жыцця. У якім становішчы знаходзіўся чалавек на вайне, што яму давялося перадумаць і перажыць — вось што стала надзённай ідэйна-мастацкай задачай, ад якой залежыць у сучаснай літаратуры паказ батальных малюнкаў. Празмерная насычанасць твораў падзеямі саступае месца больш глыбокаму псіхааналізу.

Змена праблематыкі ваеннай літаратуры вядзе да эвалюцыі жанра, стылю і г. д. Што азначае паказаць унутраныя, глыбока асэнсаваныя, «асабістыя» адносіны чалавека да вайны? Відаць, гэта значыць не растварацъ індывідуальнасць героя ў масе, не хаваць яго ў агульным людскім натоўпе, а паказаць яго так, як паказаў Васіля Цёркіна А. Твардоўскі яшчэ ў час вайны. Каб стала ясным, на што адкрыла чалавеку вочы вайна, яго варта пакінуць «адзін на адзін» з сапраўдным вобликам вайны. Вось чаму ў сучасных раманах і аповесцях узмацняецца тэндэнцыя да маланаселенасці, да абмежаванай колькасці герояў. У творах Р. Бакланава, Ю. Бондарава, І. Шамякіна, А. Адамовіча, В. Быкава, І. Навуменкі дзейнічаюць не масы войск, не вялікія

баявыя адзінкі, а толькі некалькі асоб, малыя калектывы людзей, лёс якіх прасочваецца ў творы паслядоўна, уважліва і падрабязна.

Характэрная рыса беларускага ваеннага рамана ў нядаўнім мінулым — пачарговы паказ франтавых баёў і партызанскіх дзеянняў («Векапомныя дні» М. Лынькова, «У агні» І. Гурскага, «Мінскі напрамак» І. Мележа). Гэта дазваляла адлюстраваць маштабнасць народнай барацьбы. Але з вялікай вышыні часта заставаўся незаўважаным радавы воін, заставалася не раскрытай ва ўсёй глыбіні яго душа — сапраўднае і дакладнае люстра вайны.

Сучаснасць патрабуе ад мастака асэнсавання вайны не толькі з боку яе агульнага ходу, а і праз канкрэтнае чалавечае ўспрыйманне. Вось чаму для эстэтычнай канцэпцыі твора сталі важнымі не толькі галоўныя напрамкі ваенных дзеянняў, напрыклад «Мінскі напрамак», але і месцы «на поўдзень ад галоўнага напрамку» (А. Бакланаў) і нават «вайна пад стрэхамі» (А. Адамовіч), не толькі «згуртаванасць» людзей (М. Ткачоў), але і лёс «апошняга байца» (В. Быкаў), не толькі патрыятызм, але і «здрада» (В. Быкаў).

У гэтым ёсць аб'ектыўная праўда жыцця. Перамога выкоўвалася ўсюды, дзе толькі ішло змаганне. М. Яругін у прадмове да сваёй кнігі піша:

«Тут гаворыцца пра баі кровапралітныя, якія мелі толькі выключна мясцовае значэнне, насілі спецыфічны характар Ленінградскага фронту, што знаходзіўся ў цяжкай асадзе, без боепрыпасаў і на галодным пайку. Пра гэтыя баі не ўпаміналася ў зводках Саўінфармбюро. На дадзеным участку ў сілу асабліва цяжкіх умоў многа салдат лічылася загінуўшымі без вестак».

У сучасных творах аб вайне абставіны для герояў штучна не паляпшаюцца, зямля не ўбіраецца кветкамі ў прысутнасці пераможцаў. Наадварот, у аповесці В. Быкава ўсё мяце і мяце снежная завея, халодны вецер спадарожнічае герою, ускладняе і без таго цяжкае становішча, у якім ён апынуўся. У рамане А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» ваююць не волаты, амаль казачныя, якіх і кулі не бяруць, а простая жанчына, у якой шмат сямейных клопатаў.

Разабрацца глыбока ў падзеях, абагульніць гістарычныя факты, вядома, можна толькі пры ўмове строгай аб'ектыўнасці ўспрыймання жыцця. Сённяшняя літаратура нясе больш глыбокую і канкрэтную думку аб вайне. І менавіта з гэтай канкрэтнасці вялікая праўда жыцця відаць у большай меры, чым з вельмі маштабных, а таму агульных і прыблізных малюнкаў ваеннай рэчаіснасці.

У рамане А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» асабліва важныя для разумення ідэі гэтага твора вобразы Толі і ягонай маці.

Толя — падлетак, ён не заўсёды разбіраецца ў палітычнай сутнасці падзей, затое яго дзіцячае сэрца вельмі чулае да праўды і фальшы, дабра і зла. Толеў падыход да навакольнага — гэта выпрабаванне на чалавечнасць. І аказваецца, што яно, такое выпрабаванне, дастаткова надзейнае. Толя не памыліўся ў сваіх ацэнках людзей.

Толева маці, Корзуніха, уключаецца ў падпольную работу спачатку менш за ўсё з палітычных меркаванняў. Яна дачка раскулачаных бацькоў. Дапамога ваеннапалонным у яе ідзе перш за ўсё ад звычайнага чалавечага спачування. Не дзіва, што яе не разумеюць тыя, хто да вайны папракаў яе кулацкім паходжаннем. «Для такіх, як гэта Корзуніха, — гаворадь яны, — цяпер, можа быць, самы падыходзячы выпадак пастарацца даказаць, што яны таксама савецкія людзі». Простая логіка сумленнага жыцця прыводзіць Толеву маці ў лагер патрыётаў, куды не пайшлі тыя, хто, баючыся за сябе, адварочваліся ад людскога гора і лічылі сябе палітычна надзейнымі.

Дакладная і глыбокая ідэя прысутнічае ў ваенных аповесцях В. Быкава — праўдзівых і мужных творах. Перамога на вайне заваявана цаною крыві і пакут, цаною гібелі мільёнаў савецкіх людзей. Як паказвае пісьменнік у аповесці «Здрада», цяжкасці ўскладняліся яшчэ тым, што народу здраджвалі такія, як Блішчынскі. Яны здрадзілі мэтам святой народнай барацьбы, ідэям сацыялізма у пагоні за асабістай выгадай. Іхняя задача была скрытая, а таму найбольш небяспечная. Спачатку вайны яны пераходзілі на бок ворага, служылі яму. Пазней, калі разгром Гітлера не выклікаў ужо сумнення, пабыць на фронце — азначала для іх тое самае, што атрымаць пахвальную характарыстыку, якая, яны разумелі, вельмі спатрэбіцца ім у будучым. Але рызыкаваць сваім жыццём ім не хацелася. Блішчынскі пакідае сваіх у бядзе, пакідае ў крытычны момант, каб уратавацца самому. З героем аповесці ён яшчэ сустрэнецца, сустрэнецца ўжо ў мірным жыцці, але не для таго, каб панесці кару. Ён пастараецца ўтрымацца наверсе. Нездарма ён не выпускае з галавы таго, што людзі, якія прабіваюцца да сваіх, зрабілі, як думаецца яму, злачынства — пакінулі гармату. Яму хочацца скарыстаць гэта ў сваіх інтарэсах — сказаць дзе трэба, каб паверылі, што ён — надзейны чалавек. Ён жа так добра ўмее гаварыць прамовы. На поўны голас В. Быкаў выкрывае прыстасавальніцтва і перараджэнцтва.

Праўдзівы погляд на ваенныя падзеі арганічна звязаны з асэнсаваннем пасляваеннай рэчаіснасці. Напрыклад, цяжка сёння выражыць, што вынес наш савецкі чалавек з вайны, знаёмячыся з галоўным героем рамана С. Бабаеўскага «Кавалер Залатой зоркі». Калі цяпер перачытваеш гэты раман, ствараецца ўражанне, што Сяргей і не быў на фронце, бо адзіныя франтавыя прыкметы ў яго — ваенная гімнасцёрка і зорка героя. Здаецца, ён вярнуўся ў родныя мясціны з доўгай камандзіроўкі ці курорта, так мала адбілася на кірунку яго думак і складзе пачуццяў выпрабаванні ваенных гадоў.

Затое пераканаўчы вобраз франтавіка, які ўступае ў мірнае жыццё, ёсць у рамане В. Някрасава «У родным горадзе». Удача пісьменніка бясспрэчна знаходзіцца ў залежнасці ад праўдзівага погляду на вайну, выяўленага аўтарам «У акопах Сталінграда».

Вядома, нельга думаць, што асаблівасці сучаснай ваеннай прозы стануць на доўгі час кананічнымі патрабаваннямі, адзіна магчымай мастацкай формай, заўсёды здольнай раскрыць усю глыбіню і складанасць ваеннай праблематыкі. На новым этапе грамадскага жыцця будзе развівацца далей і форма мастацкіх твораў. Надыдзе час, калі ў мастацкім сінтэзе арганічна сплавяцца шырокая маштабнасць і псіхалагічная тонкасць. Але ў сучаснай літаратуры рашучы паварот да псіхалагічнай аднапланавасці апраўданы і заканамерны.

# ДУХОЎНЫ СКАРБ НАРОДА

Збіранне песень — нялёгкая справа. Збіральнікаў фальклору параўноўваюць з золаташукальнікамі, бо скарбы народнай мудрасці рассеяны залатымі крупінкамі ў народзе. Невыпадкова пяты том кнігі «Люд беларускі» М. Федароўскага пачынаецца такімі словамі аб беларускім фальклоры: «Гэта скарб бацькоў нашых, спадчына гэта найбагацейшая — і казкі, і песні, і паданні дарагіх дзядоў нашых. У зямлю яны былі ўтаптаны, як залатое зерне, я сабраў іх, а вы пасейце, каб будучыя пакаленні багаты ўраджай знялі».

Гэтыя словы можна было б паставіць эпіграфам да чатырохтомніка «Беларускія народныя песні» Р. Р. Шырмы.*

* Р. Шырма. Беларускія народныя песні. Том II. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1960.




Нястомным працаўніком, які аддае ўсё сваё жыццё, усе свае сілы і здароўе дзеля таго, каб па кроплі сабраць духоўны скарб народа — яго песні — з'яўляецца Рыгор Раманавіч Шырма. Чатырохтомнае выданне кнігі «Беларускія народныя песні», з якога ўбачыў свет ужо другі том, — гэта дар Рыгора Раманавіча Шырмы нашаму народу, гэта тая залатая ружа, якая выклікае пачуццё падзякі чалавеку за яго тытанічную працу, працу-подзвіг.

Песні, што ўвайшлі ў другі том, згрупаваны ў тры асноўныя раздзелы: 1. «Жаночая доля, недабраная пара, хрэсбінскія і сіроцкія», 2. «Казацкія, рэкруцкія і салдацкія» і 3. «Батрацкія і прымацкія, песні няволі і змагання». Творы кожнага асноўнага раздзела, у сваю чаргу, размеркаваны па адпаведных падраздзелах. Гэта робіць кнігу зручнай для карыстання. Аднак сістэматызацыя фальклорных твораў выклікана не толькі меркаваннямі зручнасці — яна мае вялікае навуковае значэнне. Трэба адзначыць, што цвёрдага, агульнапрынятага прынцыпу, крытэрыя пры сістэматызацыі не існуе, і складальнік часам давяраецца свайму густу, пачуццю, эрудыцыі. Скажам адразу, у гэтых адносінах Рыгор Раманавіч паказаў сябе не толькі выдатным збіральнікам, але і глыбокім знаўцам і даследчыкам беларускага меласу.

Другі том, як і першы, уключае песні, запісаныя Рыгорам Раманавічам Шырмам у заходніх абласцях Беларусі ў асноўным да 1939 года. Песні гэтыя — пераважна новыя запісы раней невядомых твораў. Складальнік падае і варыянты вядомых песень. Яны паказваюць узнікненне і бытаванне песні, стаўленне да яе народа-творцы, народа-носьбіта.

У першы раздзел кнігі ўвайшлі песні аб жанчыне, аб яе долі. А яна, гэтая доля жаночая, была гарчэй палына. Ва ўмовах патрыярхальных бытавых адносін жанчына была першай у працы і апошняй у жыцці. Яна білася, як рыба аб лёд, клапоцячыся, каб зрэбная кашуля, пашытая яе рукамі, была чыстая і залатаная, каб страва, пададзеная на стол, была смачная і сытая. Радасці ж, уцехі мала бачылі яе вочы:

Чорная нагайка
Каля плеч свісцела,
Белая кашуля
Ад поту счарнела.

За гэтымі праўдзівымі словамі ўгадваецца і другая думка: жорсткімі рабіла людзей жыццё, якое было вельмі злое да людзей. Гаротная доля жанчыны з'яўлялася выражэннем гаротнага лёсу ўсяго народа — такога ж прыгнечанага і спакутаванага.

Калі ў жаночых песнях спявалася:

Панясу я ліху долю
Ў места прадаваці, —
Знаюць людзі, што ліхая,
Не хочуць купляці,

то ў казацкіх песнях ідэал шчасця звязваўся з барацьбой за волю, дзеля якой хлопцы гатовы памерці, а здабыці яе:

— А мы не казакі, а мы не ваякі? —
Прамовілі хлопцы, —
Мы жывы не будзем, а волю здабудзем
Навекі, навекі.

Песню справядліва называюць спадарожніцай жыцця чалавека. Сапраўды, на працягу шматвяковай гісторыі народа яна верна спадарожнічала людзям у радасці і горы, натхняла на подзвіг і клікала на барацьбу. У песні знайшлі сваё мастацкае ўвасабленне і нацыянальны характар народа, і яго мараль, любоў і нянавісць, сіла і мужнасць. Гэта асабліва прыкметна на песнях, якія ўвайшлі ў раздзел казацкіх, салдацкіх і рэкруцкіх.



У беларускіх казацкіх песнях, апублікаваных Р. Р. Шырмам, вельмі часта ўпамінаецца Украіна, Дунай-рака. Сваімі матывамі яны прымыкаюць да ўкраінскіх казацкіх песень. Тут можна гаварыць аб дабратворным уплыве ўкраінскага меласу на беларускі, але зусім няма падстаў ставіць пад сумненне самастойнасць беларускіх казацкіх песень. Блізкае знаёмства з імі паказвае, што яны бытуюць у народзе з даўніх часоў. Як эстафета, перадаваліся яны з пакалення ў пакаленне і дажылі да нашых дзён.

Шумелі бярозы на гром ці на вецер,
Ой, шумелі бярозы.
Паехалі хлопцы на дзень ці на тыдзень
Ад Белае Русі.
Паехалі хлопцы і волю і долю
Шукаць на Дунаі.
А ў сінім Дунаі вада закіпае
Мужычай крывёю.

Папулярнасць на Беларусі казацкіх песень тлумачыцца спрадвечнымі вольналюбівымі імкненнямі беларускага народа, а таксама тым, што ў гэтых песнях праўдзіва паказаны складаныя чалавечыя пачуцці і перажыванні. Глыбокая чалавечнасць дала казацкім песням права на доўгае жыццё.

Ёсць у другім томе невялічкі раздзел, які па свайму значэнню варты цэлага тома. Гэта — песні няволі і змагання. У іх расказваецца пра тое, як «за шчасце і долю, за хлеб і за волю» ішлі на барыкады, на смерць слаўныя сыны і дочкі нашага народа. Ні турэмныя краты, ні ланцугі не зламалі свабодалюбівых імкненняў змагароў за народную справу.

З кароткіх каментарыяў, зробленых збіральнікам песень, відаць, што рэвалюцыйныя песні для падпольшчыкаў служылі зброяй барацьбы з ворагам.

«Браты мае, ужо час настаў» — рэвалюцыйная песня на матыў касцельнай велікоднай мелодыі «Вясёлы дзень». Пад гукі гэтай песні, якая асабліва была пашырана на Навагрудчыне, «валачобнікі» збіралі сродкі на МОПР», — піша Р. Р. Шырма.

Прыклад з песняй «Браты мае, ужо час настаў» не адзінкавы. «Стары год пражыўшы» — адзначае аўтар кнігі, — таксама рэвалюцыйная песня на матыў касцельнай калядкі. Бытавала ў былой Заходняй Беларусі ў часы панскай Польшчы. Рэвалюцыйная моладзь карысталася такімі мелодыямі, каб усыпіць пільнасць панскай паліцыі».

Складанне падрабязных каментарыяў да кожнай песні не з'яўлялася задачай збіральніка. Але кароткія заўвагі ў пашпартах да твораў аказаліся выключна каштоўнымі.

У другім томе — 288 песень, запісаных ад таленавітых выканаўцаў, ашчадных носьбітаў і палымяных прапагандыстаў беларускай народнай песні. Іх імёны сціпла называюцца ў аўтарскіх заўвагах. Тут мы сустракаем зусім юных Юлю Доўнар з Маладзечаншчыны і Барбару Чабатар з Гродзеншчыны, васьмідзесяцігадовых Матруну Семяжон з вёскі Калюга Мінскай вобласці і Захвею Хвораст з вёскі Шакуны Пружанскага раёна, пісьменнікаў Піліпа Пестрака і Язэпа Семяжона, народнага артыста СССР П. Малчанава, родных і блізкіх складальніка Ганну і Алесю Шырмаў.

Калі б паспрабаваць абазначыць на карце населеныя пункты, дзе Рыгор Раманавіч пабываў, каб запісаць песні, атрымаўся б даволі характэрны малюнак. Раскінутыя на поўначы і поўдні, на ўсходзе і захадзе Гродзеншчыны і Піншчыны, Брэстчыны і Міншчыны, яны ўтвараюць густую сетку вёсак і вёсачак, злучаных паміж сабой дарогамі і дарожкамі, сцежкамі і сцяжынкамі. Іх агульная даўжыня такая, што амаль роўна экватару зямнога шара. І гэты шлях — доўгі і цяжкі — вымераны нагамі Рыгора Раманавіча Шырмы.

«Мне даводзілася многа жыць у народзе і з народам хадзіць ад сяла да сяла, — гаварыў Рыгор Раманавіч на першай Рэспубліканскай нарадзе па фальклору ў 1960 годзе. — Тыя песні, якія я запісваў, вывучаў напамяць. Мне не трэба было ні фанографа, ні

магнітафона, мне лёгка было іх захоўваць. І калі пасля такой пешай экспедыцыі я прыходзіў у Вільна, збіралася студэнцтва, і я рабіў справаздачу. А жылі мы да таго бедна, што ў нас за сталом была толькі шклянка гарбаты».

Дзейнасць колішніх фальклАрыстаў ускладнялася не толькі матэрыяльнымі цяжкасцямі, калі збіральнік вымушаны быў без падтрымкі грамадскасці, на ўласныя сродкі, па сваёй ініцыятыве, праводзіць усю работу. Сам народ насцярожана і недаверліва ставіўся да фальклАрыстаў. Вось як аб гэтым успамінае І. А. Сербаў: «Пад розным выглядам запрашаў я ў школу вядомых на вёсцы расказчыкаў і спевакоў, але тыя, як толькі даведаюцца аб мэце запрашэння, адразу ж пачынаюць бянтэжыцца і стараюцца хутчэй пайсці, спасылаючыся на занятасць або на тое, што з іх будуць людзі смяяцца. І затрымаць іх ні грашыма, ні ўгаворамі проста немагчыма». Здаралася гэта таму, што мясцовыя ўлады палохалі сялян кожным новым чалавекам, у якім яны бачылі небяспечную для ўрада асобу. Просты і шчыры, Рыгор Раманавіч Шырма заўсёды знаходзіў ключ да сэрцаў людзей, і яны адкрывалі яму сваю душу.

Збіраючы фальклор, Рыгор Раманавіч Шырма стварыў у Вільні хор, які актыўна прапагандаваў беларускі мелас. А неўзабаве выявілася, што для рэпертуару не стае песень. «Вось і прыйшлося, — успамінае Рыгор Раманавіч, — збіраць беларускія песні і шукаць кампазітараў, якія б зацікавіліся гэтымі песнямі, апрацавалі іх. Інакш кажучы, гэту простую сяляначку трэба было вывесці на канцэртную эстраду дамай высокага культурнага свету».

У канцы дваццатых гадоў Рыгору Раманавічу з вялікімі цяжкасцямі ўдалося надрукаваць невялікі зборнічак сваіх запісаў. Астатні матэрыял заставаўся ляжаць мёртвым грузам.

Толькі ў савецкі час руплівы, нястомны збіральнік фальклору стаў кіраўніком Беларускай дзяржаўнай акадэмічнай капэлы, ушанаваны пачэсным званнем Народнага артыста СССР, а яго шматгадовы плён збіральніцкай дзейнасці неаднаразова выдаваўся асобнымі кнігамі.

Выхад у свет кожнага чарговага тома фальклорных запісаў Рыгора Раманавіча Шырмы наша грамадскасць расцэньвае як важную падзею ў культурным жыцці рэспублікі.

**Іван ЦІШЧАНКА.**

# ВЕРШЫ УЛАДЗІМІРА ЛЯПЁШКІНА

Лірычны герой маладога паэта Уладзіміра Ляпёшкіна нам добра знаёмы: ён наш сябра, таварыш па працы і барацьбе. Мы бачым яго за інстытуцкім сталом, на рыштаваннях вялікіх будоўляў, з камсамольскай пуцёўкай на цаліне, у салдацкім шынялі.

Праз увесь першы зборнік паэта праходзіць тэма Радзімы. У. Ляпёшкін шчыра захапляецца творчым ростам сваёй рэспублікі, яе дасягненнямі ў будаўніцтве камунізма.

Я ля карты стаю
Беларусь пазнаю
Не па ўмоўных пунктцірах і рысках —
Залатыя сады,
Стужкі рэк, гарады
Зліты ў вобліку роднага Мінска.




Відаць, гэта адзін з першых вершаў паэта, бо пачуцці ў ім выражаны яшчэ дэкларатыўна, рытарычна. Але чым далей, тым паэтычны почырк У. Ляпёшкіна робіцца больш упэўнены і выразны. Невялічкі верш «Факел дружбы» пра будаўнікоў газаправода Дашава — Мінск нас ужо хвалюе, бо мы бачым ў ім няўрымслівых людзей, якія запалілі ў Мінску факел дружбы двух народаў.

Добрай паэтычнасці У. Ляпёшкін дасягнуў у вершы «Дзяўчына на пастаменце»: ён нібы ажывіў адлітую з бронзы дзяўчыну, і яна паўстала перад чытачом гераіняй-партызанкай, з аўтаматам у руках, «гатовая хоць зараз да бою». Словы, якія ўкладвае паэт у яе вусны, гучаць пераканаўча, быццам перад намі жывы чалавек:

Не, я не памерла на полі тады
Пад ветрам і градам гарачым.
Я вечна жывая! Я з вамі заўжды
У долі і песні юначай!

Як правіла, маладым (ды і не толькі маладым) паэтам лепш за ўсё ўдаюцца вершы на канкрэтныя жыццёвыя тэмы. Вядома, тое, што адчута і перажыта самім, што знаходзіцца ў сферы асабістага вопыту, лягчэй паддаецца паэтычнаму адлюстраванню. Слушнасць гэтай думкі пацвярджаецца многімі творамі У. Ляпёшкіна. Такія яго вершы, як «Церабель», «Маё юнацтва», «Яліна ў маскхалаце», «Ізноў асеннія туманы», напісаныя на канкрэтным жыццёвым матэрыяле, вылучаюцца перш за ўсё сваёй лірычнасцю.

У. Ляпёшкін — паэт-лірык. Ён тонка адчувае прыроду, прыкмячае змены, якія ў ёй адбываюцца, умее намаляваць праўдзівую карціну вясны, восені, лета. Адзін з яго вершаў так і называецца — «Прыкметы вясны». Гэтая тэма ўжо вар'іравалася ў літаратуры на тысячы ладоў. Аднак У. Ляпёшкін знайшоў для яе нейкае сваё вырашэнне. Яго ўвагу прыцягнуў не традыцыйны звон жаўрукоў і не грачыны грай, з якім звычайна звязваюць надыход вясны, а яе «рабочы» воблік. Вось чаму ён заўважае тое, што «трыер чысціць ячмень ля павеці» і што

Хутка вецер з палёў прынясе
Гул матораў і прыпах бензіну.

Хараство прыроды ў гэтым вершы арганічна дапаўняецца хараством працы.

А вось які свежы, маляўнічы, запамінальны вобраз стварыў паэт у адным з найлепшых вершаў зборніка — «Баравік»:

Рассунуў баравік ля хвоі
Мох сіваваты над сабой
Ды упёрся лысай галавою
У трэску з рыжаю карой.

Ён да жыцця імкнуўся дужа,
Браў сілу, што зямля дала,
І карабаціну адужаў —
Прабіўся уранку да святла.

Шумелі хвалі і бярозы,
Глядзелі здзіўлена грыбы:
Ён у крыштальных ранніх
росах,
Нібы у кроплях поту быў.

Свежасцю вобразаў, непасрэднасцю пачуцця кранаюць такія вершы, як «Дождж», «Цішыня», «На жніве».

Пасля дажджу, — піша паэт, — «над гаем сонца заблішчала, і срэбра падае з бяроз»; пры дарозе «слуп тэлеграфны — ключ скрыпічны падняўся побач ля шашы», — у гэтым можна заўважыць кропельку, іскрынку сапраўднай паэзіі.

Аўтар імкнецца ўзняць і тэмы агульна-грамадскага значэння. У вершы «Касцёр на возеры» лаканічна і ярка малюецца начное неба, возера, рыбакі, якія ўспамінаюць «шалаш, агеньчык

---

[1]) Уладзімір Ляпёшкін. Ранішнія росы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1961.

Ільіча». Паэт знайшоў адпаведную дэталь, каб паказаць, што сёння здзяйсняюцца думы Ільіча.

І мара Леніна дагэтуль
Людзей на подзвігі вядзе...
Прайшла над возерам ракета,
Між зор адбілася ў вадзе.

Але ж у гэтым вершы ненатуральна выглядае сюжэтная лінія. Чаму рыбакі раптам успомнілі Разліў? Такі пераход не апраўданы падтэкстам. У вершы, як і ў празаічным творы, сюжэтныя хады павінны быць лагічна апраўданымі. Такое лагічна апраўданае развіццё думкі мы знаходзім, напрыклад, у прыгожай вершаванай легендзе «Алеська».

Грамадзянскі пафас такога верша, як «Наказ конніка» таксама прыніжаны надуманасцю сюжэта. Калісьці (невядома, ці то ў грамадзянскую, ці то ў Айчынную вайну) «шалёная куля... сустрэла ля ціхага Дону» конніка. Перад смерцю ён просіць, каб у тым месцы, сябры пасадзілі «дубкі маладыя з любімых бароў». Сябры здзейснілі наказ, і вось «гамоніць лясок» над магілай. Відаць, гэтым вершам паэт хацеў нешта сказаць пра лясныя палосы ў стэпе. Аднак штучнасць сюжэту, наказ, які даўно зрабіўся схемай, засланілі асноўную задуму, не далі ёй развіцца да канца.

Часам паэт не знаходзіць арыгінальнага вырашэння тых тэм, на якія напісана ўжо нямала вершаў. Так, напрыклад, нічога новага, свежага мы не знойдзем у вершы «Каля граніцы». Насцярожаная цішыня, густая пшаніца (вядома, з нашага боку!) і звыклае, збітае пажаданне, каб ніхто ніколі не парушаў граніцу... Дзесьці пра гэта ўжо чыталася, чулася, а таму верш не абуджае ніякіх эмоцый.

Пра аўтара зборніка «Ранішнія росы» можна сказаць, што ён — здольны паэт-лірык. Яго задушэўнае, шчырае паэтычнае слова ствараеа добры настрой, абуджае высакародныя пачуцці. Пашыраючы свой паэтычны дыяпазон, смялей беручыся за сацыяльна-грамадскія тэмы, ён тым самым зробіць новы крок наперад у сваім паэтычным росце.

**Іван СКАПАРАЎ.**

# *Шахматы*




**1960 год. Фінал Усесаюзнага першынства па шахматах у Ленінградзе.**

**Аляксей СУЭЦІН,
майстар спорту,
чэмпіён Беларусі па шахматах**

# СТАРОНКІ ДЗЁННІКА

З трынаццаці год маё жыццё цесна звязана з шахматамі. Нават у час Айчыннай вайны, калі было не да гульні, у душы я заўсёды заставаўся гарачым прыхільнікам гэтага свайго самага любімага занятку.

У сваім родным горадзе Туле, адкуль я пераехаў у Мінск ужо майстрам у сярэдзіне 1953 года, вучыцца прыходзілася «вобмацкам». У нас жа не было майстроў шахматнай гульні. Асноўнай формай самастойнага навучання быў разбор партый буйнейшых шахматыстаў і ў першую чаргу М. Батвінніка, П. Кераса, В. Смыслова, Д. Бранштэйна, І. Баляслаўскага. Я ніколі не думаў, што калі-небудзь буду мець шчасце сустрэцца з імі адзін на адзін у вялікім турніры. Тым не менш, гэта адбылося, прычым неяк раптоўна, нечакана.

У 1950 годзе, калі я, закончыўшы Тульскі механічны інстытут, працаваў ужо на заводзе, мне пашанцавала заваяваць права

ўдзелу ў паўфінале першынства краіны. У той час толькі ў паўфіналах можна было аспрэчваць званне майстра. І, вядома, сустракаючыся з мацнейшымі майстрамі, я жадаў толькі аднаго — выканаць норму на гэтае званне. Але атрымалася, што я «перастараўся» і, абагнаўшы фаварытаў лёсу, не толькі перавыканаў нарматыў, але і выйшаў у фінал.

Нават неяк не верылася, што менш чым праз месяц я сустрэнуся са Смысловым, Керасам, Флорам, Гелерам, Петрасянам і нароўні з імі буду змагацца ў чэмпіянаце краіны. Турнір уяўляўся мне суцэльным святам. Але на справе выявілася, што гульня з лепшымі шахматыстамі краіны прыносіць значна больш нягод, чым асалод. Колькі бяссонных і цяжкіх начэй у шахматнага майстра! Тут і праца над адкладзенымі партыямі, дзе часта выйгрыш залежыць ад стараннага папярэдняга аналізу, і выбар дэбюта, дзе вельмі пажадана пачаставаць праціўніка «навінкай».

І галоўнае, побач з усім гэтым ні на хвіліну нельга забываць асноўнай задачы — пошукаў слабага месца ў непагрэшных на першы погляд ходах партнёра, а таксама пошукаў ажыццяўлення сваіх ідэй у практычнай гульні.

На поспех можна разлічваць толькі тады, калі з першай жа хвіліны турніра ўдаецца стварыць рабочы і абавязкова наступальны спартыўны настрой. Тут ужо не да свята! Не бачыш шматлікіх гледачоў, не слухаеш такіх цікавых для балельшчыкаў шахматных выпускаў апошніх паведамленняў, калі В. Сіняўскі прыемным, з гумаркам голасам каментыруе гульню. Бо ўсё гэта замінае сканцэнтравацца.

І ўсё ж такі напружанне, якое адчуваецца пры гэтым заўсёды, прыносіць вялікае задавальненне. Творчыя пакуты і непазбежна звязаныя з імі радасці пры ўдалым ажыццяўленні задуманага — вось што больш за ўсё спадарожнічае шахматнаму майстру.

Вынікі першынства 1950 года паказалі, што мне трэба шмат вучыцца, і перш за ўсё ў тых гросмайстраў, якіх раней я ўяўляў чыста тэарэтычна. Здаецца, самае моцнае ўражанне зрабіў на мяне пераможца гэтага чэмпіянату эстонскі гросмайстар Пауль Керас.

## ПАУЛЬ КЕРАС

У той час Керасу было трыццаць чатыры гады, аднак выглядаў ён вельмі молада. Высокі, стройны, падцягнуты, П. Керас. сваім знешнім выглядам неяк зусім не адпавядаў таму ўяўленню аб вядомых шахматыстах, якое існуе ў многіх, што яны абавязкова павінны быць змрочныя.

Імпанавала яго манера гульні. Здавалася, што гульня зусім не выклікае ў яго напружання ўсіх сіл. Нават у хвіліны самых моцных бітваў на шахматнай дошцы ні адзін мускул на яго прыгожым твары не выдаваў хвалявання. Часам толькі... пачырванеюць вушы. Пастаянныя наведвальнікі турніраў сцвярджаюць, што вушы — гэта барометр Кераса: чым яны бялейшыя, тым лепшае яго становішча на дошцы. У апошнюю гадзіну гульні Керас ніколі не забывае ледзь прыкметным рухам зрабіць масаж вачэй і павек. Так ён падтрымлівае зрокавую ўвагу, вельмі неабходную ў практычнай гульні.

Зрабіўшы ход, Керас, як правіла, устае з-за століка і прагульваецца па сцэне, вывучаючы найбольш цікавыя моманты другіх партый. Ствараецца ўражанне, што, чакаючы ходу партнёра, ён імкнецца як мага паўней выкарыстаць час, папаўняючы свой вопыт. Далёка не проста быць адначасова і байцом і актыўным гледачом. Можна толькі сказаць, што такое сумяшчэнне магчыма ў выніку велізарнай работы над развіццём шахматнага мыслення.

Пачатак партыі са мною склаўся для Кераса няўдала. Але ні разу ён не выказаў незадаволенасці, не паскардзіўся, што не шанцуе. Наогул, дынамічнасць і вострыня яго атак зусім не стасаваліся са знешнім спакоем. І справа тут не ў тэмпераменце, а перш за ўсё ў вялікай унутранай дысцыплінаванасці. Ніякай размагнічанасці, цвёрдая мэтанакіраванасць! — такі дэвіз эстонскага гросмайстра. Усю сваю энергію ён накіроўвае на выдумку ў працэсе барацьбы з партнёрам. Адсюль той знешні спакой, які дазваляе захаваць запас сіл для асноўнай творчай работы.

Бліжэй пазнаёміўшыся з Керасам, я пераканаўся ў яго надзвычайнай любві да шахмат. Літаральна з любым партнёрам ён гатовы гадзінамі разбіраць цікавую пазіцыю. Не выпадкова Керас валодае сапраўды грандыёзнай шахматнай эрудыцыяй.

Мне здаецца, што, як гэта ні парадаксальна, Керас часам пакутуе ад залішняга свайго майстэрства. У гэтым я пераканаўся пасля сумеснага разбору нашай партыі чэмпіянату 1950 года.

Амаль што адзіны раз я парушыў свой тэарэтычны «канон», паслухаў парады аднаго з майстроў і, гуляючы белымі, замест іспанскай партыі, пайшоў на любімы Керасам дэбют двух коней. Керас — адзін з тых гросмайстраў, якія да канца верныя сваім тэарэтычным перакананням і не баяцца псіхалагічных «фокусаў» партнёра.

Здарылася так, што мне ўдалося ўзмацніць адзін з асноўных варыянтаў і, выкарыстаўшы недакладнасці гульні Кераса, дамагчыся выйгрышнага становішча. Аднак у рашаючы момант на мяне найшла ганебная няўпэўненасць. Зрабіўшы некалькі памылак, я страціў перавагу і дазволіў Керасу выратаваць партыю.

Пасля кожнай партыі партнёры, як правіла, разбіраюць яе, абменьваюцца сваімі думкамі. Прызнацца, я проста-такі збянтэжыўся, калі пры разборы Керас пачаў паказваць адзін за другім варыянты, якія выразна сведчылі, што ён бачыў значна лепшыя хады, чым тыя, якія рабіў у партыі.

Узнікла пытанне: чаму ж ён так многа бачыў, а рабіў значна горш? Адказ напрошваўся сам: Керас бачыў занадта многа! Як ні дзіўна, майстэрства ў практычнай гульні можа сябе перарасці. У таго, хто мала спакушаны вопытам і ведамі, рэдка бываюць сумненні пры выбары плана. Наадварот, шахматысту, «начыненаму» ідэямі, у гэтых адносінах значна цяжэй.

Перад вачыма Кераса, таксама як і другіх выдатных шахматыстаў, у час партыі праходзіць багатая галерэя шахматных вобразаў. І далёка не ў кожнай партыі нават самым лепшым майстрам можна ажыццявіць найбольш цікавыя і глыбокія задумы з гэтага своеасаблівага, багатага свету ідэй.

З часу майго першага знаёмства з эстонскім гросмайстрам прайшло больш дзесяці год. Мала змяніўся яго знешні выгляд. Пауль, як і раней, вельмі маладжавы (вынік яго заўсёдных заняткаў фізкультурай: ён цудоўны тэнісіст). Але шахматны шлях яго яшчэ далёка не закончаны. З 1938 года, ужо на працягу дваццаці двух год, ён упарта штурмуе сусветныя вышыні і шмат разоў быў вельмі-вельмі блізкі да запаветнай мэты — стаць чэмпіёнам свету.

Незалежна ад таго, будзе Керас чэмпіёнам свету ці не, яго імя ўжо ўпісана залатымі літарамі ў гісторыю шахмат. Партыі яго настолькі ж вечныя, як партыі П. Морфі, Э. Ласкера, Х. Капабланкі, А. Алёхіна.

## ЗА АКІЯНАМ

Паспяхова выступіўшы раз за разам у двух фіналах XX і XXI першынстваў СССР, я быў уключаны ў 1954 годзе ў зборную каманду краіны і ўпершыню атрымаў магчымасць пазнаёміцца і падужацца з замежнымі шахматыстамі.

Трэба сказаць, што гэты першы дэбют быў вельмі цікавы.

Матч СССР — Аргенціна задоўга да яго пачатку асвятляўся і рэкламаваўся ў замежным шахматным друку. У той час каманда Аргенціны была, несумненна, самай моцнай з замежных каманд і двойчы, у алімпіядах 1950 і 1952 гадоў, заваёўвала сярэбраныя медалі.

Між тым, значэнне гэтага матча выходзіла далёка за межы шахматнай дошкі. Савецкім жа



**У ваколіцах Монтавідэа. І. Баляслаўскі, А. Суэцін, В. Рагозін, Ц. Петрасян, журналіст А. Ігнацьеў, Ю. Авербах у перапынку шахматнага матча СССР — Уругвай.**

шахматыстам упершыню ў гісторыі савецкага спорту выпаў гонар перасекчы акіян і наладзіць спартыўныя сувязі з краінамі Лацінскай Амерыкі.

Шлях у Аргенціну быў багаты ўражаннямі. Пасля двухдзённай перасадкі ў Парыжы пачаўся трыццацішасцігадзінны «скачок» праз акіян. Вельмі працяглы быў начны пералёт ад афрыканскага порта Дакара да жамчужыны Лацінскай Амерыкі — Рыо-дэ-Жанейра.

Сустрэча ў сталіцы Аргенціны — Буэнас-Айрэсе была асаблівай. Хоць аэрадром размешчаны больш чым у ста пяцідзесяці кіламетрах ад горада, каля пяці тысяч аргенцінцаў прыехала сюды к нашаму прылёту. Рэпарцёры, аматары аўтографаў, проста цікаўныя імкнуліся літаральна кожнага з нас «патрымаць» у руках. Вельмі экспансіўны народ аргенцінцы!

Апамяталіся мы толькі тады, калі зачыніліся дзверцы аўтамашын. Шафёры адразу рванулі на поўны ход, і машыны паляцелі з хуткасцю 120—130 кіламетраў у гадзіну. Здавалася, гэта мяжа магчымага. Але заўважаем са здзіўленнем, што нашы машыны абганяюць аматары яшчэ больш вострых адчуванняў.

Неўзабаве мы пераканаліся, што аргенцінцы наогул любяць звышхуткасны рух. Не раз я наглядаў, калі рабіўся трайны (!) абгон (адразу і справа, і злева) легкавой машыны, якая імчалася з хуткасцю звыш ста кіламетраў. А ў гадзіны «пік» на стыках вуліц наглядаецца такое транспартнае бязладдзе, што любы лабірынт выглядае ў параўнанні з ім нейкай дзіцячай забаўкай. Няма нічога дзіўнага, што кожны дзень бываюць дзесяткі аўтамабільных катастроф. Прызнацца, і аўтобус, які быў вызначаны для нашай каманды, толькі дзякуючы цуду разы са два выскокваў, як гаворыцца, сухім з вады.

Пяць тыдняў, праведзеных у Паўднёвай Амерыцы, з якіх два апошнія прыпадалі на Уругвай, значна папоўнілі нашы ўражанні аб жыцці гэтага кантынента. Найбольш яркія ўспаміны засталіся, вядома, ад шахматных сустрэч, якія займалі наш асноўны час.

Як шмат залежыць ад традыцый! Аргенціна — адзіная краіна Лацінскай Амерыкі, дзе шахматы набылі вялікую папулярнасць у народзе. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зайсці ў галоўны шахматны клуб аргенцінскай сталіцы, які займае велізарны чатырохпавярховы будынак.

Іменна ў сценах гэтага клуба ў 1927 годзе пасля тытанічнай барацьбы стаў чэмпіёнам свету рускі шахматыст Аляксандр Алёхін, які перамог геніяльнага кубінца Хазэ Рауля Капабланку. Пра гэта напамінае сярэбраная гравіроўка на невялікім шахматным століку, за якім даігрывалася апошняя, трыццаць чацвёртая партыя іх матча.

На сценах клуба партрэты амаль усіх чэмпіёнаў свету. Кожны ў свой час, пачынаючы з першага афіцыйнага чэмпіёна Вільгельма Стэйніца, быў тут дарагім і жаданым госцем.

Пасля больш дэталёвага азнаямлення высвятляецца, што шахматыстам у клубе зусім не так прасторна. Добрая палова яго здаецца пад картачныя гульні асобам «вышэйшага свету». І толькі гэтым ствараецца магчымасць падтрымліваць матэрыяльна існаванне шахматнага клуба.

Дух камерцыі пануе і ў іншых клубах Буэнас-Айрэса, якія толькі вельмі прыблізна можна назваць «шахматнымі». З адным з іх, размешчаным на галоўнай вуліцы горада — Карыентас, мне давялося пазнаёміцца даволі блізка. Сумесна з гросмайстрам С. Флорам я выступаў тут у альтэрнатыўным сеансе на сарака дошках.

Абставіны матча былі вельмі незвычайныя: у зале, дзе сядзелі ўдумлівыя аматары шахмат, адначасова азартна гулялі ў карты, разносіўся трэск більярдных шароў, бойка гандлявалі віскі і іншымі спіртнымі напіткамі. Дадайце да ўсяго гэтага натоўп фотарэпарцёраў, асляпляльныя ўспышкі бліцаў, і «ўтульнасць» гэтага клуба будзе зусім зразумелай.

## МІГУЭЛЬ НАЙДАРФ

Шахматная арганізацыя Аргенціны вельмі ўзмацнілася пасля таго, як перад другой сусветнай вайной сюды эмігравалі многія выдатныя еўрапейскія майстры, якія ўцякалі ад гітлераўскага рэжыму. Між іх самай каларытнай фігурай, бадай, з'яўляецца былы падданы Польшчы гросмайстар Мігуэль Найдарф (прозвішча яго, вядома, набыло адпаведную паўднёваамерыканскую афарбоўку).

Кідаецца ў вочы яго залішняя непаседлівасць. Зрабіўшы ход, Найдарф звяртаецца да каго-небудзь з шахматыстаў (уражанне такое, што ён вельмі мала лічыцца з жаданнем субяседніка) і пачынае ажыўлена раіцца наконт сваіх шансаў у партыі. (Каб быць справядлівым, заўважу, што гэта робіць на партнёра сваё псіхалагічнае ўздзеянне!) Седзячы за дошкай, Найдарф, насуперак усім традыцыям, імкнецца пры кожным зручным выпадку перакінуцца рэплікай з партнёрам.

Характэрны эпізод адбыўся ў час яго партыі з гросмайстрам І. Баляслаўскім. Барацьба была ў самым разгары, і Баляслаўскі паглыбіўся ў пошукі лепшага ходу. Нечакана яго роздум быў перапынены пытаннем Найдарфа: «Ці гуляеце вы на выйгрыш?» (у такой форме прапанавалася нічыя). Баляслаўскі толькі пакруціў галавой і зноў паглыбіўся ў роздум. Здавалася, пытанне вырашана. Але не такі Найдарф! Ён тут жа зноў спытаў: «Ці вы гуляеце на нічыю?» Баляслаўскі яшчэ больш рашуча і сурова пакруціў галавою. «Што ж ён хоча? Няўжо ён гуляе на пройгрыш!?» — на ўсю залу закрычаў М. Найдарф.

У сваіх шахматных эмоцыях Найдарф вельмі непасрэдны. Выйграючы партыю, ён літаральна не перастае заўважаць усё навакольнае. У часы няўдач ён, наадварот, мае вельмі сумны выгляд. Але наогул гэта вельмі вопытны шахматыст. Здаровы практыцызм складае асноўную сілу М. Найдарфа. Аргенцінскі майстар параўнальна лёгка адмаўляецца ад улюбёных сістэм і варыянтаў, калі яны з развіццём тэорыі трапляюць у паласу крызісу. Наадварот, ён хутчэй прыхільнік моды, зразумела, заснаванай на здаровай пазіцыйнай аснове.

Мне здаецца, што гэтыя рысы вельмі характэрныя для многіх буржуазных прафесіяналаў. Між іншым, Найдарф не цалкам прафесіянал. Ён лічыць сябе больш практычным за многіх сваіх калег, і яго далёка не задавальняюць іх мізэрныя, нерэгулярныя заработкі на хісцкім шахматным полі дзейнасці. Свае матэрыяльныя патрэбы Найдарф забяспечвае рознымі камерцыйнымі аперацыямі. Ён вельмі зручны коміваяжор для многіх фірм сваёй краіны: не трэ-

ба аплачваць яму розныя дарожныя выдаткі ў далёкую Еўропу, куды ён часта запрашаецца на турніры. Другім прыработкам Найдарфа з'яўляецца выдача грошай пад працэнты. Што і казаць, заняткі не вельмі блізкія да спорту!

Але няправільна было б думаць, што Найдарф страціў любоў да шахматнай творчасці. (Я думаю, што без любві да шахмат не толькі нельга дасягнуць майстэрства, але нават і падтрымліваць клас сваёй гульні.) Проста, кожны любіць шахматы па-свойму, у залежнасці ад свайго характару і псіхічнага складу. Для Найдарфа шахматы зрабіліся ключом да асабістага жыццёвага дабрабыту, і свае немалыя прыродныя здольнасці ён накіроўвае на дасягненне спартыўнага поспеху. Таму ён так дрэнна адчувае сябе ў часы няўдач, мала цікавіцца тэарэтычнымі праблемамі творчасці, тым самым вельмі абмяжоўваючы свае магчымасці.

І Найдарф, і другія буржуазныя шахматысты амаль не імкнуцца перадаваць свой вопыт моладзі. Маладая змена расце без іх непасрэднай дапамогі.

З маладых аргенцінскіх шахматыстаў асабліва вылучаецца Аскар Пано, жыццерадасны, таварыскі і вельмі смяшлівы юнак. У час знаёмства нехта з нашых жартам спытаў яго, ці жанаты ён. Пано быў у вялікім захапленні ад такога пытання — такой забаўнай недарэчнасцю здалося яно. Смеючыся, ён сказаў, што пасля таго, як стаў чэмпіёнам Аргенціны і абагнаў Найдарфа, той аб'явіў яго сваім вучнем...

Наш матч, як чакалі не толькі мы, закончыўся перамогай савецкіх шахматыстаў. Цяпер больш за ўсё ўспамінаюцца глыбокая павага і аб'ектыўнасць аргенцінскіх гледачоў да нас, прадстаўнікоў вялікай краіны, да шахматнага майстэрства.

Велізарны тэатр імя Сервантэса, дзе адбываўся матч, кожны дзень, нягледзячы на высокую ўваходную плату, збіраў звыш 1 200 аматараў шахмат.

Гледачы паводзілі сябе вельмі стрымана, ціха. Здаецца, гэта быў адзіны форум, дзе аргенцінцы не выяўлялі сваёй экспансіўнасці.

## ПА АРГЕНЦІНЕ І УРУГВАЮ

Шахматны майстар заўсёды крыху падарожнік. Нездарма ў адрас таго ці іншага няўдачніка часам кідаюць жарт: «Паўсвета аб'ездзіў, а гуляць у шахматы не навучыўся!»

Мне не раз даводзілася бываць за мяжою. Але ці то таму, што гэта быў мой першы выезд, ці то з-за незвычайнасці гэтага далёкага падарожжа — паездка ў краіны Лацінскай Амерыкі асабліва запомнілася.

Таму мне хочацца крыху адысці ад асноўнай тэмы і падзяліцца некаторымі сваімі ўражаннямі ад Аргенціны і Уругвая.

Вядома, гэтыя суседнія краіны маюць многа агульнага. Насельніцтва іх — гэта цэлы калейдаскоп нацыянальнасцей. Каго толькі там не сустрэнеш! Тут і заўсёды вясёлыя італьянцы, і стрыманыя скандынавы. Шмат армян, з якімі мы пазнаёміліся яшчэ ў аэрапортах Монтавідэа і Буэнас-Айрэса, куды яны прыбылі павіншаваць нашага гросмайстра Т. Петрасяна. Чэхі, югаславы, негры, яўрэі, меціcы, мулаты... усіх не пралічыш.

Але больш за ўсё там крэолаў — нашчадкаў іспанскіх заваёўнікаў Паўднёвай Амерыкі. Аб прыгажосці крэолаў, а тым больш крэолак, складзена шмат песень і серэнад. Сапраўды, статныя, рослыя, злёгку смуглявыя, з чорнымі валасамі і вачамі, прадстаўнікі гэтага народа заўсёды, як магнітам, прыцягваюць да сябе ўвагу, прымушаюць імі любавацца.

У Лацінскай Амерыцы існуе нямала розных культаў. Вельмі ўстойлівыя, напрыклад, рэлігійныя традыцыі. Асабліва шмат касцёлаў, але сустракаюцца і праваслаўныя цэрквы і нават сінагогі. Служкам рэлігійнага культу ўсё цяжэй робіцца паспяваць за рытмам сучаснага жыцця.

Больш дзейсным выглядае культ спорту. Асабліва папулярныя футбол і бокс, вядома, прафесіянальныя. Для буйных спаборніцтваў там адведзены субота і нядзеля — дні, калі ўсе, пачынаючы ад біржавіка і канчаючы простым рабочым, спакойна могуць аддаваць час сваім спартыўным захапленням.

На спартыўных відовішчах строга захоўваецца маёмасная розніца ў цэнах на білеты. Камфартабельныя месцы даступныя толькі багатым людзям. Так арыстакратыя ахоўвае і вылучае сябе нябачным залатым бар'ерам. Пры ўсёй сваёй гаманлівасці і бесклапотнасці гледачы, тым не менш, ні на хвіліну не забываюць, што іх затраты на білет павінны адпаведна кампенсавацца. Характэрныя дэталі мы наглядалі, напрыклад, у Лунапарку, дзе адбываюцца паядынкі прафесіянальных баксёраў. Як толькі ў адной з сустрэч баксёры аслабілі тэмп бою, падняўся страшэнны лямант дваццацівасьмітысячнай масы гледачоў: «Злодзеі, за што ўзялі грошы! Вяртайце грошы!» І адразу на арэну пасыпаліся тухлыя яйкі, гнілая гародніна і г. д.

Так, там любяць вострыя адчуванні! Нават калі бой траціць спартыўны характар і адзін з баксёраў проста пачынае дубасіць другога, які па сіле аказаўся слабейшы, гледачы настойліва патрабуюць працягу відовішча. Наогул, на спартыўныя сустрэчы прыходзяць падрыхтавана. Калі захочаш перакусіць, калі ласка, ёсць узятыя з дому сэндвічы — бутэрброды. Між радамі заўсёды разносяць любімы напітак жыхароў Лацінскай Амерыкі — чорную каву ў маленькіх кубачках. Немым голасам крычаць прадаўцы і бясконца запрашаюць піць славутае кока-кола. Так уздымаецца тонус і без таго танізаваных балельшчыкаў.

У паўзах паміж спаборніцтвамі з самарэкламай выступаюць спартсмены і нават розныя палітычныя дзеячы.

Футбольны азарт у Паўднёвай Амерыцы даўно ўжо стаў прымаўкай. Я, калі б не пабачыў на свае вочы, не паверыў бы гэтым размовам. Матчы, якія мне давялося бачыць, мелі толькі трэніровачны характар, а не афіцыйны. Перш за ўсё насцярожвае самы выгляд поля. Ад гледача яно аддзелена вялікім ровам, напоўненым вадою. Замест нізенькіх агарож, якія робяцца звычайна для выгляду, футбольныя палі там абгароджваюцца калючым дротам. Яшчэ да пачатку матча на поле выходзяць здаравякі-паліcмены з гумавымі дубінкамі.

Такая «ваенізацыя» ствараецца зусім не з-за рэкламных меркаванняў: балельшчыкі літаральна са зброяй у руках адстойваюць сваіх любімцаў. Асабліва ў міжнародных матчах. І гора таму, хто адважыцца «балець» не за сваіх.

Але футбол у Лацінскай Амерыцы не толькі азарт, ён і нацыянальная гордасць. Нездарма высокае майстэрства ў футболе цэніцца там, як кажуць, на вагу золата.

Лацінская Амерыка — цытадэль футбола. Футбол там сапраўды — народная гульня. Гульня хлапчукоў на вуліцы — гэта своеасаблівыя ўрокі футбольнай тэхнікі. Кожны хлопчык імкнецца як мага больш разоў штурхнуць мяч нагамі. Так з маленства выхоўваюцца віртуозы скуранога мяча, будучыя Дзі Стэфана, Дзідзі, Вава і г. д.

Гаворачы пра культы, распаўсюджаныя ў Лацінскай Амерыцы, нельга не заўважыць галоўнага з іх — культу грошай. Ствараецца ўражанне, што нават на стадыёнах не столькі адпачываюць, колькі ліхаманкава гуляюць на таталізатары, грызучы пальцы ў чаканні шчасця, якое залежыць быццам бы ад сілы і напружанасці гульні іх фаварыта.

Вядома, яшчэ больш распальваюць азарт ігральныя дамы з іх багатымі картачнымі заламі і рулеткамі, якія круцяцца з вечара да раніцы. Сюды кожны дзень збіраюцца тысячы людзей у пагоні за шчасцем (вядома, галоўным чынам багацеі). Дастаткова трапіць на нумар, і атрымліваеш выйгрыш, які ў трыццаць шэсць разоў перавышае суму, пастаўленую на гэты нумар! Але кола рулеткі часцей даводзіць да галечы. Удача яшчэ больш распальвае азарт (там няма мяжы ў жаданні нажывы), але ў канчатковым выніку ўсё ж такі спустошвае кішэні.

Сталіцы Аргенціны і Уругвая

Буэнас-Айрэс і Монтавідэа размешчаны, прыкладна, адна ад другой так, як Мінск і Маладзечна. Тым не менш яны вельмі адрозніваюцца, пачынаючы ад паветра і канчаючы рытмам жыцця. Цікава, што назвы сталіц як быццам падкрэсліваюць якраз тое, што ў іх адсутнічае. «Буэнас-Айрэс» у перакладзе гэта «добрае паветра». Але якраз у прыгожай сталіцы Аргенціны надзвычай вільготна і дыхаецца вельмі цяжка. «Монтавідэа» перакладаецца, як «бачу горы». Але нават самая багатая фантазія наўрад ці можа нешта падобнае ўбачыць, такая раўнінная мясцовасць у гэтым горадзе. А вось паветра ў Монтавідэа на дзіва чыстае і сухое: калі прыязджаеш сюды, ствараецца ўражанне, быццам здымаеш працівагаз або зменьваеш цяжкія боты на мяккія тапачкі. Не выпадкова, жыхары Буэнас-Айрэса ездзяць у Монтавідэа на адпачынак. Гэтаму спрыяе таксама і значна больш павольны рытм жыцця уругвайскай сталіцы.

Вулічны гул у Монтавідэа становіцца значна меншы пад вечар, а многія раёны гэтага горада вечарам як быццам выміраюць. У Буэнас-Айрэсе, наадварот, жыццё віруе да глыбокай ночы.

Наўрад ці за мінулыя шэсць год змяніўся эканамічны воблік гэтых краін. У той час працоўныя Уругвая знаходзіліся пад вялікім уціскам амерыканскага капітала, — у краіне было шмат беспрацоўных. Нярэдка на сценах з'яўляліся надпісы: «Янкі, прэч з Уругвая!»

Так, насельніцтва гэтых краін магло б жыць значна лепш, каб не знаходзілася пад пятою амерыканскага імперыялізму. Кліматычныя ўмовы там цудоўныя: багатыя травы на бясконцых раўнінах і жывёла пасвіцца круглы год. Шматлікія бронзавыя скульптуры жывёлаводаў ясна сведчаць, што гэты занятак у вялікай павазе.

## ПАРАСТКІ НОВАГА

Аглядаючыся назад, на свае першыя крокі ў шахматным майстэрстве, са здзіўленнем прыкмячаю, што маё шахматнае пакаленне, людзі так званага «сярэдняга ўзросту», былі свайго роду «апошнімі з магікан». Наступнае пакаленне прыкметна адышло ад устаноўленых і апрабаваных канонаў пазіцыйнай гульні, на якіх, часцей за ўсё завочна, выхоўваліся мы. Перш за ўсё гэтым новым у шахматным майстэрстве карыстаюцца лепшыя прадстаўнікі нашай моладзі — М. Таль, Б. Спаскі, В. Карчной, Л. Палугаеўскі і другія.

У кожным з гэтых маладых майстроў некаторыя бачаць шмат рысаў ад карыфеяў мінулага. Таля, напрыклад, часта параўноўваюць з Алёхіным, Спаскага — з Чыгорыным, Карчнога — з Ласкерам. Там, дзе існуе творчасць, заўсёды ёсць пераемнасць і розныя стылі. Гаворка ідзе пра іншае. Усё больш робіцца прыкметнай тэндэнцыя пазнання найбольш працаёмкіх і галаваломных пазіцый з парушэннем раўнавагі. На мове матэматыкі гэта азначае пераход ад ясных форм — да ірацыянальных, на мове філасофіі — ад фармальнай да дыялектычнай логікі. У шахматах жа гэта перш за ўсё дынамічнасць, гранічная канкрэтнасць мыслення (дакладнасць і дальнасць разліку) і значна меншая вага агульных прынцыпаў.

Вядома, па першых парастках новага яшчэ рана рабіць катэгарычныя вывады. Ды і нельга адмаўляць таго, што канкрэтнае мысленне заўсёды адыгрывала першаступенную ролю ў майстроў шахмат усіх часоў. Але калі раней імкнуліся разлік варыянтаў замкнуць у тыя ці іншыя «пазіцыйныя аковы», дык цяпер моладзь усё больш настойліва кліча «скінуць» аковы агульных «меркаванняў».

Трэба сказаць, што доўгі час я недаацэньваў такую манеру гульні. Так, напрыклад, многія «дзівацтвы» нервовага і вельмі самалюбівага Віктара Карчнога, з якім я шэраг год побач сапернічаў ва ўсесаюзных турнірах, здаваліся мне недарэчнымі і выпакутаванымі. Як старэйшы па ўзросту, я, як кажуць, і глядзеў на яго вачыма старэйшага, што, магчыма, не давала мне бачыць сапраўднасць.



У канцы 1955 года мне прыйшлося сустрэцца з тады яшчэ васемнаццацігадовым Мішам Талем. Доўгія гадзіны, праведзеныя з ім за шахматамі, натуральна, прыўзнялі перада мной заслону яго творчай лабараторыі. Яго шахматнае «бачанне» тады літаральна ўразіла мяне. Калі ён дэманстраваў варыянты, на шахматнай дошцы пачыналася сапраўдная віхура.

Аднойчы Таль прызнаўся, што ўзорам для яго з'яўляецца ігра Карчнога. Толькі, калі асноўным у стылі Карчнога было прыняццё ўдару на сябе, актыўная абарона, Таль упарта трэніраваў атакі на базе таго ж далёкага разліку.

Такім чынам, далёкі разлік, багатая рамантычная фантазія — вось што з'яўляецца пачаткам новага.

Моладзь сапернічае з усіх сіл, спрачаецца, часам злосна знаходзіць розныя зачэпкі ў ідэйных і спартыўных дыспутах. Усё гэта — цудоўны «каталізатар» не толькі для свайго росту, але і, што галоўнае, для агульнага прагрэсу шахматнага мастацтва.

Не трэба шкадаваць таго, што школа, на якой я вучыўся, старэе на вачах. Толькі б не згінула жаданне вучыцца далей, перавучвацца і рабіць гэта на працягу ўсяго жыцця!



**Майстры шахматнай гульні: Міхаіл Таль (СССР), Гедэон Штальберг (Швецыя), Макс Эйве (Галандыя), чэмпіён свету Міхаіл Батвіннік (СССР), Гары Галомбек (Англія).**

Фота Б. Турава.

# «ПРАГРАМА» АНТОСЯ ГАЛУШКІ

Мал. Г. Скамарохава

**Фельетон**

На экране цалаваліся.

Антось Галушка рэдка хадзіў у кіно, але цвёрда ведаў: калі героі цалуюцца, значыць, кінакарціна заканчваецца. Не зводзячы вачэй з экрана, ён намацаў у кішэні пачак з папяросамі, выцягнуў адну, пакруціў у пальцах, узяў у губы. Гэтак жа механічна з другой кішэні пінжака дастаў запалкі. Пацалунак быў зацяжны. «Зануды, — падумаў Антось. — А цікава, у гэтага артыста вусікі сапраўдныя ці прыклееныя? А яна таксама, відаць, абараначак цёрты, нават вочы зажмурыла». Штурхнуўшы некага плячом і наступіўшы камусьці на чаравік, Антось падаўся да прыадчыненых дзвярэй.



Вёска спала. Недзе ў другім канцы надакучліва вуркатаў дызель, што круціў дынамамашыну. Гулі майскія жукі. «Цяпер, або ніколі», — прашаптаў Антось і, саступіўшы крыху ўбок, пачаў чакаць. Але з клуба ніхто не выходзіў. «Што за ліха. Зноў гэтыя культурныя ўніверсітэтчыкі абмеркаванне фільма пачалі? І выдумаюць жа!». Антось уткнуў свой кашлаты, штучна завіты ў раённай цырульні чуб у дзверы клуба. У зале па-ранейшаму было цёмна, стракатала кінаперасоўка. «Нічога, хутка скончыцца, — зазначыў ён сам сабе. — Пачакаю...» Чакаць прыйшлося з паўгадзіны.

Пакуль Антось Галушка выкурыць адну за адной чатыры папяросы, дазвольце больш падрабязна вас з ім пазнаёміць. Нарадзіўся ён тут, у вёсцы Сярэдні Бор. Бацькі не памятае. Гадавала яго маці, працавітая жанчына. Яна і цяпер, нягледзячы на сваю старасць, яшчэ ходзіць на працу ў калгас. Гадоў дзесяць назад адзіны яе сын Антось скончыў сямігодку. Скончыў і сказаў: «Хопіць! У мяне ад гэтай навукі галава можа распухнуць, а я хачу да старасці дажыць». Тады ж наш герой выпрацаваў сваю праграму жыцця. Яна была невялікай, і калі б яе запісаць на паперу, то чыталася б гэтак жа ясна, як, скажам, чытаюцца «Правілы карыстання лазнямі».

1. Стаць шафёрам.
2. Збудаваць уласны дом і купіць патэфон.
3. Жаніцца на дзяўчыне вучанай, гэта значыць, узяць сабе ў жонкі ўрача, бухгалтарку або настаўніцу.

Дарэчы, пытанне аб тым, ці варта звязваць сваё маладое жыццё з настаўніцай, Антось доўгі час не мог вырашыць. «Нервенныя яны, гэтыя настаўніцы, — часта думаў ён, успамінаючы сельскую сямігодку і выкладчыцу замежнай мовы пажылую Лізавету Мікандраўну. — Залішне нервенныя».

Час ішоў.

Гадоў сем назад пасля трэцяй спробы Антось Галушка здаў у абласной аўтаінспекцыі іспыты і атрымаў правы шафёра. З той пары і па сённяшні дзень ён ездзіць на старэнькай паўтаратонцы, якая засталася ў калгасе і якая служыць прадметам насмешак і жартаў з боку астатніх васьмі шафёраў, што ездзяць на новых, нядаўна набытых калгасам аўтамашынах. Паўтаратонка, якой ён распараджаўся, як хацеў, дапамагла Антосю здзейсніць другі пункт сваёй праграмы: збудаваць уласны дом. Ён стаіць у самым канцы Сярэдняга Бору, жоўты, пяцісценны. У нядзелю можна пачуць, як з яго адчыненых вокнаў вырываецца на волю хрыплаватае спяванне патэфона. У хвіліны роздуму Антось Галушка любіў слухаць раманс пра тое, што «жыве мая красуня ў высокім цераму».

А «красуня» якраз і не хоча жыць у высокім Антосевым цераме. Яна жыве на кватэры ў цёткі Аўдулі, у маленькім пакойчыку. Яна — гэта трэці, дасюль яшчэ не ажыццёўлены пункт з праграмы жыцця нашага героя. Але не будзем забягаць наперад. Скажам усё па парадку пра героя. Яму дваццаць дзевяць гадоў і тры месяцы. Рост адзін метр і восемдзесят сантыметраў. Валасы рыжаватыя, завітыя ў раённай цырульні. Твар у Антося рашучы, асабліва калі Галушка пазірае сам на сябе ў невялічкае люстэрка, што прымацавана збоку кабіны. «Казак, дый годзе!» — думае ў такія хвіліны сам пра сябе наш герой. Ён не п'е гарэлкі. Адзіны вясковы магазін, куды зрэдку заглядваюць хлопцы, каб «раздушыць» паўлітэрку пярцовачкі, Антось абмінае.

Але гэта пабочная дэталь.

Антось набыў сабе два касцюмы — адзін сіні, бастонавы, другі — шэры, з кавяркоту. Сіні ён апранае, калі надвор'е дрэннае, шэры — калі свеціць сонца. Так, у залежнасці ад надвор'я апранаюцца, як ён чуў, людзі інтэлігентныя. У дождж Антось сядзіць дома. Ён круціць патэфон або чытае кніжку «пра любоў», адзіную кніжку, якая ёсць у яго ным доме — «Каралеву Марго». Парою ён задумваецца. А думкі ў яго адны і тыя ж: трэба жаніцца, трэба ў свой церам прывесці гаспадыню, таму што маці старая, а тут, акрамя хатніх спраў, ёсць яшчэ і справы гаспадарчыя: куры, свінчо, агарод. Трэба жаніцца. Трэба, нарэшце, ажыццявіць трэці пункт сваёй праграмы, які так многа адабраў у Антося і здароўя і спакою.

Антось ведаў усіх дзяўчат, якія жылі і працавалі не толькі ў Сярэднім Бары, але і ў суседніх вёсках. Вядома, мы маем на ўвазе, як і наш герой, дзяўчат адукаваных. А іх у кожнай вёсцы дзесяткі. І не толькі ўрачы, бухгалтаркі і настаўніцы, але і аграномкі, і заатэхнікі, і бібліятэкаркі. Антось быў цвёрды ў сваіх намерах і амаль да кожнай з іх спрабаваў пасватацца. І кожны раз паўтаралася адно і тое ж: дзяўчаты і знаёміліся з Антосем даволі ахвотна, і танцавалі з ім, і дадому праводзіць сябе дазвалялі, а як толькі ён пачынаў размову пра вяселле, пра свой новы дом і гаспадарку, сарамліва апускалі вочы і спяшалі развітацца.

Былі два выпадкі, калі Антось лічыў справу ўладжанай і нават збіраўся прырэзаць цялё на вясельную закуску. Першы раз ён меў намер зрабіць гэта пасля таго, як двойчы правёў з танцаў маладую сястру з мясцовай бальніцы. Можа таму, што яна залішне ўважліва слухала, як расказваў Антось пра каралеву Марго, а можа яшчэ і таму, што ў другі вечар, нечакана заламаўшы ёй рукі за спіну, Антось пацалаваў яе ў губы, наш герой лічыў, што запаланіў дзяўчына сэрца на ўсе часы. Рыхтуючыся да трэцяга спаткання, ён збіраўся падараваць дзяўчыне сваю фотакартку і нават надпіс зрабіў на ёй. Прытым, даволі ўльтыматыўны:

> У жыцці сваім геройскім
> Я цябе люблю.
> Калі ж першай ты мне здрадзіш,
> Я цябе заб'ю!

Але дзяўчына не прыйшла на танцы, а праз месяцы тры Антось дачуўся, што яна выйшла замуж за калгаснага манцёра Грышку. «Асечка!» — рашыў наш герой. Проста няўдача. Не ўдалося яму ўручыць сваю фотакартку і другой дзяўчыне — калгаснаму заатэхніку. Яе Антось паспрабаваў пацалаваць у першы вечар. Але з вачэй у яго ў той момант сыпануліся іскры і штосьці апякло шчаку. Калі ён апамятаўся, дзяўчыны побач не было. Так цялё, прызначанае на вясельную закусь, засталося жыць.

Антось рашыў змяніць тактыку. Некаторы час ён наогул не звяртаў на дзяўчат ніякай увагі. Няхай ведаюць, што ён не абы-хто, а шафёр, хлапец з гонарам. Але доўга так цягнуцца не магло. Па-



трабавалася гаспадыня для церама, і Антось вымушан быў дзейнічаць рашуча. Вось чаму ў гэты цёплы вечар ён, не дагледзеўшы да канца кінафільм, стаяў на ганку клуба, нервова курыў і чакаў канца сеанса. Чакаў яе. Чакаў і ў соты раз паўтараў: «Цяпер або ніколі!» Насупраць клуба на вуліцы стаяла ягоная паўтаратонка і, здавалася, у цемнаце падміргвала свайму гаспадару чырвоным вочкам стоп-сігнала.

«Цяпер!» — рыпнулі дзверы клуба, нібы ў такт Антосевым думкам. Ён увесь напружыўся і падрыхтаваўся. У дзвярах паказалася яна. Антось счакаў, пакуль дзяўчына сышла з прыступак, і зрабіў крок услед за ёю, туды, у прыцемкі вуліцы.

— Я вас завязу дамоў. Мая машына да вашых паслуг.

Дзяўчына, відавочна, не раз ужо чула ад Антося такую прапанову, таму што адказала на яе зусім абыякава.

— Не трэба, тут блізка. У ж вам сказала, пакіньце мяне ў спакоі.

— Не пакіну. Знарок не пакіну, — загучаў у адказ Антосеў голас.

Тут мы зноў павінны крышачку вярнуцца назад. Дзяўчына, якую Антось збіраўся «знарок не пакінуць у спакоі» была настаўніцай. Яна прыехала ў Сярэдні Бор мінулай восенню. Здарылася так, што Антось на сваёй машыне прывёз яе тады з райцэнтра. З таго часу і пачалася ўся гэтая гісторыя. «Яна і толькі яна будзе гаспадыняй у маім доме», — яшчэ тады рашыў наш герой. Адразу паследавалі дзеянні. Тое, што людзі жэняцца, калі кахаюць адно другога, Антось Галушка ў разлік не прымаў. Глупства ўсё гэта — сяброўства, дружба, каханне, — гаварыў ён сам сабе. Гэта толькі ў кіно ды ў кніжках бывае. У жыцці не так. У мяне дом, у мяне гаспадарка, у мяне два касцюмы і патэфон. Гэта не абы-што. Ва ўсёй акрузе такога жаніха не знойдзеш. Цвёрда перакананы ў сіле сваіх довадаў, ён праследаваў дзяўчыну літаральна на кожным кроку. Разоў тры яна вымушана была начаваць у школе пад аховай вартаўніка, таму што падганяючы сваю машыну да школьнага ганка, Антось паўтараў адно і тое ж: «Я вас пракачу». Гаворачы гэтыя словы, ён паказваў вачыма на сядзенне ў кабіне. Выгляд у яго быў у такія хвіліны самы ваяўнічы.

Аднойчы настаўніцы прыйшлося дабірацца дадому агародамі. Гэта было пасля таго, як Антось пераслаў ёй у канверце сваю фотакартку з ужо вядомым нам вершаваным подпісам і запісачку, у якой прызначаў спатканне на наступны вечар. Настаўніца спачатку доўга смяялася з гэтага, а пасля вярнула Антосю і фота і запіску.

— У мяне ёсць хлопец, якога я кахаю, — растлумачыла яна Антосю. — А з вамі мы можам застацца добрымі сябрамі.

Антось гэта зразумеў па-свойму. Раз можна застацца сябрамі, дык чаму не стаць мужам і жонкай. Галоўнае — настойлівасць. Вось чаму сёння Антось Галушка рашыў яшчэ раз паспрабаваць пераканаць дзяўчыну. Акрамя гэтага, ён купіў дзяўчыне «прэзент» — флакон адэкалону «Кармэн».

«Цяпер або ніколі!» — сказаў ён трагічным голасам, выймаючы свой падарунак з кішэні...

— Адчапіцеся! — рашуча адказала дзяўчына. — І ніколі больш не рабіце такога глупства.

Яна пайшла па вуліцы. А следам за ёю з уключанымі фарамі паволі ехала машына. Яна чхала і фыркала, нібы давячыся смехам. Каля хаты цёткі Аўдулі, дзе жыла настаўніца, машына развярнулася фарамі да вокнаў. Калі ў вокнах патухла святло, Антось пачаў сігналіць бесперастанку, нібы жадаючы такім чынам выказаць увесь драматызм свайго становішча. Сігналы паступова цішэлі і цішэлі. Цьмянела святло фар. Калі Антось Галушка апамятаўся, акумулятары «селі» канчаткова. Раніцай прыехала машына і на буксіры адцягнула Галушкаву паўтаратонку ў гараж. Сам ён, вярнуўшыся дахаты, доўга пазіраў на пласцінку з рамансам аб красуні, якая жыве ў высокім цераме. Пасля замахнуўся і апусціў на яе свой пудовы кулак. «Г-г-э-эх!» Аскабалкі паляцелі за акно. Цялё, якое хадзіла ў агародзе, тое цялё, што гадавалася для вясельнага стала, спалохана падняло хвост і кінулася прэч.

**Базыль ПАРАХОНЧЫК.**



# ДРЭННАЕ АПАВЯДАННЕ

— Шаноўныя калегі! — звярнуўся шэф-рэдактар да сваіх супрацоўнікаў,— нашаму часопісу патрэбен свежы струмень. Усе нашы публікацыі, безумоўна, выдатныя. Але чытачу гэта хутка абрыдне. Нам трэба змясціць нешта зусім дрэннае, нешта зусім халтурнае...

Рэдактары, што прысутнічалі на нарадзе, здзіўлена слухалі свайго шэфа.

— А як гэта адаб'ецца на агульным узроўні? — спытаў гер Бёзель.

Шэф-рэдактар нібы толькі і чакаў такога пытання.

— Усякая перамена толькі падымае ўзровень! Важна адно: **хто** возьмецца за такую складаную задачу?

— У такім разе хіба што гер Цвінзель, — параіла рэдактар Мюльман, — ён у нас самы спрактыкаваны. Трэба і папрасіць яго.

Дэтлеў Цвінзель прачытаў пісьмо рэдакцыі аж сем разоў, пакуль нарэшце зразумеў, што ад яго хочуць.

— Дрэннае апавяданне...— мармытаў ён сам сабе. — Гм... Гэта ж зусім проста!

І, доўга не думаючы, сеў пісаць. «Старажытная грамата» — назваў ён свой твор.

Сорак шэсць славутых археолагаў на працягу пяці год займаліся рэстаўрацыяй аднаго старога папіруснага скрутка, змацоўвалі пашкоджаныя часткі шыфонным шоўкам, нацягвалі струхлелы папірус на спецыяльна зробленую фальгу, пасля гэтага, зняўшы фальгу, апрацавалі скрутак танюсенькай прамакальнай паперай і паклалі археалагічны здабытак пад прэс. Работа над папірусам праглынула шмат грошай, але затое археолагі зрабілі важнае адкрыццё: у другім стагоддзі да новай эры нейкі Онас пазычыў нейкаму Гіпасу каня і асла.

«Цудоўна! — адказалі з рэдакцыі Цвінзелю. — Вельмі добрае апавяданне. Таму мы і вяртаем Вам манускрыпт».

Дэтлеў Цвінзель задумаўся. «Трэба напісаць нешта зусім абсурднае», — рашыў ён. І напісаў другое апавяданне «Нямы з Порт Ітсі».

Адзін чалавек неяк раз проста з капрызу даў сабе слова не гаварыць ні з кім. І маўчаў, як зацяты. А людзі палічылі гэта за вялікую мудрасць. Казалі, што гэта чалавек, дух якога пранік у такія глыбіні, якія нельга назваць чалавечымі словамі. Філасофскае рэзюме сваёй гісторыі Цвінзель пераклаў на вершы:

Няхай жыве той чалавек,  
Што ціха пражыве свой век!  
Бяда, як нельга гаварыць,  
Ура, як можна рот закрыць!  
Найбольшы геній — гэта той,  
Каго язык не мучыць свой:  
Гаворыць глупства балбатун,  
Маўчун жа не вярзе лухту!

— Што? Гэта вы называеце дрэнным апавяданнем?! — усклікнуў абурана





шэф-рэдактар. — Гэта ж... гэта ж... геніяльна! Зараз жа вярнуць!

Пісьменнік Цвінзель спакваля пачаў разумець, якую цяжкую далі яму задачу. Цяпер ён ужо думаў тры дні і тры ночы. Нарэшце наважыў: «Напішу самасамую дурноту. І гэта будзе пра каханне!»

Новае апавяданне Цвінзель назваў «Ева і яе сакратар».

Начальніца адной установы ашуквала мужа вельмі арыгінальным чынам: яна падбірала сабе сакратароў і гутарыла з імі з чуць большай інтымнасцю, чым гэта дазвалялася па службе. Аднаго дня яна памылкова прыняла на сакратарскую пасаду свайго мужа. З таго часу яе інтэрас да сакратароў пайшоў на спад.

«Арыгінальна! Выдатна! — адпісала фраў Мюльман Цвінзелю. — Менавіта таму мы і не можам выкарыстаць Ваша апавяданне. Няўжо Вы так і не зможаце напісаць нічога дрэннага?»

Дэтлеў Цвінзель думаў цэлага паўгода. І дадумаўся. «Дзе прападае Краванке?..» — так назваў ён свой новы твор, у якім расказаў пра пісьманосца, які кожны дзень роўна ў адзінаццаць гадзін заходзіў у дом да суседа і гэтак жа кожны дзень дакладна выходзіў праз гадзіну. Дэтлеў апісаў прыгоды пісьманосца так, што кожны чалавек, нават да шаснаццаці год, мог здагадацца, чаго бываў Краванке ў суседа...

— Дык гэта ж сатыра! — усклікнуў рэдактар Бёзель, прачытаўшы апавяданне. — Цудоўна!

І, будучы сумленным чалавекам, вярнуў манускрыпт Цвінзелю.

Пасля гэтага нам застаецца толькі паспагадаць аўтару, бо яму пачалі нават сніцца дрэнныя апавяданні. Парадокс дый годзе: гэты вядомы пісьменнік Дэтлеў Цвінзель за дзесяць год не здолеў напісаць таго, што мы пішам і друкуем бадай кожны дзень.

**Ральф ВІНЕР.**

**Ад рэдакцыі:** Магчымае падабенства нашага героя з другімі асобамі — чыста выпадковае.

Пераклаў з нямецкай мовы **Васіль СЁМУХА.**



## ЗМЕСТ



### Дарогамі сямігодкі



### Гары, камсамольскі аганёк!



### На атэістычныя тэмы



### Навука і культура



### Крытыка і бібліяграфія



### Шахматы



### Гумар і сатыра



**Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**Ватэрпалісты ў новым басейне Беларускага інстытута фізкультуры.**
Фота **А. Дзітлава.**



А. Шыбнёў. Радасць ураджаю («Дажынкі»)



Я. Ціхановіч. Камсамольская брыгада.